


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**5** (1015)

*МАЙ*

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2014

# *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



## Казімір КАМЕЙША

### СОРАК ТРЭЦІ

Я прыкметам не занадта веру,
Але ж іх прыдумаў сам народ.
Боты сорак трэцяга памеру
Выдаў мне мой сорак трэці год.

Быццам ён, і праўда, нечым меціў,
Як зімова нарадзіў мяне,
Год мой партызанскі сорак трэці,
Найсірочы самы на вайне.

Сніцца мне сама вайна, бывае.
Згубіць нешта памяць — ёсць у снах.
Па хадзе я нават адчуваю:
У падэшвы б'е і б'е яна.

Метаю пазначаны на меце,
Міны абыходзіў чуйны бот.
І глядзіць мне ў вочы сорак трэці,
Самы сорак страшны ў свеце год.

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Ну а шлях мой быў зусім не гладкі —
Праз карчэўе, яміны і брук.
І рака хавала часам кладку,
Кій спагадны выбівала з рук.

То бяда з-пад купіны змяінай
Гэтак блізка ў твар мой зазірне
І глядзіш, за нейкую хвіліну
Апынешся зноў на той вайне.

А ідзеш, пакуль табе ідзецца,
Ветру падстаўляючы шчаку,
Дзе хоць і не коратка, а рвецца,
Сорак трэцім годам след кладзецца
На старым пушчанскім бальшаку.

Тупае памер мой сорак трэці,
Семдзесят якраз адмераў вёрст.
А ў запасе колькі ці ў прыкмеце —
Гэтага не скажа вам узрост.

Праз грахі ступае ён і страты,
Праз давер і чыйсьці недавер.
Толькі б вам не наступаў на пяты
Сціплы сорак трэці мой памер.

Што згубіў, таго гадам не ўкрасці,
Што знайшоў, аддам і напавер.
Як жа быць, калі ў бяды і шчасця
Сорак трэці той жа ўсё памер?

Бот мой быў не мудра змайстраваны.
У шаўца былі свае заганы:
Трэслася рука, падводзіў зрок.
Хоць ваенным громам падкаваны,
Дратвай выбуховай падшываны,
Але ціха мой кладзецца крок.

Недзе спатыкнецца, млее часта,
Бот мой мае звычкі ўсе мае.
Але й тым найдарагім, блішчастым,
Зайздрасці, я ж бачу, паддае.

Беліць доля шлях мой мелам белым.
Ну а я хачу яе маліць:
Хай усё маё, што мне балела,
Тым, хто йдзе за мною, не баліць!..

## СНЕГ ПАХНЕ ВАЙНОЮ

Святла палоска тчэцца ля акна
Марознаю і зорнай сівізною.
Чым пахне снег, я ўжо з маленства знаў.
Тады ён горка пах самой вайною.

Замёў вясну дзяцінства сумны снег,
Гудзе і ломіць дрэвы злы вятрыска.
Сасновая калыска на сасне
Гайдаецца ад перамогі блізка.

Чым пахне снег?
Ён пахне той сасной,
І дымам гаркаватым над зямлянкай,
І добраю з-за лесу навіной,
Што сувязныя прынясуць уранку.

Бяруць дазоры сцежкі на замок,
Хоць і віжуе зноў у небе «рама».
У школе партызанскае дымок
Выводзіць дарагое слова «мама».

Хай на вайне не ўсё, як на вайне,
Праз мамін сон я сню яе часамі.
Тры кулі даганяюць зноў мяне:
Дзядулі,
Бацькі,
І мая таксама.

Ужо гучыць: «Апошняя вайна…».
Дзе кропка?
Вырываю з багны крок я.
Ну, хто сказаў «апошняя яна»?
Тры кулі выбіваюць зноў шматкроп’е…

## ДУМА ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

Айчына!
Васільковымі вачыма
Ты глянула здалёку, з даўніны,
Як белы твар каханае жанчыны,
Як белы камень замкавай сцяны.

Сам край увесь акрэсліўся, як замак,
Праз мроі нашы, прывіды і сны.
І ў замкаў гэтых, і ў людзей таксама
Карэнішчы айчынныя адны.

Вытокі нашы — нашай волі токі —
Напругаю пульсуюць праз вякі.
Разгон ракі,
Разрэз лагодны вока,
Узмах гарачы з шабляю рукі…

Што створана рукамі і вякамі,
Не зрушыць анякі ўсвеце здзек.
Ламаўся меч,
Крышыўся цвёрды камень, —
Нязломным заставаўся чалавек!

Выгнанніцаю памяць не бывае,
Яна таму не слепне анідзе,
Што ад нябёс відушчы посах мае,
Які відушчых і сляпых вядзе!

Яна сама знішчае перашкоды
І племя сваё ведае і род,
Яна ў народ вяртаецца заўсёды,
Калі ў яе вяртаецца народ.

З байніц далёкіх позіркам арліным
Далёкіх дзеяў выблісне агонь.
З мінулага ішлі мы па руінах,
А замкамі вяртаемся ў яго.

Так цешыць зрок Айчыны панарама,
Калі зірнеш з Навaградскай гары:
Нясвіж і Мір злучыліся як брама,
Сцяной сышліся пушчы і бары.

Падмуркі, як каменныя карэнні,
Ужо не вырваць з гэтае зямлі.
Калены нашы тут і пакаленні,
Што праз стагоддзяў тоўшчу прараслі.

Пабуджаны вясной, жыве вясною.
Пасеянаму — суджана расці!
І бусел мой задумліва ляціць
Над белай, як само крыло, сцяною…

* * *

Я з вёскі збег. Я прызнаюся.
Ці збегла вёска ад мяне?
У вёску я яшчэ вярнуся —
Мяне маё ўсё не міне.

Ні ў полі і нідзе не воін,
Як адзінокі ты ў жыцці.
Мы вінаватыя абое,
А кажуць мне: «Ты — дэзерцір!»

Хвастала ліўнем, секла снегам,
Слязой кацілася з вачэй.
Але далёка як ні бегай,
Ад долі ўласнай не ўцячэш.

Нішто не спішацца ніколі,
Як ні круці і ні вярці.
Брыду і кленчу ў родным полі,
Вандроўнай долі дэзерцір.

Ну што ж, апраўдвацца даволі.
Мой грэх, і будзе ён маім.
Мяне само асудзіць поле
Судом найстрогім палявым.

* * *

А быў калісьці гэткі дзень:
Лясная нетра,
Бесхацінства.
Куды ж кіёк мяне вядзе?
Туды не можна —
Там дзяцінства.

Усё там не тваё даўно,
І ўсё чамусьці не чужое.
Усё прашыта там вясной,
Перааранае мяжою.

Прыпомні дабрыню дуброў,
У клённіку сівым дарогу.
Прыгледзься з-пад старэчых броў:
Ну што, пазнаў сябе самога?

Значон у росах белы след,
Бяжыць трава праз плот густая.
На прызбе кошык сумны дзед
Зялёным промнем заплятае.

І не здагадваецца ён,
Як мне праз гэты век ішлося.
О, як тут новае маё
З маім былым пераплялося!..

Праменіць яснае святло
Дзень велікодны над дзядзінцам.
Няўжо, і праўда, ўсё было
І ціха звалася —
Дзяцінства?!

* * *

Жыццё, калі было яму няўстрым,
Паклікала, гукнула ў свет няблізкі.
У Рым хтось клікаў,
Запрашалі ў Крым,
Я ж сэрцу пра нявыезд даў падпіску.

Пайду, і ціха ў касу здам білет,
І ўсё касірцы нават патлумачу:
Я, да зямлі прывязаны паэт,
Вузлом сваім прывязаны, зазначу.

З ільну, іржышча, з праўды вузел той.
Яго і самы дужы не развяжа...
Што будзе там, за новаю вярстой,
Гадаць не трэба, мудры час пакажа.

Закружыцца, бывае, галава.
А хтось на вуха так спявае тонка.
Каваль жыцця мне кола адкаваў,
Але ніяк не вымудрыў пярсцёнка.

Як спіца, я мільгаю ў коле тым
Адным і тым жа шляхам каляінным,
Драўляныя мінаючы масты,
І берагі, і хаты, і ўспаміны.

Паблісквае слядоў зімовых шкло,
І цісне плечы, гне гадоў аблога.
І ўсё, што даўнім шляхам адышло,
Ужо не вернеш новаю дарогай.

Нясвіж куды мне лепей, як Парыж.
Нікуды я наогул не паеду.
Ну што вы прычапіліся? Акыш!
Спакою дайце з пушчы дамаседу!..

* * *

Свет ахапіць бы мне вачэй ахопам,
Звязаць, што растраслося, зноў у сноп.

Як сумна пасля першага патопу
Чакаць і той, ужо другі патоп.

Стары каўчэг перамайструю зноў я
Па новым і сучасным чарцяжы.
І папрашу старога збаўцу Ноя:
— Усё, як ёсць, жывое зберажы!

Асцеражы ад топішча і жахаў
Усіх, каго пільнуюць смерць і здзек.
Не абміні ні жабы, ні вужакі,
Якіх часамі крыўдзіць чалавек!..

Ізноў малюю я,
                        смалю
                                  і мажу,
На днішчы перакуленым сяджу.
Ці будзе сам патоп —
                                  зіма пакажа,
А я,
      што ў ёй зімую,
                              пагляджу!..

* * *

Не магу без гэтай волі.
Зноў туды імчыць дарога,
Дзе Сула самотным вольхам
Мые стомленыя ногі.

Мы са светам гэтым Божым
Прытаміліся таксама.
Памагла б, ды не паможа,
Спіць у іншым свеце мама.

Паслухмяныя мы дзеці,
Але бед нам не адужаць.
Дзе ім там, у іншым свеце,
Ды пра нас, самотных, думаць!..

Забыцця трава густая
Глушыць двор, паўзе пад сэрца.
Сумнай раскай зарастаюць
І рачулка, і азерца.

Што зязюля налічыла,
Я даўно пацію трачу.

Я папраўлю, што магчыма,
Немагчымае — аплачу.

Хай бяжыць прамень дзівосны
І здзіўляе нас, як хоча, —
У расчыненыя вокны,
У расплюшчаныя вочы…

## АДЗІНАЯ

Было гэта жыццё таму назад,
Мне ў сэрца заляцела мроя дзіўная.
Быў я не першы, мабыць, хто сказаў:
— На свеце недзе ёсць адна адзіная.

І я пайшоў на пошукі тады,
Ну як усе, шукальнікі, хадзілі мы.
Хвіліны прабягалі і гады,
А не было нідзе яе, адзінае.

Зальюся салаўём я ці віном,
Ці задрамлю за нейкаю адрынаю, —
Зязюляй,
І сінічкай,
І жаўной
Спяваюць, а няма яе, адзінае.

Свае ёсць птушкі ў кожнае вясне,
Ды і ў самой вясны душа птушыная.
Па птушцы — ў кожнай хаце і акне,
Але няма яе, тае адзінае.

Здавалася, надзеі ўжо няма,
Ды вось яна — о, свет! — хвіліна дзіўная:
Ляцела пташка ў рукі мне сама —
З чародкі нейкай пырхнула, адзіная.

Не ледавік віною, не мароз,
Што сэрца сцята роспачы ільдзінаю.
Не рэчку — мора выплакаў я слёз,
Калі сустрэў яе, сваю адзіную.

Вядзі мяне жыццё маё, вядзі,
Той самай, што я сам абраў, сцяжынаю!..
А ты на свеце сапраўды адзін,
Калі няма з табой тваёй адзінае...

## ІДЫЛІЯ

Пагладзіш муражок рукою:
Трава лагодная, як плюш.
Пасу я лета за ракою,
На белай аблачынцы сплю.

З гародаў цягне ваяўніча
Цыбуляй,
кропам,
агурком.
А ўжо на ўрок, за парту кліча
Ля вуха жаўранак званком.

Марудна ў садзе яблык спее,
Марудліва грабе вясляр.
Я ўсюды, там і тут, паспею,
Дасплю, дасню сваё пасля.

Я начытаўся гэтай волі,
Старонкі ўсе перагарнуў
І той найлепш урок засвоіў,
Што не дае вяскоўцу сну.

Ідзе ён ад жыцця самога,
Праз шал цярэбіцца, праз пыл:
Нідзе ніколі і нічога
У гэтай пушчы не праспі!..

Дождж дробны сеецца праз сіта,
Лагодзіць твар мой і зямлю…
— Не спі, не спі! — мяне прасілі.
І я, як бачыце, не сплю!..





**Уладзімір САЛАМАХА**

# НЕ ЦУРАЙСЯ ВЕРЫ СВАЁЙ...*

*Аповесць*

## Частка 1

### 1

...І ўсё ж Каці і Надзі да прыезду дадому трэба было вызначыць, каго Каця бачыла на базары: Іосіфа Кучынскага або іншага чалавека, падобнага на яго. Кучынскі — іхні аднавясковец. Сем гадоў таму, вясною, у жудасную паводку, ён бясследна знік з Гуды. Знік пры вельмі няпростых абставінах. І калі ўжо так, дык па віне сваіх аднавяскоўцаў, як яны самі лічылі ўвесь гэты час.

Калі на базары сапраўды быў Іосіф, дык ён — жывы!.. Тады, выходзіць, і граху на гуднянцах няма. Значыць, ніякія яны не злачынцы. Жыць жа з цяжарам душагубцы — не дай бог нікому!.. Вунь, дзядзька Яўхім, здараецца, месца сабе не знаходзіць, калі хто ўспомніць пра Іосіфа. Паслухае ўважліва, а потым як адрэжа:

— Што ты ўсё пра яго, ды пра яго! Сядзеў бы ён дзёўбам у сваёй хаце, як усё затапіла, і сам гора не знаў бы, і мы лішняга клопату не мелі б. А то думай, дзе ў якую пролабку трапіў, што следу няма, і сам сябе віні — ты ж апошні яго бачыў, але не ўтрымаў.

---

***Саламаха Уладзімір Пятровіч** нарадзіўся 24 сакавіка 1949 года ў вёсцы Бераснёўка Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў у раённай газеце, Дзяржаўным камітэце БССР па кінематаграфіі, у часопісах «Маладосць», «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Празаік, крытык, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Аўтар кніг прозы «На ўзмежку радасці» (1980), «Заўтра ў дарогу» (1985), «Кавалёк — лесавая былінка» (1988), «Цяпло чужога сэрца» (1990), «Прывід у скураным крэсле» (1994), «Апазнаецца асоба мужчыны» (1998), «Напрадвесні» (2001), «Сусвет дабрыні» (2005), «Там, дзе самоты і радасці...» (2010), «Лица и лик» (2011), «І... няма шляху чужога» (2014), а таксама зборнікаў «Сусвет дабрыні» (2005), літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «Званыя і выбраныя» (1999).*

---

* Другая аповесць трылогіі «…І няма шляху чужога». Першая пад аднайменнай назвай надрукавана на рускай мове ў часопісе «Нёман» № 2—3 за 2011 г. і ў часопісе «Наш современник» № 8 за 2012 г. (Масква). Беларускамоўная рэдакцыя — у кнізе «І... няма шляху чужога», Мн., Мастацкая літаратура, 2014.

— Як ты ўтрымаеш чалавека, калі ён, колькі ні гукалі, не азваўся? — казаў хтосьці з мужчын. — Сапраўды, хата яго выратавала б. Яна хоць і старая, але моцная.

Што праўда, то праўда, паводку Іосіфава хата вытрымала б. Гэта Яўхіму, Міколу, Міхею, Надзі з яе дзецьмі, Валікам і Светай, ды Каці ў сваіх зямлянках ад вялікай вады ратунку не было. І калі б не хляўчук на пагорку за вёскай, які летам сорак чацвёртага года мужчыны сабралі з абгарэлых бёрнаў, каб трымаць там двух коней і казу — усё калгаснае багацце — самі загінулі б і дзяцей не ўратавалі б.

Але хто тады выгнаў Іосіфа з ягонага жытла? Чаму, каб хто спытаў, не сядзелася яму ў цяпле?.. Бач, апоўначы зашлэпаў вёсламі па вадзе: з вамі хачу быць! А таго не спытаў, ці хацелі гэтага яны…

А так што? Адзін захацеў, іншыя — не… Таму і бяда. Ды яшчэ якая непапраўная: загінуў чалавек…

І вось зараз Каця не ведала, што думаць: гэта быў Кучынскі, ці не… Пэўнасці няма. Таму — цяжар на душы. Неймаверны. Адчуванне такое, нібы цябе катуюць і ўздыхнуць не даюць. Тут хоць плач, хоць ваўчыцай вый, а ўсё адно ратунку няма. І на душы яшчэ горш, чым было. За гэтыя гады, здаецца, боль ад пачуцця віны крыху прытупіўся, нібы апёк, калі яго пацягне скарынкай. Але незнарок чым чырхнеш па ёй — і хоць ты плач, так балюча заные старая рана.

Ат, што гадаць! Гэта дзядзька Іосіф. Вочы яго. Такія Іосіфавы вочы, як толькі што бачыла, Каця запомніла раз і назаўсёды — ажно мурашкі па скуры… Калі? Яшчэ зімой сорак чацвёртага года. Тады яна выйшла са сваёй зямлянкі на вуліцу. Ноччу выпаў снег. Раніцой неба ачысцілася. Касматае сонца свяцілася ў крохкай сіняве. Навокал — сліпучая бель, перасыпаная залатымі бліскаўкамі.

Выйшла і на нейкі час зажмурылася, ажно галава закружылася. Калі распюшчыла вочы, паглядзела навокал, затым на пустынную вуліцу, заўважыла па свежым снезе два ланцужкі маленькіх слядоў ад чуняў. Вялі тыя сляды з таго краю вёскі ў гэты, да дамбы.

Падумала, што Валік са Светкай пабеглі да рэчкі — зямлянка іхняй маці, Надзі Сапёрскай, у тым канцы Гуды, бліжэй да хлеўчыка на пагорку.

Там жа, недалёка ад Надзінай, — зямлянкі Яўхіма Бараўца, Міколы і Міхея. Гэта Каціна тут, сярод вёскі, на былой іхняй з Пятром сядзібе.

Насупраць, крыху правей ад Каціната жытла, хата Іосіфа Кучынскага — ацалела яна, калі летам сорак трэцяга года немцы з ягоным сынам знішчылі вёску.

Стаяла Каця каля зямлянкі, а ў паветры — чуйная цішыня. Ажно звініць крохкае залаціста-сіняе мроіва, ледзь прыкметна пакалыхваецца перад вачамі. І раптам, нібы ўкрадне, пад нейчымі нагамі каляна зарыпеў снег. Глянула ў кірунку Іосіфавай хаты — стары ішоў ад ганка да калодзежа, трымаў у руцэ вядро.

Калодзеж насупраць ягонай хаты, на гэтым баку вуліцы, дзе Каціна зямлянка.

Неўзабаве таропка зарыпеў калодзежны журавель, быццам сухая галінка хруснула наледзь на вочапе драўлянага вядра на ім. Неўзабаве ў ацынкаванае вядро глуха плюхнула вада.

Каця не зварухнулася. Баялася спалохаць старога — ён жа асцерагаецца людзей, убачыць Кацю, не будзе ведаць, як быць: павітацца, ці зрабіць выгляд, што не заўважыў…

Калі так, дык самой ёй наўрад ці трэба паказваць, што ўбачыла яго. Першай вітацца?.. Не. Прыйдзе час для гэтага. А пакуль…

Іосіф набраў вады і заспяшаўся да ганка. Зноў каляна зарыпеў снег пад яго вялікімі, падшытымі гумай, валёнкамі.

Стары ужо прайшоў крокаў пяць — скасабочаныя варотцы, на адной завесе ўмёрзлыя ў зямлю, ужо засталіся ззаду, як за рагом ягонай хаты, ад вуліцы, Каця ўбачыла Валіка і Светку.

Яна яшчэ не паспела падумаць, чаму гэта дзеці тут хаваюцца, як Валік з ўсяе сілы шпурнуў старому ў спіну лядзяш…

Іосіф перасмыкнуў плячамі, між лапаткамі на ягоным белым кажуху распаўзлася шызая пляма.

Каця ціха войкнула.

Іосіф асцярожна паставіў вядро, паволі павярнуўся...

Тым часам Валік падняў другі лядзяш, прыжмурыў вока, прыцэліўся і пачаў паволі размахвацца, каб кінуць яго ўжо ў твар старому. Каця імгненна сарвалася з месца, прыбегла ў двор, стала паміж хлопчыкам і Кучынскім, крыкнула:

— Што ж ты робіш?.. Дзядуля табе цацка, ці што? Як табе не сорамна? І хто цябе гэтаму навучыў?..

Гэтыя словы яна і зараз помніць да літаркі. Вымавіць іх ёй было няпроста: з аднаго боку — дзіця, якое помсціць бацьку паліцая, з другога — стары, нямоглы, ні ў чым, як лічыла Каця, не вінаваты чалавек…

Тады ўпершыню за тры ваенныя і амаль адзін пасляваенны год яна так блізка ўбачыла вочы старога, якімі ён, перш чым моўчкі пайсці, паглядзеў на яе.

Выцвілыя. Але не пустыя. Недзе ў глыбіні, за бясколернай плёнкай — сум… І пакуты, боль, страх…

Мабыць, у Іосіфавай душы было столькі крыўды, што, падалося, імгненне — і ён не стрымаецца, кінецца да яе, прыпадзе тварам да пляча і заплача. І Каця, здаецца, усёй сваёй істотай адчула і гэты сум, і пакуты, і боль, і ягоны, Іосіфаў, страх. Яны віхурай уварваліся ў яе душу — хоць ты нема крычы…

Але яна не закрычала, толькі сцепанулася ўсім целам: як жа яго суцешыць…

І ён не заплакаў, стрымаўся, паволі павярнуўся, крыху пастаяў, нібы нешта ўспамінаючы, затым па сваіх жа свежых слядах у снезе, пахістваючыся, нетаропка пайшоў да хаты.

Валік стаяў разгублены. Няўцямна паглядаў то на Кацю, то на старога. Мабыць, хлопчык не чакаў, што яна заступіцца за Іосіфа: бачыў жа, чуў, дзед Яўхім, дзядзькі Мікалай і Міхей, ды і ягоная маці вельмі не любяць гэтага чалавека: бацьку нелюдзя…

І нелюдзя таго Валік, канечне ж, ведаў. А звалі яго Стас. Паліцай з іхняй Гуды. Ды ён дзяцей заўсёды палохаў вінтоўкай!.. Калі ішоў па вуліцы і бачыў іх каля якога двара, крычаў: «Кыш, шантрапа!» Затым хапаўся рукой за прыклад вінтоўкі. (Гэта калі на вуліцы не было дарослых.)

Дзеці разбягаліся хто куды.

Калі ж на вуліцы былі дарослыя, Стас зверавата зіркаў на іх, ні з кім не вітаўся (ды яму ніхто і не адказаў бы), сапучы, цягнуўся да сваёй хаты.

Падышоўшы да веснічак, біў па іх нагой, затым, хістаючыся, плёўся да ганка.

Звычайна каля ганка яго ўжо чакаў Іосіф. Ён моўчкі пазіраў на вуліцу, глядзеў, ці бачаць людзі, потым нешта ціха казаў Стасу, той адмахваўся ад яго, як ад назолы, ішоў у сенцы. Іосіф цягнуўся за ім, наглуха зачыняў за сабой дзверы.

Здаралася, і не рэдка, там чулася валтузня, мабыць, хапаліся загрудкі: людзі ведалі, што сын паднімае на бацьку руку…

Валік, канечне ж, ведаў, што Іосіфаў сын здраднік і, мабыць, самым незразумелым для хлопчыка было тое, што, чамусьці, цётка Каця абараняе бацьку паліцая. Мала таго, што Стас быў паліцаем, дык ён жа забіў яе мужа, дзядзьку Пятра!..

— Не трэба, Валічак, — крыху супакоіўшыся, стараючыся быць цвёрдай, сказала тады яна малому, падышла да яго і рашуча перахапіла ў запясці ягоную ручку, у якой ён трымаў лядзяш. — Выкінь! Дзед Іосіф нікому нічога кепскага не зрабіў.

Сказала і толькі цяпер успомніла пра Светку: дзе яна?.. Глянула за вугал хаты — стаіць дзяўчынка, сціснуўшыся, уцягнуўшы ў плечы галаву, пакрытую цяжкой матчынай хусткай.

Заўважыла Каця, што вочы яе блішчэлі, слязіліся незразумела ад чаго: ад страху, ці ад ветрыку, які раптам завіхурыў дробнымі, як тоўчанае шкло, іскрынкамі снегу.

Валік стаяў, нібы ўкапаны. Яго маленькая ручка ўсё мацней і мацней сціскала лядзяш, пальчыкі ажно пасінелі, ён знізу ўверх недаўменна глядзеў на Кацю.

Яе здзівіла яго ўпартасць: перакананы, што робіць правільна. Каця адчувала гэта, бачыла па Валікавым твары — на ягоных шчоках выступілі маленькія жаўлакі, мабыць, хлопчык з агідаю думаў: «Заступніца…»

Каці захацелася закрычаць: «Ды ні якая я не заступніца!.. У мяне ў самой усё ў сярэдзіне гарыць…», але не закрычала, дрыжачымі вуснамі мовіла:

— Валічак, хутка вайна скончыцца. Ваш татка вернецца дадому. Калі ён даведаецца, што ты кідаў ледзяшы ў нямоглага дзядка, не пахваліць цябе. Нашы ж салдаты, і твой татка на той зямлі, дзе жывуць дзеці і бацькі фашыстаў, не крыўдзяць ні малых ні старых. А ведаеш чаму? Таму, што дзеткі там такія ж, як і ты са Светкай, і яны не вінаваты, што іх таты сталі фашыстамі. І бацькі іх не вінаваты… І дзядуля Іосіф не вінаваты, што Стас стаў такім. Ты ж — мужчына. Ты ж будучы салдат. Паспрабуй зразумець гэта…

Гаварыла яна ціха. Не хацела, каб чуў Іосіф. Але той яе слоў і не пачуў бы. Ён ужо зайшоў у сенцы.

Валік, слухаючы Кацю, маўчаў, па-ранейшаму ўпарта не адводзіў ад яе вачэй. Ноздры яго тонкага, чырвонага ад марозу носа торгаліся.

Каця разумела, што хлопчык расчароўваўся ў цётцы: як яна можа шкадаваць дзеда Іосіфа?

Каця доўга глядзела Валіку ў вочы: няўжо ў яго, малога, няма да старога і кропелькі спачування? А гэты ж дзядуля не так даўно яго гушкаў на каленях, ды арэхамі частаваў — любіў Іосіф з малымі кешкацца, сваіх унукаў ён не меў. Хаця наўрад ці помніць гэта дзіця, яшчэ да вайны было…

Няўжо яму не шкада дзядулю?.. Хто ж тады з хлопчыка вырасце, калі ён ужо зараз такі?.. Ведае ж, што Іосіф адзін, нямоглы… Ведае, што б ні казалі дарослыя пра Кучынскага, але ніхто яго нават пальцам не крануў.

Глядзела на хлопчыка і баялася, што не вытрымае ягонага пагляду. А пагляд у Валіка калючы, поўны нянавісці. І паспрабуй зараз зразумець, да каго гэтая нянавісць: да яе ці да Іосіфа... А можа, аднолькавая да абаіх.

І раптам заўважыла, што недзе ў блакітнай глыбіні яго вачэй слаба ўстрапянуўся ледзь улоўны, кволенькі пробліск святла. Падумала, аслабляючы свае пальцы, якія сціскалі ў запясці Валікаву руку, у якой ён трымаў лядзяш, што не ўсё яшчэ страчана… З ледзяша, які Валік сціскаў у чырвонай ад напругі маленькай далоні, на брудны, стаптаны яе і хлопчыкавымі нагамі снег капнула кропля вады…

«Ды яго, Іосіфавы, спакутаваныя вочы бачыла я сёння! — які ўжо раз пераконвала сябе Каця і нават гатова была гэтаму, як кажуць, безаглядна верыць, але тут жа сумнявалася: — Хаця, як сказаць: хто ж з людзей за вайну не спакутаваўся…»

…Вядома, за вайну, ды і пасля, не адзін Іосіф Кучынскі, калі жывы, шмат што пережыў, ды напакутаваўся і душой і целам. Гора хапіла ўсім, толькі каму больш, каму менш.

Але ўжо вельмі гаротных людзей, асабліва летных (Каця лічыла яго гаротным), пазнаеш адразу, як толькі глянеш у вочы… Здарыцца, раптам такі чалавек міжволі ўсміхнецца вуснамі, а ў вачах пакута. Што тут скажаш… Мабыць, чалавек — такое стварэнне, што калі яму блага, а ён спрабуе схаваць гэта ад людзей, маўляў, добра мне, у яго ўсё адно нічога не атрымаецца: вочы выдадуць. Ён будзе смяяцца вуснамі, а вочы будуць плакаць без слёз…

Без слёз плакалі Іосіфавы вочы і тады, калі Валік кідаў у яго лядзяш. Без слёз плакалі вочы і таго чалавека, якога Каця бачыла ў горадзе на базары.

Вочы-то падобныя, а пастава ў таго, у кім яна ўбачыла Іосіфа Кучынскага, не яго.

Іосіф для свайго ўзросту быў на здзіўленне даволі прамы. А гэты чалавек — згорблены. Мала што згорблены, дык яшчэ і крывы. Левай пахай ён апіраўся на самаробную кавялу. І — жабрак. Кучынскі паміраў бы з голаду, а міласціну прасіць не стаў бы.

Каця добра ведала Іосіфа яшчэ да таго, як са свайго Заброддзя пайшла ў Гуду замуж за Пятра. Іосіф Кучынскі разам з сябруком Яўхімам Бараўцом, які быў пры конях, выкройвалі час і ставілі людзям хаты. Не гаваркі, не сквапны, як і Яўхім, казалі, калі бачыў, што гаспадар бедна жыве, а да ўсяго і дзяцей у таго плойма, атрымліваючы за работу плату, не пералічваючы грошы, нейкую частку торкаў назад гаспадыні ў руку:

—Дзецям што ад нас з Яўхімам купі…

Калі жанчына недаўменна паглядала на Яўхіма, той казаў стражэй:

— Бяры, бяры! Табе даём, а то твой можа, хай не крыўдуе, і не ўсё аддаць. Уздурыліся зараз мужчыны, кожны хоча капейку прыхаваць ды ў краму з-пад цішка схадзіць. Забыліся, што капейка ў гаспадыні павінна быць.

Яўхіму, ведала, пярэчыць баяліся: вядзьмак. Такое за ім цягнулася здаўна. То забудуць, што ён такі, то раптам успомняць…

Канешне, ведзьмаком ён не быў. Але ж старэйшыя людзі іншы раз казалі: «вядзьмак!» Ды ўспаміналі, як гэта выявілася, калі Яўхім быў малады… Але аднойчы гэты бадзяга з нейкім сваім таварышам прыстаў да Гуды. Сталяркай у багатых людзей заробляли. А мясцовыя дзяўчаты так і зіркалі на чужынцаў — гожыя хлопцы… Дык гуднянскія жаніхі вырашылі адпомсціць прышлым: укралі інструмент. А інструмент жа дарагі, дзе ты тут яго купіш. Доўга думаў Яўхім, як спыніць злодзеяў, і прыдумаў: трэба пусціць чутку, што я вядзьмак. А што? Бадзяга, чорны што смоль, старыя жанчыны, адчувалі, паглядалі на яго з апаскай: яшчэ што на жывёлу напусціць… Вось і прыстрашыў іх Яўхім, сказаўшы аднойчы на вячорках свайму таварышу так, каб усе чулі, маўляў, слова таемнае ведаю, напушчу на таго, хто ўкраў інструмент, дык ён яго ў зубах прывалачэ, ды яшчэ ваўком будзе выць…

Вярнулі. А вядзьмак — за Яўхімам потым доўга цягнулася тая слава, тым больш, ведалі, што ён нейкімі замовамі ледзь не з таго свету выцягнуў мясцовую дзяўчыну, якая дужа хварэла з перапуду, а затым ажаніўся з ёй…

Здаецца, тады, у маладыя гады і пасябравалі Яўхім і Іосіф, чаму і як ніхто не ведаў…

Пазней ужо, калі Каця стала жыць з Пятром, чула ад жанчын, як яны казалі ўслед Іосіфу, калі ён моўчкі праходзіў па вуліцы: «Залаты чалавек. Ніколі нікога не пакрыўдзіў. Ніколі нічога ў суседа ні папрасіць, а сваё — ад рота аддасць, калі каму трэба, і Марыінай звягі не баіцца. Вось толькі гора яму з ёй, як ён толькі трывае… А некалі так любіў сваю Тэклю, што калі Аўдзей вёз яе пад вянец, дык Іосіф лёг поперак дарогі… Легці лёг, а Тэкля на яго нават і не глянула…»

Адкуль жанчыны ўсё гэта ведаюць, дык у іх і пытаць не трэба: сказана, значыць так. Але запала Каці ў душу: залаты чалавек…

Казалі таксама, што Іосіф, як Тэкля стала жыць з Аўдзеем, доўга не жаніўся, а потым, мабыць, на зло ёй і сабе і ўзяў Марыю, якую і яны, жанчыны, не любілі. А тая, пакуль і не памерла, поедам ела Іосіфа.

Пляткарылі, а плёткі іншых жанчын надта цяжкія ды жорсткія, што, маўляў, Іосіф дзіцё не сваё гадаваў. Языкамі, як касой па асацэ шорхалі: «Марыя да таго, як сысціся з Іосіфам, вельмі ўжо любілася з Мацвеем, стараверам з Нетамлі. Толькі не ўзяў яе — бацькі не дазволілі, не іхняй яна веры».

Здзіўляліся, што Іосіф Марыю пры людзях ні разу ні ў чым ні ўпікнуў. Мала таго, ён ніколі нікому, нават свайму сябру Яўхіму, не сказаў пра яе кепскага слова, а яна ж Іосіфа зневажала і нават прылюдна не раз кідалася да яго біцца.

Кінецца, ён адмахнецца ад яе, унурыць галаву ў плечы дый сыдзе куды і потым доўга не паказваецца на людзі. Калі ж хто з мужчын паспачувае: «Калі б мая так, я б ёй даў», — ціха, хрыплым голасам, з нейкай немужчынскай вінаватасцю адказваў: «Даў, даў… Ты што, хочаш, каб я жанчыну ўдарыў?»

Гэта не раз чула і Каця. Маладая, яна згарала ад сораму за суседа: як жа з такой можна жыць?..

Гэты хрыплы голас апошні раз Каця чула ў вайну, яшчэ да таго, як немцы спалілі вёску. Чула, калі аднойчы Іосіф, вярнуўшыся ад Стаса з гарнізона з Барвіцы, папярэдзіў вяскоўцаў, што, мабыць, немцы нешта нядобрае замыслілі: ужо дужа заварушыліся…

Яўхім тады нібы пад дых садануў Іосіфу. Маўляў, скуголіш, як сабака! Ды прыгразіў: захочаш пра нашы сувязі з партызанамі немцам шапнуць — не паспееш…

Адказаў былому сябру Іосіф нягучным, хрыплаватым голасам: «Дарэмна ты так, Яўхімка. Можа, Стас і ваўкалак. А я пры чым?..»

Казаў, што перад Богам чысты, а ў голасе ноткі віны, прыніжанасць, жахлівы сорам: лепш скрозь зямлю праваліцца, чым такім перад людзьмі стаяць…

…І вось сёння на базары яна пачула той жа голас — нягучны і хрыплаваты. Яго ні з чым іншым не зблытаеш. Голас гэты ўвесь час стаіць у вушах. Так, так, той здаўна знаёмы голас… Але ж загваздка: вінаватасці, прыніжанасці, сарамлівасці ў ім, здаецца, не адчувалася. Замест іх — аддаленасць і адчужанасць... Адчужанасць Каця адчула нават у гэткай клапатлівасці чалавека пра яе сыночка: «Не крычыце так, хлопчыка напалохаеце…»

Але хіба яна крычала?.. Здаецца, убачыўшы старога, проста спытала: «Дзядзька Іосіф, гэта ты?..»

І зараз які ўжо раз у галаве адно і тое ж: дык ён, ці не ён? Цяпер, праз столькі гадоў як знік Іосіф, паспрабуй вызначыць, каго яна бачыла…

Ат, каб жа тады, як Каця ўбачыла гэтага нябогу, побач з ёй была Надзя! Удзвюх не памыліліся б. Але ж Надзі тады побач не было. (Каця мелася купіць Петрыку к школе вопратку, ішоў у першы клас, вось і прыехала яна з Надзяй у горад, каб прадаць ягады, ды займець грошы)...

Жанчыны, заявіўшыся ў горад раніцой — адразу, як Яўхім на кані падвёз іх да шашы трапілася спадарожная машына — паспелі да полудня прадаць ягады. Вось і выкраілася ў іх вольная гадзіна, перш чым ісці за горад і чакаць, каб ужо падабрала якая машына: звычайна спадарожныя з райцэнтра ў вобласць выязджаюць бліжэй да вечара. І колькі разоў жанчыны ездзілі сюды і адсюль, ім заўсёды шанцавала з транспартам.

Сёння, маючы вольны час, яны вырашылі пахадзіць па крамах — грошы ёсць. Надзя са Светкай пайшлі ў магазін «Адзенне», які месціўся далекавата адсюль, на суседняй вуліцы. Надзя хацела купіць дачцэ новую сукенку — Света ж у Заброддзі разам з Валікам школу канчае, — а Каця засталася з Петрыкам на базары. Далёка цягнуцца з малым не хацелася, да ўсяго на базары з рук можна было купіць касцюмчык і нават намнога танней, чым у краме.

Не паспела Каця, як кажуць, агледзецца, як Петрыку знайшлося тое, што трэба. Прадавала нейкая жанчына, хадзіла між лавак, крычала: «Каму для дзіцяці недарагі касцюмчык… Каму для дзіцяці недарагі касцюмчык…»

Убачыла Кацю з Петрыкам, спынілася побач: «Бяры, маці, твайму хлопчыку якраз будзе і на сёлета, і на наступны год. Бяры, не прагадаеш. Нядорага прашу».

Памералі пінжачок — полы і рукавы даўгаватыя. Ды і штонікі… Але ж, сапраўды, і зараз можна будзе ў школу хадзіць, і на наступны год, калі падкасаць рукавы і калашыны.

Бачыла, сынок ажно ззяў ад радасці — касцюмчыка ў яго дагэтуль не было. Насіў тое, што шыла сама з якой старызны. А тут — як крамны ў Валіка, хоць і з рук куплены.

Валік — хлопец ужо дарослы. Разумны. Навуку, як рэпу, грызе. Настаўнікі ім не нахваляцца. Кажуць, любую задачку імгненна ў галаве рашае. Нават такую, якой няма ў падручніках — іншы раз настаўнік матэматыкі яму дае.

Петрыка Валік заве брацікам, і хлапчанё дужа да яго цягнецца… І ходзіць Валік у касцюмчыку, Надзя з Іванам апошнюю капейку на яго пускаюць. Ды і Яўхім сваю, калі займее, аддае, маўляў, толькі вучыся, унучак…

Яўхім і Петрыка ўнучыкам заве. Казаў, што дасць грошы Каці ўнучаку на касцюмчык. Але ж пакуль яна сама не зломак зарабіць то на ягадах, то на грыбах — у калгасе заробак адзін: палачкі…

Але касцюмчык памералі. Разлічылася. Павярнулася Каця, каб падысці да лаўкі з прысмакамі, яна якраз побач, і ледзь не самлела: дзядзька Іосіф!.. Стаіць каля выхаду з базара недалёка ад яе. Худы, згорблены… Барада доўгая, сівая… Галава непакрытая, рэдкія сівыя валасы трапеча вецер… Пад левай пахай — самаробная мыліца…

Стаіць, выцягнуўшы перад сабой правую руку, крыху сагнутую ў локці і моўчкі просіць міласціну. А паўз яго ўзад-уперад снуюць людзі з кашамі, вёдрамі, клункамі ў руках, з ношкамі, рукзакамі за спінаю. А хто і без ўсяго шпацыруе. Апранутыя па-рознаму, ад бедна да багата, і, здаецца, ніхто не звяртае на яго ўвагі.

У першае імгненне ў Каці закружылася галава. У скроні моцна затахкала. Перад вачамі замітусіліся зорачкі…

Трымаючы Петрыка за руку, не чакаючы, пакуль у галаве праясніцца, памкнулася да старога. Спытала, ці ён… А можа, як ён сказаў, нават закрычала,

бо памятае, што на яе аглянуліся людзі. А яна, не зважаючы на іх, пацягнула за сабой Петрыка, кінулася да жабрака і адразу нібы наткнулася на сцяну, пачуўшы пра сыночка тыя словы, ды гэтае адчужанае: «Памыліліся, грамадзяначка…»

І няважна, якія словы былі першымі, важна, што голас Іосіфаў, вочы ягоныя…

Атарапела. На сыночка глянула. Сапраўды спалохаўся. Падхапіла яго на рукі, абняла, супакоіла. Павярнулася — няма старога, быццам ветрам яго змахнула…

## 2

Надзя са Светай, вярнуўшыся з магазіна на базар, убачылі, што Каця надта разгубленая. Яна стаяла каля варот і моцна трымала за руку перапалоханага Петрыка. Хлопчык ціха румзаў, выціраючы кулачком вочы.

— Што, грошы ўкралі? — спытала Надзя.

— Горш…

— Як горш?! — спалохалася Надзя.

— Здаецца, бачыла дзядзьку Іосіфа.

— Цьфу ты!.. Так бы адразу і сказала. А то як варам у твар — горш!.. Злякацца можна… А Петрыка кім напалохала, Іосіфам? Дзе ён?

— Ды не палохала я яго Іосіфам. Неяк дзіўна выйшла. Знік.

— Знік?.. Гаварыла з ім?

— Не. Я да яго: «Дзядзька Іосіф…». А ён: «Памыліліся, грамадзяначка…», ды: «Не крычыце так, хлопчыка напалохаеце...»

— Тады абазналася. Гарадскі, мабыць, з анцілігентаў. Цябе на «вы».

— Можа, і абазналася. Але падобны. Вочы яго і голас, здаецца, ягоны.

— А ты, Кацька, добра падумай. Можа, сапраўды Кучынскі?..

— Я і думаю.

— Ат! Каб жа я побач была!.. Разгубілася?

— Мабыць…

Пакуль жанчыны высвятлялі, што і як, Светка прысела ля Петрыка на кукішкі, дала яму цукерку, пачала супакойваць.

Неўзабаве хлопчык супакоіўся, перастаў румзаць, але няўцямна пазіраў то на маці, то на цётку Надзю.

— Хто цябе пакрыўдзіў? — сытала Светка. — Чаго ты спалохаўся?

— Ніхто, — сказаў Петрык. — Само спалохалася. Мама да чужога дзядулі пабегла, пачала крычаць, я і спалохаўся.

— Дзядулі?

— Не ведаю, — скрывіў Петрык губы.

— Калі гэта той дзядуля, пра якога твая і мая мамы гавораць, дык не бойся яго. Ён бяскрыўдны. Яго самога пакрыўдзілі.

— Такога вялікага? Хто?

— Ай, не ведаю, — ухілілася Света ад прамога адказу. — Можа, некалі і мы з Валікам яго пакрыўдзілі, мы тады маленькія былі, трошкі большыя, чым ты.

— За што? Дзед Яўхім кажа, што нікога крыўдзіць нельга.

— Мы тады гэтага не ведалі, нам ніхто пра гэта не казаў.

— І дзед Яўхім?

— Ён думаў, што мы ведаем.

— А як вы яго крыўдзілі?

— Снежкі ў яго кідалі.

— А ён не хацеў з вамі ў снежкі гуляць?

— Не хацеў. Вось мы з Валікам ужо выраслі, і нам сорамна: ён жа добры дзядок.

— Такі, як дзед Яўхім?

— Не. Не такі. Дзед Яўхім з намі жыве. А гэты дзядуля адзінокі, у яго нікога няма. Але таксама добры.

— І ўнукаў у яго няма?

— І ўнукаў. — Светка ўздыхнула, памаўчала, потым дадала: — Гэтага дзядка завуць Іосіф. Некалі ён з нашым дзядулем Яўхімам сябраваў.

— А чаго я яго ў вёсцы не бачыў?

— Ну, гэтага я не скажу… Паехаў ён некуды з нашай вёскі, ніхто не ведае куды, а твая мама і ты яго ўбачылі.

— Дык жа яго няма, некуды пайшоў.

— Прыйдзе…

Света размаўляла з Петрыкам, а сама, ужо амаль дарослая, шмат што ведаючы пра Іосіфа Кучынскага, думала, калі сапраўды гэта быў ён, дык чаму не азваўся? Мог жа пагаварыць з цёткай Кацяй. Значыць, не ён. А калі цётка кажа, што ён, калі ёй не падалося, дык і яна, Светка, расказала хлопчыку пра няшчаснага былога аднавяскоўца, якога дарослыя лічаць загінуўшым. Хаця зараз маці з цёткай Кацяй засумняваліся ў гэтым: калі ён быў, значыць, жывы...

А Надзя цяпер, дакараючы сябе, што забавіліся з дачкой у краме (з пяток сукенак перамералі, пакуль патрэбны памер падабралі), не бачыла старога, які здаўся Кацi падобным на Іосіфа і які знік, напомніла ёй, што час ісці чакаць спадарожную.

— Пайшлі, — згадзілася Каця, узяла ў адну руку кошык, у якім ляжаў загорнуты ў газету Петрыкаў касцюмчык, другой — за руку сына, дадала: — Калі ён, ды збег, значыць, не хоча прызнавацца.

— Можа, і не ён, — сказала Надзя. — Кажу, дужа гарадскі. Іосіф — працяк, як і дзядзька Яўхім. На «вы», вядома, скажа, а каб «грамадзяначка» — не. «Маладзічка, таечка, жанчынка» — такое было, казаў, помню. Так што ты добра падумай. Але каб жа ён…

Са спадарожнай ім пашанцавала. Толькі выйшлі на шашу на ўскраіне, якая злучала раённы цэнтр з абласным і праходзіла ад Гуды кіламетры за чатыры, як заўважылі, што іх даганяе грузавік.

Яны спыніліся, не паспелі «прагаласаваць», як машына з’ехала на ўзбочыну, затармазіла.

— Студар! — закрычаў Петрык.

Машыны ён ведаў. Гуда будавалася. Грузавікі сюды прыязджалі часта і розныя. Прывозілі лес, цэглу, дошкі, іншыя будматэрыялы.

Адчыніўшы дзверцу кабіны, на шашу гупнуў вадзіцель. Гэта быў пажылы мужчына, апрануты ў добра-такі зацёрханую вайсковую форму, але без пагонаў, на галаве — вайсковая, без цэшкі, фуражка. Абуты ён быў у кірзавыя боты.

Глянуўшы на жанчын і дзяцей, сказаў:

— Я — у вобласць. Калі па дарозе, сядайце. Хлопчык і дзяўчына — у кабіну, а вы, жанчыны — у каробку.

Света з Петрыкам адразу залезлі ў кабіну. Жанчыны, стаўшы на заднія колы, трымаючыся за рашоткі на борце, з цяжкасцю забраліся ў высокі кузаў.

Шафёр стаяў на падножцы, наглядаў, як яны ўладкоўваюцца на лаўцы за кабінай, спытаў:

— Жанчынкі, вы тут ніякога дзядка не бачылі? Ну, такі сівенькі, згорблены. У яго яшчэ самаробная мыліца.

— Не, а што такое? — здзівілася Каця.

— Ды знаёмы мой. Не сказаць, каб дужа блізкі, але знаёмы. (Жанчыны насцярожыліся.) Я ж два разы на тыдзень, у панядзелак і пятніцу, езджу з вобласці ў горад і назад. Звычайна і сюды, і назад еду ў адзін і той жа час. Парадак у мяне такі. Пытаеце: «А што такое?..» А тое, што гэты дзядок ведае, калі я прыблізна праязджаю ля дарогі, па якой ён са свайго хутара выходзіць на шашу. Калі ён стаіць ля шашы, падбіраю яго. Едзем, дамаўляемся, калі яму стаяць вось тут, дзе вы стаялі. Ну і назад едзем.

Сёння сюды яго я не падвозіў. Мабыць, нехта падвёз. Я ж яго на базары бачыў. Зайшоў у магазін, той, што недалёка ад варот, сваім гасцінцы купіць. Стаю ў чарзе, глядзь праз акно: мой дзядок! Ажно скаланула мяне — ля варот міласціну просіць.

Думаю, што ж такое? Бяда?.. Ён жа раней то грыбы сюды вазіў, то рыбу, то арэхі. А тут…

Купіў я гасцінцы, выйшаў — а яго няма… І тут няма. Дзіўна.

— І я яго на баразы бачыла, — цяжка ўздыхнула Каця. — І я пакуль сюды-туды, а яго — няма. І як сюды ішлі, яго не бачылі. Калі б ён таксама сюды ішоў, мы яго абагналі б. Мы ж з базара пайшлі неўзабаве, як ён знік. Амаль бягом беглі. Баяліся, што пазней спадарожных можа не быць, усе стараюцца да цямна з горада выехаць. Так што дзякуй вам, чалавек, што падабралі. А то было б — хоць ты на дарозе начуй… Кажаце, міласцівіну прасіў. Калі гэта той дзядок, дык ён і нам патрэбны.

— Вам? Знаёмы? — здзівіўся шафёр.

— Як сказаць, — паціснула плячамі Каця. — Мне падалося, што гэты жабрак, калі мы гаворым пра аднаго і таго ж чалавека, наш аднавясковец. Але даўно мы яго не бачылі. Скажыце, каля якога хутара вы яго падбіраеце? Яго, выпадкам, не Іосіфам завуць?

— Не, не Іосіфам, — сказаў шафёр. — Завуць яго Антонам. Ва ўсякім выпадку, ён так мне сам казаў. А падбіраю я яго ля Кашарскай дарогі. Сёлетняй вясной мы пазнаёміліся. Дагэтуль я яго там не бачыў, хаця езджу тут з сорак пятага года. Як дэмабілізаваўся, так і езджу па гэтай шашы. Рэйсы ў мяне такія: вобласць — раён. У раён — прадукты, назад, бывае, паражняком. А бывае, таксама нешта вязу. Дык вось, неяк вясною раніцою еду ў горад. Не спяшаюся, снег нядаўна сышоў, імжыць, на дарозе ледзяная скарыначка, слізка.

Я ў кабіне плячамі пацёпваю, а што на дварэ… Гляджу, справа каля шашы пры сасне стаіць чалавек. Стаіць, як укапаны, нават рукі не паднімае. Я спыніўся. Дзверцай ляпаю, крычу: «Чаго стаіш? Калі трэба ехаць, сядай!»

Гляджу, абудзіўся. Ледзь сунецца да машыны. Прыгледзеўся, ды ён жа скручаны! Кавяла пад пахай… Дапамог сесці. Едзем. Я — так і так, хачу размаўляць. Я ж — гаваркі. У мяне нават па-нашаму прозвішча гаваркое: Говар. Гэта ўжо ў войску перапісалі — Гаваркоў… Ледзь разварушыў яго. Пытаю, хто, адкуль, чаму… Маўляў, у такое неадвор’е без пільнай патрэбы чалавек, калі мае страху над галавой, не выйдзе са свайго сховішча. Маўчыць. Адчуваю, чамусьці акамянела ягоная душа.

Тады я яму пачаў пра сябе расказваць. Маўляў, да вайны абаранку круціў. Ад званка да званка фронт прайшоў. У якіх толькі пераплётах не быў, а слава

богу, нават не драпнула. З вайны прыйшоў, Бог мілаваў, сям'я выжыла: і жонка і двое дзяцей — сын, ён ужо жаніх, і дачушка меншая. І жытло цэлае, домік на ўскрайку аблцэнтра. Зноў шафёрыць пайшоў, вось абаранку кручу… А ў цябе, дзядзька, ёсць хто? А ён мне: «Адзін я…»

— Адзін? — ледзь не закрычала Каця.

— Ага, адзін. Кажа, хадзяйка яго памерла. Учора пахаваў. А сёння ў горад сабраўся: аднаму — хоць у мех завяжыся… Кажа, доўга без людзей быў, пакуль яна не вярнулася. Адкуль, я не пытаў. Няёмка, ці мала што. Можа, з Германіі. Туды ж немчура столькі людзей на катаргу вывезла. Праўда, больш маладых. Хаця і пажылыя траплялiся. Ды яшчэ колькі! Па канцлагерах… А можа, яшчэ адкуль вярнулася.

Кажа, пагляджу, што ды як у горадзе. Можа, там дзе прыляплюся?

А я думаю, дзе ж ты там прылепішся. Каму ты такі, дзядок, там патрэбны? Яшчэ паўсюль хапае бяздомных, жабракоў.

Ладна, сабраўся, дык сабраўся. Падвязу. Пахадзі каля людзей, развейся. Паглядзі, што і як. А вечарам, калі адумаешся, калі захочаш дамоў вярнуцца, выходзь на гэтую дарогу. Я разгружуся, гэтак гадзіны ў чатыры буду ехаць назад. Падкіну да тваёй павароткі. У цябе ж, мабыць, жытло нейкае ёсць. Ды што пры жытле…

«Сякое-такое ёсць, — кажа, — але…» Адчуваю, за гэтым «але» нейкая такая пролабка, дна не відаць. Далей не стаў пытаць, а сам ён не сказаў. Вось так і пазнаёміліся. Больш я ў яго душу не лез. Ён не дужа гаваркі чалавек. Хаця, як ужо казаў, і акамянела ягоная душа, але адчуваецца, што нешта ў ёй усё ж цепліцца. Сёння, як ехаў сюды, яго не было… А на базары — быў. Ды яшчэ жабраваў. Мабыць, дапякло адзінокае жыццё... Стаіць ён у мяне перад вачамі, бедалага.

Шкада мне яго. Надумаўся я сёння з ім пагаварыць, як яму далей жыць. Рашыў, убачу, скажу, дзядзька, так і так, у вобласці ёсць дом састарэлых. Паехалі са мной, паспрабуем уладкавацца. Там будзеш дагледжаны, пад'еўшы, у цяпле…

Не хочаш — ладна, я ж чужы табе чалавек, сілай не пацягну. Толькі мог бы і ў мяне нейкі час пажыць, пакуль тое-сёе высветліцца з гэтым прыстанішчам для адзінокіх людзей. Не саромся, я са сваімі абгаварыў, пацiснемся, месца хопіць: нельга такому быць аднаму. Ну, пералетуеш на сваім хутары, а зімой што, лажыся ды памірай?..

Кажаце, не бачылі, — роспачна сказаў шафёр, паглядзеў на ручны гадзіннік: — Палова шостай. Я крыху спазніўся, пакуль разгрузіўся, пакуль тое-сёе, словам, мабыць, не чакаў мяне, напэўна, з некім паехаў ужо. Казаў, што яму ад шашы да хутара няблізка, вёрст восем—дзесяць: трэба ж да цямна паспець. Я неяк падрадзіўся яго туды падвезці, дык ён махнуў рукой: «Там такое балота, што пешшу, калі не ведаць, не пройдзеш, не тое, што на машыне». Ну што ж, паедзем?

Шафёр, здаецца, раіўся з жанчынамі, як быць? Ехаць, або яшчэ чакаць нейкага старога, якога ён іншы раз падвозіць з Кашарскай павароткі ў горад і назад. Канешне, гэты дзядок, пра якога расказвае шафёр, той самы чалавек, якога Каця ўбачыла на базары. Але ж для жанчын — загваздка: нібыта падобны на Іосіфа, а завуць інакш. І яшчэ: у Іосіфа не было ніякай «хадзяйкі» і ўзрост такі, што калі ўжо няма яе, дык хто за цябе пойдзе?..

Жыве недзе каля Кашары, ці ў Кашары. Чулі пра такую: нейкі хутар, закінуты сярод балот у лесе. Чулі, што яшчэ да калектывізацыі там з сям'ёй жыў адзін чалавек. Ці то які беглы, невядома з якога часу, ці то гаспадар-аднаасобнік. Але жыў.

Меў той чалавек ладны клін ворыва, сенажаць. Было ў яго шмат авечак. Пабудаваў ён вялізную кашару, у якой іх утрымліваў. Адсюль і — Кашара. Казалі, Яўхім казаў, калі жанчыны бедавалі, маўляў, ля Гуды нешта мала ягад, і дробныя, што ён ведае месцы, дзе іх процьма: за Кашарай. Але гэта далёка адсюль. Хутар месціцца на даволі ладным узвышшы сярод непраходных балот і лясоў. Недалёка ад яго цячэ Дубасна.

Таксама казаў Яўхім, што некалі там ягад і грыбоў было: насі — не вынесці! Мабыць, і зараз іх там будзе шмат: дзе ж яны падзеліся?.. А што ля Гуды драбноцце, дык тут у вайну лясы вунь як гарэлі… Ягадніку, каб адрадзіцца, шмат гадоў трэба.

Але ж да хутара вельмі няпроста дабрацца, калі не ведаеш, як. З шашы, калі ехаць з боку Гуды, паваротка да яго направа. А да павароткі той вёрст трыццаць. З павароткі дарога, як ідзеш па ёй, нейкі час вядзе цябе па цвёрдым. Яна доўга пятляе па лесе, цупкая, затравелая — смела едзь на калёсах. Але кіламетры праз тры-чатыры пачынае паступова спускацца ў нізіну, звужваецца, становіцца гразкай, месцамі ў зялёных, пацягнутых раскай, лужынах. Далей наогул ператвараецца ў сцежачку, шыецца між высокага разнатраўя, стрыкучай крапівы і раптам упіраецца ў балота…

А балота тое з краю парасло багуном, буячнікам, на якім ягады па жолудзе.

Далей мох, усё ў купінах, дрыгва… Гнілое яно нейкае балота гэта, паўсюль пасохлыя сосны, пракідаецца беразняк, але чэзлы. Птушак не чуваць, аблятаюць яны гэтае гіблае месца. Ад заядзі не адбіцца: камары, мошкі, авадні, на куп'і на сонцы — гадзюкі. Жах! Перахрысціся, ды назад!

Казаў Яўхім, калі не ведаеш, як ісці па балоце, лепш не лезь: засмокча дрыгва, і — з канцамі...

А гаспадар там з завязанымі вачамі пройдзе, некалі яшчэ ягоны бацька праклаў у дрыгве патаемны шлях, і тайна шляху з гэтага боку нікому невядома. А вось як ад ракі дабрацца да хутара, Яўхім ведае, і сёння там прайшоў бы: з гаспадаровай ласкі не раз хадзіў.

Таксама казаў тады Яўхім жанчынам, што ён мог бы ракою завезці іх туды на лодцы, і яны назбіралі б ягад. Але, каб туды дабрацца, трэба патраціць дзень, затым дзень збіраць і дзень назад. А дзеці? А гаспадарка?.. Дык ці варта аўчынка вырабу?..

Згаджаліся, што не варта. Цікавіліся, як туды ён трапіў. Аказваецца, выпадкова і невыпадкова: гаспадару неяк спатрэбіўся работнік. А Яўхім тады якраз у горадзе пры базары падахвочваўся рабіць грузчыкам, разгружаў мужыкам мяхі з зернем з калёс, ды насіў, куды трэба было.

Малады быў, здаровы, ускіне мех на плечы і нясе, нібы гуляючы. Людзі здзіўляліся: мацак!..

Аднойчы там яго і ўбачыў гаспадар хутара. Прыгледзеўся, падышоў, ды кажа: «Пайшлі да мяне на расцяроб, добра плаціць буду. І харч мой».

Згадзіўся Яўхім. У горадзе што? Жытла няма, і работа — сёння ёсць, заўтра — хвіндос пад нос…

Пасадзіў яго гаспадар у лодку, прыплылі яны па Дубасне да таго месца, дзе за старыцай, за балотам, за грывай цёмнага лесу быў ягоны хутар, ды кажа: «Тут у мяне свой ход да жытла, калі прывёз цябе, вядома, пакажу. Але не хачу, каб хто чужы пра яго ведаў. Жыццё такое, што, здараецца, іншага чалавека сцеражыся. А ты, бачу, хлопец неблагі. Мы з табой, можа, нават здружымся. Ці мала што ў жыцці бывае. Ты мяне калі выручыш, я табе дапамагу. А як жа? Так добрыя людзі здаўна між сабой жылі, таму і не вывеўся чалавечы род, колькі яго ні нішчылі свае супляменнікі і чужынцы».

І павёў патаемным шляхам да хутара... А там у яго — гаспадыня, ды маленькія дзеткі, двое тады было. Гаспадарка ў яго мелася ладная. А зямлі на той час было не дужа багата.

Дык вось, праз старыцу, праз балота некалі цягнулася вузкая, затравелая каса. Месцамі яна знарок была парушана гаспадаром. Там, дзе парушана, у дрыгве прытоплены плашкі, але на крок збоку. Чалавек ідзе па касе, а яна канчаецца… Жэрдачкай перад сабой торк, торк — багна, вяртайся назад. А ты, калі ведаеш, той жэрдачкай паторкай то ў адзін бок, то ў другі — намацаеш цвёрдае. Вось і ступай на яго…

Плашкі вузкія — двум чалавекам не размінуцца. Па касе, па гэтых плашках трэба падняцца да выспы, яна недалёка ад хутара. Падыдзеш да яго — і справа, мяжою, трэба прайсці гэтак з паўвярсты. А там — ладны, чалавекам не чапаны бор. А ў тым бары — чарнічнік. І шмат дзе лапікі верасу. Вось табе і ягада, вось табе і грыб. Ягада баравая — цвёрдая, буйная, сокам налітая — цукар. Вядома, выспелая на сухім, без лішняй вільгаці. Гэта ж не балотная. Балотная, яна і ёсць балотная: цяжкая, вадой набрынялая, кіслоцце… І баравік па верасе — сапраўдны, шапка чырвоная, ажно гарыць. А знізу белы, як сыр.

Успамінаў Яўхім таго гаспадара добрым словам: не сквапны, жылы з парабка не цягнуў, добра карміў, і сам горб гнуў не менш, чым найміт. Ды і маладзіца ягоная была такая ж — двухжыльная. І нібыта той гаспадар быў не на многа старэйшы за Яўхіма.

А што потым?.. Шкада чалавека, шкада… Чаму шкада, Яўхім не казаў, думаючы пра нешта сваё. А раз не казаў, не пыталі: чамусьці не хоча, каб ведалі.

Зараз Каця ўхапілася за гэты ўспамін, як за саломінку, дакладней, за гэтыя Яўхімавы расказы аб нейкай невядомай ёй Кашары. Яшчэ б!.. Канешне ж, Іосіф Кучынскі пра хутар мог ведаць, яны ж з Яўхімам некалі сябравалі. Хай ужо не так, як браты, але ж сябравалі! А што калі…

Але як жа таго гаспадара звалі?.. Каця, як ні старалася ўспомніць, не магла. Здаецца, Яўхім не называў яго імя. Адно, гаспадар, гаспадар… Ды тое, што хрысціўся ён не трыма пальцамі, як мы, а двума.

Як жа яна не запомніла, як перахрысціўся жабрак, якога яна сустрэла на базары? Здаецца, пасля таго, як сказаў, каб не палохала дзіця, перахрысціў і яе і Петрыка… Але як?..

Шафёр кажа, што стары назваўся Антонам. Можа, і так, навошта чалавеку было маніць?.. Не, як ні мяркуй, мабыць, гэта быў гаспадар хутара. І па ўзросце падыходзіць, казаў жа Яўхім, што не на многа старэйшы за яго… А што нечым падобны на Кучынскага, дык усе старыя нечым падобныя, як і дзеці — таксама…

І ўсё ж разам з тым Каці вельмі хацелася верыць, што яна бачыла Іосіфа. І Надзя хацела верыць у гэта. Вунь сядзіць, уважліва слухае шафёра, мабыць, таксама хоча ўхапіцца за нейкую нітачку, якая магла б разблытаць гэты клубок з жыцця гуднянцаў.

А клубок той вельмі няпросты, яго нітка моцна звязвае ўсіх. І не важна, каго больш, каго менш, але ўсіх гуднянцаў, каму пашчасціла выжыць у вайну. Датычыць яна і Іософа Кучынскага, іх былога аднавяскоўца…

— Ну што, паедзем,— сказаў шафёр, пераканаўшыся, што жанчыны добра ўладкаваліся. — Вам блізка, а мне — ехаць ды ехаць. Лесам ноччу — не вельмі. Раптам што зламаецца, кукуй тады, бо наўрад ці будуць яшчэ машыны, усе стараюцца раней з горада выехаць.

— Як хочаце, — мовіла Надзя.

Шафёр павярнуўся, бразнула дзверца кабіны, адтуль пачулася:
— Вазьміт-ка, дзеўчына, хлопчыка на рукі. Носам клюе.
— Вазьму, — адказала Света.

### 3

Горад хутка аддаляўся. Дзень хіліўся да вечара. Над зямлёю ледзь прыкметна згушчалася гаркаватая жоўта-шызая смуга. За машынай доўга цягнуўся цяжкі шэры пыл.

Жанчыны лаўчэй прымасціліся на лаўцы за кабінай, сядзелі спінамі да яе. Адсюль, з высокага кузава, добра бачыўся райцэнтр, які пачынаўся за ракой.

Рака, іхняя — Дубасна. Да горада яна выходзіла з лесу. Даволі вілюжыстая, шырокай шэра-сіняй скамечанай стужкай яна цякла па доўгіх лугавінах, акрэслівала жоўтым пясчаным берагам ускраіну горада, прабягала пад высокім драўляным мостам і адыходзіла ад райцэнтра, скрываючыся ў такім жа густым, як і справа, лесе.

Зараз стужка ракі здавалася залаціста-блакітнай. Раніцой, як ехалі сюды, Дубасна, тады яшчэ асветленая промнямі невысокага сонца, была залаціста-карычневай. Лугі за ёй і перад ёй, з раскіданымі па іх азярынкамі вады, здаваліся ізумрудна-зялёнымі, хаця хапала на іх і жоўта-карычневых земляных лапікаў.

На лугах, нібы лялечныя, там-сям былі рассыпаны каровы, коні, фігуркі людзей.

Канчаліся лугі, пачыналіся пабудовы. Першая іх града — драўляныя домікі. Іх было няшмат, тыя, што ацалелі ў вайну.

Між імі, за імі — багата жоўтых новых пабудоў. Далей на пагорках — белыя, шэрыя, рудыя двух-трохпавярховыя цагляныя будынкі, якія, як ведалі жанчыны, збудавалі пленныя немцы.

А яшчэ далей усё злівалася ў аднастайную шэрань, сярод якой месцамі вытыркаліся заводскія трубы.

Цяпер жанчыны ў горад ездзілі не так часта, як адразу пасля вайны. Тады ездзілі сюды амаль кожны тыдзень: трэба ж было неяк жыць. На базары яны мянялі на ежу, а то і на якую вопратку даматканыя ручнікі, абрусы, посцілкі.

Усё гэтае багацце жанчыны неўзабаве, як прыйшлі немцы, употай закапалі на агародах. Так параіў Яўхім. Ён казаў, што вораг толькі спачатку не будзе лютаваць, не будзе забіраць людскі нажытак, а потым, так ва ўсіх войнах было, апошняе адбярэ. А захаваеш, вернуцца нашы, адкапаеш, як знойдзеш.

Адразу пасля вайны, як і ў вайну, вяскоўцы недаядалі. Часам зусім не было што есці. Калгасныя землі пуставалі, іх не засеялі, не было чым. І свае агароды пуставалі. І жыўнасці тут тады, акрамя казы, не было. Вёска спалена, разбурана, большасць жыхароў знішчана — несусветнае гора… І ўсё гэтае гора навалілася на купку вяскоўцаў: Яўхіма, Мікалая, Міхея, Надзю Сапёрскую з яе дачкой і сынам, ды тады яшчэ адну, без Петрыка, Кацю. (У той дзень, як знішчалі Гуду, Яўхім на досвітку павёў іх у лес у маліны, таму і выжылі.)

Гэтыя, па сутнасці, чужыя людзі, не звязаныя між сабой кроўна (толькі Надзя з дзецьмі — адно), зрадніліся ў адзін дзень, у тую ліхую часіну, калі з лесу назіралі, як гарыць Гуда, калі чулі крыкі аднавяскоўцаў, якіх немцы загналі ў калгасны клуб. Чулі і нічым не маглі дапамагчы сваім аднавяскоўцам…

Дзень і ноч Яўхім, Мікола, Міхей, Каця, Надзя і яе дзеці плакалі, галасілі, не знаходзілі сабе месца, а потым, калі вораг з’ехаў, знясіленыя прыйшлі на папялішча, якое яшчэ курылася, і моўчкі ўпалі перад ім на калені…

Здавалася, ніколі ні да каго з іх не вернецца радасць. Здавалася, ніколі не скончацца іхнія слёзы, і ніколі паветра не стане лёгкім, празрыстым і чыстым, і гэтыя людзі назаўжды забудуць, што такое ўсцешная ўсмешка…

Яўхім Баравец, самы старэйшы з іх, некалі чужы тут, без свайго бацькоўскага кораня, былы павадыр старцаў, якія, неяк падабраўшы яго хлапчанём, не далі яму загінуць, як ніхто ведаў вартасць людской някроўнай еднасці.

Ён тады першы ўзняўся з каленяў, доўга глядзеў на попел і вуголле, што засталіся ад будынка клуба, у якім спалілі людзей, сказаў:

— Усім нам зараз трэба быць разам. Інакш не выжывем…

Паверылі яму: былы аднаногі партызан Мікола Бязродны, былы франтавік з прастрэленымі грудзямі Міхей Міхасёў, гаротніцы-жанчыны Каця Журавец і маці двайнят Надзя Сапёрская.

Падышлі да яго, абляпілі з усіх бакоў, доўга стаялі моўчкі, як адно цэлае…

Потым у лесе хаваліся ад немцаў. Жылі там у куранях, дзяцей бераглі, перамогі чакалі, чакалі тых, каго некалі праводзілі на вайну.

А як нашы прыйшлі, вярнуліся гэтыя гуднянцы ў сваю вёску. А там — чорныя плямы сядзіб, счарнелыя пячныя коміны ад былых хат, ды абвуглены пляц былога калгаснага клуба…

Выкапалі зямлянкі там, дзе раней стаялі іхнія хаты ці хаты бацькоў, і вырашылі, што тут жыць павінны, што са сваёй зямлі нікуды не трэба ісці.

А каб жыць, трэба будавацца. І пачалі з Каці: ёй, як нікому гора — паліцай Стас Кучынскі забіў яе мужа, франтавіка Пятра Жураўца, які на колькі дзён завітаў дадому…

…І вось ужо амаль сем гадоў, як Каця не адна, а з сынам…

Тады, адразу, як нашы вызвалілі раён, у горад спачатку ездзілі, калі траплялася якая спадарожная, Надзя, Каця і Яўхім. Адных жанчын мужчыны не пускалі, ці мала што можа здарыцца. Гэта ж горад, базар — чужына. Там нямала розных людзей. Сярод іх ёсць злодзеі і нават рабаўнікі.

Ведалі, на базары маглі абакрасці. Маглі адабраць рэчы, што жанчыны бралі, каб абмяняць, на прадукты. Да ўсяго, здаралася, з лесу, праз які праходзіла шаша, абстрэльвалі машыны. Хто абстрэльваў? Казалі, ці то недабітыя паліцаі, ці то якая немчура, што трапіла ў акружэнне.

Потым, бліжэй к восені, усё сціхла: вылавілі тую брыдоту, а можа, і пабілі, калі хто не здаваўся.

Паспакайнела, а Яўхім яшчэ доўга ездзіў з жанчынамі. Яны ведалі чаму цяпер, калі няма чаго баяцца, ездзіць: а раптам сыноў, Нікадзіма і Івана сустрэне...

Прыедуць у горад, жанчыны ідуць на базар, а ён — на вакзал. Ідзе туды ўзрушаны, а вяртаецца счарнелы тварам, спакутаваны…

А неўзабаве Надзя забараніла Каці ездзіць у горад: «Дзіця беражы… Адна ж».

«Адна ж» можна было не казаць. І так зразумела, што наступае час, калі цяжарнай жанчыне трэба берагчыся, далёка ад сваіх людзей не адлучацца.

Яўхім чуў, што Надзя сказала Каці, бачыў, як тая сумелася, па-свойму суцешыў:

— Ты мне нарадзі ўнука ці ўнучку, нацешуся і памру.

— Я табе, дзядзька, памру! — абуралася Надзя, уступаючы ў размову. —

Ты яшчэ павінен Кацінага і Пятровага дзіця на каленях пагушкаць. Ды люльку яму зрабіць. А затым сваіх унукаў папесціць, дачакацца, пакуль яны пабягуць, падрастуць, ды таму-сяму людскаму навучыць. А потым ужо, як Бог дасць... — Надзя знарок была надта строгай і быццам абуралася: — А мае дзеці, дзядзька, табе ўжо і не ўнукі, га?

— Унукі, — лагоднеў стары. — Але твае ўжо ладныя. А ты дарэмна на мяне кідаешся коршакам — вы ж з Кацяй — мае дочкі. Не было ў мяне дачок, а жыццё так павярнулася, што і дочкі з'явіліся. Вось дачакацца б мне Нікадзіма і Ваню, ды ўсім нам разам сабрацца ў адной хаце, наглядзецца адно на аднаго, нагаварыцца, жаніць хлопцаў, і ад іх унукаў займець, тады — і памірай дзядуля.

— Вось гэта па-людску, — Надзя згаджалася са старым. — А то адразу — памру, паміраць… Глядзі, бацька, дачасна ў труну не лезь, і не думай пра гэта, нельга!

— Нельга… Трэба сыноў чакаць, вас глядзець ды ўнукаў песціць. Трэба вёску адбудоўваць. Эх, каб нам ды яшчэ адна цяслярская сякера, ды ў лоўкія, як у Іосіфа, рукі!..

— Дык паклічце яго, — асцярожна раіла Надзя.

— Не, не, не!.. — махаў рукамі стары. — Ты што? Прыйдуць мае сыны, твой Ігнат, пра ўсё даведаюцца, што скажуць?..

Надзя паціскала плячыма: толькі б Ігнат вярнуўся, а што скажа, дык хай скажа, клопату. Але і ад яго і пра яго пакуль — маўчок…

Сыны… Гэта Яўхімаў несусветны боль… Ужо колькі часу ён чакае весткі ад іх! Нашы прыйшлі, прагналі немца, пісьмы з фронту ідуць пра жывых, паведамленні пра тых, хто загінуў, а Яўхіму пра яго сыноў нічога не вядома. Самі не адгукаюцца і ніякой казённай паперы няма.

Ведалі гуднянцы, што Яўхіму чакаць вестачкі ад іх, або пра іх, мабыць, удвайне цяжэй, чым якому бацьку.

Ён жа, як сыноў праводзіў на вайну, засланіў ім дарогу да дому, ці то блаславіў, ці то прадасцярог, перахрысціўшы: «Хай не кране цябе, Нікадзім, і цябе, Іван, куля. Хай агонь і меч абыдуць вас...» Ды: «…бласлаўляю вас на ратную справу… і няма вам шляху назад без перамогі».

Перамога наступіла, а сыны не вярнуліся… І ў той год, як яна прыйшла на зямлю, і зараз, праз сем гадоў, пра іх нічога не чутна.

А вось з Іосіфам, чый сын з Нікадзімам і Іванам, іншымі аднавяскоўцамі ішоў на вайну, ажно праз сем гадоў, як знік з Гуды, здаецца, нешта пачынае праясняцца. Жанчыны намацалі нітачку ад таго клубка, які павінен прывесці гуднянцаў да Кучынскага, вядома, калі гэта яго бачыла Каця.

Шафёр даў ім у рукі тую нітачку. І сёння ж, неадкладна, трэба будзе пра гэта сказаць дзядзьку Яўхіму: хто-хто, а ён павінен разабрацца, што да чаго.

## 4

Да таго месца, дзе дарога з Гуды выходзіць на шашу, яны прыехалі яшчэ светлым часам.

Толькі машына спынілася насупраць дарогі, як да яе з-пад дуба, ля якога стаяў конь, запрэжаны ў калёсы, падышоў Яўхім. Сказаў:

— Ледзь дачакаўся. Чакаю-чакаю, бітая гадзіна — ні адной спадарожнай ні сюды ні туды.

Тым часам ляпнулі дзверы з левага боку кабіны. Шафёр спераду абышоў машыну, падышоў да ўзбочыны, стаў на падножку, адчыніў дзверцы Свеце і Петрыку, дапамог ім вылезці з кабіны, паглядаючы на старога, сказаў:

— Твае, бацька?

— Мае, — адказаў Яўхім.

— Тады прымай, як кажуць, у цэласнасці і сахраннасці.

— Дзякуй, — сказаў Яўхім і каўзануў руку ў кішэню штаноў. — Колькі вам даць?

— Нічога не трэба, — замахаў рукамі шафёр. — Я ніколі не бяру. Схавай, дзядзька, свой рубель, ён у цябе не лішні.

Яўхім пацiснуў плячыма: адзін бярэ, другі не бярэ, паспрабуй вас зразумець... Так, былыя франтавікі грошай не бяруць, а маладыя, як падвязуць, так і свідруюць вачамі тваю кішэню.

Пакуль гаварылі, жанчыны злезлі з кузава.

— Жанчынкі, наступны раз, калі вам трэба будзе ехаць у горад, цаляйце на панядзелак і пятніцу, як казаў. Гэта мае дні. Тут я бываю недзе гадзін у шэсць раніцы.

— Дзякуй, добры чалавек, — сказала Каця. — Мусіць, такіх, як вы, зараз мала на свеце. І ўзяў, і расказаў, і прывёз, і платы не хочаце. Мабыць, сам Бог вас нам паслаў.

— Бог ні Бог, а каб не добрыя людзі, дык і вайны мы не выйгралі б. І цяпер усім нам кепска было б. Добрыя людзі — скрозь.

Ён жвава для сваіх не такіх ужо і маладых гадоў абышоў машыну, сеў у кабіну, піпікнуў і паехаў.

Света і Петрык памахалі ўслед.

— Пазнаёміліся? — спытаў Яўхім, ідучы да калёс і ўладкоўваючы на іх Петрыка. — Бачна, някепскі чалавек.

— Няўжо ж, — сказала Надзя. — І добры, і кажа, што нейкага старога ад Кашарскай паваротки часта падвозіць у горад і назад. А той стары, каб ты дзядзька ведаў, падобны на Іосіфа Кучынскага.

— Што ты кажаш?! — ажно прысеў ад нечаканасці Яўхім. — Вы яго бачылі? Гаварылі з ім?.. Знаць, жывы…

— Бачылі. Я-то яго не бачыла, — сказала Надзя. — Каця бачыла, — і звяртаючыся да яе, як запатрабавала: — Кажы!

— А што казаць? — уздыхнула Каця. — Бачыць-то бачыла… Ну падобны на дзядзьку Іосіфа. Жабраваў. Я да яго: дзядзька, дзядзька!.. А ён: «Абазналіся…»

— Дык, можа, абазналася?

— Можа. Шафёр казаў, што старога Антонам завуць.

— Антонам? Ну тады абазналася. Думаю, гэта гаспадар Кашары. Здаецца, я вам казаў, што некалі ў яго рабіў. Добры чалавек. Але раскулачылі, саслалі з сям’ёю. Дзяцей у яго было багата. Двое былі крыху старэйшыя за маіх хлопцаў, а за імі — цэлы вывадак меншых і зусім маленькіх. Напэўна, з тузін, не менш.

— Таксама казаў шафёр, — працягвала яна, — а ён гаваркі чалавек, і прозвішча яго Гаваркоў, што ў Антона памерла хадзяйка. Казаў, што яна гады два таму аднекуль вярнулася. Можа, з Нямеччыны, а можа, яшчэ адкуль. Выходзіць, жыў без яе.

— Ага, была, кажу, у Антона хадзяйка. Але тут нешта не клеіцца: вярнулася… Ссылалі ж сем’і. Хаця, усялякае можа быць: саслалі, жылі ў ссылцы, сваё там адбылі. Можа, Антон без яе прыехаў паглядзець што тут і як, а потым і яна.

— А дзеці?

— Выраслі, колькі часу прайшло. Так што, напэўна, абазналася.

— І я кажу, быццам абазналася, быццам і не. Хутчэй абазналася, — сказала Каця.

Уладкаваліся на калёсы. Жанчыны і Света селі ззаду. Яўхім прымасціўся спераду, пасадзіў на калені Петрыка, сказаў яму:

— Нокаць, унучак, будзеш.

— А дубчык? — спытаў той.

— Дубчык не трэба. Паціху пойдзем. Вечарэе. У каляі шмат каранёў. Дарогу пераплялі, трэба глядзець, каб Буланчык ногі не параніў.

— Но, но! — крыкнуў Петрык.

Конь лёгка крануўся, калёсы затарабанілі па карэнні.

Маўчалі. Мабыць, Яўхім, Надзя і Каця зараз думалі пра адно і тое ж: няўжо Каця бачыла Іосіфа? Калі яго, то жывы!.. А гэта крута мяняе жыццё гуднянцаў, вельмі крута.

— Вось што, дзеўкі, — раптам сказаў Яўхім. — Не я буду, калі не даведаюся, Антон гэта, ці Іосіф. Сказалі пра яго — як факел усярэдзіну ўкінулі, полымя там гахнула.

— Дзядзька, — мовіла Надзя. — Так ужо і факел! Мы ж не хацелі, каб так было. Не трэба было казаць?

— Трэба, трэба. Добра, што сказалі, — глуха прагаварыў Яўхім. — Здагадка ў мяне адна ёкнула. Я ж некалі Іосіфу пра Кашару казаў. На многа раней, чым вам. Яшчэ ў калектывізацыю.

Ён змоўк, задумаўся, мабыць, нешта ўспамінаў.

— Вось яно што, — сказала Надзя. — Можа быць…

— Не, здаецца, я не казаў яму, як звалі гаспадара. А можа, і казаў. Словам, трэба мне неяк да Кашары дабрацца.

— Ага, дабярэшся. Якім чынам? Мы цябе аднаго не пусцім, — працягвала Надзя. — Хіба што з кім з мужчын.

— Пусцім, не пусцім, памаўчыце пакуль, — незалюбіў стары. — Трэба ўсё абдумаць, — і, звяртаючыся да Петрыка, дадаў: — Нокай, унучак, нокай!..

## 5

Абдумаць сапраўды было што…

Іосіф Кучынскі знік з вёскі ў пачатку мая 1945 года. Знік якраз тады, калі ўзарвалася дамба між Дубаснай і вёскай. А гэтае збудаванне з цэменту, пяску і шчэбню надзейна стрымлівала вясновыя паводкі, адводзіла ад Гуды вялікую ваду, якая прыходзіла сюды з далёкіх і блізкіх узвышшаў, рэк і рачулак, што ўпадалі ў Дубасну. І знікненне яго пакрыта таямніцай…

Дамбу незадоўга да вайны будавалі вайскоўцы. Тут яна злучала стромкі правы бераг ракі, разарваны доўгай, метраў дзвесце, упадзінай. Была дамба даволі высокая, яе горб за гэтыя гады, як яе насыпалі, паспеў няблага ўтравець. Злева і справа, дзе яна злучала бераг, раслі старыя дрэвы. За свой век яны так моцна ўкараніліся ў глебу і так шчыльна пераплялі яе каранямі, а зверху яшчэ і ўмацавалі безліччу парасткаў, што берагу тут не шкодзілі ні вострыя веснавыя крыгі, ні шалёныя паводкі, ні якія талыя воды, што па яго схіле сцякалі ў раку. І каб не гэтая, некалі прыродай створаная, упадзіна, то дамба была б не патрэбнай.

І вось дамба знікла…

А было так…

З раніцы Яўхім, Міхей і Мікола запрэглі парку коней у калёсы і з’ездзілі ў лес па жэрдкі. Мужчыны меліся праз тыдзень-другі ставіць кроквы на Кацін

зруб — жэрдкі трэба давесці да ладу. Са зрубам Яўхім, Мікола і Міхей спраўляліся няблага: пачалі на схіле зімы, а ён ужо вырас да падстрэшша.

Дарога была гразкая. У лес, паражняком, на калёсы не садзіліся — яшчэ нічога. А вось назад, з возам сырых жэрдак коні ішлі цяжка. Намучыліся і яны, і людзі. Але прывезлі два вазы жэрдак. Разгрузілі. Склалі ад вуліцы каля зруба. Думалі, што да халадоў Каця з дзіцём, якое павінна ў яе нарадзіцца, перабярэцца з зямлянкі ў сваю хату.

Меркавалі, што разам з ёй у новай хаце будзе жыць і Надзя з дзецьмі: так казала Каця: «Інакш парог не пераступлю!»

Думалі, што Надзі хату паставяць на наступны год: ёй трэба большае жытло — сама, двое дзяцей, Ігнат вернецца з вайны...

Склалі жэрдкі, палюбаваліся зрубам — нічога, што пакуль пяць на пяць метраў, трысцен прыбудуюць потым. Затое будзе хата без глухой сцяны. Святло з трох бакоў: з усходу, з поўдня, з захаду. У такой хаце жыць, ды жыць…

Бліжэй да вечара мужчыны параілі Яўхіму вывесці на траву коней — бачылі, што нават у лесе месцамі ўжо добра зелянее разнатраўе… А адсюль, зверху, са зруба, вока радавала зялёнае сакавітае пакрыва на дамбе.

Вядома, трэба весці коней на пашу. Сена скончылася, ашчаджаючы, ледзь да травы дацягнулі, зараз ніякага клопату з імі не павінна быць.

Коней тых не табун. Двое. Усё цяперашняе калгаснае багацце. Бераглі іх вяскоўцы як зрэнку вока…

Вось і павёў іх Яўхім на дамбу. Спутаў. Пусціў, паглядзеў, як яны пачалі прагна скубці мяккую траўку, ды накіраваўся ў вёску. Адышоўся недалёка, як раптам нешта моцна таўханула яго ў спіну, сарвала з галавы шапку, пакаціла па дарозе, абпаліла шыю. Перахапіла дых, нібы пераламала папалам…

А потым пачуўся выбух…

…Калі ён ачомаўся, падняўся, ледзь трымаючыся на нагах — ні дамбы ні коней… А праз нейкі час на яго кацілася высокая, у чалавечы рост, хваля…

Зараз, едучы на кані разам з жанчынамі і іх дзецьмі, Яўхім не столькі ўспамінаў пра тое, што было адразу пасля таго, як узарвалася дамба, а што ён і Мікола з Міхеем хваляваліся за Кацю, Надзю, Валіка і Светку.

Яўхім жа думаў, што яны ў зямлянках — бачыў над грудкамі слабы дымок. Але не ведаў, што ён прыплыў да іх з пагорка, крычаў, каб мужчыны, паднімалі Кацю, дзяцей, каб вялі да хлява (не ведаў, што яны там былі цэлы дзень…) Крычаў, дакараў сябе, што коней загубіў…

Але дабеглі да яго мужчыны, ці ён да іх. А калі сышліся, Мікола з Міхеем падхапілі Яўхіма пад рукі, пацягнулі да хлява на пагорку ў тым канцы вёскі: меркавалі, што вада туды не дойдзе — дужа высока — ніякая ранейшая паводка выспу не затапляла.

Мужчыны спяшаліся як маглі. Але вада апярэджвала іх. Яна таўхала пад калені, запоўніла боты і бегчы было цяжка. Ды і які бег, калі Мікола на драўлянай мыліцы…

Калі яны былі ўжо каля Кацінага зруба, заўважылі, што вада быццам выдыхаецца, аціхае, паволі распаўзаецца па былых сядзібах. А распаўзаючыся, цяжка і глуха бухае ў печы, што засталіся ад спаленых хат, накрывае зямлянкі, цягнецца ў той канец вёскі, дзе пачынаецца другі гуднянскі пагорак — доўгая высокая града бору, які клінам спускаўся да вёскі.

І тое, што першая хваля паводкі аціхла, крыху супакойвала мужчын, хаця ведалі, што зацішша часовае. Ведалі, што да ночы вада дакоціцца сюды. Так-

сама ведалі, што затопіць зямлю на многія кіламетры навокал — так заўсёды было раней — і толькі пагорак з хлявом на ім будзе адзіным прыдатным для людзей месцам, дзе яны могуць пераҗыць паводку.

На тым грудку-востраве, да якога яны беглі, іх чакалі жанчыны і дзеці, што суцяшала мужчын.

Да таго часу, пакуль пачуўся выбух, жанчыны і дзеці (праўда, Надзя не дазваляла Каці рабіць) ужо ўправіліся з казой, вычысцілі стойлы, згрэблі ашмоткі сена з пляцовак, на якіх раней стаялі два стажкі, і распалілі печачку, якая была недалёка ад хлява.

Печачку, як толькі сышоў снег, з абгарэлай цэглы склаў Яўхім. На ёй меліся грэць жывёле ваду, ды часам гатавалі вячэру. Сёння ж вечарам жанчыны меркавалі варыць юшку — рыба ў іх была, Яўхім на ноч паставіў на рацэ вяршы, а раніцой, пакуль ехаць у лес, прывалок торбу рыбы.

Стары ведаў рыбныя шляхі, і нават па вялікай вадзе вяршы ягоныя ніколі не пуставалі — зараз у бясхлебіцу гуднянцы харчаваліся ў асноўным рыбай.

Жанчыны і дзеці моўчкі махалі мужчынам рукамі, падзывалі сюды.

— Дзякуй табе, Божа, — прашаптаў Яўхім патрэсканымі сасмяглымі вуснамі. — Збярог усіх…

Калі Яўхім так сказаў, то не падумаў, што ў вёсцы ёсць яшчэ адзін чалавек — Іосіф Кучынскі…

…А Іосіф тым часам, калі ўзарвалася дамба, быў у сваёй хаце. Звычайна ён не выходзіў з яе без якой пільнай патрэбы.

Іосіф трымаўся ўбаку ад людзей: дабра яму ніхто не жадае, дык навошта каму мазоліць вочы? Ведаў, што гуднянцы ўздыхнулі б з палёгкай, калі б яго тут наогул не было.

Але адно ведаць, што ты тут лішні, іншае — асмеліцца сысці куды далей з людскіх вачэй.

Было ўжо аднойчы сышоў з вёскі. Думаў, што надоўга. Думаў, што за той час, пакуль яго тут не будзе, людская нянавісць да яго хоць крыху ачахне, прытупіцца.

Не ачахла, не прытупілася ні ў яго, ні ў іх, і лягчэй нікому не стала.

Ну, сыходзіў з вёскі, і што?..

Пажыў, папрацаваў у горадзе нейкі час. Нават займеў на станцыі на вугальным складзе катушок. Ніхто там яго не ведаў. Нікому да яго не было справы. Там, дзе шмат людзей — кожны сам па сабе.

З аднаго боку, гэта быццам і добра: нікому ты нічым не абавязаны, нічым ні з кім не звязаны.

З другога — жахліва, калі ты нікому не патрэбны. Гэта ён добра адчуў на сабе. Адчуў і іншае — не патрэбны, дык навошта жывеш?.. Толькі каб піць, ды есці? Дык жа і сабака жыве не толькі для гэтага: ён чалавеку служыць ды свой сабачы род працягвае. А ты — чалавек. Карысць з цябе якая?.. Для людзей ты, у лепшым выпадку, пустое месца. А так — вораг. І род твой на табе скончыцца. І ніхто ніколі цябе не ўспомніць, быў ты ці не быў на гэтай зямлі. Хіба што некалі тваім іменем будуць страшыць дзяцей. Так здараецца: няўзлюбяць за нешта чалавека, прылепяць да яго нейкую віну перад іншымі, а потым дзяцей ім палохаюць, калі не слухаюцца бацькоў.

Так, між іншым, было і ў яго дзяцінстве: зробіць што не так дзіця, палохаюць нейкім Піліпам. Маўляў, чакай, вось прыйдзе Піліп, забярэ…

І толькі дарослым даведаўся Іосіф, хто такі Піліп — конекрад. Даведаўся, што аднойчы людзі самі звялі яго са свету. А як не стала таго, радаваліся,

што коней болей ніхто не будзе красці. Ды рана суцяшаліся. Праз нейкі час зноў коні пачалі знікаць. Доўга сачылі, нарэшце спаймалі злодзея. Аказалася, што Піліп тут ні пры чым, злодзей на яго паказаў, на свайго сябрука — разам гарэлку жлукцілі. А Піліп быў на вёсцы звычайным п'янтосам, ашавуркам, лабідудам, гультаём, не больш і не менш…

Мабыць, і яго, Іосіфа, гуднянцы, была б іх воля, зжылі б са свету. А можа, калі з-пад цішка так і зробяць — вельмі ўжо не любяць яны яго, асабліва Яўхім.

З Яўхімам усё зразумела: сыны разам на фронт пайшлі. Ягоныя недзе там, а Іосіфаў дэзерціраваў, ды — у ворагі…

Хаця было б больш зразумела, калі б ад яго так, як адвярнуліся Яўхім, Мікола і Міхей, адвярнулася Каця. Дык жа не… Каця аднойчы нават заступілася за яго — дзеці крыўдзілі. Ну што ж, мабыць, жаночая прырода іншая, чым мужчынская. Хаця, і жанчыны розныя. І не ўсе такія, як Каця. Вось яна, Іосіфам, што б там ні было, сваё дзіця страшыць не будзе…

Не змог Іосіф жыць у горадзе — чужына. Не змог без зямлі, на якой нарадзіўся і вырас. Зрэшты, на якой аднойчы пакахаў, ды так, што і зараз душа смыліць, калі Тэклю ўспамінае…

Толькі каханне яго аказалася гарчэйшае, чым самы горкі палын. І няўцешнае. І наогул, ці ёсць яшчэ дзе на свеце Тэкля? Раскулачылі яе Аўдзея, у чужыя землі саслалі разам з ёю. Нямала каго тады невядома куды ссылалі, і невядома, як там яны жывуць: пакуль ніхто адтуль не вярнуўся…

Гэта ён з горада вярнуўся. Між іншым, да тых, каму вораг, як яны лічаць. Вярнуўся, не маючы зла на аднавяскоўцаў. Але з крыўдай, з болем: ніхто яго выслухаць не хоча, а ён жа без сваіх гуднянцаў не змог жыць, ды і не можа. Хоць назіркам, але цікуе, як яны, галодныя, халодныя, без староннай ды хоць бы і ягонай дапамогі возяць бёрны, ставяць зруб.

Хаця, што б ён ім паведаў, калі б прыйшлі і запатрабавалі: «Кажы, Іосіф, што ты хацеў нам сказаць у сваё апраўданне».

Ды нічога не сказаў бы. Чым тут апраўдаешся? Тым, што чужая была яму Марыя, а жыў з ёй? Ці тым, што свайго ці не свайго атожылка, Стаса, якога як сына прыняў, не змог чалавекам выхаваць? Або тым, што пасля таго як немцы знішчылі людзей і вёску, не змог націснуць на курок, калі мушка па Стасавым ілбе поўзала (ён жа быў вельмі падобны да маці)?

Ды тут не расказваць трэба! Тут, каб зразумець Іосіфа, трэба ўсім сваім нутром адчуць, што ў яго на душы... А як ты адчуеш, калі ў цябе самаго, у таго ж Яўхіма, у Каці, ды ўва ўсіх, свайго гора — да канца веку не знасіць?..

Вярнуўся Іосіф з горада. Шмат чужога гора там бачыў. Мусіць, гэта і прымусіла яго вярнуцца: там чужое гора, тут сваё. Чужое і ёсць чужое. Яму спачуваеш, але яно не так баліць, як сваё. Ад свайго не ўцячэш, нідзе не схаваешся і забыць яго не забудзеш.

Вярнуўся, думаючы, што рана або позна ў сваёй вёсцы, на сваёй зямлі паразумеецца са сваімі людзьмі, з якімі некалі жыў ладам: і поле адно аралі, і хлеб адзін елі, і вяселлі адны гулялі, і на хаўтурах адных смуткавалі…

Прыдбаў там мех зерня (дзе ты яго зараз знойдзеш? Хто табе яго дасць?..). Спадзяваўся, прыйдзе вясна, зямля ачысціцца ад снегу, лёгкай парай задыхае ралля, пазавуць да сябе яго людзі: «Пачнём разам сеяць, суседзе…»

Пакуль не паклікалі. І, мабыць, не паклічуць. Ні поле араць, ні зерне ў яго кідаць, ні хату каму ставіць…

Не патрэбны ён зараз нікому паасобку і ўсім разам…

Так часта думаў Іосіф, калі быў адзін у хаце і ўпотай, з-за фіранкі, цікаваў за тым, як мужчыны разам вазілі дзерава Каці на зруб, а потым яго ўзводзілі…

Так думаў Іосіф і ў той вечар, калі ўзарвалася дамба. Ён не адразу зразумеў, што здарылася, пачуўшы страшэнны выбух, які скалануў хату. А калі зразумеў, зноў, як шмат разоў за сваё адзінокае жыццё, многае перадумаў і пра сябе, і пра Марыю, і пра Стаса, і пра людзей… Перадумаў і зразумеў адно: ва ўсім, што з ім здарылася, вінаваты ён сам. А ключ віны ў тым, што аднойчы, у маладыя гады не Тэклі, а сам сабе не паверыў. Выходзіць, ён веры сваёй адцураўся. І ў сябе, і ў Тэклю, і ў людзей.

З самім сабой усё зразумела, з Тэкляй — таксама, а вось з людзьмі...

І тое, што ён бліжэй да апоўначы пакінуў сваю хату, падаўся да людзей, была ягоная спроба веру тую вярнуць…

Вось толькі людзі пра гэта не ведалі.

**6**

Мужчыны зусім абяссілелі, калі дабрылі да пагорка. Яны доўга не маглі аддыхацца, вымавіць слова, разгублена пазіралі на Надзю, яе дзяцей, на Кацю. Тыя ж недаўменна паглядалі на Яўхіма, Міколу і Міхея.

Былі яны мокрыя з ног да галавы. З ботаў праз дзіравыя халявы цурчэла вада.

Надзя раптам нібы абудзілася, пляснула рукамі, загаласіла:

— А мае вы ро-о-д-дненькія…

Ад нечаканасці дзеці ўвабралі галовы ў плечы, а Каця заціснула рукамі вушы.

Сабака, які ляжаў каля хлява, здаецца, таксама разумеў, што здарылася бяда, ціха скуголіў.

— А ро-о-дненькія... — працягвала Надзя.

Мікола, крыху аддыхаўшыся, абарваў яе:

— Надзя, ты што?! Жывыя ж… Што ты нас хаваеш раней часу?..

— Ды не, ды не, — сунялася Надзя. — Мы вельмі спалохаліся за вас, як рванула. Але хутчэй да печкі, грэйцеся. Ці ў хлеў, здымайце вопратку, ды ўхутайцеся ў якое рыззё. Мы пасушым.

— Чакай, — сказаў Міхей. — Дай аддыхацца.

Мужчыны падышлі да печы. Агледзеліся. Вада каля пагорка ледзь пакалыхвалася. Была яна мутнай, цёмнай, з бруднай пеннай акантоўкай.

Мікалай і Міхей пасадзілі Яўхіма на калоду спінай да печкі: грэйся. Міхей прысеў побач. Мікола торкаў у зямлю драўлянай мыліцай, не знаходзіў сабе месца. Было бачна, што яму вельмі цяжка. Абапрэцца на самаробны пратэз і моршчыцца, нібы шыла ўпіваецца ў цела. Нарэшце і ён сеў на калоду, адставіўшы драўляную нагу.

Доўга маўчалі. Маўчалі і жанчыны. Дзеці спалохана пазіралі то на дарослых, то на вёску, залітую вадой.

— Нічога, выбраліся, — сказаў Яўхім. — Тут і перажывём паводку. Вада пашалее, пашалее, ды адкоціцца.

Ён змоўк. Яму ніхто не адказаў. Напэўна, кожны пра гэта і думаў. І дарослыя, і дзеці.

Яўхім асцярожна павёў галавой, паглядзеў на Кацю. Яна стаяла каля варот у хлеў, побач з ёй — разгубленыя дзеці. Маўчала. Каця, адчувала сябе не вельмі добра, але старалася, каб ніхто гэтага не заўважыў. Яшчэ з раніцы зразумела, што не сёння-заўтра будзе нараджаць. І Надзя, калі Каця падрабязна расказала, як сябе адчувае, папярэдзіла:

— Глядзі ж, ад мяне — ні кроку. І нічога не рабі. Ты думаеш, чаго мы тут ўсё чысцім? Ты думаеш, чаго мужчыны на гарышчы сена ўскінулі? Ды для цябе. У зямлянцы сыра. З дзіцём там дужа не разгонішся. А тут, як у хаце, цёпла, утульна, печка побач. Ваду можна сагрэць. Ды і я з Валікам і Светкай пры табе будзем. Так што і нараджаць тут будзеш, і жыць тут будзем. Палаці ёсць, сухое месца ёсць, што яшчэ трэба? А схлыне паводка, тваю хату дабудуюць. Зажывём, Кацька!..

Як Каця не скрывала, але стары заўважыў, што яна пачувае сябе не вельмі добра. Таксама заўважыў, што яна не спалоханая. Не трэба, каб парадзіха палохалася. Гэта ён ведаў. Сам жа неяк яе папярэджваў, маўляў, ад старых людзей чуў, што цяжарнай жанчыне — не дай бог які спуд — ад пажару, ад сабакі, каровы, каня, ад чалавека кепскага. А калі спалохалася, дык нельга хапацца рукамі за цела — каб ніякога знаку на дзіцёнку не было…

Забабоны? Хто ведае, але не намі сказана, не нам і не верыць…

Так тады Яўхім і сказаў: «не намі…», калі Каця недаўменна на яго паглядзела. Паглядзела недаўменна, але запомніла назаўсёды…

Адчувала Каця, што вось-вось пачнуцца роды. Але як гэта не да часу!.. Тут такое робіцца…

Калі пачуўся выбух, Каця падумала, што зноў нехта чужы рыбу глушыць, такое было неаднойчы. Глушылі. Праўда, потым участковы Саўка выплываў на лодцы з Заброддзя, там пры сельсавеце яго кабінет. Але марна. Пакуль Саўка вяслуе, хай і напрамкі праз затоплены луг, тых ужо і следу няма.

— Дзеда, лодку знесла, — раптам сказаў Валік, падышоўшы да старога. — Як бабахнула, дык тут, — ён паказаў рукой на той бок пагорка ад ракі, дзе Яўхім прывязваў сваю лодку да слупка, укапанага ў зямлю, — вада ажно закіпела, вывернула слупок і пацягнула некуды.

Стары не адказаў. Гэта яго лодку знесла, якую ён прывязаў тут, каб заўсёды была пад рукамі. Мабыць, паводка змахнула і дзве лодкі, якія былі прывязаны за дамбай, Міколаву і Міхееву: там гуднянцы заўсёды пакідалі свае. Ды не мабыць, а канечне ж сарвала. І Мікола з Міхеем нічога не сказалі, не хацелі засяроджваць на гэтым увагу жанчын і дзяцей, каб яшчэ больш не напалохаць іх: зараз без лодкі будзе нявыкрутка, ды яшчэ якая.

Добрая была лодка ў Яўхіма, хоць і старая. Двухвёсельная. На ёй Яўхім некалі сена вазіў. Ладную капу накладзе, ды з лугоў сюды, праз раку. Хата яго стаяла ў гэтым канцы вёскі, недалёка ад ракі знаходзілася пуня.

— Нічога, човен выдзеўбу. Глядзі, якое бярно, — стары паказаў на ладную, якраз для чоўна, сасну, што ляжала ля хлява. Яе нядаўна мужчыны прывезлі з бору, каб замяніць зусім струхнелае ніжняе бярно пабудовы. — Канешне, лепш, каб была асіна, яна мякчэйшая, але ж і сасна някепска.

Што без лодкі будзе дрэнна, ведалі ўсе. А човен… Яго трэба яшчэ выдзеўбці. Чым? Адной сякерай?.. Больш тут інструменту няма, застаўся ля Кацінага зруба: Мікола і Міхей, як пачулі выбух, усё пакідалі, ды пабеглі да дамбы.

Не, без лодкі пры такой вадзе вельмі кепска. Увогуле страшна. Але самае жудаснае было тое, што паводкі ніхто не чакаў, таму не падрыхтаваўся да яе. Нават не думаў, што сюды прыйдзе вялікая вада. Яшчэ б, ёсць жа дамба. Да вайны пару гадоў стаяла. Вайну прастаяла. Здаецца, ні партызанам, ні немцам не муляла, падумаеш, стратэгічны аб’ект: чатыры зямлянкі і жменька людзей… Ажно, аказваецца, некаму перашкаджалі і гэтыя зямлянкі, і гэтыя людзі.

Хто яе замініраваў? Немцы? Дык нашы, як прыйшлі сюды, праверылі дамбу. Можа, міну, ці міны паклалі тыя, хто пастрэльваў па лясах?.. Магчыма.

Зрэшты, усё магчыма. Мабыць, праверылі кепска. (Мужчыны не ведалі, што Іосіф выпадкова бачыў, як перад адступленнем немцы корпаліся на дамбе, падумаў, умацоўваюцца.)

Што тут гадаць? Галоўнае, што ўсе ўратаваліся. Тым больш, дзеці. Валік і Светка, калі Яўхім забіраў коней, каб весці на дамбу на траву, маглі пайсці з ім, каб былі ля зруба, дзе яны часта гуляюць.

Маглі быць на дамбе, ці каля дамбы не толькі дзеці, а і жанчыны. Некалі тут зладзілі масткі, з якіх Надзя і Каця мылі бялізну.

Таксама маглі быць з Яўхімам і Мікола з Міхеем: ён жа першы раз гнаў коней на пашу, на начлег, а гэта для селяніна — свята!.. (Забавіліся б тут.) Не пайшлі. Кацін зруб іх выратаваў. Ад дзяцей і жанчын, як падумаў Яўхім, сам Бог адвёў бяду, хаця ва Усявышняга стары не дужа верыў. А калі і верыў, дык так, як і большасць мужчын: страшна — ёсць нешта на свеце, можна і перахрысціцца, рука не адсохне, а як усё добра, дык не да Бога.

Зараз было страшна. Зараз верылася, што нехта той, хто на небе, адвёў ад гібелі трох мужчын, дзвюх жанчын, дваіх дзяцей — гэтых шасцярых чалавек. Вядома, трэба сюды дадаць і яшчэ адно жыццё, якое вось-вось павінна з'явіцца на свет.

Значыць, можна лічыць, што Усявышні выратаваў ад пагібелі сем жыццяў. Хаця быў тады ў вёсцы і яшчэ адзін чалавек — Іосіф Кучынскі. Але гуднянцы ў разлік яго не бралі: у Іосіфа свая хата. У цяпле ды з харчам там ён зараз, як у Хрыста за пазухай.

Да ўсяго ў Іосіфа пад паветкай новая лодка, а гэта пры такой вадзе — выратаванне. Раней у паводкі людзі плавалі на лодках ад двара да двара, дапамагалі адно аднаму…

Паступова вечарэла. Вада наўкола хутка пацямнела, яшчэ больш ацяжэла, быццам згусла, месцамі пакрылася цёмнымі карычневымі плямамі, акаймаванымі бруднай жаўтлявай кучаравай пенай.

Зубчатая сцяна меднастволага бору ў тым канцы вёскі, асветленая нізкім сонцам, здавалася, пакалыхвалася ў зіхоткай чырвані, адбівалася ў цьмяным водным люстэрку.

Бліжэй сюды, сярод вёскі, амаль насупраць жоўтага Кацінага зруба — шэрая Іосіфава хата. Была яна на даволі высокім падмурку, таксама, як і зруб, глядзелася ў ваду. Насупраць хаты на агародзе сярод сінявы застыў чорны, збуцвелы, стары куст бэзу. Яго галіны здаля нагадвалі пераплецены між сабой дрот.

Паступова ўсе супакоіліся, у печцы гарэў агонь, патрэсквалі дровы, у вялікім чыгуне булькала юшка: Надзя, як і належыць жанчыне, гатавала вячэру на ўсіх.

Здаецца, спакойнай была і Каця, паказваючы ўсім, што нічога асаблівага не здарылася. Паводка? Ну і што? Раней ніхто тых паводак асабліва не баяўся: як яны прыходзяць, так і сыходзяць. А як сыходзяць, у глебе хапае вільгаці. Людзі сеюць, садзяць — пасля такой вады ўраджаі някепскія. Каб гэтага не было, дык навошта тады, ведаючы, што туташнюю зямлю залівае, сяліліся тут? Зрэшты, спрадвеку людзі сяліліся каля рэк, вялікай вады не баяліся, з яе і каля яе карміліся...

— Дзядзька, — сказаў Мікола, — днём трэба будзе паглядзець, можа, лодку пад які куст прыбіла, недалёка аднесла. Тады звяжам плыт, дастанем. А не — дык пакуль човен, на плыце будзем плаваць.

— Асабліва плаваць нам няма куды, — адказаў яму Яўхім. — Хіба што да бору, калі дровы скончацца. — Ён паглядзеў на сухія жэрдкі каля хлява, — на

тыдзень хопіць. У Заброддзе на плыце не паплывеш, далёка, яшчэ кульнешся. Ды не сёння-заўтра адтуль хто-небудзь да нас прыплыве. Выбух, вядома, чулі. Калі што — памогуць, дзяцей і жанчын забяруць.

— Нікуды мы ад вас не паплывём! — сказала Надзя. — Тым больш адных дзяцей я нікому не аддам. А ў Заброддзі зараз намі няма каму займацца. Там свайго гора хапае. І Заброддзе нямала выгарала.

— Памогуць, — сказаў Мікола. — Там жа — сельсавет, улада.

— Можа і так, — няпэўна пацiснуў плячамі Міхей. — Толькі мой сказ такі: наша бяда, самі і будзем з ёй змагацца… — Крыху памаўчаў і дадаў: — Зараз трэба, каб адно аднаго бачылі. За дзецьмі трэба вока ды вока. Гарэзы... А каб іх у Заброддзе аддаць, дык — не! Нават калі б лодка была, я нізашто ў такую каламуць нікога нікуды б не павёз. Ні Надзю з дзецьці, ні тым больш Кацю. Гэта ж звар’яцець трэба, каб на такое рашыцца: наперадзе ноч, цемра, а там дзе Заброддзе не бачна ні іскрынкі.

— Ды не, — сказала Каця, — ніхто нікуды не паедзе, Міхейка, гэта проста такая размова. Гэта…

Яна не дагаварыла, войкнула, сцялася.

— На гарышча! Хутчэй на гарышча! — загадала Надзя, і звяртаючыся да Яўхіма: — Дзядзька, глядзі тут сам. Вады нам сагрэйце. У хляве ў куце на паліцы посуд чысты, я пяском яго вышаравала.

— З Богам, — нібы сам сабе сказаў Яўхім і, адвярнуўшыся ад мужчын, украдне перахрысціўся.

## 7

Канечне, усе чакалі таго дня, калі Каця народзіць дзіця. Нават Валік і Светка ведалі, што неўзабаве ў цёткі Каці будзе хлопчык ці дзяўчынка. Маці неаднойчы пра гэта казала ім, падрыхтоўвала, і зараз яны з нецярпеннем чакалі таго моманту, калі нехта з дарослых скажа «хто» з’явіўся ў цёткі Каці. І калі Каця войкнула, а Надзя павяла яе ў хлеў, на гарышча, дзе было крыху сена ды коўдра, усё насцярожыліся, не ведаючы, што рабіць. І нават Яўхім, па сутнасці, самы галоўны сярод вяскоўцаў, быў разгублены: сполахі агню асвятлялі ягоны твар, было бачна, як нервова торгаецца вострая сівая бародка.

А тое, што Яўхім перахрысціўся, нібы саромеючыся, мужчын не здзівіла — у апошні час за старым такое заўважаецца…

Як толькі жанчыны зайшлі ў хлеў, Яўхім, быццам нешта ўспомніўшы, заспяшаўся за імі.

У тым канцы хлява ўжо было цемнавата, нават праз прачыненыя вароты туды не прабівалася слабае вечаровае святло. У куце, за конскімі стойламі мэкала каза. Ні жанчыны, ні Яўхім на гэта не звярталі ўвагі, хаця стары падумаў, што трэба было б нейкую жменю пацярухі ёй сыпнуць. Але потым, потым…

Злева ад дзвярэй на сцяне на цвіках віселі два ліхтары. Яўхім узяў адзін, запаліў яго, пачаў свяціць жанчынам, яны ўжо былі на лесвіцы на гарышча.

Святло коўзалася па прыступках, па якіх Каця асцярожна паднімалася на гарышча. Надзя знізу за спіну падтрымлівала яе.

Калі жанчыны залезлі, Яўхім падаў Надзі ліхтар, папрасіў:

— Надзечка, дачушка, ты ж глядзі ўжо, мы нічым табе не дапаможам.

— Ды не трэба, дзядзька, — сказала Надзя. — Якая дапамога? Ваду нагрэйце. Калі скажу, падасцё. Не хвалюйцеся, я ведаю, што трэба рабіць. Мяне мама навучыла, калі я яшчэ ў дзеўках гуляла.

— Усё будзе добра, — супакоіла старога і Каця.

Як і ўсялякая жанчына, якая нараджае першы раз, Каця вельмі трывожылася: як яно будзе… Болю яна не баялася: колькі жанчын на зямлі нараджалі да яе, хто з крыкам, хто са стогнам, а хто і не вымавіўшы ні гуку… Прызначэнне такое жанчын — нараджаць, каб вечным было жыццё. Яна вытрымае. Яна нават не закрычыць. Яна будзе рабіць усё, што ёй скажа Надзя, даверыцца старэйшай сяброўцы, як магла б даверыцца маці, сястры, калі б яны ў яе былі...

Каця павінна нарадзіць. Хай дзяўчынку, хай хлопчыка — яе і Пятрову крывінку, у якой будзе ўсё ягонае…

І Каця, як і ўсе, ведала, што Надзя ад сваёй маці, слыннай на ўсе навакольныя вёскі павітухі, навучылася, як дапамагчы парадзісе, як прыняць дзіця, як адрэзаць і завязаць пупавіну, якія адвечныя словы мовіць, каб жанчыне лягчэй было нараджаць.

Надзіна маці (з веку ў век заведзена між людзьмі, што нейкае ўменне перадаецца з пакалення ў пакаленне), сама атрымаўшы ад сваёй маці веды, як правільна прымаць новае жыццё, калі пастарэла, а дачка занявесцілася, пачала браць яе з сабой прымаць роды.

І хто злічыць, колькі немаўлят з усіх навакольных вёсак, а таксама ў Гудзе з надзеяй на дабро, з адвечнай жаночай пяшчотай прынялі спрацаваныя, вузлаватыя, спярэшчаныя маршчынамі рукі бабулькі Хадоскі, Надзінай маці. Загінула яна разам з большасцю вяскоўцаў тым жахлівым днём лета сорак трэцяга года, як немцы знішчылі Гуду...

Яўхім яшчэ крыху пастаяў у хляве, затым вярнуўся да дзвярэй, спыніўся ля сцяны, зняў другі ліхтар, але не запаліў яго, толькі баўтануў, ці ёсць яшчэ газа. Не, не выпалілі яе, амаль поўны.

Гэты другі ліхтар Міколу даў участковы Саўка. Неяк зімой Мікола як старшыня калгаса ездзіў у сельсавет на нараду, на якой меўся расказаць, як гуднянцы збіраюцца сустрэць вясну.

Сказаў, што зерня няма, што жывуць у зямлянках. Пахваліўся, што ставяць хату ўдаве-салдатцы. Парадаваўся, што маюць двух коней, якіх восенню далі ў раёне на разжытак, і жывуць яны як і ўсе людзі, ні горш ні лепш.

Саўка, былы франтавік, таксама, дэмабілізаваны па раненні, як і Мікола, пасля нарады завёў яго да сябе ў бакоўку, у «кабінет» (сельсавет размяшчаўся ў нейкай ацалелай хаце), пры святле ліхтара наліў шклянку першаку, пашкадаваў, што нічым не можа дапамагчы.

Мікола выпіў, «прыкусіў» рукавом, сказаў што можа дапамагчы і паказаў на ліхтар:

— Удава Пятра Жураўца, Кацярына, цяжарная, жыве ў зямлянцы. Святло ў яе такое: куродымная снарадная гільза…

— Шкада Пятра, шкада Кацярыну, — уздыхнуў Саўка. — Такая сямейная пара была! Ён — волат, яна — прыгажуня. Па ёй, як дзеўкай была, усе нашы хлопцы сохлі. Зараз у яе ні мужа, ні бацькоў. Трэба дапамагаць ёй, чым толькі можам.

— Ды ўжо ж, у бядзе не кідаем, — сказаў Мікола. — Вёску адбудоўваць з Кацінай хаты пачнём. Так мы вырашылі.

— Гэта добра, — пахваліў гуднянскіх мужчын Саўка. — Глядзіце там адно аднаго.

— Ды ўжо ж…

Саўка, праводзячы Міколу, моўчкі падаў яму ліхтар з газай…

Каця ад ліхтара адмовілася, сказала, што гільзу яна паліць рэдка, хай ліхтар будзе ў хляве...

Стары падышоў да паліцы, прыладжанай да сцяны, узяў посуд (вялікі чыгун) і, памятаючы Надзін наказ нагрэць вады, выйшаў з хлява.

Ужо добра сцямнела. У печцы, заціснуты ў горан, мітусіўся агонь, асвятляў ладны лапік пагорка, людзей, якія сабраліся на ім, кідаў на ваду доўгія мяккія сполахі.

Яўхім заўважыў, што вада прыбывае. Падумаў, мабыць, яшчэ доўга будзе прыбываць, але на самы верх пагорка не забярэцца, расцячэцца па ўсёй катлавіне, у якой ляжала Гуда.

Ён спусціўся да вады. Яна была цёмная, калі глядзець воддаль. А там, дзе кранала пагорак, з чырвонай ад водбліску агню пеністай грыўкай, святлела.

Стары скінуў цяжкія, так і нявысушаныя боты, не закасваючы мокрыя штаны зайшоў у ваду амаль да калень, апусціў у яе чыгунок, набраў. Холаду ён не адчуваў, хаця падэшвы ног паколвала.

Канешне, ён ведаў, што вада патрэбна чыстая. Таксама ведаў, што трэба яе закіпяціць. Пра гэта ён сказаў Светцы, калі прынёс да печкі чыгун.

— Дзеда, і працадзіць трэба, — сказала Света. — Во, мая хустка. А во, другі чыгунок.

— Але, — згадзіўся стары.

Светка зняла з галавы матчыну хустку, падала Іосіфу невялікі чыгунок.

— Некалі маці заменіш, — усміхнуўся ён, ставячы чыгун з вадой у печ, і нібы папрасіў: — Ідзіце з Валікам, прыляжце пакуль на палацях. Змарыліся за дзень, крыху адпачніце. Калі ваша дапамога будзе патрэбна, асабліва твая, я вас пабуджу.

— Добра, дзеду, — сказаў Валік, — пойдзем, толькі разбудзі.

— Абавязкова, — паабяцаў стары, падкладваючы ў печ дроў…

…А тым часам, калі дзеці ўлегліся на палаці і неўзабаве паснулі, Каця ляжала на коўдры, разасланай на сене. Ёй было кепска, усярэдзіне ўсё балела і яна баялася закрычаць, каб нікога не напалохаць, толькі ціха стагнала. Святло ліхтара, які Надзі падаў Яўхім і які яна павесіла на крокву, слаба асвятляла Кацін скрыўлены ад болю твар.

Надзя бачыла, як няпроста зараз Каці, схілілася над ёй, пачала шаптаць:

*Праз поле чыстае, праз мора быстрае ішла маць Прачыстая.*
*Там яна траўку рвала, вадзіцу брала, рабу божую Кацярыну*
*Усё цела падмывала і ў мора спускала.*
*Як па мору вадзіца разыходзіцца, так што б у рабы Божай*
*Кацярыны косці разыходзіліся.*
*Я не знаю, сам Гасподзь Бог знае і нам памагае.*
*Я са словам — Гасподзь Бог з помаччу і святым духам.*

Шаптала гэтую замову Надзя тройчы запар. Затым шаптала іншыя замовы і малітвы, якія чула ад маці. І Каця паступова нібы правальвалася ў нейкі дзіўны сон, калі адначасова нібы спіш і не спіш, калі цяжка вызначыць, што наяве, а што мірсціцца…

Наяве — ляжыць на гарышчы. Над галавой цьмяна гарыць ліхтар, святло якога асцярожна рассоўвае цемру па кутах. Цемра трымціць, пакалыхваецца, чапляецца за кроквы… І Надзя тут над Кацяй па-ранейшаму шэпча нейкія таемныя словы, і словы тыя заспакойваюць, закалыхваюць.

А мірсціцца, і Каця гэта разумее, як здараецца ў сне, разумееш, што гэта сон — Пятро стаіць перад ёй. Усміхаецца мяккай пяшчотнай усмешкай, працягвае да як рукі, здаецца, заве за сабой…

Яна ж усміхаецца ў адказ, але не згаджаецца і разам з тым не супрацiўляецца: здаецца, ужо адчувае, што не адна на гэтым свеце. А калі так, то ёй нельга ісці ў іншы свет, дзе зараз яе Пятро. Мабыць, і ён зразумеў гэта, бо так жа нечакана знікае, як і з’явіўся…

…І зноў Надзін голас: «Сахрані і памілуй…» І гэта зноў наяве. І наяве: праз дзіркі ў страсе — нейкія слабыя сполахі, быццам у цёмным небе пачынаюць зацвітаць зарніцы… І — мужчынскія галасы каля хлява, разарваныя ветрам, ды так, што незразумела, аб чым там гаворка, а можа, і сварка, ці спрэчка. Адно: «…у-у-дзі-іі…». І: «…няйце… няйце… няйце… дзверы… еры… еры…» І каляны рып дзвярэй.

— Надзя, што гэта? — пытаецца Каця ў Надзі.

— Нічога. Ляжы. Хутка ўжо, хутка. Баліць? Крычы, плач, лягчэй будзе. Чаго ж ты маўчыш?

— Не плачацца, не крычыцца, — слаба кажа Каця. — Паглядзі, сполахі нейкія, ці мне мірсціцца?

— Тады і не крычы, калі не крычыцца. Так бывае, калі жанчына трывушчая, — мовіць Надзя. — Сполахі кажаш?.. Можа, дзе што гарыць. Можа, хто дзе вогнішча расклаў. Ты на гэта не зважай, расслабляйся, ды слухай, што я табе буду казаць...

Не помніць Каця, што ёй далей казала Надзя, зноў нібы правалілася ў сон, але ўжо ў такі, калі сябе не кантралюеш. Апомнілася, калі пачула ля сябе дзіцячы крык, невядомы ёй дасюль, але такі родны, такі кроўны — самы дарагі на свеце.

Крык дзіцяці чулі і мужчыны. Перад гэтым яны таксама заўважылі сполахі, але не на небе, а там, дзе стаяла Іосіфава хата. Былі яны нейкія палахлівыя, слабыя, то ўспыхвалі, то зусім знікалі. Але зараз мужчынам было не да сполахаў — тут такое дзеецца…

— Слава табе госпадзі, — ні то сказаў, ні то прастагнаў Яўхім з лесвіцы, паднімаючыся на гарышча з чыгунком вады.

Ваду пракіпяцілі, астудзілі, працадзілі, каб чыстай падаць парадзісе і яе дзіцяці, якое крыкам сваім абвясціла, што ў свеце людскога быцця з’явілася новае жыццё…

## 8

Іосіф, безумоўна, ведаў, што ў сваёй хаце, маючы харч, мех зерня, ды лодку, ён можа без асаблівага клопату перачакаць паводку.

Але ж заставацца ў хаце ён на мог. Здаецца, прывяжы зараз яго тут на ланцуг — парве…

Яму і раней у сваёй хаце было вельмі жудасна і адзінока. А пасля таго, як пажыў і папрацаваў у горадзе, як пабачыў розных людзей, калі яны паасобку і разам, калі зразумеў, які вялікі свет жыцця, вярнуўшыся дадому, адчуў сябе раструшчаным гэтымі шэрымі сценамі, гэтай закопчанай лучынамі столлю, гэтай роўнай, нявышараванай людскімі нагамі падлогай.

Тут ён не тое што за кратамі (за краты вецер прарываецца, прыносячы свежае паветра), тут ён, як у дамавіне з наглуха забітым вечкам…

Зрэшты, своеасаблівай труною для яго была ягоная хата столькі, колькі жыў у ёй з Марыяй. Хіба толькі з той розніцай, што раней, здаецца, калі хацеў, мог адкінуць вечка гэтай труны і выйсці на волю.

Тады, на волі, ён бачыў людзей, сваіх аднавяскоўцаў, старых і сталых, маладых і дзяцей і яму сярод іх было адначасова і ўсцешна, і самотна.

Усцешна таму, што, колькі сябе ён памятаў, усё ягонае жыццё было з імі і сярод іх. А самотна — бо ведаў, што многія спачуваюць яму, шкадуюць яго: як ні стараецца чалавек, а не клеіцца ў яго з жонкай, якая адкрыта пагарджае ім, і, як казалі, нават за дранае лыка не лічыць…

А яшчэ самотна і горка было ад таго, што адчуваў сябе апошнім псялыжнікам: ведаў жа, што Марыя любілася з Мацвеем, дык навошта было яе браць, рабіць і сябе і яе пакутнікамі?..

Ды і сваё: Тэклю любіў больш за ўсё на свеце, а сам ад сябе адкінуў… І Тэкля ж яго любіла…

Мабыць, праўду кажуць людзі, што на чужым няшчасці сваё шчасце не пабудуеш.

Не пабудаваў…

Зусім апастылела яму ягоная хата. Не, не было Іосіфу ў ёй шчасця з Марыяй, цесна ім было тут абаім. Не было яму тут месца і побач з сынам-паліцаем. І зараз аднаму яму ў ёй няма месца: даўно ўжо свая хата стала гняздоў'ем пякельнага зла. І, можа быць, каб гэтае зло было звязана толькі асабіста з ім самім, яшчэ б вытрымаў. Але ж немцы пасля таго, як знішчылі Гуду, балявалі тут разам са Стасам — гэта Іосіф не забываў ні на хвіліну. Кожны дзень, кожнае імгненне ён амаль фізічна адчуваў, якое страшнае зло ўкаранілася тут. Дайшло да таго, што больш немагчыма было трываць...

Ён сноўдаўся па хаце, а прывіды Марыі і Стаса неадчэпна цягнуліся следам.

Іосіф, у той вечар, як узарвалася дамба, спрабаваў ачысціць сваё жытло ад цёмнага духу.

Як гэта зрабіць, ён ведаў: трэба паліць свечкі. Калі свечка трашчыць, як гарыць, значыць, у хаце д'ябальшчына.

Свечкі ў яго былі, яшчэ даваенныя, царкоўныя, асвечаныя. Іосіф па чарзе ставіў іх у шклянку на стале (адну, другу, трэцюю) і язычкі іх полымя пакалыхваліся, а свечкі трашчалі.

Марыі ён ніколі не зычыў зла. Памерла яна рана, як рана памiралі ўсе Варывончыкавы (яе бацькі) дочкі… А на Стаса, калі ён тут баляваў з немцамі, Іосіф нават настаўляў праз акно рулю вінтоўкі… На курок не націснуў, бо Стасаў вобраз раздвойваўся: Марыя — Стас…

Пакінуўшы ў шклянцы чарговую, чацвёртую запаленую свечку, Іосіф зняў з покута абраз, загарнуў яго ў ручнік, паклаў пад сарочку на грудзі. Затым паклаў у кішэню карабок запалак — неймаверны скарб, падышоў да печы, дастаў з пячуркі каменьчыкі крэменю, загорнутыя ў насовачку, таксама схаваў у кішэню: можа спатрэбіцца…

Потым сабраў рукзак харчоў (заробленая ў горадзе тушонка, сала, проса бульба, соль), занёс у лодку, якую яшчэ з вечара прыгнаў з-пад паветкі да ганка і прывязаў да шула. Затым вярнуўся ў кладоўку, прывалок адтуль мех зерня, якое зімой выменяў у Міхала Калістратава, мужчыны з Заброддзя, за залаты чырвонец царскай чаканкі, паклаў на лаўку ў лодцы. Крыху пастаяў у вадзе на ганку, уважліва прыслухаўся, прыгледзіўся да таго, што робіцца навокал, быццам хацеў запомніць усё назаўжды…

А навокал было ціха, чалавечых галасоў не чутно. Нават не брахаў сабака. Адно вада глуха плёскалася аб сцены хаты, хлява, паветкі. На ганку яна сціскала Іосіфавы ногі вышэй калень на добрую пядзю, а ён быў у высокіх, да пах гумавых ботах.

«Прыбывае, — падумаў Іосіф, гледзячы ў цемру. — Падымецца яшчэ на які локаць і, як было заўсёды, расцячэцца, аціхне».

У сцяну хаты глуха і моцна стукнула новая хваля, ажно пасыпалася аконнае шкло.

«Што ж я стаю?» — сказаў ён сам сабе, махнуў рукой і рашуча ступіў у лодку.

Яна моцна загайдалася з боку на бок, Іосіф утрымаўся на нагах, потым сеў на лаўку на карме, адштурхнуўся вяслом ад ганка, паплыў.

Шлях у яго быў адзін, туды, да пагорка, да людзей, да іхняга сховішча — старога скасабочанага хлява.

Ён плыў, а над зямлёй пакалыхвалася золкая майская ноч. Яе цёмны полаг, усеяны мірыядамі мігатлівых зорак, камячыўся, здавалася, быў падрапаны пасмамі туману. Туман быў у некалькі слаёў: падобна, што на самым версе шурпаты, ніжэй волкі, і зусім мяккі каля вады. Над туманам слаба свяціўся месяц.

Гэты лёгкі і рэдкі нізавы туман, бязладна раскінуты навокал, хутка плыў над вадой, над Іосіфам і яго лодкай, і, гнаны ветрам, кіраваўся да пагорка, дзе трапятаўся чырвоны агонь.

Іосіф ведаў, што гарыць у печы, павернутай горнам на вёску, значыць, там усё, як мае быць, усе на месцы.

У яго нават мільганула думка, што мужчыны знарок паляць агонь, каб ён, як наважыцца выбрацца да іх, не збіўся з шляху. Агонь — арыенцір, на які яму трэба было трымаць нос лодкі, каб прыстаць да сваіх аднавяскоўцаў.

Іосіф шырокім лёгкім вяслом падсякаў ваду пад кармой лодкі, стараўся трымаць яе нос на агонь, які тым часам зусім аслабеў і ўжо ледзь бачыўся, а хвалі таўхалі ягонае невялікае судна ў правы бок, збівалі з намечанага шляху.

Безумоўна, яму, які з маленства знаецца з вадой, якому вядомы ўсе яе норавы пры ўсіх тутэйшых вятрах у любую пару года, у любы час сутак кіраваць лодкай было не складана. Яму не трэба было прыкладваць асаблівых намаганняў: толькі злёгку праў вяслом, хваля сама прынясе цябе туды, куды трэба, адно — трымайся арыенціра.

Іосіф спрытна арудаваў вяслом. Лодку несла ў патрэбным кірунку. З кожным узмахам вясла яе нос лёгка распорваў густую начную чарнату, але ўсё роўна больш чым на крок наперадзе нічога не было відаць і, часам, калі месяц знікаў, нельга было разлічыць, дзе вада, а дзе неба.

Калі ж ён зноў з’яўляўся хоць ненадоўга, злева і справа ад лодкі бледнажаўтаватымі ценямі праплывалі коміны.

Іосіф беспамылкова вызначаў, дзе чый: вось Іванаў, а гэты — Кірылаў, а той — Хведараў… Кацярынін… Тадорын…

І кожны комін, застаючыся ззаду, як напамін пра свайго гаспадара або гаспадыню, якіх ужо няма на свеце — быццам нож, уваткнуты між лапатак, ды так, каб не на смерць, а на пакуты: глядзі, запамінай — і твой сын прыклаў рукі да нашай гібелі…

Хацелася крычаць, выць, клікаць на дапамогу людзей, і калі яны раптам адзавуцца, папрасіць, каб хоць як, хоць чым паспрабавалі астудзіць ягоны боль, каб хоць крышачку суцешылі ў ягоных пакутах — выцягнулі нож...

Але не крычалася, не вылася, ні слова, ні стогну не вырывалася з Іосіфавых грудзей — неставала паветра, і ён, нібы рыбіна, выкінутая з вады, толькі абяссілена хаўкаў ротам…

Так было да той пары, пакуль не праплыў паўз апошні комін…

Знік апошні комін, Яўхімаў. Здаецца, знік не сам па сабе — месяц схаваўся за хмару, а на душы не палягчэла. І адразу падумаў, а можа, скіраваць лодку назад, вярнуцца дамоў?..

Падумаў і скалануўся: а дома ж у яго не было, хата была, а вось дома — не…

Дом, тая хата, дзе цябе чакаюць. А яго ніколі ніхто там не чакаў. Ні Марыя, ні Стас…

І зараз ніхто яго там не чакае. Хіба што прывіды жонкі і сына, ды дух пякельнага зла, такога, што нават свечкі не ачысцілі.

«Не, не вярнуся, — думаў Іосіф, — нават хай згарыць без мяне мая хата, хай рассыпецца ад хваль, хай наогул растворыцца без сляда — а ўсё адно не павярну, не буду шукаць там паратунку ад тых душэўных пакут, якія даймаюць ужо столькі гадоў».

Тым часам ззаду на вадзе заскакалі кволыя бліскаўкі. Ён гэта прыкмеціў, калі чарговы раз падсёк вяслом пад кармой, каб скіраваць лодку да хлява. А там зараз агню ўжо не было відаць — цьмяныя абрысы пабудовы вымалёўвала бляклае святло месяца, які зноў з'явіўся ў прагале ад хмар.

Заскакалі, закалыхаліся іскры на хвалях і рассыпаліся з пырскамі з-пад вясла.

Іосіф не засяродзіўся на тым, адкуль яны сыплюцца, яму трэба было плысці далей. І ён плыў. Ён ведаў, куды плысці і без агню, і нават, калі б месяц зноў схаваўся за хмару — Іосіф інтуітыўна арыентаваўся ў прасторы.

Плыў і час ад часу знарок, каб яго пачулі здалёк і закрычалі: «Сюды!», біў вяслом па вадзе.

…А людзі на пагорку не чулі плёскату ягонага вясла. Зараз яны былі заклапочаны адным: каб там, на гарышчы хляўчука, усё было добра. Яны нецярпліва чакалі, што вось-вось там пачуецца дзіцячы плач, ці Кацін крык, або Надзін загад несці ваду, ці яшчэ што…

Але час ішоў, Каця не ўскрыквала, дзіця не заплакала і Надзя нікога да сябе не клікала.

Мужчыны, занятыя сваім, ужо былі ў хляве, у цяпле, і не заўважылі, як да пагорка падплыў Іосіф. Было гэта бліжэй да поўначы.

Зразумелі, хто да іх прыбіўся, калі пачулі разарваны ветрам голас:

— Людзі!.. Людзі!..

## 9

…Вяскоўцы не прынялі да сябе Іосіфа, зачынілі перад ім дзверы хлява, калі ён з'явіўся на пагорку. А ён-то думаў, што новая агульная бяда калі не прымірыць яго з імі, дык хоць крышачку наблізіць да паразумення.

Некалі Іосіф быў перакананы, што беды, якія датычаць усіх, зблізкаюць людзей. Але, можа, дзе і зблізкаюць, толькі не тут…

Думаў, што час, які мінуў пасля вайны, хоць і невялікі, а неяк падштурхне аднавяскоўцаў паглядзець на яго як на чалавека, які асабіста перад імі і наогул перад людзьмі ні ў чым не вінаваты.

Так, ён бацька здрадніка. Але ж ніхто з бацькоў не ведае, якім вырасце ягонае дзіця. Здараецца, і бацькі добрыя, а з дзіцяці, як яго не выхоўвай, вырастае злыдзень. Не дарма ж, мабыць, у такіх выпадках кажуць: «І ў каго ён урадзіўся…»

Сапраўды, у каго ўрадзіўся Стас? У бабу з дзедам, якіх усе лічылі крывапіўцамі, і не без падстаў — на людзей ваўкамі глядзелі, ніколі нікому не дапамаглі, не паспачувалі…

У маці, у Марыю?.. Марыя была такая, як яе бацькі. У яго, у Іосіфа?.. Дык жа Іосіф увесь час сумняваецца, ягоны Стас ці каго іншага: толькі пачалі жыць з Марыяй як муж з жонкай, а яна ўжо — з жыватом.

Пляткарылі жанчыны, што Марыя дужа любілася з Мацвеем з Нетамлі. Ён хацеў браць яе, але ягоныя бацькі не дазволілі, бо яны — старой веры, а яна — новай, значыць, для іх — паганка…

Усё гэта Іосіф і без жанчын ведаў. І ведаў Мацвея, лічыў яго добрым хлопцам. Але калі Іосіф вырашыў жыць з такой Марыяй, якую браў, ды калі прыняў дзіця, якое яна пры ім нарадзіла як сваё, выходзіць, і адказвай за яго.

Так што людзі правільна лічаць Іосіфа вінаватым за сынавы дзействы. Таму, як раней не прымалі яго да сябе, так і не прынялі зараз.

Атрымліваецца, ім усё раўно, што ён яшчэ ў вайну ад Стаса адрокся, хоць яны гэта ведаюць. Таксама ведаюць, што не пускаў яго ісці служыць ворагу. І яшчэ шмат чаго ведаюць пра Іосіфа і ягонага сына, але што з таго? Ім мала гэтага?

Напэўна, трэба было яшчэ сказаць, што хацеў застрэліць сына?.. Але ж не застрэліў… Хаця, каб і застрэліў, дык не даведаліся б, хто гэта зрабіў. А ён не змог націснуць на курок і не толькі таму, што як цэліўся, бачыў адно аблічча: Стас — Марыя, Марыя — Стас, а таму, што баяўся — схопяць.

Баяўся, што тады закатуюць, спаляць жыўцом, разарвуць на кавалкі. Ці іншага баяўся — што ніхто з вяскоўцаў не будзе ведаць пра гэты ягоны ўчынак?

Нават калі б тады Іосіф і націснуў на курок, дык усё адно кляймо бацькі ворага засталося б на ім, як і зараз, і так бы няшчадна выпальвала нутро, як выпальвае…

Ёсць тут яшчэ адно, што нечакана для сябе зразумеў Іосіф: тады, калі ён збіраўся застрэліць Стаса, ім кіравала помста за тыя зладзействы, якія здзейсніў ягоны сын. А цяперашнія разважанні, што было б, ці магло б быць шкадаванне сябе…

Няма яму месца сярод некалі сваіх людзей. Зараз ён пераканаўся ў гэтым каторы раз. І няма яму месца сярод чужых людзей (спрабаваў жа зімою жыць сярод іх, але нічога ў яго не атрымалася — і чужым людзям ён чужы…)

Значыць, прэч адсюль!.. Наогул, прэч ад людзей!.. А куды прэч? Ды куды вочы глядзяць…

Іосіф выйшаў з лодкі, якую хваля штурхнула да хлява, рашуча пакрочыў па пагорку далей ад пабудовы, у супрацьлеглы ад яе край сушы.

Ён ішоў і не бачыў, што Яўхім глядзеў яму ўслед і вагаўся, як быць… Іосіфу гэта ўжо было не патрэбна. Ён ведаў, што хочуць ад яго людзі — каб хутчэй знік з іхняга астраўка, на якім яны знайшлі сабе паратунак.

Але ж гэта і ягоны астравок. Ён спазнаў яго з маленства — лепш, чым хто з іх: прышлы ў Гудзе Яўхім, Мікола і Міхей, яшчэ маладыя мужчыны, каб ведаць сутнасць гэтага пагорка так, як Іосіф, а пра жанчын і Валіка са Светкай дык наогул няма гаворкі.

Гэты пагорак, а зараз астравок, што ляжыць недалёка ад нізкага тут (таксама вымоіна) берага ракі быў самым высокім месцам ва ўсёй аколіцы Гуды. Не вельмі доўгі, метраў сто пяцьдзясят, ён спускаўся да луга злева ад вёскі, за якім, як ужо гаварылася, пачынаўся клін бору.

Пагорак заўсёды жыў сам па сабе: і ў паводку, і ў засуху, і зімой, і летам…

Яшчэ б, усё навокал звязана з ракой. І вёска, якая знаходзіцца ва ўпадзіне, і бор, і заліўныя лугі на тым баку рэчкі, і сцежкі-дарожкі, што вядуць з далёкіх і блізкіх вёсак у Гуду, а з яе — да іх…

Усё тут звязана, пераплецена між сабой. А пагорак, як асобная частачка сушы на гэтай зямлі.

Колькі сябе памятаў Іосіф, на пагорку ў паводкі знаходзілі сабе выратаванне зайцы, касулі, дзікі, а то і ласі і ў старыну іх ніхто не чапаў. Калі здаралася нехта шалапутны казаў, маўляў, ці не ўзяць стрэльбу ды прыплысці туды, старыя такому разгарачанаму раілі:

— А ты паспрабуй! Тады мы тваю скуру на рамяні спаласуем: жывое шукае ратунку і адбіраць у яго жыццё — вялікі грэх.

Дзейнічала, як на гарачы твар крынічная вада, ахалоньваў:

— Ужо і пажартаваць нельга.

Ніхто не асмельваўся ў такую пару са стрэльбай ступіць і кроку на пагорак.

Так было заўсёды. А павялося такое, мабыць, яшчэ з тых часоў, калі тут, на расцяробах, на няўдобіцах, выкупіўшы іх у нейкага ўладара, пасяліліся людзі. Для валадароў цёмныя, знясіленыя працай — здабудзь тут хлеб — але мудрыя, як сама прырода: у бядзе жывое не руш!..

Чалавек ад паводкі ратаваўся на стрэхах пабудоў, калі яна была такая лютая, як зараз. А калі не дужа страшная, дык і ў хаце яе можна было перасядзець. Але і ў першым, і ў другім выпадках было адно: куды я са свайго двара, са сваёй хаты…

Хаця, вядома, у такі час ніхто з сялян не сядзеў склаўшы рукі. Жылі, плавалі на лодках адно да аднаго, дапамагалі і суседзям, і не суседзям. А калі вада адкочвалася, прымаліся за сваю адвечную хлебаробскую справу — сеялі…

Зараз свайго двара не было ні ў кога, як і сваёй хаты. І ў Іосіфа ўжо не было свайго двара, сваёй хаты — пакінуў ён іх. Навошта яны яму, калі і яго двор, і яго хата нікому не патрэбны?..

Ён і пакідаў іх з гэтай думкай, хаця свечкі паліў, каб для іншых ачысціць ад д’ябальшчыны жытло, і на стале ў шклянцы пакінуў свечку, не было часу чакаць, пакуль яна дагарыць, ці перастане трашчаць, дагараючы…

Тое, што ягоная хата не патрэбна аднавяскоўцам, пацвердзіў Яўхім, калі Іосіф прыплыў да пагорка і крычаў, што хата цёплая…

І цяпер, набліжаючыся да таго месца, дзе пагорак апускаўся ў цёмную каламуць, успомніў Іосіф, што сам уякаў з хаты, як з апастылелага гнязда чорнай сілы і зла, а людзям хацеў аддаць яе…

Сапраўды, навошта ім зло з асабістага ягонага жыцця?.. Зло тое настолькі ўелася ў нутро хаты, што нават святыя свечкі не выпалілі…

Тут, мабыць, нават калі хата згарыць, дык на пляцы застанецца зло.

Іосіф зараз быў як параненая птушка: з гнязда вывалілася, неўзабаве да чарады прыбілася, а чарада з сабой у вырай не бярэ…

Думаючы так, ён ступіў у ваду, цяжка захлюпаў па ёй ботамі, узбіў жаўтлявую сцежку, якую месяц перакінуў сюды ад бору.

Крок, яшчэ крок — і раптам спыніўся: пакуль вада па калена, але, як толькі запоўніць халявы ботаў, пацягне на дно, тады наўрад ці выкараскаешся.

Іосіф вярнуўся на пагорак, зняў з плячэй фуфайку, згарнуў яе ў трубку, перавязаў рукавы, сціснуў, як толькі мог — менш набрыняе, чым распластаная. Застаўся ў цёплай мультанавай сарочцы, памацаў на грудзях шпільку, зняў шапку. Затым сцягнуў боты, ногі былі сухія. Згарнуў з ног анучы, дастаў з кішэні запалкі і крэмень, паклаў у шапку, закруціў яе ў анучы, увапхнуў у боты. Потым старанна перавязаў халявы папругай, зацягнуў яе, пераклаў боты праз плечы: зараз можна і ў глыбіню, абутак цэлы, у ім трымаецца паветра, не пашкодзіць на вадзе…

Назад Іосіф не аглядваўся, хаця па кустах, якія раслі на грыве пагорка, справа ад яго соўгаліся водсветы святла: знаць, Яўхім з ліхтаром капошыцца

каля хлява, можа, нават усцягвае лодку на пясок. То хай, у лодцы ежа, зерне, ікона.

Не аглядваўся ён і па баках. Калі б паглядзеў туды, дзе стаяла ягоная хата, заўважыў бы, што там, унутры яе, кідаецца агонь.

Заўважыў бы, што языкі полымя хоць завіхураныя, але яшчэ не дужа моцныя.

Таксама ўбачыў бы, што каля хаты на чорнай вадзе рассыпаюцца бліскаўкі і што іх з кожным імгненнем усё больш і больш, а вецер, падхопліваючы іскры, шпурляе іх у кірунку хлява і паветкі.

Зладаваўшы адзенне і абутак, надзейна схаваўшы запалкі і крэмень, Іосіф зноў падышоў да вады. Спыніўся. Босыя ногі холаду пяску не адчувалі, адно ў падэшвы востра ўпіваліся каменьчыкі.

З хвіліну пастаяў, паўзіраўся наперад, вызначыў дакладна, куды спускаецца цёмны клін бору, паглядзеў на ягоную вяршыню. Яна была акаймавана слабой вузкай ломанай палоскай святла. Падумаў, добра, што зараз неба ачысцілася ад хмар і месяц засланяе толькі лёгкі туман, супакоіўся. І адразу адчуў, як па твары коцяцца ці то кроплі гарачай вады, ці то поту, склаў тры пальцы ў шчобці, перахрысціўся і ўсім целам плюхнуўся ў чорную каламуць.

Вада холадам апякла твар, сціснула цела, Іосіф перавярнуўся на спіну, раскінуў ушыркі рукі, лёгка раз, другі, трэці паварушыў імі, адпіхнуўся босымі нагамі ад вады, паплыў.

Ён, які з самага маленства навучыўся плаваць і жыццё якога прайшло на рацэ, добра ведаў, што на спіне плысці лягчэй: злёгку грабі рукамі, адштурхвайся нагамі і будзеш трымацца на вадзе, пакуль не азызнеш.

Вось толькі замярзаць не трэба, хоць гэта і не ад цябе залежыць: вада яшчэ не прагрэлася як след. У такой, якая яна зараз, нават ён пратрымаецца ад сілы з паўгадзіны. Да бору, калі не саб'ецца, даплыве хвілін за дзесяць—пятнаццаць. Галоўнае, каб сутарга не звяла руку ці нагу. Хаця, калі перахопіць руку, тады трэба будзе ўкусіць яе да крыві — адпусціць. Калі ж нагу — неадкладна адшпільвай шпільку, ды калі з усёй моцы.

Гэта ён ведаў з дзяцінства. Старыя вучылі, як ратавацца, калі раптам дзе далёка ад людзей перавернецца лодка, а ты не паспееш за яе ўхапіцца і цябе знясе плынь, а потым руку ці нагу звядзе сутарга.

Збіцца з шляху ён не саб'ецца і на спіне. Над грэбнем бору пакалыхваецца ўсё тая ж жоўтая намітка. Яна не сплывае, ноч ясная, туманок стаў зусім рэдкім, празрыстым.

Плысці было цяжка. Мабыць, састарыўся. Гэта раней, маладым, летам, як яшчэ не сыдзе паводка, а вада добра прагрэецца, Іосіф мог напрамкі даплысці да Заброддзя, да якога рыбака на астраўку, спытаць у таго, што ловіцца, ды без перадыху — назад. (Хаця, што можа лавіцца на вялікай вадзе?.. Перад Тэклюшкай выхваляўся, яна стаяла на мосце і наглядала за ім. А рыбак на вялікай вадзе — дык што рыбак, то дзівак.) І, мабыць, зараз каб не боты, напоўненыя паветрам і анучамі (яны яго падтрымлівалі), Іосіф даўно б ужо спрабаваў намацаць нагамі дно, а так плыў, трымаўся на вадзе, ведаючы, што тут — з галавой. І ўжо праплыўшы, можа, палову, заўважыў, што жоўтая намітка на вяршыні бору быццам разарвалася, ссунулася ўніз, запалала яркай чырванню, а халодны вецер раскінуў яе па ўсёй сасновай сцяне: пажар!..

Іосіф павярнуў галаву ўправа і раптам заўважыў, што сярод чорнага мора вады палае ягоная хата…

«Ну вось і ўсё, — чамусьці з палёгкай падумаў ён, — назад шляху няма. У лес, у лес, далей ад людзей!..»

## 10

У тую ноч, як знік Іосіф, ніхто з гуднянцаў не самкнуў вачэй.

Ноч была спачатку трывожная. Пасля наогул жахлівая, жудасная. І раніца палёгкі людзям не прынесла: здаецца, з імі ўсё добра, Каця нарадзіла хлопчыка, зараз спіць на гарышчы, вымаглася, а дзіця, казала Надзя, пассаўшы грудзі, пасопвае каля маці, ды толькі…

Калі пра трывогу, дык усе трывожыліся за Кацю: каб жа добра разрадзілася. А тут паводка нечаканая, затапіла зямлянкі, а ў іх меўся нейкі пажытак, харч. Хаця людзям ёсць дзе спаць, але кожны прывык да свайго жытла.

Жудасна стала пасля таго, як Іосіф прыплыў сюды, як пакінуў ім лодку з правіянтам, з зернем, ды з іконай, загорнутай у ручнік, і знік…

Знік жа ён ні сам па сабе, вось у чым справа.

Ён хацеў пакінуць ім сваю хату. І зусім ужо жахліва стала, калі хата занялася полымем: людзі стаялі на пагорку, бачылі, як яна гарыць і нічога не змаглі зрабіць.

Ну паплылі б туды на Іосіфавай лодцы, і што?..

Полымя занялося знутры. Праз нейкі час яно ўспыхнула так, нібы выбухнула, раскінула старую, сухую, як порах, гонтавую страху. На ваду пасыпаліся вогненныя аскабалкі, іскры роем віхурылі навокал: падплывеш, нічога ўжо не зробіш, агонь адкіне ад хаты цябе далёка.

Хата згарэла хутка. Думалі, няйнакш сам Іосіф яе падпаліў. Абліў сцены бензінам ці газай, ды запаліў дзе ў куточку аганёк, каб, пакуль разгарыцца, адплысці далей, інакш, чаго ўсё так хутка азарылася…

Людзі, пакуль гарэла, мітусіліся на пагорку, крычалі ў цемру, клікалі: «Іосіф! Іосіф!» — ні гуку ў адказ.

А можа, яго ўжо і ў жывых не было: дзе ён падзеўся без лодкі?..

— Што я нарабіў? — стагнаў Яўхім. — Няма Іосіфа, няма…

— Можа, сышоў куды, — сказаў Мікола, — і зараз глядзіць, як дагарае ягоная хата.

— Ды куды ты адсюль сыдзеш? Вада паўсюль — дна не дастанеш, — не згаджаўся з ім Яўхім. — Зацянула пад які куст і — капцы.

— А мы што? — уступіў у размову Міхей. — Мы ў чым вінаваты? Свайго гора хапае, а тут яшчэ ён. Хто яго прасіў?

— Прасіў, не прасіў, але чалавек да нас прыплыў, дабро прывёз, а я яго…

— Ну тады не толькі ты, дзядзька, вінаваты, — сказаў Міхей, — а мы з Міколам што? Казалі, каб дзверы зачыняў. Фактычна, цябе падбухторвалі.

— А вы тут пры чым?! — амаль закрычаў Яўхім. — Каб я больш ад цябе такога не чуў! Ну патрабавалі, каб я дзверы зачыніў, дык жа баяліся, што дзеці прастудзяцца, і парадзіху не хацелі трывожыць. Скуль вам у хляве было ведаць, што па гэты бок дзвярэй робіцца?..

З Яўхімам не спрачаліся. Не таму, што згаджаліся з ім, а таму, што не хацелі, каб і без таго няпростая сітуацыя, у якой ён адчувае сябе вінаватым, яшчэ больш не ўскладнілася: вінаваты ўсе…

Думалі, можа, дарэмна Яўхім не знаходзіць сабе месца, можа, Кучынскі жывы і здаровы і зараз сядзіць пад якім кустом, чуе, як яго клічуць, ды пацяшаецца: «Крычыце, крычыце, а я памаўчу».

— Дзядзька Іосіф! — закрычаў Мікола, склаўшы рукі рупарам. — Дзядзька Іосіф! Адзавіся!

Пакрычаў, пакрычаў і змоўк. Маўчалі і Яўхім з Міхеем.

На Міколаў голас з хлява выйшла Надзя. Спытала:

— Дзядзька Іосіф тут? Хай бы ішоў пагрэўся. Ноч халодная, мабыць, азыз.

— Няма яго тут, — адказаў Яўхім. — Можа...

Ён не дагаварыў, а Надзя не падумала, што азначае «можа»...

Яна нічога не адказала, паківала галавой, пайшла ў хлеў, дзе спалі яе дзеці.

— Дзядзька, — сказаў Міхей, — раскладзі цяпло, а мы з Міколам кусты абгледзім.

Яўхім моўчкі пайшоў да печкі. Паклаў у яе дровы. Пачаў распальваць.

Мікола і Міхей рушылі паўз граду кустоў, якая цягнулася па ўсёй вяршыні пагорка, спускалася ў ваду і з аднаго, і з другога ягонага краю.

Яўхім, распаліўшы печ, падкладваючы дроў, усё чакаў, што неўзабаве пачуе галасы Міколы, Міхея і, дасць Бог, Іосіфа. Тады ён, як падыдуць сюды, знарок строга накінецца на Іосіфа. Скажа, маўляў, ці ёсць у цябе розум, Іосіф? Пайшоў, напалохаў усіх: а калі б замёрз?

І разам з тым баяўся, што ўсё будзе інакш. Баяўся, што аднекуль з кустоў пачуе жахлівыя крыкі: раптам мужчыны знойдуць адубелага Іосіфа…

Але час ішоў, ні першага ні другога не здарылася, і недзе праз паўгадзіны Мікола і Міхей вярнуліся разгубленыя.

На Яўхімава пытанне: «Што там», Мікола, як адсек:

— Сляды яго вядуць па грыве проста ў ваду. Каля вады таптаўся, разуўся, зняў боты і, мабыць — боўць… На пяску больш ніякага знаку.

— Што ж будзем рабіць? — хутчэй сам у сябе, чым у Міколы і Міхея, спытаў Яўхім.

Яны не адказалі, толькі пацiснулі плячыма. І адзін, і другі.

А праз тыдзень, калі паводка паступова пачала адступаць і вада ўжо на калена адпаўзла ад пагорка, сюды заявіўся ўчастковы Саўка Касмановіч.

Саўка быў родам з Заброддзя. Амаль равеснік Кацінага Пятра, Надзінага Івана, Яўхімавых сыноў і Стаса, з якімі ішоў на вайну, ён вярнуўся дадому неўзабаве пасля таго, як вызвалілі раён.

Дэмабілізаваны, людзям невядома чаму (раненнем не казыраў), Саўка стаў тут участковым.

Да гэтага ў Гуду ён не наведваўся. Пра яго людзям расказаў Мікалай. Ён неяк хадзіў ў Заброддзе на нараду ў сельсавет па калгасных справах — дзе сельсавет, там і ўлада.

Прыплыў Саўка на лодцы, прывязаў яе да карча на тым баку грудка, прыйшоў да хлеўчука.

Тут яго і сустрэў Яўхім. Ён якраз стаяў каля Іосіфавай лодкі, якую мужчыны выцягнулі на пясок і перавярнулі ўверх дном, аглядаў яе — хоць і новая, а трэба было прасмаліць, месцамі працякала.

Саўка быў у міліцэйскай форме, значыць, не проста так, падумаў Яўхім.

Участковы падышоў да старога, паглядзеў на лодку, паківаў галавой Яўхіму, затым рэзка казырнуў, абняў за плечы, сказаў:

— Мацуйся, дзядзька, тваіх сыноў шукаюць…

Вядома, Яўхім перш за ўсё хацеў пачуць ад участковага нешта пэўнае пра сваіх сыноў, але той нічога новага не сказаў: «…шукаюць…»

Што шукаюць, дык Яўхім і без яго ведаў. Ён жа пасля вызвалення, пачакаўшы з месяц вестачкі ад Нікадзіма і Івана і не дачакаўшыся яе, схадзіў у раён, у ваенкамат, каб дазнацца што з імі.

У ваенкамаце сказалі, што зробяць куды трэба запыт, потым паведамяць. Але і да гэтага часу не паведамілі, ці жывыя або загінулі, ці прапалі без вестак…

— Адно магу сказаць, дзядзька, што да фронту яны не даехалі, — удакладніў Саўка. — Іх цягнік разбамбілі, і з таго часу след тваіх сыноў губляецца.

— Як жа так? — спытаў зніякавелы Яўхім. — Міхей казаў, што іх яшчэ ў ваенкамаце ў танкісты направілі. Калі, як ты кажаш, поезд разбамбілі і след іх губляецца, дык жа павінна быць паперка, што прапалі без вестак.

— Выходзіць, што не прапалі, — сказаў Саўка. — На вайне ўсякае можа быць. Напрыклад, палон. Можа быць за якую правіннасць — і зняволенне ў сваім лагеры... Здрада можа быць… Увогуле, калі раптам будзе засведчана, што твае сыны зніклі бясследна, тады прышлюць паперку, што прапалі без вестак.

Такія паперкі на Яўхімавых сыноў у Саўкі былі. Зараз яны ляжалі ў кішэні яго гімнасцёркі. Ён перахапіў іх ў забродзінскай паштаркі, якая час ад часу прыносіла пошту і ў Гуду: некаму пахавальныя, каму весткі ад сыноў, бацькоў, мужоў, а каму і гэтае: «…без весткі прапаў…»

Прыносіла і аддавала Міколу, бо тых, каму яны адрасаваліся, не было ў жывых…

Вялікі стос розных такіх паведамленняў сабралася ў яго, на некаторыя трэба было адказваць, і ён адказваў, пісаў тым, хто быў на фронце горкую праўду пра іх родных і блізкіх…

Такую паперку, якую перахапіў у паштаркі Саўка, яна сама нядаўна атрымала на свайго мужа. Саўка папрасіў жанчыну пакуль маўчаць. Сказаў: калі што, усё возьме на сябе. Растлумачыў, чаму пайшоў на такое «злачынства»: дзеля таго, каб стары не страціў веры, што ягоныя сыны жывыя. (Ведаў Саўка, ёсць выпадкі, калі родныя воіна атрымлівалі афіцыйнае паведамленне, маўляў, такі вось і такі прапаў без вестак, а праз нейкі час высвятляецца, што ён жывы, ваюе або ў палоне, ці, як злачынца, у якім сваім лагеры).

Казаў жанчыне, каб і яна не верыла такой паперцы на свайго мужа, тая выслухала, адказала:

— Не веру, але лепш было б, каб і маю хто перахапіў…

Саўка добра ведаў Яўхіма як чалавека паважанага ва ўсёй акрузе. І сыноў яго добра ведаў. Таму не дапускаў думкі, што тыя, калі засталіся жывымі, маглі здацца ў палон, ці яшчэ горш, аказаліся здраднікамі.

Верыў, рана або позна прыйдзе іншая звестка пра іх: жывыя, ваююць, самі адзавуцца, ці, калі ў якой сакрэтнай справе — ваенкамат паведаміць.

— Як жа так, — перапытаў зусім зніякавелы Яўхім. — Не, у палон яны не маглі здацца. Хіба толькі былі ў непрытомнасці. І каб правініліся ды за гэта — у лагер, або каб у здраднікі — не. Я ж сваіх хлопцаў ведаю.

— Правільна казаў Міхей, у танкісты адабралі тваіх Нікадзіма і Івана, дзядзька, — працягваў Саўка, зразумеўшы, што ляпнуў не тое, што трэба. — Гэта я так, дзядзька, намаляваў табе агульную абстаноўку, якая можа здарыцца на вайне. Толькі, канешне, не з кожным такое здараецца, пра што я кажу. Тут усё ад самога чалавека залежыць: здацца ў палон, не выканаць загад, здрадзіць…

Так, у раёне іх накіравалі ў танкісты. А да танкістаў ім яшчэ трэба было ехаць, ды ехаць. Не даехалі. Толькі не знайшлі іх ні сярод тых, хто загінуў, ні сярод тых, каго потым сабралі ў калону.

Шмат незразумелага з тваімі сынамі, дзядзька. І не толькі з ім. Тады неўзабаве, як разбамбілі эшалон, там высадзіўся нямецкі дэсант. Хтосьці трапіў у палон, нехта загінуў, а хто і збег. Вось і думай, што хочаш...

— Ды не можа такога быць, каб мае сыны ды ў палон! — ажно закрычаў Яўхім.

— Ціха, дзядзька, — паспрабаваў супакоіць яго Саўка. — Агаварыўся я. Так бы мовіць, разважаю, што ў такім выпадку магло здарыцца. Я ж не сказаў пэўна, што яны трапілі ў палон. Час пакажа, што і як. Толькі папрашу цябе вось аб чым. Раптам прыйдуць, ды не як дэмабілізаваныя, скажы ім, каб адразу ж да мяне беглі. Разбяромся, што і як. А то, не дай бог... Зараз з гэтым надта строга.

Каця, чуючы гэта, трымаючы на руках соннага сыночка, толькі што дала яму грудзі, акамянела: дэзерціры?.. Не, не можа такога быць! Яўхімавы хлопцы не такія, каб стаць злачынцамі.

Чулі гэтую размову і Міхей з Мікалаем. Чула і Надзя. Яна таксама, як і мужчыны, была ў хляве, у тым яго канцы, дзе тыя яшчэ да паводкі зладзілі катушкі з палацямі.

Маўчалі, пакуль не хацелі выходзіць. Выйдзеш, пакажаш, што стаў сведкам размовы паміж Саўкам і Яўхімам, а яна для старога дужа балючая.

Саўка ж, бачачы, што Яўхім зусім зніякавеў, разгубіўся, зноў паспрабаваў суцешыць старога:

— Ды ты, дзядзька, не вер, што яны ў палон маглі трапіць, ці, не дай бог, дэзерціраваць. Каторы раз кажу табе, я ж не веру. Правільныя яны хлопцы. Ці мала што магло здарыцца. А казаў я табе па-казённаму, бо мне так загадана казаць. І не толькі табе. Вунь з майго Заброддзя разам з імі знік Васіль Кечык. Памятаеш такога?

— А як жа, памятаю, — глуха прамовіў Яўхім. — Добры хлопец. Бацька яго лесніком быў. Партызаніў. У вайну не раз да мяне прыходзіў. Праз яго я з атрадам сувязь трымаў. З вайны не бачыліся.

— Зараз ён дужа слабы. Амаль не ўстае з ложка. Я і яму пра яго сына павінен быў так казаць, як табе пра тваіх. Думаеш, мне гэта лёгка, не ведаючы што і як?

Замоўклі. Доўга стаялі адзін насупраць аднаго, стараючыся не глядзець у вочы, быццам былі адзін перад адным у нечым вінаватыя. Нарэшце Саўка сказаў:

— Збяры-ка, дзядзька, усіх, хто ёсць у налічыі.

— Гэта як, у налічыі? — не зразумеў Яўхім.

— Тых, хто ёсць у вёсцы.

— А…

Яўхім ужо наважыўся ісці ў хлеў, тым часам паволі працяжна зарыпелі дзверы, на пагорак выйшлі Мікалай, Міхей, Надзя, Каця з дзіцём на руках, Светка і Валік.

Саўка, убачыўшы Кацю з дзіцём, Валіка і Светку замахаў рукамі:

— Каця, ідзі назад! Малое глядзі. І дзеці хай ідуць.

Каця вярнулася ў хлеў. З ёй — Валік і Светка.

Участковы дапытліва паглядзеў на Міколу, Міхея і Надзю. Мабыць, хацеў вызначыць, ці чулі яны ягоную размову з Яўхімам. Але ніхто нават і віду не паказаў, што чуў.

Саўка нібы нехаця падышоў да людзей, стрымана, хоць і за руку, павітаўся з Міхеем і Мікалаем. Надзі кіўнуў галавой: «Здрасця». Затым, ні да каго не звяртаючыся, спытаў:

— Усе?

— Усе, — адказаў Мікалай як старшыня калгаса, нібыта існуючага, а хутчэй неіснуючага. Які калгас, калі ні коней, ні трактароў, ні людзей у дастат-

ковай колькасці, увогуле нічога няма? Хіба што каза, хлеў, ды засееных клінок зерня за вёскай, у лесе — на сухім…

— А Кучынскі дзе?

— Кучынскі? А хто яго ведае, — няўцямна пацісну́ў плячамі Яўхім. — Знік у паводку і больш мы яго не бачылі. Спачатку гукалі, не азваўся — тут тады такое тварылася — не разбярэш. Усё навокал кіпела, трашчала, самі ледзь ацалелі, не да Іосіфа было. Можа…

— Пра паводку ведаю. Ведаю, што ўзарвалася дамба. Ведаю, што быў пажар, хоць я тыдзень адсутнічаў, выклікалі ў раён па справах.

— Можа… — паўтарыў Яўхім, не ведаючы, што казаць далей.

— Ты, дзядзька, кінь гэтае «можа», — раптам амаль закрычаў Саўка і непазнавальна змяніўся з твару: пачырванеў, зморшчыўся, вочы яго сталі халоднымі. — Што гэта значыць — можа? Ведаем мы ваша «можа». Што хата Іосіфа Кучынскага сама згарэла? Што, ён сам знік?.. Можа!.. Вунь у адной вёсцы, праўда, не на маім участку, таксама знік бацька здрадніка. Органы шукаюць, а людзі: «Можа…»

Што «можа?» — пытаю. — Сам сваю хату падпаліў, а потым пад які корч зашыўся?

— Калі хто яго пад карчом знайшоў, як ты кажаш, то, напэўна, сам, — сказаў Яўхім. — Мы яго ні ў вайну, ні пасля нават пальцам не кранулі. Ён сам па сабе жыў, мы самі па сабе.

Саўка маўчаў. Ягоныя чырвоныя шчокі нервова торгаліся. Раптам ён пачаў таропка хадзіць перад гуднянцамі ўзад-уперад, блішчастыя, наваскаваныя боты каляна рыпелі. Добра натаптаўшы сцежку, спыніўся:

— Можа, і сам. Хаця… — Саўка крыху памаўчаў, потым дадаў: — А вы ведаеце, што Іосіф Кучынскі перад уладай не вінаваты? Так што калі раптам заявіцца, ніякага самасуду, а то — самі пойдзеце пад суд. І я не выратую. А калі не вернецца, то не вернецца. Можа, сам? Калі ж раптам хто іншы з органаў ім будзе цікавіцца, пры мне, ці без мяне, дык кажыце праўду, як зараз мне: «Узарвалася дамба, хлынула вада, можа, змыла чалавека. А пажар — дык магла тапіцца печ, хваля накацілася на хату, яна скалынулася…» Словам, вам усё зразумела?

— Ды ўжо ж, — панура адказаў за ўсіх Мікалай. — Так і было. Мы яго не бачылі.

— А лодка чыя? — раптам спытаў Саўка. — Здаецца, не Міколава, і не твая, дзядзька, га?

— Маніць не буду, яго, Кучынскага, — сказаў Яўхім. — Прыбілася…

— Прыбілася, кажаш. Лепш было б, каб сплыла. Хай яе ад вас знясе.

Сказаўшы гэта, Саўка роспачна махнуў рукой, павярнуўся, цяжка ступаючы па пагорку, нетаропка пайшоў да сваёй лодкі. Гуднянцы моўчкі глядзелі яму ўслед: паспрабуй вызначыць, наведаў ён іх як участковы ці як звычайны, знаёмы ім яшчэ з даваеннага часу, чалавек. Гаварыў жа і як роўня, і як служыцель закону…

Усе без выключэння (Каця таксама чула з хлява гэтае: «Не вінаваты перад уладамі») запомнілі добра. Сказана, як пячатка пастаўлена — паспрабуй вытравіць. Ды і спрабаваць не трэба. Зараз Іосіф настолькі ўвайшоў у свядомасць кожнага гуднянца, што чым больш будзеш спрабаваць забыць яго ды вытравіць з памяці, тым больш будзе трывожыць ягоны вобраз, вобраз чалавека, калі зыходзіць з афіцыйнага, ні ў чым і не перад кім не вінаватага. (Перад кім можа быць вінаваты чалавек, калі ўлада яго віну не прызнае?)

Саўка аддаляўся, боты яго ўжо не рыпелі, мабыць, набрынялі вільгаццю, а ў глыбокія сляды цадзілася рудая твань…

Неўзабаве ён падышоў да лодкі, дастаў з яе важкую драўляную скрынку, паставіў на пясок, павярнуўся да гуднянцаў, мовіў:

— Хлопцы! Міхей, Мікалай, дзядзька Яўхім, забярыце. Гэта дзецям дзядзька Кечык мядку перадаў. У яго ў лесе калоды ацалелі, я злазіў, узяў яшчэ мінулагодні. А саланіну людзі сабралі, як даведаліся, што я да вас плыву. Ну і кансервы — мой паёк. Трымайцеся.

Саўка адвязаў сваю двухвёсельку, адштурхнуўся вяслом ад грудка, плынь падхапіла яе, хутка аднесла на глыбокае. Там ён рэзка павярнуў лодку па цячэнні, спінай да людзей, якія моўчкі назіралі яму ўслед, і што было сілы пачаў грэбці.

Але для чалавека, які вырас ля вады, веславаў ён на дзіва няўмела. Вёслы шумна шлёпамі па вадзе, узнімалі пырскі, і Саўка ні разу, пакуль не схаваўся за павароткай ракі, так і не аглянуўся на гуднянцаў.

— Вось і маеш, — сказаў Яўхім, калі Саўкі ўжо не было бачна, а ўсплёскі вёслаў заціхлі. — Іосіф чысты, а я…

Сказаў і асекся, усе і так разумелі, што ён не дагаварыў…

## 11

Яўхім, Мікола, Міхей, ды і жанчыны разумелі, што Саўка ім не вельмі верыць. Разумелі, лічыць, што яны ўчынілі самасуд над Іосіфам Кучынскім, а затым падпалілі ягоную хату. І лодку забралі, толькі яе навошта было браць? Доказ… Параіў, каб сплыла.

— Калі што якое, дык вы не лезце, — раптам сказаў Яўхім. — Я апошні гаварыў з Іосіфам, і я адзін буду за яго адказваць.

— За што адказваць? — абурыўся Мікола. — Ну прыплыў. Крычаў: «Людзі!..» Дык што? Цалавацца з ім? Ты ж не гнаў яго прэч, а калі што і сказаў яму поперак, дык ён жа не вар’ят, каб з-за гэтага — ды ў ваду… А хаця б і праганяў, дык бяры Іосіф сваю лодку і плыві, куды хочаш. Так што няма чаго пакутаваць: «Я... Я...»

— Яно, можа, і так. Але ж…

Стары змоўк. Думаць можна па-рознаму. Але ніхто не мог яго пераканаць у тым, што ён не вінаваты ў Іосіфавай гібелі. Вінаваты. Менавіта пасля ягонай размовы з Іосіфам той пакінуў лодку ля грудка і пайшоў прэч… Размова ж атрымалася ўедлівай, з падкавыркамі, варожай…

Было, калі падплываў Іосіф, Яўхім падсвечваў яму ліхтаром. Было, пытаў: «Адкуль?»

Хіба не ведаў, адкуль ён прыплыў? Ведаў. І навошта тады было далей згаляцца: «З дому, кажаш? Ну, ну… Дык што?»

Вось гэтае «Дык што?..», напэўна, і адштурхнула яго ад людзей. Хаця Іосіф не адразу пайшоў, а нейкі час яшчэ вагаўся, ісці ці не. Хрыпеў: «Людзі...», казаў, што ежу прывёз, збожжа, што хата ў яго яшчэ цёплая, пра дзяцей клапаціўся, пра Кацю... А мы: «Ды зачыніце вы дзверы!»

З-за дзяцей было сказана, з-за Каці. А выйшла...

А хацеў жа Яўхім, калі ўбачыў, што Іосіф плыве, зусім іншае крычаць яму: «Ідзі, д’ябал, каб на векі вякоў людзі не бачылі і не чулі цябе...» І іншыя страшныя словы хацеў кідаць яму ў твар. Толькі не кінуў, авалодаў сабой, хоць якога, але чалавека ў Іосіфе ўбачыў, якому таксама баліць, як і табе. Ды толькі гэтага аказалася мала: адно ўбачыць, іншае сказаць аб гэтым.

Пайшоў Іосіф. Каму кепска зрабіў? І сабе, і тым, да каго плыў...

Не, заўтра ж Яўхім сам паплыве на Іосіфавай лодцы да Саўкі. Раскажа ўчастковаму, як было. Чаму цяпер не сказаў? Разгубіўся... Ды і ўсе разгубіліся, бо ніхто не чакаў такой размовы з участковым. А ён, добрая душа, спачатку гаварыў так, нібы кожнае слова — цвік! І гэтымі цвікамі кожнага быццам прыбіваў да крыжа: злачынцы!

А Яўхіма дык нават двойчы распяў. Першы раз, калі папярэдзіў, каб сыны, як з'явяцца ў Гудзе, самі прыйшлі да яго. Значыць, Саўка думае, што яны злачынцы. Значыць, увогуле не верыць Яўхіму, хоць змалку яго ведае…

…А Саўка тым часам, павярнуўшыся спінаю да людзей, плыў да Заброддзя не напрамкі, не праз залітыя вадой лугі, як плыў сюды раніцой, (так бліжэй), а па рэчышчы.

Ён знарок рабіў круг, яму трэба было ў адзіноце ўсё абдумаць ды разабрацца ў тым, што здарылася. І як участковаму, для якога спачатку закон, а потым ужо людзі, і як проста чалавеку, для каго вышэй усялякіх пісаных законаў тыя няпісаныя, па якіх спрадвечна жывуць людзі.

Калі па пісаным законе, то ён не меў права перахопліваць афіцыйную паперу, адрасаваную Яўхіму Бараўцу. У ёй жа, вядома, зыходзячы з фактычнага матэрыялу пра тое, што цягнік разбамбілі, што Яўхімавых сыноў не было ні сярод забітых, ні сярод тых, хто потым выйшаў да сваіх, на кожнага паведамлялася: «Без вести пропали». Але як «пропали?»

Так, спачатку, як бывае ў такіх выпадках, была неразбярыха. Але ж праз нейкі час нашы былі там. Жывых — у калону, забітых — пахаваць, а тых, хто збег, потым шукалі.

Не ўсё так проста. На месцы здарэння працавалі людзі з органаў, усё дасканала вывучылі. У некага ж былі спісы тых, хто ехаў у гэтым цягніку. У тым спісе — і Яўхімавы сыны. У спісе ёсць, а ў «налічыі» — не. Ні сярод жывых, ні сярод мёртвых.

Дык дзе падзеліся Нікадзім і Іван Бараўцы?.. Пабеглі дадому і па дарозе здаліся ў палон?.. Загінулі недзе?..

Думаў так участковы, часам лічыў іх здраднікамі, і разам з тым здзіўляўся сам сабе: ачарсцвеў, Савелій, акамянеў за вайну, людзям не верыш…

«Ну што ж, — падумаў Саўка, — пакуль трэба пакінуць у спакоі Яўхімавых сыноў, будзе час, нешта ж канкрэтнае пра іх высветліцца».

А пакуль не мог ён аддаць старому тыя жудасныя для бацькі паведамленні, ад якіх, здаецца, успыхне агнём кішэня гімнасцёркі…

А як быць з Кучынскім?.. Органы разабраліся, што стары перад уладамі віны не мае. З немцамі ён не супрацоўнічаў. Не ўдзельнічаў, як яго сын паліцай, у карнай аперацыі па знішчэнні вёскі і яе жыхароў. Гэта пацвердзіў і Стас. Ён, як вызвалілі раён, хаваўся з сябруком-здраднікам у лесе. Ён і забіў франтавіка Пятра Жураўца, калі той, як быў дома на пабыўцы, пайшоў у лес, каб упаляваць дзіка, а натрапіў на здраднікаў.

Ды і самі вяскоўцы, той жа Яўхім, як хадзіў у ваенкамат, каб даведацца пра лёс сыноў, калі спыталі пра Іосіфа Кучынскага, сказаў, што той шкоды нікому не рабіў...

Сказаў, не схлусіў, але ж, мабыць, лічыў, што калі на Іосіфу няма прамой віны за сына, дык ёсць іншая, маральная: бацька ворага…

І вось здарэнне на Саўкавым участку: у паводку згарае хата Іосіфа Кучынскага, а ён бясследна знікае… Пазней ягоная лодка аказваецца ў аднавяскоўцаў...

Размаўляць з гуднянцамі было вельмі няпроста — добра знаёмыя людзі пад падазрэннем у забойстве чалавека. Саўку як участковаму трэба было рашаць: скласці пратакол аб тым, што пры нявысветленых абставінах знік грамадзянін Іосіф Кучынскі і далажыць аб здарэнні ў раён, або на сваю рызыку паспрабаваць самому ва ўсім разабрацца і, нават калі людзі здзейснілі самасуд, зразумець іх, зрабіць усё, каб хоць як аблегчыць лёс гаротнікаў.

Па-чалавечы іх вельмі шкада: даложыш — пасадзяць… Але ўсё ж чаму забілі, утапілі, ці яшчэ што, калі гэта сапраўды так?

Можна разважаць так: гэтыя людзі цудам засталіся жывымі, а іх родныя, блізкія, аднавяскоўцы загінулі і ў іх смерці вінаваты сын Кучынскага. Вось і ўлучылі момант ды адпомсцілі бацьку, бо сына ўжо не было… А гэта — самасуд.

Самасуд, зноў жа, калі даваць афіцыйную ацэнку здарэнню. А калі зыходзіць з немудрагелістых людскіх паняццяў, то адбыўся народны, самы што ні ёсць народны суд…

Страшная нестыкоўка паміж гэтымі паняццямі: афіцыйным і людскім.

І як ён, Саўка, былы франтавік, які пабачыў на вайне шмат чалавечага гора, які ведае што такое афіцыйная і неафіцыйная справядлівасць, можа, нічога не абдумаўшы, узяць ды зрабіць гэтых няшчасных людзей злачынцамі?..

Хаця чаму адразу і злачынцамі? Хто дзе бачыў труп Іосіфа Кучынскага?

Значыць, Саўку, пакуль сыдзе паводка, трэба самому разабрацца, у чым праўда і няпраўда аднавяскоўцаў Іосіфа Кучынскага. І не спяшацца, пакуль не знойдуць труп. А калі не знойдуць, будзе бачна, што рабіць далей. Ва ўсякім разе не трэба спяшацца рабіць гуднянцаў злачынцамі.

Магчыма, да такога рашэння — не спяшацца аб'яўляць гэтых людзей злачынцамі Саўку падштурхнуў уласны ваенны вопыт. Ён памятаў, як некалі зялёны, неабстрэлены салдат спачатку не раздумваючы выконваў загады, з-за чаго мог загінуць. Потым ужо, пабываўшы ў страшэнных пераплётах, што загад загадам, а трэба думаць самому, як яго выканаць, каб не забілі і каб не падставіць пад кулі таварышаў.

Пачаў думаць — і ваяваць стала смялей.

Ваяваў ён добра, удумліва, што, мабыць, і дазволіла яму, пехацінцу, прайсці сотні франтавых дарог, застацца жывым, не трапіць у палон, не паказаць сябе баязліўцам. Пяхота ж сыпалася пад варожым агнём, як ніхто, і ў палон трапляла — таксама, і баязліўцаў ён бачыў нямала…

Усялякае было на фронце...

І цяпер, думаючы як быць з гуднянцамі, Саўка нібы недарэчы ўспомніў выпадак, сведкам якога быў незадоўга да таго, як яго параніла ва Усходняй Прусіі.

…Палкавое камандаванне ўзяло яго, тады ўжо старшага сяржанта, і некалькі байцоў у суправаджэнне — мелася праверыць батальён сувязі, які ў асноўным складаўся з жанчын.

Батальёнам камандаваў нейкі маёр, казалі, з «былых», гэта значыць, з тых, дарэвалюцыйных, хто меў далёка не рабоча-сялянскае паходжанне.

Байцам было вядома, што маёр надта раўніва аберагае сваіх падначаленых (жанчын): на вайне жаночая ласка не супрацьпаказана ні радавому, ні генералу, і сапраўднаму каханню — вайна не перашкода*.

---

* Гісторыя Аляксея Аляксеевіча Пушчына, аднаго з нашчадкаў рода Пушчыных, які даў свету дзекабрыста, сябра А. С. Пушкіна. Расказана асабіста аўтару.

Прыехалі ў батальён сувязі. Ён размяшчаўся ў сядзібе баўэра, старога немца. Пачалі з праверкі вартавых. Увайшлі ў адзін харчовы склеп гаспадара, а там неверагоднае! Да сцяны прыстаўлена вінтоўка, на праходзе стаіць з акрываўленай рукой стары немец, а яе старанна перавязвае вартавы — маладзенькая дзяўчынка.

«Злачынства! — закрычаў капітан НКУС, які быў у групе правяраючых. — Пад трыбунал!»

Усе ведалі, што злачынства. Ведалі, што такое трыбунал. Ведалі, што вартавая не павінна была прапусціць парушальніка на аб'ект. Трэба было затрымаць, а калі не падпарадкоўваецца, зрабіць папераджальны выстрал, затым, калі таксама не падпарадкоўваецца — другі, але ўжо ў яго…

Яшчэ ніхто не паспеў апомніцца, як камбат, нібы не пачуўшы словы правяраючага капітана, загадаў сваім байцам: «Арыштаваць неадкладна! Адвесці ў зямлянку, зачыніць, вачэй не спускаць!», і звярнуўся да палкоўніка: «Дазвольце, сам разбяруся…»

Палкоўнік дазволіў. Праігнараваў выказванні нкусаўца, а гэта было вельмі небяспечна для камандзіра нават самага высокага рангу.

Капітан ажно анямеў ад такога нахабства:

— Я неадкладна далажу па камандзе.

Яго не пачулі. Вартавога арыштавалі, павялі. Старога немца не кранулі. А ён, зразумеўшы, што з-за яго можа быць з дзяўчынай, упаў на калені, залямантаваў, паказваючы на яе акрываўленай рукой:

— Ніхт!.. Ніхт… Кіндар эссэн, ніхт шыссэн… Іх, іх вінаватэн…

Крычаў, трос параненай рукой, а другой паказваў на зацэментаваную падлогу, на якой ляжалі шкляныя аскабалкі ад слоіка з рэшткамі нейкіх прадуктаў.

Што ён хацеў гэтым сказаць, было зразумела і без перакладчыка: у старога дзеці. Ім трэба есці. Ён пайшоў у свой склеп па прадукты, разбіў слоік… Навошта яе пад трыбунал…

— Старога — у санчасць! — загадаў палкоўнік. — Дзяцей накарміць. Вартавога аддаць пад нагляд камбата…

Як ехалі назад у полк, палкоўнік спыніў машыну сярод поля. Выйшаў з яе. Зняў фуражку, трымаючы ў руцэ, доўга глядзеў на наваколле. Нешта думаў. Потым падазваў да сябе байцоў, не як патрабуе статут: «Суправаджэнне, да мяне!», а так, як бацька мог бы падазваць сваіх дзяцей: «Сынкі, падыдзіце».

Не падышлі, падбеглі, Саўка і яшчэ трое байцоў. Капітан стаяў воддаль. З месца не скрануўся.

Саўка як старшы павінен быў далажыць: «Па вашым загадзе…»

Памкнуўся, прыклаў руку да казырка фуражкі:

— Тава…

Палкоўнік абарваў яго:

— Сынкі, ведаеце, чаму нас не перамагчы? Таму, што ў нас такія воіны, як маёр (ён назваў прозвішча). Як гэтая дзяўчынка — яна на фронт пайшла добраахвотніцай, дачка настаўнікаў, як мне далажылі. Як вы, дзеці рабочых і сялян. Маёр жа, каб ведалі (зноў назваў прозвішча), з роду дзекабрыста, сябра Пушкіна. І ўсе мы — розных нацыянальнасцей, але адной вялікай веры — у людзей, у нас саміх.

Капітан падышоў без каманды. Папрасіў у палкоўніка дазволу закурыць. Закурылі разам, ад адной запалкі…

Больш палкоўнік нічога не казаў. Ні байцам, ні капітану. І зразумеў тады Саўка, што і маёр, і палкоўнік ратавалі дзяўчыну-вартавога ад трыбунала, ад

таго законнага суда, які не абяцаў ёй нічога добрага. Зразумеў, што і маёр, і палкоўнік за гэтае дзяўчо самі гатовы былі ісці пад трыбунал, каб толькі ёй не зламаць лёс…

І яшчэ зразумеў Саўка, што ў яго жыцці здарылася сітуацыя, калі ён, маючы ўладу над гэтымі людзьмі, спачатку сам як звычайны чалавек павінен вызначыць, што з імі рабіць, калі яны сапраўды вінаватыя.

Разумеў і не мог вось так адразу, спехам вырашыць…

А пакуль ён будзе чакаць: а раптам адзавецца Іосіф, жывы ды здаровы…

Цячэнне вынесла лодку далёка за паваротку, пранесла пад мостам, адштурхнула далей ад таго месца, дзе яшчэ не так даўно была людная вёска Гуда, якая, як помніў, да вайны гудзела ад людскога align="" рознагалосся, пацягнула ў залітыя вадою лугі…

Саўка даўно ўжо выняў з вады вёслы, паклаў іх на барты лодкі — нясі мяне рака!..

І яна несла яго, як ніколі шырокая, халодная і мутная.

**12**

…І вось мінула сем гадоў, як ніхто нідзе не бачыў Іосіфа Кучынскага ні жывым, ні мёртвым. За гэты час шмат што змянілася ў жыцці гуднянцаў. (Пра гэта пасля…)

А тады, як толькі Саўка паплыў, «праінструктаваўшы» іх, што казаць, калі хто будзе пытаць пра Іосіфа, Яўхім, як сказаў Міхей, зусім расклеіўся.

Яўхіма можна было зразумець: няма ніякай пэўнасці пра ягоных сыноў і наўрад ці будзе… А тут участковы яшчэ лічыць, што гуднянцы зжылі са свету Іосіфа Кучынскага, што яны злачынцы.

Не, рук на Іосіфа яны не паднімалі. Хаця Яўхім, удзёўб сабе ў галаву, што ён вінаваты, і ў адваротным яго ніяк не пераканаць. На вуснах адно: «Я, я вінаваты, што загінуў Іосіф. А мы ж з ім некалі сябравалі».

Мабыць, пачуццё віны за сябра — асаблівае…

Што сябравалі, ведалі ўсе. Ведалі, што некалі разам у калгас агітавалі, а потым у калгасе рабілі, Яўхім пры конях, Іосіф на полі.

Акрамя гэтых заняткаў мелі сябры яшчэ адзін — цяслярства. Коні коньмі, поле полем, але выкройвалі час вяскоўцам хаты ставіць. Паставяць каму хату, людзі глядзяць, любуюцца — лялька!..

А сышліся яны ў маладыя гады нібы выпадкова. На вячорках. Адзін раз разам пакурылі, пагаварылі: хто ты, што ты, які інтарэс маеш… Другі, трэці, на чацвёрты ўжо — таварышы.

Яўхім аднекуль са свету прыйшоў сюды на заробкі, прыйшоў разам з таварышам, такім жа бадзягам, як сам. Таварыш неўзабаве пайшоў далей, а Яўхім застаўся, бо спадабалася яму вёска, ды і дзяўчыну знайшоў…

Застаўся і на першым часе не было яму да каго прыткнуцца. Іосіф гэта бачыў, яму захацелася зблізіцца з чужаком, тым больш, што мужчыны, у якіх ён цясляруў, хвалілі яго — майстра!

Іосіф сам паціху цясляруў. Больш ля сваёй хаты, любіў працаваць з сякерай.

Іосіф тады жыў з мачахай і яе роднымі дзецьмі і вельмі даражыў ёю і імі. Ледзь што — мама, мама, мама…

Яўхіму, які сваёй маці не ведаў, спачатку было вельмі дзіўна, што Іосіф так яе называе (ведаў ад людзей, што мачаха). Дзіўна і зайздросна: харошая жанчына, сваіх траіх гадуе і пасынка выгадавала чалавекам — Іосіфаў бацька памёр, як яму было гадоў дзесяць.

Любіла яна Іосіфа, як свайго сына, а можа, і больш. А ён казаў Яўхіму, калі надараўся які заробак: «Мне маму і меншых хоць як падтрымаць, тады весялей жыць».

І падтрымліваў, вёў сваю гаспадарку, у людзей час ад часу зарабляў. Так і жылі.

Калі мачаха даведалася, што Іосіфу падабаецца Тэкля, раіла не марудзіць, браць яе. А калі ў яго нічога з Тэкляй не атрымалася, вельмі гаравала…

Памерла яна яшчэ да таго, як Іосіф сышоўся з Марыяй. А яе, мачахі, дзяцей забралі родзічы з той вёскі, адкуль Іосіфаў бацька ўзяў яе з імі.

Памятаў Яўхім, як аднойчы Іосіф, калі добра пасябравалі, расказваючы яму пра мачаху, называў яе святой жанчынай.

Успамінаў адзін яе ўчынак, які сведчыў — сапраўды святая...

Было гэта ў Іосіфавым маленстве. Тады, як заведзена ў сялянскіх сем'ях, яго, яшчэ маленькага хлапчука, гадоў шасці, а можа, і менш, бацька цягаў на сенажаць. Помачы ад малога, вядома, ніякай, але хай дзіця змалку прывыкае да работы: можа, дзе жвялёк травы растрасе, пласт паварушыць, ці падасць старэйшым вады…

Гойсаў хлопчык па купінах і раптам наступіў лапцікам на нешта вёрткае. Глянуў уніз, а яно паднімаецца, гэткае прыгожае, жарае.

Закрычаў:

— Мама, царвяк! Глядзі, які вялікі.

Глянула мама-мачаха, недалёка была, папрасіла:

— А мой ты сыночак, стой, не варушыся, я зараз…

Ды падляцела да хлопчыка, перахапіла «царвяка», не дало яму джыгнуць малечу. Потым адкінула, пачала таптаць нагамі, трушчыць лапцямі, не зважаючы, што на руцэ, вышэй запясця чатыры сінія кропачкі ад ядавітых зубоў: дзве ўверсе і дзве знізу.

Яшчэ казаў Іосіф, што потым нейкая вясковая знахарка, якая таксама была на лузе, бяззубым ротам адсмоктвала яд, выплёўвала яго, затым нешта шаптала на хлеб, прымушала мачаху есці, а тая крычала, што горкі ён…

— Калі горкі, то добра, памагаецца…— шапялявіла знахарка.

І помніць ён яшчэ, як іншая жанчына (Варывончыха, яго будучая цешча, сенажаць якой была побач) хітала галавой:

— Дурніца, з-за пасынка сваіх дзяцей магла асіраціць...

І помніць, як іншыя чужыя жанчыны, што таксама былі там, суседкі, абмацвалі ягонае цельца, глядзелі, каб, бароні божа, гадзюка тая куды не джыгнула… І таксама, як і знахарка, гатовы былі мачасе дапамагчы, чым толькі можна.

А тыя жанчыны не надта любілі Іосіфаву мачаху, удаву з чужога краю. За што яе любіць? Тады тут сваіх удоў хапала, вайна нейкая пракацілася, а Змітро, ягоны бацька, чужую прывёз на калёсах, ды яшчэ з трайным прыплодам…

Чамусьці ўсё гэта прыгадалася Яўхіму пасля таго, як тут, на пагорку, пабываў участковы Саўка і спрабаваў разабрацца, што здарылася з Іосіфам.

Вось тады нешта нябачнае, але дужа балючае, у адносінах да Іосіфа, што некалькі гадоў не давала спакою Яўхіму, нібы маланка працяло ўсяго яго.

Працяло, быццам на дзве часткі рашчапіла ягоную свядомасць: аднадчасова шкадаваў ён Іосіфа і ненавідзеў. І цяжка было Яўхіму выбраць нешта адно, каб дакладна вызначыць для сябе, хто ён для мяне і для іншых.

Зараз гэты ўспамін з Іосіфавага маленства ўскалыхнуў, узвіхурыў Яўхімаву душу. Яшчэ б, жорсткія, лёс такі, вясковыя цёмныя жанчыны, якія ў побыце

не прымалі Іосіфаву мачаху, а як толькі з ёй здарылася бяда, каб не памерла, каб не засталіся сіротамі трое яе дзяцей і чацвёртае чужое дзіця гатовы былі на ўсё.

Значыць, што б кепскае ні было між людзьмі, а добрае ўсё адно праб'ецца, як крынічная вада з-пад друзу. І часам ад самаго чалавека залежыць, выльецца яно на свет, каб дапамагчы іншаму, або зачахне недзе ў цёмных глыбінях халоднай душы…

І Яўхіму, і Саўку ў іхніх рашэннях, як зараз быць у адносінах да іншых, прыкладам сталі два выпадкі з чужых жыццяў. Для Саўкі — выпадак з чырвонаармейкай, якая, самавольна пакінуўшы пост, перавязвала руку немцу, для Яўхіма — некалі расказанае Іосіфам пра ягоную мачаху…

Назаўтра раніцою Яўхім плыў на Іосіфавай лодцы ў Заброддзе да ўчастковага Саўкі Касмановіча. Ён меўся расказаць яму ўсю праўду пра Іосіфа, ды папрасіць Саўку, калі паверыць яму, дапамагчы шукаць Кучынскага, ці жывога, ці мёртвага.

Паверыў Яўхіму Саўка. Адразу ж сабраў забродзенскіх мужчын, якіх тут пакуль было толькі некалькі чалавек. Тры былыя партызаны, два інваліды-франтавікі, ды Міхал Калістратаў, у якога некалі Іосіф выменяў за залатоўку мех збожжа — вось і ўсё, хто мог бы дапамагчы ў пошуках.

Пасадзіў іх у лодкі, сказаў, каб паплавалі па разліве, паўзіраліся пад кусты, пад берагі, пад вываратні, можа, дзе цела знойдуць. А як знойдуць, каб стралялі: пару стрэльбаў у мужчын было.

Міхал, прайдзісвет, які ў вайну круціўся то каля немцаў, то каля партызан, хоць нібыта ў яўным пасобніцтве ворагу і не быў заўважаны, а Саўку баяўся як агня, даведаўшыся, каго будуць шукаць, узвыў:

— Можа, ён у сваёй хаце згарэў! Там шукаць трэба: ніжнія вянцы ў вадзе былі, ацалелі. Пусці мяне, Савелій Бацькавіч, жытло яго агледзець, а вы…

Міхал меркаваў, што ў Іосіфа акрамя той залатоўкі, якую ён яму аддаў за мех збожжа, было яшчэ золата. І помніў, дзе Іосіф яго хаваў — пад печчу. Значыць…

— Там мы без цябе абыдземся, — сказаў Саўка. — Давай з імі, — кіўнуў ён на мужчын.

Міхал спрачацца не стаў. Толькі запярэч, Саўка тут жа паляпае рукой па кабуры. Так аднойчы ўжо было, сказаў Міхалу вярнуць калгаснага каня (з таго табуна, які ў першыя дні вайны Яўхім гнаў у раён, але вымушаны быў распусціць у лесе, бо перастрэў нямецкі дэсант, загадаў гнаць назад), а ён: «Мой, Савелій Бацькавіч, конь, мой!»

— Ведаю, які ён твой,— сказаў Саўка і паляпаў ладоняй па кабуры, — людзі ведаюць, чый.

Прыйшлося вярнуць…

Мужчыны, атрымаўшы заданне, паплылі на дзвюх лодках да левага берага Дубасны, да кустоў, шапкі якіх там-сям вытыркаліся з вады. Саўка ж з Яўхімам накіраваліся ў Гуду. Таксама на дзвюх лодках: Яўхім — у Іосіфавай, Саўка — у сваёй.

Там узялі з сабой Міхея, Міколу пакінулі на пагорку: яму з яго дзеравяшкай у лодцы няёмка сядзець. Ды і пры жанчынах, пры дзецях нехта павінен быць.

Спачатку падплылі да Іосіфавай хаты. Верхні вянец, на якім ляжаў абпалены падаконнік, быў абвуглены. У хаце захавалася падлога, згарэць яна не магла.

Вада была чорная, па ёй плавала вуголле, кавалкі абгарэлых дошак. Захавалася печ, таксама чорная, абгарэлая.

Паторкалі вёсламі, чутно, што стукаюць аб дрэва. Яўхім сказаў, што Іосіфа тут шукаць дарэмна, бо, калі загарэлася хата, ён знаходзіўся на пагорку. Ды і прыплысці да хаты, як яна загарэлася, ён не мог, бо лодку пакінуў ля хлява. А калі б нейкім чынам падплыў сюды, у полымя не шуснуў бы — адкідвае яно чалавека.

А пажар быў страшны. Ад хаты загарэліся крыты саломай хлеў і дашчатая павець. Усё згарэла да самай вады.

З Яўхімам згадзіліся, паплылі да ракі. Пачалі аглядаць гэты бераг з таго месца, дзе раніцой, пасля той ночы, як знік Іосіф, Міхей і Мікалай знайшлі каля вады ягоныя босыя сляды. Старанна агледзелі кусты: няма… Затым пачалі паволі спускацца па цячэнні: калі ўтапіўся, дык вада будзе несці цела ўніз, пакуль за што не зачэпіцца. Хаця, можа і не валачы, калі труп на дне за што зачапіўся.

Шукалі цэлы дзень і забродзенскія мужчыны, і Саўка з Яўхімам. Нідзе ні следу.

Потым таксама шукалі некалькі дзён, безвынікова.

Шукалі і як сышла вада, але не знайшлі.

За гэты час, што былі разам, Саўка некалькі разоў парываўся аддаць Яўхіму паперкі, у якіх гаварылася, што яго сыны, Нікадзім і Іван Бараўцы, прапалі без вестак, але так і не адважыўся.

Парываўся і разам з тым баяўся, што стары, здоўжыўшыся чакаць, збярэцца ў ваенкамат. І аднойчы вечарам, калі знясіленыя, ужо ў які раз абгледзеўшы кусты, каля вёскі выйшлі на бераг, Саўка папрасіў Яўхіма:

— Дзядзька, я табе вось што скажу. Пакуль я сам усё не высветлю пра Нікадзіма і Івана, дык ты нічога не рабі, ні ездзі ў раён, нічога не пытай, нікуды не пішы. Ёсць у мяне адна зачэпка, што жывыя яны, але не скажу якая, пакуль пра ўсё не дазнаюся.

— Ёсць? — ажывіўся стары.

— Ёсць. Прашу цябе, вер мне і пачакай.

(Не ведаў тады Саўка, як і не ведаў Яўхім, што зачэпка сапраўды ёсць, і праявіцца яна толькі праз шмат гадоў, і менавіта тут, на гэтай зямлі.)

Яўхім моўчкі ў знак згоды кіўнуў галавой. Не ведаў ён, нават не здагадваўся, што Саўка хлусіць яму. Хлусіць, каб не пахаваць старому надзею. А пахаваць яе, значыць, зажыва пахаваць самога Яўхіма.

## 13

...Іосіф, за сем гадоў, як знік з Гуды і да сённяшняга дня, калі Каця ўбачыла яго, наогул нікога са знаёмых, не тое, што былых аднавяскоўцаў, не сустракаў.

На хутары, канешне ж, ніхто не мог паявіцца, хіба што Яўхім, які некалі і расказаў яму пра Кашару, пра тамашняга гаспадара, ды як туды дабірацца.

Ведаў Іосіф, што аднойчы, як пачалася калектывізацыя, Яўхімава Марфа сказала яму, каб сплаваў да Кашары, паглядзеў, што там і як. Можа, пакуль усё сціхне, трэба забраць да сябе Антонавых меншых дзяцей ды ўнукаў ад старэйшых, а там — Бог бацька.

Безумоўна, пра Антона і яго сям’ю Яўхім расказаў Марфе раней, чым Іосіфу — ад жонкі ён нічога не ўтойваў, але больш ніхто ў Гудзе пра гаспадара Кашары не ведаў.

І хаця да таго часу Яўхімава і Іосіфава сяброўства паступова разладжвалася, Яўхім сказаў яму, што паплыве туды.

Іосіф падахвоціўся плысці з ім, дарога няблізкая, ці мала што... Але Яўхім адмовіўся. Сказаў, што не трэба, каб Антон бачыў, што яшчэ нехта, акрамя ягонага былога работніка, даведаўся пра хутар, тым больш, як туды зайсці па балоце.

Але разумеў Іосіф, што не з-за гэтага Яўхім не хоча браць яго з сабой. Узяў бы, дык Іосіф на хутар не пайшоў бы. Чакаў бы яго ў лодцы. Напэўна, Яўхім, адмаўляючыся ад Іосіфавай дапамогі, успомніў адзін выпадак з іхняга сяброўства і яму стала няёмка, а то і сорамна, бо не дапамог таварышу, калі таму вельмі патрэбна была ягоная дапамога… А дапамог бы, можа, у іншым кірунку пайшло б Іосіфава жыццё…

…Яўхім ведаў, што каля Гуды Аўдзей будзе везці Тэклю пад вянец. Ведаў, як яе любіць Іосіф, як ён пакутуе, што яна яму здрадзіла. Ведаў, што Іосіф і верыць і не верыць у здраду, але як сябра нават слова не сказаў, каб суцешыць, не параіў, як быць.

А таму, што Тэкля Яўхіму не падабалася. Лічыў, што не для сябра яна, нейкая ветраная, любіцца з Іосіфам, а на вячорках танцуе з кім папала.

Зрэшты, дагулялася да таго, што людзі заспелі яе з Аўдзеем у снапах…

Іосіфу тады было невыносна цяжка. І калі даведаўся, што Аўдзей будзе везці Тэклю вянчацца, сказаў сябру, што пойдзе з хлопцамі кінуць вяселлю «зайца»: па звычаі — перагародзяць дарогу.

Сказаў, спадзеючыся, што Яўхім зразумее, не па гарэлку ідзе Іосіф, а каб апошні раз убачыць Тэклюшку яшчэ не чужой жонкай. І Яўхім разумеў гэта, але не пайшоў з сябрам. Пакінуў яго сам-насам з ягонай скрухай…

Збілі тады на горкі яблык Іосіфа Аўдзеевы хлопцы, кінулі акрываўленага пасярод дарогі, і не сказаў ён тады, зняважаны, Тэклюшцы адзінага слова, каб засталася з ім…

З таго часу іхняе сяброўства надтрэснулася, нібы лёд на рэчцы, і з трэшчыны той спачатку павеяла халадком, потым дыхнула калючым холадам, і нарэшце — завіхурыла лютай сцюжай.

Ніколі пасля Іосіф не ўспамінаў пра той выпадак Яўхіму, не папракаў яго, ды і Яўхім паводзіў сябе так, быццам нічога не здарылася. Але не можа быць, каб Яўхім пасля, бачачы, як моўчкі пакутуе Іосіф спачатку адзін, а потым ужо жанаты на Марыі, не ўспамінаў гэта.

Успамінаў, і часам адчуваў сябе няёмка ад таго, што не падтрымаў сябра, калі трэба было. Вось толькі не зразумела было Іосіфу, чаму за шмат гадоў (вайну не бяром) так і не сказаў яму Яўхім, што шкадуе пра былое. Зразумеў бы яго Іосіф, суцешыў, зняў бы цяжар з ягонай душы, сказаўшы, што даўно не крыўдуе на сябра: было — сплыло…

Ды і тады, калі Іосіф падрадзіўся плысці з ім на хутар, мог бы Яўхім узяць яго з сабой хаця б дзеля таго, што ў дарозе (а яна не простая, дзень ракой, а то і больш), зноў зблізіліся б, паразумеліся. Значыць, не хацеў гэтага…

І вось праз шмат гадоў атрымалася так, што Антонаў хутар, ягоная своеасаблівая крэпасць, у якой ён хаваўся ад людзей, але ўсё адно не ўбярогся, на астачу Іосіфавага жыцця стаў і ягоным сховішчам ад іх. Толькі, ці ўберажэцца і ён тут?

Хавайся, не хавайся, а, кажуць, зямля круглая, і хоць на ёй безліч шляхоў і сцежак, але рана або позна ўсе яны нейкім чынам пераплятаюцца. Так што няма на ёй такога месца, дзе цябе, як бы ты гэтага ні хацеў, не знайшлі б. Знойдуць, калі каму трэба. І свае шляхі пракладуць да твайго сховішча…

Казаў Яўхім, што прыплыў ён да Кашары без перашкод. Схаваў лодку ў трысці ў завадзі, пайшоў вядомым яму шляхам да хутара.

Ішоў і бачыў, што трава на купінах, ля якіх ляжалі прытопленыя ў твань плашкі, змята-перамята, і сляды на ёй ад ботаў да хутара і назад, а ад лапцей і лапцікаў толькі з Кашары.

Казаў, што сэрца заходзілася ад прадчування бяды, і як не выскачыла з грудзей, калі на хутары не застаў ні людзей, ні якой жывёлы.

Доўгая нізкая Антонава хата сустрэла яго забітымі крыж накрыж вокнамі. І дзверы былі на замку, а на ім нейкая на матузках пячатка. Што на ёй было напісана, не разабраць.

У хату Яўхім не пайшоў, пабаяўся зрываць пячатку, ведаў, туды, дзе яна, нагой не ступай!

Пахадзіў вакол пабудоў: вароты ад пуні адкінуты, у засеках пуста і ў кашары — хоць шаром пакаці, а жардзяны загон паламаны...

Дадому Яўхім вярнуўся праз двое сутак. Казаў, што супраць цячэння веславаць было дужа цяжка. Быў ён змарнелы, сам не свой, калі ўпотайкі на выгане расказваў Іосіфу пра тое, што бачыў на хутары.

Паспачуваў яму Іосіф і нібы папракнуў:

— Трэба было б удвух плысці.

— Ат, — няпэўна махнуў рукой Яўхім, — чым бы ты мне памог?

Значыць, сапраўды не хацеў, каб доўга былі сам-насам. А так, у вёсцы, дык калі ласка: сустрэліся, пагаварылі, разышліся. І ніякога табе ўспаміну пра былое.

Часам, як Іосіф атабарыўся тут, асабліва напачатку, з’яўлялася ў яго думка, што некалі ж Яўхім заявіцца на хутар. Не, не яго шукаючы, а па якой сваёй патрэбе прыплыве сюды. Тады абавязкова сутыкнуцца яны твар у твар — разысціся тут цяжка. Цікава, што скажуць адзін аднаму? І наогул, ці загавораць адзін з адным? Наўрад, хіба калі адтаюць іх зледзянелыя душы. Гэта на рэчцы лёд, прыйдзе час, абавязкова растане, а ў душы — не вельмі… А сказаць ім адзін аднаму трэба шмат чаго. І наогул не толькі Яўхіму мог бы многае пра сябе расказаць Іосіф, лёс якому наканаваў адзіноту, а і Мікалаю, і Міхею, і Надзі, а больш за ўсіх — Каці.

Некалі Іосіф думаў, што прыйдзе час, сустрэне ён Кацю, адну ці з дзіцём, і абавязкова скажа ёй нешта такое, пасля чаго яна зразумее, як яму ўвесь гэты час было цяжка на душы: яго ж сын забіў яе мужа…

І вось сустрэў нечакана яе з сыночкам у горадзе на базары. І што?.. Уцёк, збег, праўда, папрасіўшы перад гэтым, каб не палохала хлопчыка, які вельмі падобны на Пятра…

Не мог ён не збегчы. Ну як бы ён ёй растлумачыў, чаму просіць міласціну і чаму не хоча, каб менавіта цяпер яна пазнала яго?..

***Працяг будзе.***





## Мар’ян ДУКСА

* * *

Жыццё — тэатр, людзі ў ім акцёры…
Вільям Шэкспір, і сапраўды ўсё так.
Акцёры мы, але ж і рэжысёры,
бо ставім мы свайго жыцця спектакль.
Мы самі выбудоўваем сюжэты
і павароты ўсе сваіх дарог.
Адначасова стомленаму свету
мы прамаўляем доўгі маналог.
Шчасліўчыкам, відаць, не будзеш век ты,
на тэатральнай сцэне — штурхатня.
Бываюць і правальныя праекты,
здараецца нікчэмная гульня.
Згуляць хоць як — заўжды вялікі сорам,
а б’юць у ладкі — радасна да слёз.
Прыемна быць уласным рэжысёрам,
ды рэжысёр галоўны — гэта лёс.

* * *

Усе, усе шматлікія вякі
абшар жыццёвы засявалі густа.

---

***Дукса Мар’ян Мікалаевіч*** *нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

Без памяці мы проста жабракі,
і ў торбе будзе ветрана і пуста.
Без памяці на новым рубяжы
адны прыпынкі і адны паломкі…
Без памяці збяднеем, як бамжы,
і страцім радасць, нібы пустадомкі.
Без памяці — скачы ты ні скачы —
нікчэмны рух, сляпыя надта ногі.
Без памяці — блуканне па начы
без адчування пад сабой дарогі.
Без памяці нас ці палюбіць Бог?
Без памяці жыццё душу параніць…
Бо памяць наша — гэта педагог,
што круціць вушы тым, хто хуліганіць.

* * *

Раўеснікі няшчаснай Атлантыды,
пустыні вартавыя і акраса —
егіпецкія вышкі-піраміды,
не хочаце вы пакарыцца часу.
Па-над зямлёй застылі ганарыста
і служыце здзіўленням чалавечым.
І сёння ашаломленым турыстам
спрабуеце сказаць усё аб нечым.
Якую мэту вы калісьці мелі?
Вы сёння мёртвыя альбо жывыя?
Вы з голасам ці ўсё-ткі анямелі,
касмічныя мабільнікі былыя?

* * *

Такі ён падатлівы зменам,
забыты вясковы падворак.
Здаецца такім задуменным
на фоне магілаў і зорак.
Змог смутак тут лёгка прыжыцца,
ён ціха падлічвае страты.
Густая трава лапушыцца
вакол абяскроўленай хаты.
Качэргі, патэльні ля печы,
сякера іржою рудзее…
Старыя, забытыя рэчы —
нібы экспанаты музея.
Драўляная скрынка з-пад солі,
збанок, які поўніўся мёдам…
Павук, што спаўзае са столі,
паслужыць хай экскурсаводам.

* * *

Юнацтва час цудоўна-рэдкі —
як думкі ў радасці раяцца!
Падобны ён да аперэткі,
калі так хочацца смяяцца.
Імкліва вырастаюць дзеці:
сыходзяць ці старэюць мамы.
Напружанае паўналецце
нагадвае па змесце драму.
Твой дзень спяшаецца на фініш.
І пахне восенню — не летам.
І тое, што той бег не спыніш —
трагедыя якраз у гэтым.
Жыццё — ланцуг рухомых кадраў,
што хуценька лятуць за сцэнай.
Яно — як змена пэўных жанраў
у паслядоўнасці нязменнай.

* * *

Жартуе, нібы з мышшу, лёс са мной.
І ён ужо мае цярпенне выграб.
Дзяжурыць неадступна над душой,
а быццам адступае — робіць выгляд.
Амаль заўжды ў прэтэнзіях сваіх
непастаянны ён са мной чамусьці.
То ўбок адыдзе на кароткі міг,
то раптам зноўку кіпцюры запусціць.
Ці скажа спачувальна: «Ну, бяжы —
хай воля раны ўсе твае загоіць…»
Вось я пабег. На нейкім рубяжы
апомніцца і зноў мяне дагоніць.
Свой крыж уласны несці на плячы
ёсць абавязак годны і належны?
Няўжо ён марны спосаб — уцячы
аднойчы ад апекі непазбежнай?

* * *

Калі ты юны, — навакольны свет
бярэ штодзённа ў цёплыя абдымкі.
Заўсёды твой у цэнтры сілуэт,
ты ўвесь заззяў на калектыўным здымку.
Пакуль што лёс — такі прыхільны ён.
Пагляд нябёс — такі блакітна-сіні.
Наўкруг кішыць жыццёвы стадыён.

Ты не адзін. Ты дыхаеш з усімі.
Ды ў нейкі міг адчуеш у журбе:
сяброў ёсць гурт, натоўп шумліва-бравы.
Але вось ім чамусьці да цябе
няма ніякай, ну ніякай справы.
Ты проста нейкі калектыўны нуль.
І хоць крычы і лямантуй да змогі,
не ведаеш, не ўпэўнены, адкуль
табе чакаць раптоўнай дапамогі.
Як вырашыць, падацца ў бок які,
куды ісці, як стане яшчэ горай…
Пакуль не ўспомніш: недзе ёсць бацькі,
што спяць, паклаўшы на мабільнік галаў...

* * *

Ой ты, Шамбала, дзе тваё схованішча,
часам твой зацярушаны след?
Да цябе праз скалу  ці радовішча
ці прапусціць маўклівы Тыбет?
Нашы множацца звягі і беды,
пнёмся ўгору і плачам крадком.
А свае велізарныя веды
ты трымаеш чаму пад замком?
Без цябе нам вачэй не працерці,
стаць відушчымі  нельга якраз.
Таямніцы жыцця, як і смерці,
ты хаваеш навошта ад нас?
Забабонамі, нібы лясамі,
зараслі мы — душу заскрабе…
Схамянёмся і справімся самі —
гэта, мусіць, здаецца табе.
Ты хаваеш свой код падзямельны,
ты ўсё, Шамбала, у забыцці.
Рассакрэціўшы свет паралельны,
што не хочаш да нас узысці?

* * *

Як бед цябе засыпле град густы,
за горла возьме ўчэпістая змога,
тады зусім не пашкадуеш ты,
што вельмі рана паяднаўся з Богам,
што на зары жыцця набожным быў.
Даўно-даўно душа затрапятала,
калі Яго аднойчы палюбіў.
І з той пары хадзіць утульна стала.

Хай лівень бед і б’е па галаве
і не прыходзіць паратунак збоку…
А вось у сэрцы сонейка плыве,
не даючы туды прарвацца змроку.
Адолеўшы ўсе кладкі і масты,
адбі паклон усім сваім дарогам.
Нутром адчуй: не памыліўся ты,
што вельмі рана паяднаўся з Богам.

* * *

У сон — у ратавальны церам —
правалімся…
Туды ж два крокі.
Накрыемся, як коўдрай, цемрай.
Ды позніцца
наш сон глыбокі.
Сказаць «дабранач» ты ахвочы
хоць тры разы
ўсяму сусвету.
Чаму ж ты любіш апаўночы
круціць
свайго жыцця касету?
Ты ўвесь ізноў навідавоку,
хоць мо і жмурышся адчайна.
О, як раяцца
думкі ў змроку
і свецяцца як незвычайна!

* * *

Нязгораны душэўны боль…
Як знак жыцця — яго прысутнасць?
Ён існуе — і ў гэтым соль?
Ён што — быцця жывая сутнасць?
Ён ёсць — мы ходзім ці ляцім.
Ён ёсць — цярпліўцы мы такія.
Наскрозь пранізаныя ім
заўжды стасункі ўсе людскія.
Мы вучымся яго трываць
заўжды — ад веку і да веку.
Каб гэты боль утаймаваць,
ці знойдзецца на свеце лекар?
О, чалавеча, мне прабач:
ахвяра ёсць ты волі вялай.
А боль твой — гэта горкі плач
тваёй душы недасканалай.

* * *

Усе выпускніцы — адны чараўніцы,
як хочацца ім гучнай скрыпкай зайграць.
Як сонечна свецяцца іх завушніцы,
як думкі вясёлыя ў сэрцы гараць.
Як хочацца зыркую сукню прыталіць
і майку сваю прытуліць да грудзей.
У іх не паходка, а радасны танец,
які прападае ў дарослых людзей.
Над імі, як птушка, лунае каханне,
пакліч — і адразу яно прыляціць.
Як часта цяпер замірае дыханне,
і гучна як сэрца цяпер грукаціць.
А юнай душы ўся былая нірвана
кудысьці сплывае... Прыйшоў неспакой.
Чужою рукою іх лёс нечапаны,
так блізенька ззяе — пагладзіш рукой.

* * *

Крадзецца кот між дрэў, як гномік,
бяжыць праз вёску нежывую.
Пафарбаваны дачны домік
ля яблынь сталых раскашуе.
Ружовай бляхай дах пакрыты —
па ім адразу пройдзеш вокам.
А сцены сайдзінгам  абшыты,
веранда новая і вокны.
Глядзі: якія краявіды
навокал саду карагодзяць!
Мой дачнік, цёмныя флюіды
са сцен старых заўжды сыходзяць.
Бо век бесцырымонна-люты
будынак гэты трос нямала.
Усе і страхі, і пакуты
бярвенне хатняе ўвабрала.
О, дачнік, суцяшайся верай…
Як добра, што ты шчыра верыш:
дыхтоўнай шчыльнаю шпалерай
усё былое ўсё ж заклеіш.
Распальваць не спяшайся печку.
Каб сон быў добры, ёсць тут выйсце.
Спачатку трэба ставіць свечку
за тых, хто ў доме жыў калісьці.

* * *

Пра свята нагадвае шэф-каляндар —
хутчэй варушыся, здаровы ці хворы!
І маску суцехі нацягвай на твар,
падстава малая, што ты не ў гуморы.
Паўзе хай угору бадзёрасці ртуць,
падкручвай настрою аслаблага гайку.
Хоць сёння ты белай варонай не будзь,
нацягвай на грудзі блакітную майку.
Не клопат павінен ляжаць на ілбе,
не клопат з якойсьці праблемай бядовай.
Залежыш ты сёння не ад сябе —
залежыш ад радасці абавязковай.

* * *

Смутак — як рукой…
Ты — хвіліна зорная.
Ты — мой супакой,
ты — маё снатворнае.
Ты — сэрцабіццё
у грудзях напеўнае.
Ты — як забыццё
самае прыемнае.
Ты — як лепшы міг
шэрай недарэчнасці.
Ты — мой ускалых
на секундах вечнасці.





Ірына ЛЯВОНАВА

# БЛЯСК КАМЯНЁЎ ЦУДОЎНЫХ

*Гістарычная аповесць*

## 1

— Янак, як ты думаеш, у той карэце ёсць хто-небудзь? Ці ўсе ўцяклі? — спытаў прысадзісты мужчына сярэдніх гадоў свайго маладога спадарожніка.

— Не ведаю, — чамусьці шэптам адказаў той, каго назвалі Янакам. — Дзіўна ўсё.

Амаль новая, пакінутая вельмі прыгожая карэта стаяла пасярод дарогі. Дзверцы былі зачынены, а шчыльныя фіранкі на яе вокнах не дазвалялі зазірнуць унутр. Коней, мабыць, хтосьці выпраг.

Янак падышоў да карэты і, баязліва паглядзеўшы па баках, асцярожна прыадчыніў дзверцу, пакрытую чорным лакам. На яго твары з'явіўся грэблівы выраз, і ён тут жа яе зачыніў. Патыхнула цяжкім пахам гніення.

— Езус Марыя, Лешак, там мерцвякі! Пойдзем адгэтуль, — захваляваўся юнак.

Але нездарма Лешак Круціцкі лічыўся дбайным гаспадаром. А ўсе ведаюць, што дастатак прыходзіць толькі да тых, хто да ўсяго ставіцца грунтоўна і ўдумліва.

— З-за чаго там такі смурод? — падышоў бліжэй Лешак.

— Пойдзем адгэтуль, — стаў угаворваць яго Янак.

— Чаго ты заладзіў? Пойдзем ды пойдзем. Жывых баяцца трэба, а не мёртвых.

І Лешак адкрыў дзверцу карэты, прадбачліва схаваўшы нос у рукаў кашулі.

— Ого! — радасна ўсклікнуў ён, знаходзячыся ўжо ўсярэдзіне. — Ды тут дабра, мабыць, — нябачана! Ты ўдзельнічаеш ці не?

— У чым я павінен удзельнічаць? З трупаў адзежу здымаць?

У адказ Лешак пагардліва чмыхнуў:

— Ты, Янак, таму і будзеш усё жыццё хадзіць у галадранцах, Бо, як я разумею, гэта будзе ад тваёй дрымучай дурасці і тупасці. Ідзі сюды, не бойся!

---

***Ірына Віктараўна Лявонава*** *нарадзілася 8 мая 1957 года ў горадзе Шчолкава (Расія). Скончыла Мінскі інстытут народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава і Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Працавала ў розных галінах народнай гаспадаркі.*

*Піша на рускай і беларускай мовах. Аўтар кнігі прозы «Тонский психолог» (2005), «Друзья из дома буквы "Г"» (2008), «Одаренные натуры» (2013).*

Паглядзі, колькі на гэтых панах усякага багацця начапляна. Ім яно ўжо не трэба, а нам ох як можа спатрэбіцца.

— Ды ўжо… — недаверліва працягнуў Янак.— Не, дзядзечка, вы як хочаце, а я пабег дахаты.

Малады чалавек рашуча заспяшаўся прэч ад смуроднай карэты.

— Ідзі, дурань, ідзі, ды глядзі, нікому не кажы, што ты тут бачыў, — злосна пракрычаў яму ўслед старэйшы таварыш.

Лешак ізноў залез углыб карэты.

У карэце на сядзеннях, абабітых тоўстым аксамітам, адзін насупраць другога сядзелі юная дзяўчына і старая, на мёртвым твары якой застыў страх. Тут жа на сядзенні, побач з дзяўчынай, ля акна, напаўляжаў тоўсты пан.

Лешак стараўся не глядзець на твары мёртвых, бо ў пажылога вочы былі прыадкрыты і здавалася, што нябожчык назірае за ім.

Так, занятак быў не з прыемных. Калі ўпрыгожванні з шыі здымаліся лёгка, то пярсцёнкі з распухлых чорных пальцаў зрываліся з цяжкасцю. Разам з імі цягнулася і сінюшная скура. Лешак ажно ўзмакрэў ад напружання.

Набраў ён шмат, а куды ўсё гэта пакласці?

Погляд яго спыніўся на дзяўчыне, плечы якой пакрываў шаль з зялёнага шоўку, вытканы залатым арнаментам. Стараючыся як мага акуратней, ён стаў здымаць покрыва з нябожчыцы, але, мабыць, усё ж незнарок закрануў тоўстага мерцвяка, які знаходзіўся ад яе непадалёк. Труп споўз з лавы і зваліўся ледзь не на ногі Лешаку.

Лешак з агідай адштурхнуў цела нагой.

«Глянь ты, падлюка, не сядзіцца на месцы. Фу, ну і поскудзь жа якая! А пры жыцці, напэўна, уяўляў з сябе няведама каго. Так яму, гаду, і трэба», — падумаў Лешак.

Склаўшы каштоўнасці ў шаль і завязаўшы яго вузлом, ён вылез з карэты.

Адбегшы на некалькі крокаў, пачаў прагна ўдыхаць чыстае паветра.

«Эх, як шкада, што нельга карэту прадаць. Заявішся з ёю ў вёску — пачнуцца роспыты. А горш яшчэ і даносы.

Матка Боская! А кашалі-то я не праверыў. Можа, у іх што каштоўнае ляжыць? Хоць багажу пры мёртвых няма. Напэўна, папрацавалі тыя, хто забраў коней?..»

Але разважанні Лешака нечакана перапыніліся: ён адчуў на сабе чыйсьці позірк. Агледзеўся па баках — нікога. Аднак Лешак быў амаль упэўнены, што побач з ім хтосьці ёсць. А тут яшчэ ўсё жывое ў лесе нібы заціхла. Нават кроны дрэў не шумелі звыкла, а нібы прыслухоўваліся да таго, што адбываецца навокал.

— Янак, гэты ты, лайдак, вярнуўся? — закрычаў Лешак.

— Ек, ек, ек…ся, ся, ся, — прагучала і заціхла рэха ў чорным гушчары.

«Што за д'ябальшчына такая? Нікога няма, а быццам нехта поруч знаходзіцца! А можа, вярнуліся тыя бандзюгі, якія коней забралі?»

Лешак не стаў чакаць пацвярджэння сваім здагадкам, а, як мага хутчэй заспяшаўся ў бок вёскі.

Увесь нядоўгі шлях да вёскі ён раз-пораз хрысціўся. На кожным кроку адчуваў на сабе нечы пагляд, адчуваў лёгкія крокі за спінай.

Але наяве нікога і нічога не было. Лешак чуў толькі сваё цяжкае дыханне і адчуваў, як ад страху на макушцы варушацца рэдкія валасы.

Нарэшце Лешак дабраўся да сваёй хаты, што стаяла на ўскраіне вёскі. Раней, калі яшчэ была жывая яго Магда, яна неаднойчы папракала мужа тым, што ім, заможным сялянам, належыць мець хату ў цэнтры вёскі, а то і наогул жыць асобнай сялібай, а не ціснуцца тут, на падворку.

Лешак згаджаўся з жонкай, але неяк усё рукі не даходзілі. Клопатаў чакалася шмат: і наконт зямлі, і наконт пабудовы. Час ліхі — то адно, то другое, а пенензы толькі давай.

А сёння Лешак быў вельмі рады, што яго хата прыціснулася да ўскрайку вёскі. Ніхто не бачыў, адкуль ён прыйшоў і з чым.

Хата была пабудавана з дыхтоўнага бруса і падзялялася на дзве палавіны. У першай знаходзіўся агмень, стол з лаўкамі, кашы з правізіяй і тры ложкі, дзе спаў ён і сыны. Каля агменю стаяў калаўрот, на якім у перапынках паміж малітвамі Дражына, яго малодшанькая, прала сукно.

Раней ён спаў у другой палове, але пасля смерці жонкі туды перайшла дачка. Нядобра дзеўцы спаць разам з хлопцамі.

Але яго хата была з хітрынкай. Мужыкі, будуючы яе, падвялі пад дах непамернай даўжыні лагі. Хтосьці з іх, было, наважыўся іх адпілаваць, залез наверх, але Лешак забараніў гэта рабіць. Яму ледзь не да слёз стала шкада патрачаных грошай.

Атрымалася даволі ўмяшчальнае гарышча. Сыны прасеклі ў столі адтуліну і зрабілі стромкую лесвіцу, па якой з хаты можна было залезці туды і, калі трэба было, лёгка здымалася. Ніхто з аднавяскоўцаў, бываючы ў хаце, нават не падазраваў, што ёсць такая лесвіца. Тады, калі будаваўся Лешак, усе ладзілі сваё жытло проста, без ніякіх выкрунтасаў. А Лешак завалок на гарышча куфар, прыставіў да глухога акенца стол, і стаў часцяком завітваць туды, а летнімі цёплымі начамі нават з задавальненнем спаў там. Добра ўсё ён гэта прыдумаў. У дубовым куфры пад цяжкай завалай захоўваў Лешак усё каштоўнае, таму доступ наверх дамачадцам быў строга забаронены.

Дзякуй богу, зараз у хаце нікога не было.

Ён хутка падцягнуў да лаза лесвіцу і ўзлез у сваё таемнае сховішча.

Падняўшы вечка куфра, Лешак паклаў на дно скрутак з упрыгожваннямі і накідаў зверху старой адзежы.

Затым ён стомлена прысеў на вечка куфра, абцёр далонню спацелы лоб, падумаў: «Вось і цудоўна! Усё шыта-крыта атрымалася. Значыць, мая задумка была правільнай. Галоўнае, каб Янак нікому нічога і не гаварыў».

Крыху перадыхнуўшы, Лешак злез з гарышча і, перахрысціўшы хату, заспяшаўся ў шынок.

## 2

Вёска Кажоўская здаўна належала доблеснаму рыцару Казіміру Кажоўскаму, адсюль і пайшла яе назва. Але як толькі шляхціц у лясах пад Смаленскам загінуў за магутнасць Вялікай Польшчы, калі правіў слаўны кароль Жыгімонт I Стары, дык неўзабаве Казіміравы ўладанні раздрабнілі на некалькі маёнткаў сваякі.

Аднак нядоўга яны цешыліся сваім набыткам, насталі неспакойныя і цяжкія часы, а шляхта павінна была служыць каралю. Многія за яго паклалі свае галовы, і вёска Кажоўская, як і іх краіна, перажыла не адзін перадзел, пераходзячы ад аднаго пана да другога.

Калі ж нарэшце сойм Люблінскай уніі[1] пастанавіў быць ім падданымі Рэчы Паспалітай і адносіцца да правінцыі — кароны Вялікапольскай, ад вялікіх зямельных угоддзяў доблеснага рыцара Казіміра нічога не засталося.

[1] Сойм Люблінскай уніі ў 1569 годзе, аб’яднаўшы Княства Літоўскае з Каралеўствам Польскім, устанавіў назву «Рэч Паспалітая». Саюз земляў быў падзелены на тры правінцыі — Вялікапольская, Малапольская і Літоўская.

Апошнім панам, які валодаў Кажоўскай, быў нейкі індыгенат[1] з французаў. Але таму вельмі не хацелася жыць у гэтых Богам забытых мясцінах, і, узяўшы ад кожнага халопа выкуп за ўсю сям'ю, ён пакаціў у прамяністую Францыю.

А можа, не толькі нуда па радзіме падштурхнула яго на гэта? Можа, хто намякнуў яму на тое, што хутка адбудуцца змены? І яны адбыліся. Менавіта ў той год шмат якія ўгоддзі тутэйшых паноў адышлі разам з сялянамі пад кіраўніцтва сойма, прычынай гэтаму стала тое, што ў Судэтах знайшлі шмат мінералаў і каштоўных камянёў. Па законе тыя, хто валодаў зямлёй, мелі права не толькі на яе паверхню, а і на яе нетры.

А калі б індыгенат своечасова не з'ехаў, магло б стацца так, што мясцовыя паны захацелі б зрабіць з чужаком ліхую справу. Кожнаму хацелася за свае землі атрымаць з каралеўскай казны пабольш кампенсацыі.

А ліхая справа — данос бы на яго напісалі ці, яшчэ горш, падлавілі б у цёмны час дзе-небудзь у гарах, згінуў бы ён у невядомасці. А згінуў — то вельмі хутка аб'явілася б нямала розных спадчыннікаў, якія прэтэндавалі б на багатыя ўгоддзі індыгената.

Заўсёды знаходзяцца ахвочыя да чужога.

«Хітры аказаўся французік, своечасова разабраўся, што і да чаго. Злупіў з нас тры шкуры і знік, быццам і не было яго. А так, глядзі, і без портак застаўся б», — не то з зайздрасцю, не то з захапленнем думалі пра свайго былога гаспадара сяляне, забыўшыся, што, дзякуючы яму яны сталі вольнымі, а не трапілі ў кабалу да новага шляхціца.

Хутка ж яны забыліся, як валадары перапрадавалі іх, а то і проста дарылі па адным ці з сям'ёй.

Але няўдзячны народ жыў у тыя часы. Дый зайздросны да чужога дабра вельмі быў…

А яшчэ француз дазволіў яўрэю Абраму Домнічу пасяліцца ў маленькай хацінцы на ўскрайку вёскі. Той прыйшоў у вёску адзін, без сям'і, і ўжо год, як нікога так і не прыводзіў у хату.

Быў ён ветлівы з аднавяскоўцамі, усмешлівы. Але ў гутарцы на чалавека вочы стараўся не паднімаць, і, хоць ягоная худая постаць заўсёды была гатовая схіліцца ў паклоне, назваць яго ліслівым нельга было. Сяляне адносіліся да яўрэя, калі можна так сказаць, ніяк і трымаліся з імі насцярожана. Ён не выклікаў у іх ніякіх пачуццяў.

Доўгія гады трэба пражыць у вёсцы, каб цябе перасталі ўспрымаць чужынцам. А тут мала таго што прышлы, дык яшчэ і іншай веры. У капліцу не ходзіць, і дзе Абрам моліцца свайму Богу, невядома.

Аднак Абрам нікому нічога благога не рабіў. Наадварот, рабіў дабро людзям: каму абутак паправіць, каму на палі дапаможа, ці яшчэ што-небудзь...

Але залатая пара для Абрама надышла ў тую часіну, калі Лешак вырашыў непадалёку ад вёскі, ля ажыўленага шляху на Прагу, адкрыць невялікі шынок.

Нядаўна Лешака Круціцкага прызначылі шляхецкім судом ваяводства старастам у Кажоўскай, і зараз ён мог шмат што сабе дазволіць.

Ніхто б не здзівіўся, калі б праз нейкі час іх Лешака сталі б зваць няйначай, як панам...

Староста Кажоўскай лічыўся ў акрузе хітрым і пранырлівым чалавекам, але лянівым. Любіў добра паесці, пасля падрамаць. З гадамі яго постаць

---

[1] Індыгенат — прывілея ў былой Польшчы, па якой замежнік мог карыстацца тымі ж правамі і прывілеямі, як і прыроджаныя польскія дваране.

абрасла тлушчыкам, хада стала паважнай. Сам ён рабіць не хацеў. Таму запрасіў да сябе на дапамогу ў шынок «Пузатая стронга» прышлага чалавека.

Абрам вельмі ўзрадаваўся такой прапанове.

На здзіўленне Лешака, Домніч з веданнем справы ўзяўся гаспадарыць у «Пузатай стронзе», а гаспадару заставалася толькі з задавальненнем падлічваць выручку і жмурыць свае маленькія карыя вочкі ў прадчуванні яшчэ большых барышоў...

Усё добра, толькі адно дрэнна: Лешака дзецьмі Бог пакрыўдзіў! Незадаволены быў ён імі. Нікчэмнымі людзьмі аказаліся яны ў гаспадарцы.

Пагодкі Пётр і Андрэ ўрадзіліся на рэдкасць тупагаловымі і непаваротлівымі ў вясковай справе, а дачка Дражына — дык тут наогул гутарка асобная.

Стары Круціцкі, як сапраўдны каталік, шанаваў Бога, але не так апантана, як яго дачушка!

Тая ж марыць прысвяціць сябе служэнню Усявышняму! Кожную нядзелю яна ходзіць у святое месца Вамбежыцэ. Ходзіць, каб там падняцца на каленях на ўзгорак, праціраючы пры гэтым панчохі, па сарака дзевяці прыступках пакаяння. Навошта Богу такія ахвяры?

«Цьфу! Дурніца, — думаў бацька. — Ад сытасці розная брыдота лезе ў галаву. Не, трэба яе аддаць замуж за Янака. Хай справай зоймуцца — дзяцей здаровых нараджаюць, будуць памагаць па гаспадарцы. Для гэтага бабскае прызначэнне на зямлі, а да Бога звярнуцца ёсць каму і без маёй таўсташчокай. А Янак — кемны хлопец. Што ні даручыш — усё зробіць».

Янак Круціцкі гадаваўся сіратой. Ягоная нябожчыца-маці даводзілася Лешаку стрыечнай сястрой, гэта і ратавала яго ад голаду і ад іншых бед. Дзядзька, калі абодва бацькі памерлі, прыгрэў яго. Ну, вядома, больш з-за прыбытку, чым з жалю. І, трэба сказаць, дальнабачным аказаўся Круціцкі. Янак вырас добрым хлопцам — цягавітым і працавітым. На яго добрасардэчны сваяк і ўсклаў усю цяжкую працу па гаспадарцы.

## 3

Уладальнік «Пузатай стронгі» як нельга своечасова паказаўся ў шынку. Вечарэла, і там за груба пазбіванымі сталамі ўжо сядзелі як свае сяляне, так і прышлыя. А сёння ў шынку было асабліва людна. Усе з нецярпеннем чакалі расказ бывалага чалавека. У родных мясцінах аб'явіўся не хто іншы, як сам нашчадак заснавальніка іх вёскі.

Станіслаў Кажоўскі быў сапраўдным салдатам. Ён даводзіўся далёкім родзічам ганарліваму і доблеснаму рыцару Казіміру. Пра гэта сведчылі яго вялікі «высакародны» нос і высокія дугападобныя чорныя бровы над светла-шэрымі вачыма. У яго жылах бурліла кроў бясстрашных продкаў, таму ў наваколлях вёскі і на руінах замка пана Кажоўскага бачылі рэдка. Толькі ў тых выпадках, калі шлях каралеўскага войска пралягаў па родных мясцінах: тыя ішлі або заваёўваць каго-небудзь, або наадварот, з ганьбай ці без ганьбы ўцякалі ад праціўніка, ці проста адыходзілі, калі той пераўзыходзіў іх сіламі.

— Я цяпер з Белай Русі іду, там, панове, страшныя справы адбываюцца. Ідзе на нас маскоўскі цар Пётр, ідзе не толькі каб паліць нашай крывёю зямлю вялікай Рэчы Паспалітай, але яшчэ і паглуміцца над нашай верай. Так… Сам я не быў і не магу дакладна сказаць, праўда гэта ці не, але бывалыя людзі за добрай чаркай шмат страшнага расказвалі. У Віцебску гэты іншаверац загадаў знішчыць абраз святога Іасафата Кунцэвіча (усе прысутныя адначасова ахнулі і сталі хрысціцца), у Полацку ён так блюзніў над прычасцем у саборы святой

Сафіі, што лаяў і забіваў манахаў. А аднаго базіляніна цар стукнуў па твары і паваліў на зямлю за тое, што той назваў забойцаў святога Іасафата бязбожнымі схізматыкамі, а пасля біў яго кіем па галаве, адрэзаў яму шабляй нос і вушы і, нарэшце, загадаў вынесці з царквы і павесіць, другому ж адсек шабляй галаву.

— Вы, пан, напэўна, прыдумваеце крыху, — нечакана падаў голас Адам, уладальнік лесапілкі і таварыш Лешака, — бо яны з нашым каралём Аўгустам браты нарачоныя.

— А што мне вам хлусіць, панове? Я сюды не затым ішоў, каб вам толькі вясёлыя байкі казаць. Страшны час будзе. Ад татараў якую пошасць нядаўна перажылі, а зірні — шведы заварушыліся, ды маскалі заўсёды свайго не выпусцяць.

У шынку павісла панурая цішыня.

Чуваць было, як за сценамі вецер стукае аканіцамі, варушыць саламяны дах.

— Не гэта страшна. Іншая бяда ідзе, ад якой не будзе выратавання ні царам, ні парабкам.

Голас гэты належаў Абраму Домнічу, які ў вячэрні час заўсёды знаходзіўся за стойкай, абслугоўваў наведвальнікаў.

«Увесь час маўчыць, а зараз яго панесла, — незадаволена падумаў уладальнік «Пузатай стронгі». — Кожны павінен ведаць сваё месца ў жыцці».

Работнік, заўважыўшы незадаволены выраз на твары Лешака, спалохана залыпаў чорнымі вейкамі і пачырванеў.

— Чаго замоўк? — зашумелі аднавяскоўцы.

Той глядзеў на старасту.

— Чаго ўтаропіўся? Даказвай сваю навіну. Сказаў «А» — кажы «Б», — міласціва дазволіў апошні.

— Я, яснавяльможнае панства, ні ў якім разе не хачу нікога пакрыўдзіць і, можа так стацца, што і дарэмшчыну ўзвесці. Аднак нядаўна адзін каваль, які дазволіў сабе ў нас папалуднаваць, расказаў, што мор рухаецца да нашых месцаў. Чалавек той, ён з Розенберга ішоў, казаў: «Хто мог, адтуль ужо ўцёк», — скорагаворкай мовіў Домніч.

— Цьфу ты, — сплюнуў стараста, — я думаў, што і сапраўды вайна ўжо на парозе, а ты пра мор! Дык на гэтай Нямеччыне, колькі я сябе памятаю, то адно, то другое здараецца. Любяць там варажыць над людзьмі. Ты лепш паменш слухай, што кажуць. Не паспееш і рот адкрыць, як госці толькі і імкнуцца змыцца, не заплаціўшы. Ды яшчэ і які чужы грош прыхапіць.

— Паважаныя панове,— спахапіўся ён, — я толькі прышлых меў на ўвазе, — хітры Лешак прыклаў руку да грудзей.

Абрам так нізка апусціў галаву, што стала бачна яго нязменная жоўтая шапка на патыліцы.

— Дарма ты так, Лешак, — упікнуў Адам Скшынецкі. — Вось мне надоечы мой работнік Кастусь Войтэк такое расказаў, што я яму не паверыў, а сёння ранкам давялося пераканацца ў тым, што ён мае рацыю.

— Дык ты раскажы, бо я, як адказная асоба, павінен усё ведаць, што ў нас тут адбываецца.

На яго словы ўладальнік лесапільні ўсміхнуўся.

— Будзь добры, Адам, не цягні, раскажы, што ты там чуў, — прагучалі з усіх бакоў цікаўныя воклічы.

— Два дні назад пасылаў яго ў суседнюю вёску па заказ. Там у аднаго селяніна дачка замуж выходзіць, дык яму куфар спатрэбіўся для пасагу. Гэта хоць і не мая справа, але вельмі мне падабаецца з дрэвам працаваць. Глядзіш,

а з цеплыні яго сучка то фігурка нейкага дзіўнага звера пакажацца, а то вінаградная лаза. І ўсё само па сабе адбываецца…

— Казачнік, — буркнуў Лешак, — заўсёды ўсё мудрагеліста гнеш.

— Як умею, так і расказваю, — агрызнуўся той. — Ну вось прыходзіць Кастусь туды апоўдні, а там па ўсёй вёсцы выццё ды гоман чутны. Ён — да аднаго: «Што такое»? А мужык і расказаў. Маўляў, сядзела маладая жанчынка на ганку, немаўля, значыць, грудзьмі карміла. А тут ці то яе ў хату паклікалі, ці яшчэ чаго, ну, паклала яна немаўля на ганак, а сама ў хату падалася. Кажа, зусім нядоўга не было яе, а як вярнулася, немаўляці на ганку і няма. Яна туды, яна сюды. Няма, як у ваду канула. На крык яе збеглася ўся вёска, а адно хлапчанё і расказала, што бачыла, як велізарны сабака нейкі скрутак у лес цягнууў. Здаравенны гэткі, і вочы яго крывёй зіхацелі. А іх мясцовы стараста і кажа, што звер гэты, хутчэй, на ваўка падобны, а калі ваўкі смела ў сяло заходзяць — быць бядзе. Не баяцца яны людзей. За мерцвякоў іх ужо лічаць. Заўсёды так бывае, калі вайне быць ці мору.

Стараста злавіў на сабе позірк Янака.

— Глупства ўсё гэта! Баба сама з неймаўлём нешта зрабіла, а зараз выдумкай хоча свой грэх прыкрыць, — паспрабаваў развеяць страхі прысутных гаспадар «Пузатай стронгі».

— А навошта Кастусю брахаць? — загаманілі наўкола.

— Хочаце — верце ў небыліцы. Мне дык што, — паціснуў плячамі Лешак і павабіў пальцам Янака, паказваючы таму вачамі на дзверы.

Яны выйшлі на двор.

— Ты чаго на мяне зіркаеш? — напаў ён на хлопца.

— Боязна стала, калі Адам пра мор загаварыў? Тыя мерцвякі ў лесе ад хваробы памерлі. Ран на іх няма! А раптам мы мор у вёску занеслі?

— Цыц!.. — Круціцкі азірнуўся па баках. — Чаго ты мелеш? Каб, крый божа, хто-небудзь іншы пра гэта не чуў! Каб ні гу-гу?! Глядзі ў мяне. Ураз на чужыя хлябы пойдзеш. На вось, вазьмі, — і ён сунуў у руку Янаку брошку з сініх камянёў,— падары якой-небудзь паненцы. Ды скажы, што на кірмашы купіў. Дзеўкі ўсё адно ў каштоўнасцях нічога не кемяць, ім галоўнае, каб блішчала. А то хочаш — прадай, пастаў сабе добрую хацінку і жаніся. Нічога, хлопец, не бойся. Будзеш мяне слухацца — чалавекам зраблю. Ды яшчэ зарубі сабе на носе: пакуль у ваколіцы стаіць святы слуп, нас ахоўвае дух Святой Панны Марыі — ніякая бяда нам не страшная. Усё адштурхне ад нас яе заступніцтва.

Ён паляпаў юнака па плячы.

## 4

Хараство распасціралася наўкола! Горы, цалкам пакрытыя густымі лясамі і квяцістымі хмызнякамі, каралямі атачалі палі і сенажаці, якія прылягаюць да вёскі Кажоўская, дзе сярод буйной зяляніны раптам мільгане руды хвост пранырлівай лісіцы ці пачуецца бляянне муфлана[1]. Празрыстыя воды шматлікіх малых рэк напоўніліся горнай стронгай. Удалечыні, паміж самымі стромкімі вяршынямі, калонамі бялелі акведукі. Яны калісьці аблягчалі шлях рымскім легіянерам, а зараз дапамагалі мясцовым жыхарам зручней перабірацца з адной гары на другую. Праўда, калі забярэшся на мост і пойдзеш па ім, галава кружыцца ад вышыні, і думаеш — які люд майстравы быў раней.

[1] Муфлан — каменны баран (буйнейшы за хатняга) з закручанымі вялікімі рагамі.

А цяпер? Узводзілі, узводзілі паны крэпасці, якія палохалі сваім выглядам, і каменныя масты, ды ўжо ад многіх адны горы друзу засталіся, а іншыя наводзяць страх уначы на вандроўнікаў сваімі развалінамі.

Янак накіраваўся да хаты гаспадара лесапільні. Сцяжынка, па якой ён ішоў, цягнулася ўздоўж рачулкі Крушынка. Сярод спеваў цыкад чулася, што дзесьці, на паверхні, не-не ды і плюхне вадой рыбіна, ствараючы на ёй серабрыстую рабізну.

Пахла ядлоўцам і кветкамі. Якімі? Янак не ведаў. Ён наогул не разбіраўся ў кветках. Ды і ў дрэвах не асабліва разбіраўся. Ну, вядома, адрозніць дуб ад елкі ці ад бука, а да астатніх яму і справы няма.

Гэта яго Антаніна ведае ўсё пра кветкі і пра дрэвы. Прыгажэйшай за яе Янак у жыцці не бачыў дзяўчыны.

Прыгажуня Антаніна і сама была падобная на кветку. З сінімі валошкавымі вачыма на ясным твары, з доўгімі русымі валасамі, якія пахнуць духмянымі лілеямі, што хвалістай пенай ахутвалі яе стройную постаць, і голасам, як у аксамітак, далікатным і чароўным.

«Ці мая толькі?» — пры гэтай думцы Янак уздыхнуў. Дачку гаспадара лесапілкі наўрад ці аддадуць за беднага хлопца.

Юнак выйшаў з лесу і напрамкі накіраваўся да хаты, насупраць якой узвышалася гара бярвення.

Мабыць, прыязджаў заказчык і, не заспеўшы гаспадара хаты, сам вырашыў, дзе спадручней скінуць цяжкі груз.

На двары забрахаў сабака.

— Ну што ты, Валет, брэшаш? Колькі я табе прынадных кавалкаў ні прыношу, усё адно перад гаспадарамі выслужваешся.

Сабака, пачуўшы голас Янака, замоўк і міралюбна заскавытаў.

Хлопец пагладзіў яго па карку і са здзіўленнем заўважыў, што ў хаце цёмна.

«Няўжо ў такую рань спаць ляглі?» — з засмучэннем падумаў юнак.

Зарыпелі завесы, і дзверы прыадчыніліся. У невялікі праём вызірнуў незадаволены твар пані Ядвігі, маці Антаніны.

— Янак, гэта ты тут па начах швэндаешся?

— Добры вечар, пані Ядвіга, — пакланіўся Янак жанчыне.

— Добры дык добры, толькі Антаніну я дзеля цябе будзіць не стану. Нам заўтра чуць свет уставаць. Ідзі. Глядзі, дацямна і вернешся дамоў.

І добрая жанчына зачыніла дзверы.

Янак яшчэ некалькі хвілін пабавіўся з сабакам і, уздыхнуўшы, адправіўся назад у бок шынка.

## 5

Ён адважна ступіў у чарналессе. Чаго было баяцца? Яму, хто з маленства тут усё аблазіў і абхадзіў.

Аднак юнаку ўвесь дзень чамусьці трывожна было на душы. А тут яшчэ, хоць быў цёплы летні вечар, неяк хутка сцямнела і нечакана пахаладала, і Янак падумаў, што дзень сёння нейкі з раніцы цудоўны.

Раптам ён адчуў, як лёгкі подых ветрыку крануў валасы, нібы за спінай хтосьці прабег. Ці не мядзведзь? У іх краях іх процьма. Пячор ды розных хадоў, дзе звярыне можна схавацца ад паляўнічых, ды прыплод свой без боязі гадаваць, у Судах хапае.

Янак азірнуўся — нікога.

Шчыльнай сцяной стаялі стройныя дубы, светлыя ствалы якіх абвіваў нястомны зялёны плюшч.

Дзесьці ў глыбіні цемры вухнула сава, і зноў ні шоргату, нават гаманкія цыкады ўсе як адна маўчалі, стаіўшыся ў высокай траве. Янаку стала боязна.

Ён падняў галаву і паглядзеў на неба.

Амаль кранаючыся верхавін дрэў, хутка-хутка ляцелі чорна-ліловыя аблокі. Месяц — сонца мёртвых, заўсёды серабрыста-халаднаваты, гарэў агністым барвовым святлом.

Янак перахрысціўся і што было сілы панёсся па сцяжынцы, адчуваючы кожнай клетачкай цела, што побач з ім хтосьці бяжыць: чулася патрэскванне сухіх галінак пад цяжарам невядомага спадарожніка.

Краем вока Янак бачыў, што штосьці вялікае і цёмнае лунала над зямлёй, ці то чалавек, ці то велізарная пачвара, ці то дзіўны белы вершнік на белым скакуне. І раптам два зіготкія чырвоныя агні ўпіліся сваім паглядам Янаку ў вочы і яшчэ ледзь-ледзь — і страх паралізаваў бы ягонае цела, такая гіпнатычная злосць палала ў іх!

Янак яшчэ ў дзяцінстве перажыў шмат жудасці і новыя нягоды, вядома, яму былі непатрэбны, ён кінуўся прэч, што было сілы пабег яшчэ хутчэй.

— Ды адкуль цябе нячысцік нясе? — невядома, колькі ён прабег і колькі б яшчэ бег, каб не наляцеў на чыюсьці постаць і каб яго не спыніў грозны мужчынскі вокрык.

Янак страпянуўся, перад ім стаяў Адам Скшынецкі.

Цяжка дыхаючы, хлопец ледзьве выгаварыў:

— З вашага хутара, дзядзька Адам.

— Ого, мабыць гэтак цябе мая непараўнальная пані Ядвіга напалохала? — засмяяўся Антанінін бацька.

Мужчына ўважліва глядзеў на хлопца. Вочы ў Скшынецкага былі такога ж валошкавага колеру, як і ў яго дачкі. Вось толькі ў адрозненне ад Антаніпіных, у яго вачах выпраменьваліся іскрынкі мяккага святла, а не халодныя ільдзінкі. І ад Адамавай цеплыні Янак неяк ураз супакоіўся.

— Ды што вы, дзядзька Адам, скажаце яшчэ, — паціснуў ён плячамі. — У лесе за мной нейкая д’ябальшчына гналася.

— Кепска для вясковага хлопца быць такім недаверлівым. Якая яшчэ нечысць у нашым лесе можа з’явіцца?

— Дык вы самі кагадзе казалі, што ваўкі па вёсках шныраць, — апраўдваўся хлопец.

— Ну, думаю, што ўлетку на здаровага мужыка ваўкі наўрад ці будуць нападаць. — Ён крыху памаўчаў і дадаў: — Я, праўда, таксама цяпер ад страху ледзь Богу душу не аддаў, — усміхнуўся Скшынецкі. — Іду я сабе паціху, іду і раптам чую, як хтосьці праз гушчар ломіцца. Узяў я ў рукі здаровы дрын і чакаю. Ну, думаю... А тут, глянь, выходзіць да мяне маладая жанчына: кашуля на ёй падраная, рукі і ногі ў ранках, а вочы гараць вар’яцкім агнём — ну проста здань! Стаю акамянелы, рукі не слухаюцца, а яна ў мяне і пытае:

— Пан, сыночка майго нідзе ні сустракалі?

Я тут і сцяміў, што гэта тая самая небарака, у якой хлапца выкралі. Голас у яе асіплы, скрычалася, бедалага, зусім. Так што, глядзі, можа, сустрэнецца на шляху, дык ты яе абыдзі бокам, а то спужаецца цябе, як ты некага, яна і так, небарака, напакутавалася.

— Добра, дзядзька Адам, абыду, — паабяцаў Янак.

— Але вось яшчэ што я табе хацеў сказаць, Янак. Не хадзі ты да нас болей. Я сам дык нічога супраць цябе не маю, але мая гаспадыня вырашыла,

што ты нашай Антаніне не пара: дзеўка павінна замуж пайсці хоць за самага занядбалага, але за шляхціца. Самой ёй не атрымалася ў фальварак патрапіць, то яна зараз спіць і бачыць, каб Антаніна ў панях пахадзіла. Малодшанькую Марыю таксама на гэта настройвае. Жонка мая, баба нязносная, а супраць таго, што яна кажа не папрэш. Багацце павінна ісці да багацця.

Гаспадар лесапільні ўсміхнуўся, паляпаў пляменніка Круціцкага па плячы.

Янаку б, як кажуць, праглынуць крыўду і пайсці сваёй дарогай, а ён не змог, усхадзіўся.

— А не ведаеце, дзядзька Адам, што я таксама багацей, ды яшчэ які?! Захачу, дык яшчэ і большым стану!

Сказаў — потым падумаў, калі адрачэшся ад сваіх слоў — паважаць сябе перастанеш!

— Вось бярыце! — ён рашуча уклаў у Адамаву далонь брошку, якую атрымаў надоечы. — Перадайце Антаніне ад мяне падарунак.

Адам глянуў на брошку, сапфір іскрыўся агеньчыкамі.

— Дзе ты ўзяў прыгажосць такую? — здзівіўся бацька дзяўчыны, падносячы брошку да вачэй.

— Даўно, яшчэ калі ў Торунь на кірмаш з дзядзькам ездзіў, у аднаго немца і купіў. Ну, бывайце, дзядзька Адам, — сказаў Янак, і, расправіўшы пояс на саматканай кашулі, пайшоў, вельмі задаволены сабой і забыўшыся на страхі, ад якіх яшчэ нядаўна ўцякаў што было сілы.

А Адам Скшынецкі глядзеў яму ўслед і незадаволена хмурыў бровы: «Цямніць штосьці хлопец, цямніць..»

## 6

У гэта ж час Лешак Круціцкі прыйшоў дамоў. Не марудзячы, ён адразу ж прыставіў лесвіцу і падняўся на гарышча.

Час набліжаўся бліжэй да поўначы, а ў хаце было светла, як на вячэрняй зорцы.

«Можа, пажар дзесьці?» — падумаў Лешак, падышоў да акна і ахнуў.

Крывава-барвовы месяц палаў на чорным небе.

«Езус Марыя! Што гэта за д’ябальшчына такая! Ніколі такой жудасці не бачыў», — перахрысціўся Лешак.

Ён прыслухаўся, і ў хаце, і на вуліцы не чулася ні гуку.

Затым Лешак узяў свечку, якая ляжала на стале, што стаяў пры куфры, запаліў яе. Падышоў да грувасткага куфра і, адкінуўшы цяжкае дубовае вечка, нагнуўся… і жах: скрутка на дне куфра не было!

«Божа, Божа! Якая гніда тут корпалася?! Заб’ю, калі даведаюся!»

Да горла падступіў даўкі камяк, цела абмякла.

На дне куфра ляжалі яго і Магдзіны вясельныя ўборы, некалькі адрэзаў даматканай тканіны, кашэль з сотняй злотых і яшчэ шмат іншых важных і не вельмі важных рэчаў — адным словам, хлам у параўнанні з тым, што страціў.

«Усё знікла, усё знікла…»

Стараста вёскі Кажоўская, седзячы на краю куфра, ледзь не плакаў.

Раптам зарыпелі прыступкі, і ў лазе паказаўся заспаны твар Дражыны.

— Бацька, вы чаго енчыце? Усіх сабак перапудзіце сваім выццём!

— Сыдзі прэч з маіх вачэй. Ты, тля, будзеш яшчэ бацьку ўказваць? — сказаў Лешак і абамлеў.

На плячах дачушкі красаваўся той самы шаль, у якім ён прынёс скарбы. Дзяўчына і брывом не павяла. Яна ўжо стаяла каля куфра.

— Калі вы з-за каменьчыкаў плачаце, то дарма турбуецеся: я, пасля таго як яны з шаля пасыпаліся, іх у маміну скрыначку паклала.

Дражына хацела залезці на гарашча, але бацька спыніў яе грозным вокрыкам:

— Не лезь, вылюдак! Я сам.

Так, у куце знаходзілася драўляная разьбяная скрыначка — жончын пасаг.

Лешак ізноў нагнуўся ў куфар, знайшоў там скрыначку, сапучы ўзняў яе.

— Бацька, з-за чаго вы так сярдуеце? Гэта ж вы пакінулі лаз адкрытым. Я, грэшная, падумала, ці не ліхія людзі да нас завіталі.

Лешак недаверліва паглядзеў на дачку.

— Хлусіш ты ўсё. Табе ж у куфры штосьці спатрэбілася, калі ў ім корпалася?

— Хацела трохі тканіны на споднiцу ўзяць. Мая зусім знасілася, а гляджу, вы тут такую прыгажосць схавалі. Я не вытрымала і ўзяла. Я…

— Добра, добра, ідзі адсюль, клапатліўка ты наша. Але, калі дзе пікнеш пра тое, што ў куфры бачыла, прыб’ю!

— Я не дурніца — усё разумею. А шаль можна пакінуць?

Дзяўчына запытальна глядзела на бацьку. Зялёны шоўк мякка пераліваўся і, здаецца, на ім адлюстравалася глыбіня яе светлых вачэй.

— Добра ўжо. Толькі ўсім кажы, што я табе яго купіў яшчэ даўно на кірмашы. Запомні — даўно!

— Ды зразумела. Не бурчыце.

Дражына спусцілася ўніз.

Хітрай урадзілася дачка Лешака Крушніцкага — вялікага чалавека на сяле.

Лешак, застаўшыся адзін, пачаў даставаць з куфра і выкладваць на стол каштоўнасці. Пры святле свечкі яны пераліваліся трапяткімі, рознакаляровымі агеньчыкамі. Любуючыся на яркія ўспышкі дыяментаў, зялёную прахалоду смарагдаў, крывавыя водбліскі рубінаў і магічныя агеньчыкі сініх сапфіраў, Лешак адчуваў, як душу напаўняе замілаванне. І разам з тым чароўная прыгажосць, што зыходзіла ад ззяння каменьчыкаў, палохала.

Ён уздыхнуў.

Зараз трэба было думаць, як непрыкметна для іншых пакрысе замяніць скарбы з каменьчыкаў на іншыя скарбы — грошы.

Да мясцовых мянял соваццa нельга, прыйдзецца ехаць у Вроцлаў. Шмат злотых можна будзе атрымаць за каменьчыкі... Тады Лешак пабудуе вялікі палац і возьме ў жонкі прыгажуню Антаніну. Не ўсё жыццё яму хадзіць удаўцом!

А Дражына хай ідзе ў манастыр. І сыны хай робяць, што хочуць. Не падабаецца на зямлі гарбець — хай у жаўнеры падаюцца. А яму, Лешаку, кароль за гэта яшчэ і грошай заплаціць. Крушніцкі так разважаў, седзячы ля скарбу, а душа яго поўнілася прадчуваннем шчасця.

Пракрычаў певень.

— Ого, як я забавіўся, — спахапіўся Лешак. — Ужо раніца хутка, спраў процьма, а я тут як разамлеў.

Лешак паклаў сяннік на куфар і лёг, атуліўшыся, як звычайна, дзяружкай. Ляжаў ён нядоўга, праз нейкі час давялося ўстаць, каб узяць бравэрку, незразумела з-за чаго нейкі калючы халадок працяў усё цела, яно ныла.

«Перанерваваўся, здаецца, я сёння», — падумаў ён і нарэшце, сагрэўшыся, заснуў.

## 7

Кажоўскую залівала сонцам.

Усе хаты размяшчаліся кругамі ад цэнтра сяла, дзе на пляцы майстравыя людзі збудавалі драўляны памост.

На ім праходзілі ўсе знакавыя падзеі ў жыцці вяскоўцаў: гулянкі, вяселлі, набор у каралеўскае войска…

Большасць сцен хат мела белы колер, але на некаторых красаваліся дзіўныя кветкі і птушкі.

Малявала бабка Хрысціна, мясцовая лекарка. Яна наогул любіла прыносіць людзям радасць у жыцці: была павітухай, лячыла малых і дарослых, а да ўсяго іншага і добра малявала.

Талент да малявання ў яе адкрыўся змалку, але ні маці, ні бацька — Кастусь Войцэк — не заахвочвалі такое дзівацтва дачкі. Пазней змірыліся: дзяўчынка ад нараджэння была кульгавенькая і працаваць у полі, як усе, не магла, дый па гаспадарцы, у хаце на яе не вельмі можна было разлічваць. Калі Хрысціна паднімала цяжкі чыгунок з бульбай ці балею з вадой, на яе балюча было глядзець: яна перакошвалася. Праўда, за калаўротам ёй не было роўных, але ж авечак круглы год не стрыгуць.

Неяк Хрысціна прыстала да бацькі:

— Купі мне фарбаў, ну купі, хоць крышачаку.

Бацька нахмурыўся, але за ўнучку заступілася тады яшчэ жывая маці Кастуся.

— Купі, сынок, тое, чаго цябе дачка просіць. Грошы гэта каштуе невялікія, а глядзі, можа, нейкі толк з такой пусцяковіны і атрымаецца.

І сапраўды, калі Хрысціна размалявала белыя сцены хаты ўсякімі дзівацтвамі, то многія малодкі таксама захацелі падхарашыць і свае: хто сенцы, а нехта сцены не толькі знадворку, але і ўнутры. А за гэта плацілі малаком ці воўнай, а часам і невялікай, але манеткай.

А да мастацтва малявання бабуля паволі перадала ёй і ўменне лячыць. Дзе якую траўку знайсці, калі і які адвар зварыць, каб хвораму дапамагчы.

І Хрысціна стала вельмі патрэбным чалавекам для вяскоўцаў.

З-за таго, што была яна Богам пакрыўджана, замуж яе ніхто не ўзяў, а Хрысціна як з ранніх гадоў хустку накінула на галаву, так пад ёй і схавала свае залатыя валасы і яшчэ больш прыцьміла карыя вочы. Хто назваў яе ўпершыню бабкай Хрысцінай, можа, дзіця якое неразумнае, а можа, нейкая злая суседка. Невядома. Але, як бы там ні было, прыстала да яе мянушка, і сталі клікаць Хрысціну бабкай, хоць гадкоў ёй было ўсяго трыццаць.

Хрысця шкадавала людзей, але ставілася да іх з насцярогай. Добрым быць проста, калі ўсё добра… А калі што не так?

Вось надоечы памерла ў суседнім сяле маленькая дзяўчынка. Шаптуха вельмі старалася выратаваць бялявага анёлачка. Але ні адвары, ні малітвы не дапамаглі. Тады маці памерлай стала лямантаваць на ўсё сяло, што Хрысціна — ведзьма, што яна знарок дзіця недагледзела, каб чыстай душой сатану ўлагодзіць.

Ледзь супакоілі маці дзяўчынкі, а яе бацька нават прабачэння прасіў, але кепскія словы, напэўна, у некаторых галовах затрымаліся...

— Гэй, пра што тужыш, бабка Хрысця? — пачула яна побач звонкі дзявочы голас.

Ля агароджы стаяла Антаніна Скшынецкая.

Каторы раз залюбавалася шаптуха постаццю маладой дзяўчыны, а тая глядзела на яе вачамі, якія смяяліся, і пакусвала пунсовымі вуснамі белы кончык сарванай травінкі.

— Ты чаго ў такую рань прыбегла? — ласкава спытала яна прыгажуню.

Антаніна агледзелася па баках. Вяскоўцаў на вуліцы не было відаць.

— Давай прысядзем дзе-небудзь у кутку, каб ніхто не прыкмеціў.

— Лаўка на заднім двары ёсць, — прапанавала бабка Хрысціна.

— Добра, — узрадавалася дзяўчына.

Яны прайшлі ў двор.

Антаніна доўга ўсаджвалася: усё папраўляла доўгую паласатую спадніцу. Нарэшце яна супакоілася.

— Ты ж ведаеш, што ніхто з бацькоў дзеўку ў хаце доўга трымаць не будзе?

Хрысціна кіўнула галавой.

— Вось і мае вырашылі замуж мяне выдаць.

— Няўжо пан які аб'явіўся? — пацікавілася шаптуха.

Антаніна паморшчылася.

— Ды пакінь ты — пан… Гэта мая матухна спіць і бачыць, каб мяне за высакароднага выдаць. З яе марамі мне прамая дарога ў манастыр. Не, бацька мне іншае падрыхтаваў. Хоча мяне аддаць нашаму старасту.

— Ды ты што, быць такога не можа! — пляснула рукамі старая.

— Можа, можа.

Дзяўчына падсунулася да яе бліжэй і амаль зашаптала на вуха:

— Ствары мне адваротнага зелля для Лешака і Янака.

— А гэты цябе чым пакрыўдзіў? Хлопец ён відны і, здаецца, добры, не ў роднага дзядзьку пайшоў.

— Дурань ён, а ад дурняў адны нязручнасці. Падарыў кагадзе бацьку брошку нябачанай прыгажосці, а той вырашыў, што калі Круціцкі такімі рэчамі з работнікам разлічваецца, дык, уяўляеш, што ў яго ў засеках прыхавана? Таму і пабег зранку да яго змаўляцца з нагоды мяне. Я ялейныя пагляды Лешака даўно на сабе заўважаю. Бацька — да яго, а я — да цябе.

Бабка Хрысціна задумалася.

— А як жа ты, дзеўчынка, яму адварот дасі? У шынок нам ніяк не выпадае ісці.

— Ты ўжо зрабі, а я прыдумаю, як яго, гада, апаіць! Ды хоць да Дражыны ў госці напрашуся, калі там яе бацька будзе. Чаі распіваць з ім будзем, ды яшчэ і з пернікамі, — зло ўсміхнулася Антаніна. — Дык зробіш?

— Дапамагу табе, прыгажуня, як не дапамагчы. Толькі зёлкі гэтыя не зараз робяцца. Трэба табе заўтра па вячэрняй зорцы прыйсці.

Дзяўчына з удзячнасцю прыклала рукі да грудзей.

— Век тваё дабро не забуду. Толькі, ведаеш, прыйду я не заўтра, а паслязаўтра зранку. Гэта нічога?

— Нічога, — паціснула плячамі Хрысця. — Кубак прыхапі, не забудзься.

— Мне, канечне, чым хутчэй, тым лепш. Я б і сёння прыйшла, але, разумееш, тут такое здарылася! Іду я па сцяжынцы, весела так вакол, птушачкі спяваюць, а мне зябка і здаецца, што за мной хтосьці ідзе. Як ні аглядалася — нікога няма. Я нават трохі бегла. Лепш я ранкам з Марыяй да цябе і прыйду. Удзвюх не так боязна.

— Бабка Хрысця, ты дзе схавалася?

Гэта з вуліцы крычала Дражына.

Змоўшчыцы выйшлі з-за вугла хаты.

Дачка старасты стаяла ля агароджы кветніка, дзе сярод фіялетавых браткоў раслі кусты, абсыпаныя ярка-жоўтымі кветкамі, падобнымі на пухнатыя шары. Плечы дзяўчыны пакрываў дзівоснай прыгажосці шаль.

Жанчыны ахнулі. На жоўтым фоне кветніка смарагдавы колер глядзеўся проста зачаравана.

У Антаніны загарэліся вочы.

— Дражыначка, даражэнькая, дай прымераць?

Дачка Круціцкага зняла шаль і падала яго сяброўцы.

Антаніна накінула яго спачатку на галаву, прайшлася ўздоўж плота — так і гэтак, потым накінула на плечы, закінуўшы адзін канец на плячо.

— Ну, як я? — спытала яна.

— Харошая, ой харошая, — усміхаючыся, сказала шаптуха.

— Дзе ты набыла такую прыгажосць? — не здымаючы шаль з плячэй, пацікавілася Антаніна.

— Бацька прывёз, — і, памятаючы дамаўленне, дадала: — Гэтай зімой купіў на кірмашы. Ды ўсё не было калі яго апрануць.

— А ты куды ідзеш? — пацікавілася Антаніна, аддаючы шаль Дражыне з відавочнай неахвотай.

— Як куды? — дзяўчына незадаволена нахмурыла бровы. — У Вамбежыцы.

— Ведаеш што, — нечакана сказала Антаніна, — я таксама з табой пайду. Мне ў Панны Марыі шмат чаго папрасіць трэба.

— Будзь здаровая, бабка Хрысціна.

Дзяўчаты пакланіліся і пайшлі ў бок Святога Храма.

Але, прайшоўшы крыху, Антаніна спынілася і, пакінуўшы сяброўку, падбегла да Хрысці.

— Дык ты не забудзешся пра маю просьбу? — спытала дзяўчына.

— А можа, не трэба? Бачыш, у якой прыгажосці будзеш хадзіць? — усміхнулася шаптуха.

Але Антаніна толькі зіркнула вачыма і пабегла даганяць сяброўку.

Хрысціна доўга глядзела ім услед, і трывогай напаўнялася яе сэрца.

## 8

Тым сонечным ранкам не толькі ў бабкі Хрысціны дрэннымі прадчуваннямі напаўнялася сэрца. Моташна было на душы і ў Янака.

Ён усё разважаў: ці добра зрабіў, аддаўшы брошку гаспадару лесапільні?

Было штосьці нячыстае ў тым, як дзядзька Лешак займеў каштоўнасці. А з іншага боку, як паглядзець? Не ён бы ўзяў тое каменне, дык хто-небудзь іншы забраў.

Янак, напэўна, соты раз з цяжкасцю ўздыхнуў за гэту раніцу.

«Так яно то так, але лепш бы ўсё засталося па-іншаму, па-старому…»

Ён усю ноч амаль не заплюшчыў вачэй і ранкам, выгнаўшы авечак з загона, пагнаў невялікую атару ў горы, на даўно аблюбаванае ім месца.

Вялікая паляна з сакавітай травой знаходзілася непадалёку ад сцежкі, якая вяла ў вёску. З аднаго боку яе загароджвала крутая адвясная скала, па сцяне якой сцякала тонкім пластом вада, ператвараючыся ля падножжа ў маленькі раўчук. З другога — густыя зараснікі калючага хмызняку не давалі авечкам разбегчыся, ды і з дарогі не было бачна, што адбываецца на паляне. Пра гэта месца ведаў толькі ён, так што дзядзька Лешак наўрад ці знойдзе тут яго, каб загрузіць работай, як заўсёды, звыш меры.

Сонца падымалася ўсё вышэй і вышэй.

Янак з’еў кавалак аладкі, напіўся з раўчука і прылёг пад цень разгалістай піхты. Ежа і бяссонная ноч зрабілі сваю справу: пад пераразвон званочкаў яго змарыў сон.

Спачатку праз дрымоту ён адчуў пах псіны, затым пачуў цяжкае дыханне — юнак ледзь-ледзь прыадкрыў вочы і абмер.

Над ім сядзеў велізарны воўк.

Янак не змог авалодаць страхам, які ахапіў яго, і рэзка ўскочыў з зямлі.

Але бегчы не было куды.

Адзін воўк стаў злева, другі — з правага боку, а ў самым цэнтры паляны сядзеў трэці, вялізны. Яго празрыста-жоўтыя вочы з вузкімі чорнымі зрэнкамі глядзелі на Янака холадна і ўважліва.

Хлопец стаяў не варушачыся. Ён не мог адарваць вачэй ад гэтага смяротна прыцягальнага поклічу, які ўтойваўся ў вачах важака.

Пралятаалі імгненні, запавольваліся, пераходзячы ў вечнасць, але ваўкі не паказвалі ніякай нецярплівасці і ўзрушанасці.

Аднак паспрабуй зрабі крок — яны цябе імгненна раздзяруць.

Ён заплюшчыў вочы і пачаў чытаць малітву, звяртаючыся да ўсіх святых, імёны якіх прыходзілі ў галаву.

— Яне, Янак, ты дзе? — скрозь заслону затуманенай ад страху свядомасці данесліся да яго крыкі Абрама Домніча.

— Тутака я, — прасіпеў юнак.

— Фу, ты чаго не адгукаешся? Я тут колькі хвілін хаджу! Ты здранцвеў, ці што?

Побач з хлопцам стаяў Домніч і трос яго за рукаў кашулі.

— А дзе ваўкі? — аглядаючыся па баках, спытаў Янак.

Абрам пацiснуў плячамі.

— Вы тут зусім усе здурнелі? Усім штосьці трызніцца, здаецца…

— Ваўкі, цэлая зграя сядзела каля мяне. Вось табе крыж, — і Янак хутка перахрысціўся.

— Авечкі цэлыя? — дзелавіта пацікавіўся Домніч.

Янак пацiснуў плячамі

— Ты жывы? Жывы. Авечкі цэлыя? Цэлыя. Са сну табе падалося, хлопец.

— Я табе хлусіў калі-небудзь? — пакрыўдзіўся пляменнік Круціцкага.

— Не, не хлусіў, — пацвердзіў Домніч, — але, ведаеш, часам лепш зманіць і для справы, і для сябе.

Янака ажно ў жар кінула.

— А што здарылася?

— Ды я толкам не ведаю. Але зусім нядаўна заявіўся ў шынок Адам Скшынецкі. Селі яны ў куток з гаспадаром і пачалі гутарку весці. Спачатку ціха ўсё было, а потым то адзін закрычыць, то другі. Не ведаю, што іх так распірала, не чуў, я за стойкай кубкі праціраў. Але потым гаспадар лесапільні падняўся і сышоў не развітваючыся. А выходзячы, так дзвярамі пляснуў, што я падумаў: «Канец прыйшоў «Пузатай стронзе», сцены ходырам так і захадзілі.

І тады пан Лешак як загарлапаніць: «Абрам, знайдзі мне гэтага ідыёта і прывядзі яго сюды! Я яму, гаварліваму, язык выдзеру, каб навек замоўк».

— А каго прывесці? — тупа спытаў Янак.

— Цябе, хлопец, цябе, — ласкава сказаў Абрам.

— Я не пайду.

— Пойдзеш, даражэнькі. Мне ж без цябе загадана не вяртацца. Лепш раней даведацца пра бяду, чым адцягваць і цягнуць часіну. Усё адно, калі гора прыйшло, нікуды яно не сыдзе, — уздыхнуў яўрэй.

Яны сабралі авечак і марудна пайшлі ў бок вёскі.

Янак ледзьве перасоўваў ногі. Абрам яго не прыспешваў.

Але лес скончыўся, і яны выйшлі проста да «Пузатай стронгі».

## 9

На парозе, скрыжаваўшы рукі на вялікім жываце, стаяў Лешак Круціцкі. Твар яго было барвовым ад лютасці, а вочы, як кажуць, вывяргалі гром і маланкі.

— Абрам, загані авечак, а ты заходзь, не саромейся, Яначак, — Лешак з усёй сілы ўляпіў юнаку, які падышоў да яго, аплявуху. — А зараз раскажы мне, старасце, як дзяржаўнаму чалавеку, пра тыя небыліцы, якія разнёс па ўсім сяле.

— Дзядзька, родненькі, — узмаліўся хлопец, — я ні слоўца, ні паўслоўца нікому. Вы ж самі сказалі, каб я брошку падарыў дзяўчыне, якая мне даспадобы?

— Дзяўчыне, а не яе хітрамудраму бацьку! І не адразу ж трэба было, як я табе яе даў, а праз некаторы час… Я думаў, што ў цябе ў галаве не авечыя мазгі, а толькі ў маіх вісусаў..

Лешак цяжка апусціўся на лаўку.

— Абрам, прынясі мне збан вады, ды як мага халаднейшай. А то галава гудзе і ў горле ўсё перасохла.

Напіўшыся, ён паглядзеў на някемнага сваяка.

— Значыць, так: пойдзеш на далёкую дзялянку і будзеш сядзець там да таго часу, пакуль я за табой каго-небудзь з братоў не прышлю. А каб табе нянудна было, забярэш авечак — там ім больш раздольна будзе.

— Дзядзька Лешак, у лесе нешта ліхое з’явілася, боязна аднаму заставацца ўначы, — пачаў быў прасіць Янак.

— Не падабаецца? Тады вось табе Бог, а вось — парог…

Круціцкі адвярнуўся ад пляменніка, паказваючы ўсім сваім выглядам, што гутарка скончана і крыкнуў:

— Абрам, я пайду дахаты, штосьці мне не здаровіцца. А ты тут адзін гаспадарнічай… Пазней я да цябе ці Пятра, ці Андрэ дашлю.

Дзверы за гаспадаром зачыніліся.

Янак апусціўся на лаву і паклаў галаву на стол.

Ён не разумеў, з-за чаго так разышоўся дзядзька.

Не, ён хітраваў: ён ведаў, што ўсё, што знаходзіцца на зямлі, у лясах, на палях, належыць пану ці каралю, а значыць, трэба было далажыць пра карэту і каштоўнасці ў найбліжэйшае ваяводства, а яны так не зрабілі. А калі Адам пойдзе і данясе на Лешака, тады і яго могуць пакараць за крадзеж. Можа, дзядзькава праўда, таму так і раскрычаўся на яго.

Янак уздыхнуў і падумаў: «Сам усё забраў, а мяне ў далячынь несусветную адпраўляе! А калі туды ваўкі прыйдуць?»

«Не, трэба рабіць, як дзядзька загадвае», — усё ж вырашыў хлопец.

— Што ты засумаваў, Янак?

Ён падняў галаву і ўбачыў, што за суседнім сталом размясціўся пан Станіслаў Кажоўскі.

— Ты такі гарны хлопец, а будзеш увесь час у гэтым затхлым сядзець, ды дзядзьку свайму ў хітручыя вочкі зазіраць? Ідзі да мяне пахолкам[1] у конны рэкрут[2]. Будзеш за мной запаснога каня са зброяй вадзіць, а там і якіх граша-

[1] Пахолка (польск.) — слуга.

[2] Рэкрут — асоба, прынятая на ваенную службу па найме ці павіннасці, ад фр. recruiter — вербаваць.

нят заробіш. У нас часам узнікае патрэба замяніць каго-небудзь з таварышаў: бывае, трэба ім па справах гаспадарчых з войска адлучыцца. Такое часта здараецца, а ты на гэты тэрмін за яго паслужыш. А можа, табе Лешак грошай дасць на амуніцыю і ты ў пяхоту запішашся? Станеш сапраўдным жаўнерам, будзеш сам сабе пан і вайсковы начальнік. Свет паглядзіш, дзевак памацаеш. Яны, гэтыя дзеўкі, розныя бываюць па салодкасці і па вобліку. А то ў нашай глухамані сярод авечак так і памрэш.

Станіслаў сербануў піва.

— Адчувае маё сэрца, што хутка кароль дашле ў нашы краі віцы[1]. Кажуць, што Грыгорый Агіньскі ізноў узбунтаваўся супраць гетмана Сапегі, ды яшчэ вар'ят Карл XII вырашыў усяму свету вайну абвясціць і перш за ўсё сабраўся на цара Пятра ісці. Хочаш не хочаш, а нашаму каралю давядзецца прымаць бок ці то шведаў, ці то маскалёў. Вось такія, брат, справы. Янак слухаў бравага салдата, адкрыўшы рот.

Мала таго, што той з ім як з роўным гаворыць, дык яшчэ сваімі сумненнямі дзеліцца!

— Ну добра, ты тут падумай, але нядоўга. Увечары я пакіну ўжо тутэйшыя месцы. Прыходзь да хаты ксяндза, калі што вырашыш. Я там буду.

Станіслаў устаў з-за стала. Ва ўсім яго абліччы адчувалася стаць і парадзістасць. Вельмі пасавалі яму і чырвоная рэйтрока[2], вышываная золатам, і капялюш з высачэзным белым пяром. І хоць жалавання яму хапала толькі на прыстойнае экіпіраванне, бо з-за сваёй хоць і шляхетнасці, але жудаснай беднаты служыць ён мог толькі ў лёгкаўзброенай конніцы, важнасць яго ад гэтага не меншала. Таму што ён славіўся адчайным смельчаком.

Пан Кажоўскі часцяком расказваў, як яго рэкрут хадзіў у разведку, стаяў у каравулах і прымаў баі на флангах. А пры такіх абставінах трэба мець ільвінае сэрца, а не сэрца баязліўца.

Яны выйшлі ў двор.

— Прывядзі мне каня, — распарадзіўся пан Станіслаў.

Янак адвязаў ад загарадзі белага з чорнымі палосамі і плямамі прыгажуна інаходца дрыкгантаха[3], пакрытага турэцкай гунькай, вышытае сядло ўпрыгожана пазалочаным лукам, а над конскім ілбом калыхаліся белыя пёры. Шляхетнае было ўбранства, такую прыгажосць Янак бачыў упершыню.

— Вось пераканаўся, не такая гэта цяжкая справа — каня падаць гаспадару, а ты яшчэ будзеш не толькі грошы атрымліваць, але і вольным чалавекам сябе адчуваць.

Ліха ўскочыўшы ў страмёны, пан Кажоўскі паехаў ад шынка.

«Вазьму і сыду з панам Станіславам — хай усе ведаюць!» — расправіў плечы Янак.

«А як жа Антаніна? Колькі яго не будзе? Год, два, а можа, і больш? Яе сапраўды замуж аддадуць. Трэба да яе пайсці параіцца. Калі люб я ёй, то ўсе здзекі дзядзькі вынесу, толькі каб з ёй побач быць». Янак паспяшаўся да лесапільні.

---

[1] Віцы — кароль на падставе пастаноў саслоўяў рассылаў па ваяводствах, землях і паветах універсалы, якія і называліся віцамі. Першы і другі віцы аб'яўлялі вайну і загадвалі рыхтавацца да выступлення, трэці — прызначаў час паходу. У выпадку нечаканай небяспекі кароль выдаваў два, і нават адзін віцы, замест трох.

[2] Рэйтрока — куртка.

[3] Парода коней польска-беларуская, якая не дайшла да нашага часу. Раскрасам падобны на леапарда. Храп — ружовы.

**10**

Вечарэла, але сонца малочна-белага колеру не спяшалася сыходзіць за горы, а паліла зямлю, як і днём.

Увайшоўшы ў прахалоду лесу, юнак прызадумаўся. У яго нечакана ўзнікла жаданне пабачыцца з Антанінай.

А раптам яна цяпер нічога добрага яму не скажа, а потым, калі ён вернецца, ды з грашыма, і, можа, з узнагародай, яна зменіць сваё рашэнне, а яму — пакутуй усе гады.

Янак то спыняўся, то паспешваў крок.

— Ты куды гэта, хлопец, кіруешся? Нябось да Антаніны спяшаешся?

Бабка Хрысціна вярталася з лесу, несучы кошык, поўны духмянай травы і кветак.

— А табе што за справа?

— Не хадзі да яе, не трэба, — жанчына паставіла кошык на зямлю і ўздыхнула.

— Ты мне што за ўказ? Куды хачу, туды іду!

Янак быў вельмі злы. Сёння яго крыўдзяць і падказваюць, што рабіць, усе каму не лянота.

— Шкада мне цябе, Янак, — не звяртаючы ўвагі на злосць у голасе юнака, сказала Хрысціна. — Не люб ты ёй, а калі б нават і падабаўся, то яе бацькі ніколі не пагодзяцца, каб ты жаніўся. Ідзі, хлопец, шукай шчасця ў іншым краі. Прадчуваю я, што і мне давядзецца адгэтуль хутка ўцякаць.

— Хочаш вады? — яна падала яму гладыш.

Юнак зрабіў глыток і зморшчыўся: «Што ты там накаламуціла?»

— Пі, Янак, пі, гэты адвар цябе, можа, ад смерці выратуе. Давай сядзем са сцяжынкі, у цяньку адпачнём, прытамілася я сёння.

Хлопец неяк адразу супакоіўся. Ён прысеў побач з шаптухай пад разгалістай елкай, ствол і карані якой былі пакрыты шэрым лішайнікам і мохам.

— А табе Антаніна сама казала, што я ёй не падабаюся? — адважыўся Янак на пытанне, такое для яго важнае.

— Сама. Я, Яначак, нізашто б пра гэтага табе не сказала, але штосьці гняце мяне, і на душы моташна. Памру, напэўна, хутка. І так зажылася.

Жанчына пацiху заплакала.

Янак не стаў нічога казаць, каб суцешыць. Бабе паплакаць — адна любата.

Яго больш займала дзіўнае бачанне на блакітным небе. Побач з распаленым дабяла сонцам праглядаўся ледзь-ледзь празрысты месяц. Нездарма кажуць, што два свяцілы, як брат з сястрой — ходзяць адзін за адным. Сонца дорыць жыццё, а месяц суправаджае памерлых у царства цемры і забыцця.

«А навошта яны побач сышліся? Незразумела», — думаў Янак.

Хрысціна кранула юнака за плячо.

— Ты што вырашыў?

Янак падняўся з травы і ўзяў кошык шаптухі ў руку.

— Ды нічога. Пойдзем, я цябе дахаты праводжу. Да Антаніны не пайду. Ты баба не шкодная і калі сказала, што не люб я ёй, так яно і ёсць.

Праводзіўшы Хрысціну да яе хаты, Янак накіраваўся да хаты ксяндза.

Ён падышоў да шырокіх дубовых дзвярэй і рашуча пастукаў у іх жалезным кольцам, прымацаваным на іх.

**11**

А ў гэты час Лешаку было блага. Слабасць разлілася па ўсім целе, ды такая, што трэсліся ногі і рукі, дый жывот круціла — нічога не мог есці, ванітавала.

Яшчэ паганей стала на душы, калі ён, вярнуўшыся дамоў, убачыў, што яго вісусы ляжаць на ложках. Ды яшчэ і енчаць. Абы не працаваць! Нябось даведаліся, што бацьку няможацца, дык і сабе адразу хваробу прыдумалі.

Лешак падышоў да ложка Пятра і сарваў коўдру.

— Што з табой, хлопец? — спытаў Лешак і асекся.

Сын ляжаў увесь чырвоны і дрыжаў. Пачуўшы бацькаў голас, Пятро расплюшчыў вочы.

— Ліха мне, бацька. Боль такі, што няма сіл трываць. Пашлі па бабку Хрысціну, можа, зёлак якіх дасць.

— Пашлю, сынок, пашлю. — А што з Андрэ, таксама такая ж ліхаманка ?

Але Пятро нейк дзіўна тузануў галавой, закаціў вочы і пачаў хутка-хутка нешта мармытаць. Ён праваліўся ў забыццё.

Лешак падышоў да другога ложка. Яго вялікі і прыгожы сын Андрэ ляжаў, сашчаміўшы рукі каля горла, а ягоныя вочы былі налітыя крывёю. Шкляны позірк утаропіўся ў столь. Юнак быў мёртвы.

У Лешака ад жаху самлела душа.

Перасільваючы слабасць, ён дастаў з караба, які стаяў каля печы, усе свечкі, якія бярог для вялікіх свят. Затым стаў запальваць іх і расстаўляць па хаце.

— Нічога, нічога, сынок, — шаптаў ён, слухаючы, як заціхае мармытанне другога сына. — Цяпер адгонім усё паскуддзе агнём, а заўтра ранкам бацька збегае па Хрысціну. Павер, сынок, у самога сілы няма. Адляжуся крыху і пабягу.

Крэкчучы, ён залез на гарышча і ўлёгся на куфар, папярэдне паставіўшы тузін свечак ля падгалоўя.

Нуда цяжкім каменем навалілася яму на грудзі. Галава разрывалася, нечакана для сябе ён заплакаў. Яму было так шкада сваіх летуценняў.

«Госпадзі, толькі па-чалавечы зажылі… Пашкадуй, Госпадзі, дай мне, старому, яшчэ трохі гадкоў. Ты ж увесь мой род пад корань вырашыў знішчыць, а мне ж трэба на каго-небудзь гаспадарку пакінуць. Госпадзі, злітуйся над старым дурнем…»

Шаптаў Лешак і верыў, што ён не памрэ. З ім нічога не можа здарыцца. Бо ён шчаслівчык, яму шэнціць ды яшчэ і службовы чалавек, навошта Богу забіраць яго раней часу?

Прахалодай падзьмула з акна, і Лешак паглядзеў туды.

З акна, з чарноцця ночы на яго глядзелі вочы ці то звера, ці то чалавека. Злосна глядзелі і кпліва.

Вочы ў Лешака слязіліся. Ён, як ні намагаўся, не мог разгледзець, хто там такі.

— Сыдзі, бязбожнае стварэнне, сыдзі!

Цень знік. Але раптам невядома адкуль проста над ім з’явілася вялізная ашчэраная пашча ваўка, ад іклаў якой патыхала смуродам і смерцю.

Лешак у жаху замахаў рукамі і скаціўся з куфра на падлогу.

Незнарок ён скінуў некалькі свечак на дол. Салома імгненна загарэлася, на гарышчы загуло. Спачатку агонь расцякаўся невялікімі раўчукамі, а потым выбухнуў велізарным факелам, узнёсся да неба, рассыпаючы навокал зіхоткія іскры.

Неўзабаве агонь пачаў перакідацца з хаты на хату. Хто спаў, паспеў выбегчы, а хто моцна спаў, стаміўшыся за дзень, той так і згарэў.

Вяскоўцы, хто паспеў выскачыць з палаючых хат, ачомаўшыся, кінуліся ратаваць суседзяў. Яны стукалі ў дзверы і вокны, затым кідаліся ратаваць сваё дабро. Спрабавалі тушыць хаты, але хто ж вёдрамі справіцца з такім пажарам?!.

Бязлітасны агонь набіраў сілу. Ад палаючых хат асвятлілася начное неба. І ўсё, што знаходзілася ў акрузе — лес, рака, аблокі і зоркі — афарбавалася ў чырвона-чорны колер, колер смерці і страху.

## 12

А што здарылася з Антанінай і Дражынай, якія ранкам пайшлі памаліцца Святой Панне Марыі ў храм?

Усю дарогу Антаніна незадаволена пазірала на сяброўку. Дражына, як крыху адышла ад вёскі, стала скардзіцца, што ёй млосна і пачала прасіць сяброўку спыніцца, каб крыху адпачыць каля дарогі.

— Паслухай, Дражына, калі табе так кепска, вяртайся дахаты? — не вытрымала Антаніна пасля таго, як яны чарговы раз прыселі адпачыць.

— Што ты, Антаніна, мы ўжо прыйшлі. Я бачу дах званіцы, — адказала сяброўка.

— Тады, як знаеш. Але калі мы будзем так плесціся назад, то дацямна дахаты не вернемся, — сказала дачка Адама Скшынецкага.

Мабыць, баючыся, што сяброўка будзе папракаць далей, Дражына, прыкладваючы вялікія намаганні, сабралася з сіламі і паскорыла крок.

Нарэшце яны зайшлі ў цень ад дубоў, што стаялі радамі ўздоўж ручая Цэдрон.

Яшчэ дзяўчаты пачулі стук сякер. Тут ужо шмат гадоў будавалася свяцілішча, але нават недабудаванае яно было цудоўным: храм не маглі сапсаваць ні рыштаванні, ні натоўпы тых, хто яго ўзводзіў.

Каля храма дзяўчаты рассталіся.

Антаніна накіравалася да алтара, а Дражына вырашыла не мяняць свой штодзённы рытуал і рушыла да капліцы, якая ўзвышалася на адным з трох узгоркаў, названых у гонар нейкага святога. Якога менавіта, Антаніна не памятала. Ды і навошта? Тут, куды ні глянь, усё носіць богаўгодныя імёны.

Дзяўчына думала памаліцца ў цішыні перад светлым абразом цудатворнай постаці Богамаці. Хоць храм яшчэ не дабудавалі, але вернікі занеслі яго сюды, прымацавалі ля алтара, упрыгожвалі свежымі кветкамі, штораніцы маліліся перад ім. Але падысці блізка да яго Антаніна не змагла. Сёння людзей у свяцілішчы было вельмі шмат.

Антаніна пастаяла нейкі час у храме, затым выйшла з яго, прысела на лаўку пад дрэвамі, абапёршыся спінай да халаднаватай цаглянай сцяны.

Дзяўчына засумавала. І навошта яна сюды прыйшла? Каб лавіць на сабе юрлівыя пагляды потных мужыкоў?..

Яна назірала за матылькамі, якія пырхалі над дарогай, ля самых ног, купаючыся ў пыле, шчабяталі няўрымслівыя вераб'і. Пахла канюшынай і яшчэ чымсьці саладжавым, ці то патакай, ці то мёдам. І душу Антаніны хутка агарнула супакаенне, і яна не заўважыла, як задрамала.

Прачнулася дзяўчына ад холаду, які ад камянёў, здаецца, завалодаў кожнай клетачкай яе цела. Вельмі хацелася піць.

Антаніна зірнула на неба: сонца на захадзе дакраналася вершалін дрэў, а Дражыны не было відаць.

«З-за гэтай непаваротлівай давідна дадому не вернемся», — з абурэннем падумала Антаніна, паднялася з лаўкі і пайшла шукаць сяброўку.

Дражыну яна знайшла недалёка ад лесвіцы, якая вяла да званіцы, на трыццаць трэцяй прыступцы (Антаніна любіла лічыць). Тая ляжала на траве пад кустом глогу, скруціўшыся абаранкам.

— Дражынка, ты з глузду з’ехала ці што? Хопіць спаць. Дахаты пара, — Антаніна пачала трэсці сяброўку за плячо.

Яна прысела на кукішкі і павярнула галаву дзяўчыны да сябе.

Дачка Лешака Круціцкага была мёртвая.

Антаніну ахапіў жах. Як ні жудасна ёй было, страшна стала ёй, усё адно ў першую чаргу яна падумала пра сябе: што ж са мной будзе?.. Змяркалася, вернікі даўно разышліся па хатах, не было і будаўнікоў, клікаць каго-небудзь на дапамогу дарэмна.

Крыху супакоіўшыся, падумала, што трэба бегчы ў вёску і сказаць пану Лешаку пра бяду. Тады той запражэ каня і паедзе па дачку. Калі так, то тады ёй, Антаніне, трэба будзе вяртацца зноў сюды, ды яшчэ суцяшаць таго ў дарозе, а ён такі агідны!

Яе позірк спыніўся на шалі, які ляжаў каля Дражыны, і рукі самі міжволі пацягнуліся да гэтага зялёнага скарбу.

«Скажу пану Лешаку, што мне яго Дражына падарыла. У яго і так усякага дабра хапае, ды і каму насіць зараз у іх сям’і такую прыгажосць?»

Агледзеўшыся па баках, Антаніна накінула шаль на плечы і пабегла прэч з узгорка.

Чым бліжэй яна падыходзіла да вёскі, тым больш станавілася ёй кепска. Моцна балела галава. Рукі і ногі сталі як чыгунныя, крок запавольваўся. Зараз яна шкадавала, што папракала Дражыну за тое, што яна часта прасіла спыніцца адпачыць.

Антаніна спынілася: «Пайду-ка я дахаты. Адлежуся за ноч, а раніцай усё адно ісці да бабкі Хрысці, вось заадно і пра Дражыну скажу. Пан Лешак не дасць каня, каб давезці мяне да хаты, дык чаго я павінна адна праз цёмны лес ісці?!»

Яна ўздыхнула. Дражыне зараз усё адно нічым ужо не дапаможаш.

І Антаніна звярнула на сцяжынку, якая вяла да лесапільні.

## 13

Калі жыццё не задалося з маленства, то і потым чалавек наўрад ці будзе каму-небудзь патрэбен...

Толькі паспелі Янак з панам Станіславам дабрацца да месца службы, як хлопца скруціла жудасная ліхаманка. Ды такая, што лекар, як убачыў хворага, адразу даў драпака з палка...

...Як Янак апынуўся ў нейкага чуллівага старога, адзін Бог ведае. Стары прыносіў яму пітво, а Янак і расказваў жудасныя гісторыя пра тое, як ён са сваім панам занеслі ў полк нейкую заразу і там амаль усе памерлі. Чужынцы не маглі зрабіць такіх страт, як Янак са сваім панам.

Калі Янак акрыяў, то часта думаў пра тое, што, мабыць, зёлкі, якія дала яму чуллівая Хрысціна, зберaглі яго ад смерці. Цікава, адкуль яна ведала, што з ім бяда здарыцца? Мабыць, з цёмнымі сіламі знаецца, нездарма кажуць пра яе з імі сяброўства.

За той час, пакуль ішоў, пакуль хварэў, Янак абнасіўся. Не было ў яго ні граша, каб купіць вопратку, а браць рэчы памерлых таварышаў ён пабаяўся. Стары сказаў, што зараза ў іх рэчах можа ўтойвацца, тая жахлівая хвароба ў любы момант можа зноў прыстаць да чалавека.

Назад Янаку хады не было. У тых месцах, адкуль ён прыбыў, мор лютаваў і адтуль нікога не выпускалі і нікога туды не ўпускалі. Стаялі кардоны з войскаў і добраахвотнікаў.

Ды нават калі б не гэта страшная бяда, каму ён патрэбен без грошай! Ну, вярнуўся б у Кажоўскую і што стаў бы там рабіць? Упасці на калені перад дзядзькам пад яго абразы і знявагу? Каб потым усе вяскоўцы пацяшаліся з яго? А як бы ён тады паглядзеў Антаніне ў вочы? Тая сапраўды ўзненавідзела б яго.

І, як раіў усё той жа чуллівы чалавек, Янак застаўся служыць у войску.

Выдалі яму палатняныя порткі, боты, шапку, мушкет, крывую шаблю ды торбу для харчоў.

Асабліва Янака цешыў абутак, адным словам, пан.

Служыў ён таварышам то ў аднаго ваякі, то ў другога. У многіх кампаніях пабываў, усякага набачыўся. Смерць, хваробы, голад заўсёды з салдатамі пад руку ідуць, а ён як загавораны. Жывы і цэлы. Можа, так і застаўся б да старасці ў арміі, а там, глядзі, і да якога, хай і маленькага, але ўсё ж чыну даслужыўся б, толькі здарылася з Янакам бяда. Напала на яго пошасць, якая высмоктвала з яго ўсе душэўныя сілы, спадзяванні на лепшае развейваліся... Паступова Янак заахвоціўся да гульні ў косткі. Спачатку ён не ведаў, што часта за сталом гуляюць злыя і несумленныя людзі, рызыкаваў і прайграваўся дашчэнту. Пазней, калі ўжо спрактыкаваўся у тонкасцях гульні, вызначаў ашуканцаў нават па адным узмаху веек, упадаў у лютасць і біў крыўднікаў бязлітасна, тыя, вядома, таксама ў даўгу не заставаліся. Янак часцяком з'яўляўся на службу пабітым і ў падранай адзежы.

Хіба ж пасля гэтага мог зрабіць хоць якую кар'еру жаўнер Круціцкі? Хто ж такога захоча побач з сабой трымаць, а тым больш рухаць на высокія пасады?

У адным меў рацыю пан Станіслаў. Дзяўчат на сваім вяку пляменнік старасты Кажоўскай пабачыў усякіх, і не толькі тых, што ішлі за абозам з вядомымі мэтамі. Былі ў яго і сумленныя дзяўчаты. Толькі не кахаў ён іх, і справа тут была зусім не ў Антаніне. У яго ўяўленні яе воблік спачатку бляднеў, змяняўся, а потым і зусім растварыўся ў дыме паходных вогнішчаў, сцёрся ў пякучых пацалунках прадажных прыгажунь.

Іншы запал авалодаў Янакам — жаданне стаць багатым чалавекам. Нагледзеўся ён на прыгажосць палацаў ды на лёгкае гарадское жыццё. Думаў разбагацець, гуляючы ў косці. Ды не тут было.

Грошы з рук Янака сплывалі імгненна, а каб зарабіць іх, трэба было гарбець тыднямі. Па яго разуменні, гэта было няправільна. Стаў Янак задумвацца аб тых багаццях, якія тады дзядзька ўхапіў з карэты. Янак думаў, думаў і вырашыў, што пара вяртацца дамоў і запатрабаваць у дзядзькі сваю долю за работу, за крыўды ды за тое, што маўчыць.

І, адсужыўшы дзесяць гадоў, Янак вырашыў пакінуць доблеснае каралеўскае войска.

Зараз ён мог смела вяртацца ў родную вёску. У апошні час яму шанцавала. Ён выйграў трохі злотых і купіў у аднаго мясцовага яўрэя, калі іх полк стаяў у Кракаве, паношаную, але яшчэ прыстойную адзежу. А яго апошні гаспадар падарыў яму хворага каня, які свайму гаспадару не мог прынесці ратнай славы, бо ў баі ледзь капыты перасоўваў.

Дый калі б усяго гэтага ў Янака не было, яму — пляваць, што пра яго думалі б аднавяскоўцы. Янак, як чалавек, які адчуў, што ён — толькі імгненне ў гэтым свеце, пачаў адпаведна ставіцца да ўсяго і да ўсіх…

Па дарозе дамоў Янак ледзь стрымліваў сябе, каб не завярнуць у які шынок і паспрабаваць згуляць хоць разок. Але ён баяўся, што пачне рызыкаваць і прайграе не толькі апошнія грошы, але і каня, і гэта яго стрымлівала. Яму ўжо вельмі хацелася з'явіцца ў родныя мясціны сапраўдным вяльможным панам.

Чамусьці Янак, ідучы дадому, ні разу не падумаў пра тое, што ў Кажоўскай яго не толькі ніхто не чакае, але што самой вёскі ўжо можа не быць... Гэткі страшны мор прайшоўся па тутэйшай зямлі!

Янак любаваўся сабой, быў асеплены важнасцю сваёй персоны. Ён уяўляў, як усе здзівяцца, калі даведаюцца, што сірата Янак не толькі ацалеў ва ўсіх нягодах, а да ўсяго вяртаецца не з пустымі рукамі. І не хлопцам, якога яны ведалі, а мужчынам, здабытчыкам!

Не здагадваўся ён, што ў гэтым свеце ніхто нікім не цікавіцца, і ніхто нікому не цікавы. А яно, калі ты не абуза родным, ну і дзякуй богу!.. А чужыя… На тое яны і назву маюць такую страшную — чужыя.

## 14

Чым бліжэй ён пад'язджаў да родных мясцін, тым цяжэй станавілася ў яго на душы. Паўсюль ён бачыў запусценне і бязлюддзе...

Нарэшце з-за дрэў паказалася сцяна «Пузатай стронгі», белы дым падымаўся над пачарнелым ад дажджоў дахам.

Янак сцепануўся. На дварэ стаяла глыбокая восень, і вечары ўжо больш былі падобныя на зімовыя, так было марозна і зябка.

Ён агледзеўся вакол. Нічога не змянілася, толькі неяк усё скурчылася: і аканіцы, і слупы, да якіх падарожныя прывязвалі сваіх коней — ды і сам драўляны будынак стаў нейкім змрочным, сцены пацямнелі і пачалі ўрастаць у зямлю. А можа, у маладыя гады ўсё здаецца больш прывабным, чым у сталыя?

Янак расчыніў дзверы і аслупянеў: за сталамі нікога не было. Толькі са сцен ухмыляліся чучалы галоў дзікоў і ваўкоў. У мёртвых ашчэраных пашчах гулялі водбліскі языкоў полымя.

Раптам Янак пачуў нечы ці то ўздых, ці то ўсхліп, і яго рука па звычцы пацягнулася па мушкет. Тым часам з-за стойкі асцярожна паказалася галава Абрама.

— Езус Марыя, Яначак вярнуўся, — Абрам узняўся і кінуўся да пляменніка гаспадара, але раптам збянтэжыўся і спыніўся ў некалькіх кроках ад яго.

— Я цябе таксама рады бачыць, Абрам, — сказаў Янак і падняў руку ў знак прывітання. — Слухай, я так хачу есці, з учарашняга дня ў роце нічога не было. Мае прыпасы скончыліся, а купіць не было ў каго — пустэча навакол. А калі і сустрэнеш па дарозе якога адзінокага падарожніка, то без шкадавання на яго і не зірнеш. Худы, а ад голаду яшчэ і злы. Па рожы відаць: зрабіць можа што заўгодна.

— Ды ў мяне, пан, толькі зацірка на вадзе ёсць.

— Мне ўсё адно што, абы гарачэйшае. Увесь змерз, нават вантробы ўсярэдзіне заледзянелі. А чаго гэты ты мяне панам вырашыў зваць? — усаджваючыся за сталом, які знаходзіўся бліжэй да агменю, пацікавіўся госць.

— А як жа інакш? — ставячы на стол міску з заціркай, сказаў Абрам. — Зараз, калі ўсе памерлі, вы ва ўсёй акрузе і пан, і гаспадар.

— Як усе памерлі? — паклаў лыжку на стол Янак.

— Усе, усе. Хто ад хваробы памёр, а хто ў агні згарэў. Дый вёскі вашай цяперака таксама няма.

І расказаў Абрам Янаку Круціцкаму пра беды, якія здарыліся ў яго краі.

Слухаў той, сёрбаючы зацірку, і нічога не мог зразумець. Як так атрымалася, што, па вялікім рахунку, усе гэтыя гады ён сябе лічыў гаротнікам, а выйшла яно вось як. Атрымлівалася, што ён шчасліўчык. Пашанцавала яму і жывым застацца, ды яшчэ і прыбытак атрымаць. Шынок цяпер яго. Нікога з радні не засталося, усе памерлі.

— Ну, а ты як выжыў? — Янак адклаў лыжку ўбок.

— Гэта доўгая гісторыя, — сказаў Абрам

— А я нікуды не спяшаюся. Ды і ты, думаю, таксама, — ухмыльнуўся Янак Круціцкі, гаспадар «Пузатай стронгі».

Абрам зірнуў на яго ўважліва, у яго вачах заўсёды свяцілася ласкава-бязлітасная хітрасць, уздыхнуў і прымасціўся насупраць.

## 15

— Я ў вашы краі прыйшоў з Кракава. Так, з яго самога, — паўтарыў ён, улавіўшы недаверлівы погляд суразмоўцы. — Вы тады, пан Янак, яшчэ зусім хлапцом былі, не памятаеце той час. Меў я там краму і быў паважаным чалавекам, якім толькі магчыма быць пры маёй веры.

Меў я і жонку, і двое дзетак, дзяўчынак, Басю і Міру, — усё як у людзей. Чалавек, пасланы ў гэты свет для адкупленняў грахоў блізкіх, не можа доўгі час знаходзіцца ў стане радасці, таму і да мяне няшчасці, як дзядоўнік,占чапляліся, а пачалося ўсё вось з чаго.

Прыйшла да нас у горад бяда, мор прыйшоў. І сталі людзі паміраць цэлымі сем'ямі. А ў мяне неяк спыняўся адзін англічанін, доктар, і гэты важны пан расказаў, як усцерагчыся ад усякай заразы. Перш-наперш трэба адгарадзіцца ад усіх: прыяцеляў, суседзяў — не дыхаць з імі адным паветрам. Вось і я, як толькі зразумеў, што ў нас у горадзе хвароба выявілася, назапасіўся прадуктамі, згарнуў увесь гандаль і зачыніўся ў хаце, закрыўшыся ад усяго свету шчыльнымі аканіцамі ды жалезнымі заваламі.

Але чума — страшная рэч, з-за болю і адчаю адных людзей ператварае ў пакутнікаў, а з другіх робіць шарлатанаў, хоць у выніку паміраюць усе. Нішто не ратуе: ні мікстуры, ні разнастайныя божыя ахоўныя кудмені, што прапануюць нахабнікі за вялікія грошы, ні празарліўцы, якія палохаюць натоўп сваімі прадказаннямі і бачаннямі. Мне той лекар казаў, калі ліхаманка чалавекам завалодвае, у яго мазгі запаляюцца і яму ўсякія бачанні паўстаюць: каму пачвары, а каму святыя.

Пекла сышло з нябёсаў на горад. Людзі валіліся проста на вуліцах і, бывала, што днямі трупы не прыбіралі, горы мерцвякоў па ўсім горадзе ляжалі.

Ну, а калі з чалавекам надараецца бяда, ён заўсёды шукае вінаватага, шукае ахвяру, каб спагнаць на ёй усё сваё бяссілле і злосць, і чамусьці заўсёды карае таго, хто слабейшы.

Жыла ў мяне па суседстве адна ўдава, вельмі злосная і ахвочая да чужога дабра. Але калі трэба даглядаць за хворым, то тут ужо не да маральных якасцей чалавека. І сталі запрашаць Ганну, так яе клікалі, у прыстойныя дамы дапамагчы пакутнікам, а яна паціху пачала прыкрадваць: то прасціну знясе, то адзежу, а то грошай якіх прыхопіць. А не разумела, подлая, што сваёй прагна-

сцю заразу разносіць, прадаючы за драбязу «гнілыя» рэчы, якія ў сабе смерць утойваюць.

(Перад вачамі Янака паўстала тая самая чорная карэта, поўная багацця, і, як ні мяркуй, атрымліваецца: гэта яны заразу ў вёску прынеслі.)

— Значыць, злавілі яе за чарговым крадзяжом, а яна пачала крычаць, што яе, маўляў, хітры Абрам навучыў з усяго выгаду здабываць, а інакш як ёй, слабой жанчыне, выжыць у свеце, дзе ні ў кога чужая бяда нават спачування выклікаць не можа. Крычала яна, крычала, ірвала на сабе адзежу і дакрычалася. Некаторыя праўдалюбцы сталі таксама крычаць, што жыды ў іх горадзе ўвесь гандаль захапілі ў свае рукі і дзяруць з абываценяў утрая даражэй, уступілі ў змову паміж сабой і здзекуюцца над сумленнымі хрысціянамі. А тут ёй на падмогу наш мясцовы клірык прыйшоў. Стаў пасярод вуліцы лямантаваць, што яму ў сне прыйшло бачанне — святая Кацярына, яна яму і расказала, што, калі ачысціць Кракаў ад няверных, ліхаманка пакіне горад.

Абрам замоўк.

— Зразумела, — сказаў Янак, — мне адзін бывалы чалавек казаў, як ад няверных пазбаўляюцца. Твае хоць жывыя засталіся? Я разумею, што не. Ты б у нашай вёсцы не мучыўся. Я праўду кажу?

— Ваша праўда, — пагадзіўся Домніч. — З нашай сям'і толькі я адзін застаўся. Выратавала мяне тое, што ў тую крывавую гадзіну я выйшаў з хаты для папаўнення запасаў правізіі. А мае добрыя суседзі ўсіх забілі: і дзяўчатак маіх, і маю рахманую Дору, якая верыла да апошняга ўздыху, што Бог для ўсіх адзіны.

— Зразумела, — паўтарыў Янак. — Што ж рабіць, гэтулькі гадоў прайшло, можа, яно і да лепшага, раней памерлі — раней адмучыліся. Я так разумею, што і цяпер ты выратаваўся выключна сваёй кемлівасці?

— Так, ваша праўда, пан Янак. Як толькі я пазнаў усе прыкметы чумы, забраў авечак і падаўся ў горы. Балазе з голаду памерці скаціна ніколі не дасць. А калі войскі выставілі кардоны ўздоўж дарог, ды ўсе чумныя дамы спальвалі, вярнуўся я сюды і стаў чакаць, калі хто абвесціцца, верыў я, што вы вернецеся.

— Няўжо так? Хітруеш, — усміхнуўся Янак.

— Я? — Абрам ускінуў густыя чорныя бровы. — Вы ж, пан Янак, Богам адзначаны, такія страхі перажылі. А цяперака, каму як не вам быць вялікім гаспадаром? Тым больш вы ўжо дужа сталі падобныя на паважанага свайго дзядзьку, нашага старасту Лешака Круціцкага, як знешне, так, напэўна, і ў душэўным стане, а значыць, спраўным гаспадаром будзеце. Я не забыўся, як у вас, бывала, усё ў руках гарэла.

Янак ніяк не адрэагаваў на Абрамаву ліслівасць.

— Дык ты кажаш, нікога не засталося?

— Не, чаму ж. Выжыў божы чалавек-ксёндз наш Іосіф Богуш, ды толькі крануўся ён крыху. Вырашыў, што ў капліцы, якая ад пажару ацалела, трэба рэшткі пакутнікаў пахаваць.

— Як гэта? — не зразумеў Янак.

— А вось так, ходзіць па палях і паселішчах ды збірае косткі ў мяшок, а потым адносіць іх у капліцу і складае ўздоўж сцен, чарапы ў адзін бок, косці ў другі. Кажа, так душы памерлых бліжэй да Бога будуць, значыць, супакояцца на тым свеце. Ды колькі рукамі ён гэтых непрыкаяных зможа перанесці? Вось калі б пан Янак сваім канём дапамог яму ў справе, Богу ўдзячнай, паўдзельнічаць, як бы ўсім стала спакайней. Звяр'я ж распладзілася ў акрузе мноства. Нічога гэтыя стварэнні не баяцца, паводзяць сябе ў тутэйшых лясах, як гаспадары.

— Ясна. Перадай святому айцу — хай заўтра зранку каня бярэ. Сам я не пайду, хоць я нябожчыкаў перабачыў шмат, але грэбую, і настрой у мяне ад іх выгляду псуецца.

Ён устаў з-за стала.

— Пайду, пакланюся роднай хаце. Дык ты кажаш, ніхто больш не ўратаваўся?

— Антаніна і яе сямейства ў першыя ж дні памерлі, — здагадаўся нарэшце Домніч, хто больш усяго цікавіць Абрама. — Айцец Іосіф з іх сялібы даўно ўжо ўсе костачкі перацягнуў. Кажа, што прыгажосць дзяўчыны з лесапільні павінна першая перад вачамі Усявышняга паўстаць.

— Ясна, — які раз паўтарыў Янак і падняўся з лаўкі.

— Не хадзілі б вы нікуды, вечарэе ўжо, заўтра зранку б адправіліся, — пачаў Абрам угаворваць ізноў набытага гаспадара.

— Мне трэба, — сказаў Янак і, захінуўшы шчыльней плашчом, ступіў у надыходзячы змрок.

Не мог жа Янак паведаць Абраму, што з самага пачатку, як той пачаў расказваць, адна думка свідравала яго мозг: а раптам камяні, што Лешак нахапаў, ацалелі? Ляжаць схаваныя паміж бярвення, а таму і не счарнелі ад полымя, зіхацяць сваёй чароўнай прыгажосцю і чакаюць яго, Янака.

## 16

Мядзведзіца ў апошні раз рабіла кругі вакол бярлогі, заблытвала сляды перад тым, як залегчы ў спячку. Ці мала якому стварэнню захочацца наведаць яе бярлогу.

Апошнія гады яна часта спускалася ў даліну, каб паласавацца яблыкамі і грушамі. На папялішчы іх расло шмат. Дый на некаторых надзелах па вясне яшчэ ўсходзіў авёс, які яна так любіла.

Мядзведзіца ўстала на заднія лапы, а пярэднімі стала трэсці яблыню, на якой заставаліся мёрзлыя плады.

Шум стаяў неймаверны, нібы шквальны вецер гудзеў у кронах дрэў.

Але раптам мядзведзіца перастала трэсці дрэва, апусцілася на зямлю і павярнула галаву ў бок дарогі. Яна адчула пах, гэта быў пах чалавека, і гэты пах станавіўся ўсё больш вострым і страшным.

Звер асцярожна зайшоў за паўразваленую сцяну хаты і стаіўся...

## 17

Янака Круціцкага пахавалі побач з магілай маці.

Калі ён не вярнуўся нават ранкам да «Пузатай стронгі», Абрам Домніч пабег да ксяндза, яны — і знайшлі Янака ля хаты яго дзядзькі, на ўскрайку сяла. Задрала бедалагу мядзведзіца.

Успомніўшы нябожчыка, яны вырашылі, што Абрам Домніч застанецца замест гаспадара ў шынку, а Іосіф Богуш забярэ каня: той жа стаў нічыйным.

Яны яшчэ некалькі дзён успаміналі Янака, а потым за клопатамі і справамі перасталі...

Цяжка ксяндзу прыйшлося б без Янакавага каня. У мяшок няшмат касцей назбіраеш...



## Леў ПАРЭМСКІ

* * *

Толькі ўспомню цябе — зразу робяцца волкімі вочы.
Асабліва тужліва, калі ўспамінаю між ночы.

Так не хочацца верыць, што ты назаўжды нежывая…
Мама! Хатка твая гаспадыні звароту чакае.

Што не бачаць цябе, усе вокны твае ў недаўменні,
Печ і грубка аб тым, што запаліш ты іх, летуценяць.

Каля веснічак бэз, як раней, па вясне зацвітае.
Што букет не збярэш з яго гронак ніколі, — не знае.

* * *

Зачыняла мама вароты
І не знала, што болей ёй
Не прайсці ля роднага плота,
Не пабыць у хаце сваёй,

Не паліць у астылай печы,
Не сядзець за сталом пры акне
І што хата panыла плечы
Без яе ад самоты ўвагне.

---

***Леў Парэмскі (Марозаў Леў Паўлавіч)*** *нарадзіўся 1 студзеня 1938 года ў горадзе Клічаве Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Працаваў у часопісе «Мелиорация и водное хозяйство», на Белдзяржтэлерадыё, у часопісе «Пралеска».*

*Аўтар паэтычных кніг «Спагада» (1980), «Адценні» (2009), «Іпастасі» (2011), кніг для дзяцей «Каламбір» (1991), «Хітруха» (2005).*

* * *

Вочы слязамі поўняцца,
Сэрца — тугой…
Стыне жоўтая поўня
Над магілай тваёй.

Мама мая харошая,
Мама мая!
Дужа цяжкою ношаю
Стала мне смерць твая.

Мама мая адзіная,
Сумна наўкол…
Над тваёй дамавінаю —
Вечнасці дол.

## У ДЗІЦЯЧЫМ ПРЫТУЛКУ

«Мамачка мяне згубіла,
Знойдзе мамачка мяне…»
Хлопчык слаўны, хлопчык мілы,
Ты пакут дабавіў мне.

Маці ты сваю ці стрэнеш,
Маці не патрэбны ты,
У яе замест сумлення
Змрок бяспамяцтва густы.

Маці жыць схацела лёгка,
Аб табе турбота — жах…
Адвярнуўся. Слёзкі дрогка
Заблішчэлі на вачах.

Ды і я вось-вось заплачу
Ад яго сірочых слоў…
Што зыначыць, як зыначыць
Свет, каб мелі ўсе бацькоў?

## ЛЯДОВАЕ ПАДАРОЖЖА

***Г. Л. Травіну,***
***падарожніку на веласіпедзе***
***па Паўночным Ледавітым акіяне.***

Не прагулка — выпрабаванне,
Лёд шурпацісты — не паркет…
У засцюжаным акіяне
Чалавек і веласіпед.

Вецер з полюса сцюжна вее,
Над таросамі зноў узвыў,
Ды не можа спыніць завея
Чалавечай душы парыў.

Збіты ўрэшце вандровец ветрам,
Але ў лёд убівае нож
І па некалькі сантыметраў
Ды паўзе наперад усё ж.

Цвёрда верыць, што не загіне,
Хоць да ўкрыцця ці дапаўзці…
Смелы ведае, што вышыні
З сіл астатніх бяруць у жыцці.

## ПОМСТА ФАРАОНА

Усё наўкол ахутваў цяжкі сон,
Спаў у грабніцы сам Тутанхамон.
І тое, што хавалі камяні,
Нікога не палохала ані.
І думалі раскопшчыкі дарма,
Што ў пірамідзе таямніц няма.
Дарма не прынялі яны ўсур'ёз
Убачаных там надпісаў-пагроз:
Хто скарбы фараонавы ўкрадзе,
Ад смерці не схаваецца нідзе…
І перш за ўсё ахвярай стане ён —
Галоўны археолаг Карнарвон.
Два толькі дні галоўнейшай з ахвяр
Жыцця адпусціць пахаваны цар.
Памрэ ў пасцелі раптам Карнарвон…
Усім адпомсціць мёртвы фараон.

* * *

Ужо на сцежках адтае зямля,
Хоць там, дзе цень, мароз кусае вушы.
Ды сонца незаўважна, спакваля
Сумёты рушыць.

І весялей глядзець на белы свет,
Хоць уначы мароз абсягі студзіць…
І пранікае ціха, неўпрыкмет
Лагода ў грудзі.

## БЯРОЗКА

***(З народнага)***

На зыры бярозка за ракой расла,
У самоце смутнаю заўсягды была.

Ды аднойчы неяк паглядзела ўбок —
У траве дубочка  зелянеў чубок.

Мроіла бярозка ледзь не дацямна —
Бачыла дубочак волатам яна.

Быццам перад ёю, стаўшы на зыры,
Ён сваёй чупрынай засланяў вятры.

Красавала лета, дыхала цяплом,
Марыла бярозка пра жыццё з дубком.

* * *

Як цяжка захаваць сябе самога —
Што з нараджэння дадзена ад Бога —
Між пошласці, распусты і разбою…
Як цяжка, Божа, быць самім сабою!





**Уладзімір МАРОЗ**

# СВЕТЛЫ СЛЕД

*Вандроўнае апавяданне*

Пасля вандроўкі на Святую Зямлю ўражанні не адпускалі, хвалявалі, не раз вяртаўся ў думках да таго дзіўнага часу, узнікалі асацыяцыі, прыходзілі ў галаў цудоўныя кавалкі тэксту аб падарожжы. Ды ў цэльную карціну ўсё неяк не складвалася, пакуль не выспеў час.

Як жа мы трапілі ў Ізраіль? Мы — гэта я, рэжысёр ды аператар. Адказ адзіны і просты, варта толькі разгарнуць Евангелле: «Прасіце, і дасца вам; шукайце, і знойдзеце; грукайцеся, і адчыняць вам». Аб Святой Зямлі я думаў ўжо даўно, з таго часу, як здымалі фільм аб Еўфрасінні Полацкай.

Неяк надарылася магчымасць стварыць фільм пра Афанасія Філіповіча. Сцэнарый быў напісаны колькі гадоў таму, а ўвасобіць яго на экране ўсё ніяк не ўдавалася. І вось рэжысёр прачытаў сцэнарый, ухапіўся за яго і прапанаваў наведаць святыя мясціны. Таму-сяму было незразумела, пры чым тут постаць беларускага святога-пакутніка да Іерусаліма? Іншая гісторыя са Святой Еўфрасінняй — яна мела туды паломніцтва на схіле дзён. Але гэта толькі на першы погляд. Адказ быў у нашых галовах, няхай не зусім акрэслены пакуль. Потым ён выкрышталізаваўся ў афарыстычныя сказы дыктарскага тэксту да фільма: «Шлях наш ад хрышчэння да смерці ёсць нямоглая спроба наследаваць зямному ўдзелу Збавіцеля. Цяжка трымаць нам спакусы д'ябла, разлітыя да краёў у рэальным жыцці. Наймацней пераадолець гэта даецца святым».

Таму прайсціся зямнымі шляхамі Ісуса Хрыста нам здавалася цяпер проста неабходным. І галоўнаю мэтай стала трапіць на Святую Зямлю якраз на праваслаўны Вялікдзень, калі сыходзіць на Дамавіну Гасподнюю Святы дабрадатны агонь.

---

*__Уладзімір МАРОЗ__ нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1975) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага ў Маскве (1983). Працаваў на ВТА «Інтэграл», у інстытуце «Мінскпраект», Дзяржкіно БССР, у рэдакцыі часопіса «Бярозка». Цяпер — вядучы рэдактар студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Голас» (1993), «Рэй» (1993), «Хутаранская зорка» (2002), «Дабрадаць» (2006), кніг эсэ «Мінск старадаўні і малады» (2002), «Беларускі храм» (2003), «За брамай забытых мелодый» (2004), і інш., аўтар сцэнарыяў шматлікіх дакументальных стужак. Як кінарэжысёр зняў шэраг дакументальных фільмаў.*

Гісторыя закруцілася. Хоць і з арганізацыйным скрыпам, але дзякуючы нашай унутранай перакананасці падрыхтоўчая справа завяршылася паспяхова. На дзіва лёгка атрымалі візы.

Самі і квіткі бралі на беларускі рэйс, ездзілі папярэдне ў новы аэрапорт да мытнікаў. Далі дабро. Узялі мы з сабою кіна- і відэакамеру. Калі апошняя ўяўляла невялікі і няцяжкі футаральчык (камера была лічбавая) ды лёгкі трыножнік для яе, то кінаапаратура выдавала сабою нешта аб’ёмнае і важкае. Яуф (спецыяльная цыліндрычная металічная скрыня) з плёнкаю, чамадан-акумулятар вагою далёка за дзесяць кілаграмаў, драўляны трыножнік з металічнымі прыстасаваннямі крыху меншай вагі. Яшчэ аб’ёмныя скрыні з кінакамерай, оптыкай, асвятляльнай апаратурай. Якраз скрыні-куфры! Набралася на трох ажно сто дваццаць кілаграмаў багажу, па сорак на брата. Лішне і казаць, што нашыя ўласныя сумкі не цягнулі і на чвэртку гэтай вагі.

Нервовая ўзбуджанасць перадвандроўнай мітрэнгі спадае, калі спыняемся пасля мытнікаў і памежнікаў у зале чакання аэрапорта. Тут ёсць хвіліна ўспомніць, што рыхтаваліся мы не толькі арганізацыйна. Час Вялікага посту. Рэжысёр сам схадзіў на прычасце. А вось аператара Віктара павёў у царкву я. Ён хрышчоны, але да царквы не хадзіў. Звычайная гісторыя, якая была ў свой час і ў мяне. Самы важны першы крок у такім узросце — гэта трымаць пост, потым пайсці на споведзь і прычасце. Што я і падштурхнуў яго зрабіць.

У зале людзей не так і шмат, на поўны самалёт не цягне. Неяк і не верыцца, што мы ўжо ў дарозе. Ды якая дарога! — тры гадзіны лёту прамільгнулі неўпрыкмет. Адчуванне вышыні. Чысты чацвер. Самы пост, тыдзень жарсцяў Гасподніх. Але тут падаюць абед. Жартую з хлопцамі (усе ж мы праваслаўныя), што каталікам дазваляецца парушаць пост у дарозе. А тут мы яшчэ і ў паветры. Таму з’ядаем стандартную курачку, толькі рэжысёр устрымаўся. Перад пасадкай хлопцы здымаюць з ілюмінатара на відэа панараму Тэль-Авіва з краем мора. У аэрапорце Бен-Гурыён злёгку кружыцца галава — адгукаецца змена клімату. А трэба ж яшчэ прайсці мытню і мяжу. Аператар крыху можа гаварыць па-англійску, у свой час месяцы тры быў у дзядзькі ў Амерыцы. Тлумачыць за мяне, што жыць мы будзем у Рускай праваслаўнай місіі.

У агромністым будынку аэравакзала кандыцыянерная прахалода. А на вуліцы спякота, градусаў пад трыццаць. Толькі ў цяню паратунак. Знаходзім прыпынак аўтобуса на Іерусалім, куды перацягваем часткамі нашае ўсё начынне. І вось аўтобус коціцца па дарозе паміж невысокіх гор. На ўзбочыне дрэвы, да кожнага падведзены тонкі гумовы шланг, льецца вада. Аб гэтым мы ведаем, увогуле, аб Ізраілі неаднойчы распавядаў мне галоўны рэдактар, які ўжо некалькі разоў быў тут у гасцях у прыёмнай дачкі. Але адна справа чуць, іншая — убачыць на свае вочы такое дзіва.

Іерусалім сустракае мітуснёй паўднёвага горада, выгружаемся з аўтобуса проста на вузкі тратуар і мяркуем, што рабіць далей. Быццам бы тая Руская праваслаўная місія недалёка, але дзе яе знойдзеш? Дарэчы, з лістом у Іерусалім ласкава згадзіўся дапамагчы Уладыка Філарэт. Паслалі, прасілі залатвіць справу з жытлом. Хоць адказу не было, мы ўсё роўна спадзяваліся, што ў гэтым сэканомім, бо грошай з сабою далі мала. Вырашылі ўсё ж браць таксі. Тут гэта выключна «мерседэсы», якія арабы вельмі любяць. Упіхваем усё ў машыну і едзем. Сапраўды недалёка, але як дапнеш з грузам? На перамовы з айцом Маркам выпраўляю Мікалая з Віктарам, а сам сяджу ў цяньку, сцерагу дабро. Нешта няма іх даўгавата.

Нарэшце прыходзяць, але навіны несуцяшальныя: грошы плаціць трэба. «Зялёныя» якраз у мяне, бо апроч таго, што я быў у гэтай кінавандроўцы аўта-

рам сцэнарыя, рэдактарам, асістэнтам і рэжысёра, і аператара, насільшчыкам, меў клопат яшчэ і як дырэктар здымачнай групы, гэта значыць, адказны за фінансы.

Зноў пайшлі да айца Марка, я аддаў роўненька 777 (цікавая ўсё ж лічба, мо меўся тут нейкі знак?) доларaў, як цяпер помню. Калі падзяліць гэта на тры і на колькасць дзён, атрымліваецца трыццаць сем «амерыканскіх» у суткі на чалавека. Як потым стала зразумелым, гэта і з харчаваннем. Прыходны квіток ён выпісаў яшчэ савецкага ўзору — невялічкі, нехлямяжны. Я пажартаваў: вось не прымуць яго на кінастудыі для справаздачы! Такім чынам сышлі нашы асноўныя грошы. На сутачныя заставалася крыху больш за трэць ад належнага кожнаму. А яшчэ аўто хацелі ўзяць у арэнду! Дзе там — крэдытную картку трэба мець ці пяцьсот баксаў пакідаць у заклад. Пазней уведалі, што меў айцец Марк ліст ад Філарэта, але не прызнаваўся. Яму патрэбны былі жывыя грошы. Бо «зялёныя» ад арганізаваных паломнікаў-турыстаў заставаліся ў Расіі.

Матушка з храма растлумачыла нам, якім аўтобусам дабірацца да Айн-Карэма, дзе праваслаўны жаночы Горні манастыр, месца нашага прытулку. Глянулі мы на гурбу сваіх рэчаў і апаратуры — і сумна стала: як дайсці да таго аўтобуса? Але выпаў шанец: матушка выбегла і сказала, што зараз будзе туды машына. Сапраўды, неўзабаве з’явіўся мікрааўтобус, мы хуценька запакаваліся дый рушылі. Я прагна разглядаў горад, які праплываў за акном. Ехалі, зразумела, не па цэнтры, таму горад быў як горад, хіба што паўднёвы каларыт усё ж адчуваўся.

Айн-Карэм даўней быў прадмесцем Іерусаліма, цяпер яго частка. Недалёка якраз Горні манастыр. Месціцца ён на схіле гары — на розных узроўнях дамкі, келлі, царква, трапезная. Наш двухпавярховы дамок быў якраз пры ўездзе недалёка ад брамы, меў прызначэнне жытла (уласна, гатэль) для турыстаў-паломнікаў. Толькі што адноўлены, ён звонку меў свежы ахайны выгляд. Але ўнутры, у невялікіх пакоях на два чалавекі, стаялі толькі ложкі. Ні стала, ні крэслаў — не паспелі яшчэ. Мы былі першымі, таму матушка, якую доўга шукалі, дала права выбару. Кінулі жэрабя — хто будзе жыць удвох, а каго аддаць у іншы пакой? Апошняе выпала мне, мо так мне і хацелася падсвядома? Сусед, які з’явіўся назаўтра, быў прадпрымальнікам з Санкт-Пецярбурга, сябрам ананімнага таварыства былых алкаголікаў. Асаблівай прыязнасці і даверу не ўзнікла, але суіснавалі дружалюбна. Пазней ён, калі прыязджаў у Мінск да калег па былым «алкагольным цэху», знайшоў мяне, я нават вазіў яго паўдня па горадзе на машыне.

А пакуль мы толькі знаёміліся. Найперш з месцам. Ужо бралася пад вечар. Густая зеляніна на схіле гары, цішыня, нетаропкі шпацыр уніз да храма і трапезнай. Першы раз павячэралі. Па статуце манастыра тут увогуле выключалася мясная і малочная ежа, незалежна ад посту. Кашы, супы, гарбата, кампоты, садавіна. Наесціся можна, калі не сытна, то шчыльна. А яшчэ і ў гатэльчыку мелася агульная кухня, дзе на стале заўсёды стаяла кава, гарбата, печыва, тая ж садавіна. Як гавораць, за ўсё заплачана. Так што з голаду памерці аніяк не выпадала.

Па вячэры змерклася, апусцілася прыемная прахалода. У святле ліхтароў блукалі па манастыры, удыхалі паўднёвае паветра. Субтропікі. Няйначай як у Сочах якіх ці Гаграх. Поўнае адчуванне паўднёвага курорта — а гэта ж толькі красавік, у нас у Беларусі яшчэ проста холадна.

Вір пілігрымскага, а для нас яшчэ і працоўнага жыцця, закруціў нас адразу на наступны дзень. Вялікая пятніца. Прыязджае аўтобус, даволі камфартабельны, шафёр араб. Разам з паломнікамі грузімся і выпраўляемся ў стары

Іерусалім, да будынка Прэторыі. Трапляем у стары горад, увесь абнесены сцяною, праз Львіную браму. Каля Прэторыі ўжо шматлюдна, але мы яшчэ паспяваем праціснуцца ўнутр, спусціцца па крутых прыступках у лёхі падзямелля, убачыць вязніцы Хрыста і Варавы. Гэта проста высечаныя ў скале пячоры-камеры на аднаго вязня. Ужо тут адчуваеш дотык — Божа мой, так жа было і дзве тысячы гадоў таму! Потым выбіраемся наверх і чакаем на вуліцы, дзе становіцца ўсё шчыльней і шчыльней.

Нарэшце святары выносяць з будынка Прэторыі крыж. Пачынаецца нешта містычнае, кожны з паломнікаў імкнецца дакрануцца да крыжа. Удаецца гэта і мне. Так пачынаецца крыжовы шлях, якім ішоў Хрыстос на Галгофу. Называецца ён вуліцай Смутку. Вузенькая сярэдневяковая вулачка, месцамі праходзіш пад аркамі, абапал дамы і шматлікія арабскія шапікі, на якія ў той час не звяртаеш аніякай увагі. Засяроджваешся на сваім, быццам сам нясеш свой крыж. Людзі супакоіліся, ідуць нетаропка, чуваць ціхія малітвы і хваласпевы. Хлопцы мае недалёка, кожны з камерай, стараемся не згубіць адзін аднаго. Упершыню ў Святым горадзе, ідзеш крыжовым шляхам па вуліцы Смутку, наўкола ўсё нязвыклае. Але такое адчуванне, быццам усё гэта ты ведаеш даўно праз невытлумачальнае ўнутранае пачуццё далучанасці.

Людская плынь-ручаіна выплывае на пляц перад Храмам Дамавіны Гасподняй. Гэта цяпер здаецца, што храм такі і павінен быць, а тады было нечападзявана. Звыкла нам, што царква стаіць на вольным месцы, на ўзвышшы, бачна яе здалёк, абысці вакол можна. Тут жа відаць толькі адзін фасад, пляц у доле заціснуты з усіх бакоў збудаваннямі. Архітэктура ў раманскім стылі. Зрэшты, а як не быць заціснутым у старым горадзе, дзе кожны лапік зямлі на ўліку? У Святым горадзе, над якім не ўладныя стагоддзі?

Патаўкліся мы крыху ў натоўпе да прызначанага часу ад'езду ў манастыр. Дарэчы, на гэтым пляцы атрымаўся самы цудоўны мой іерусалімскі здымак аўтарства Віктара: з кінакамерай «Конвас» на плячы, фонам шматлікае людства, мой позірк проста ў аб'ектыў. Побач рэжысёр. І яшчэ, дзе я ўжо адзін з камерай, гляджу ўдалячынь.

Зайшлі і ўнутр храма. Калі чытаеш Дабравесце, здаецца, дзе тая Галгофа, дзе грабніца ў скале? Аказваецца, гэта ўсё тут, побач, цяпер у храме пад адным дахам. Галгофа, увабраная ў мур, побач Пліта памазання, а крыху далей сама Дамавіна Хрыста ў выглядзе капліцы-ратонды, якая называецца Кувукліяй (па нашаму — Уваскрасенне). Першае знаёмства з галоўнай святыняй усіх хрысціян крыху мітуслівае, цяжка адразу сабрацца з думкамі. Праўда, паспяваю яшчэ сфатаграфавацца каля калоны з расколінай. Сюды аднойчы сышоў Святы агонь, калі ў Кувукліі яго спрабавалі даклікацца армяне. Тым самым Госпадзь паказаў, што парушаць традыцыі не трэба, што яго можа атрымаць выключна іерусалімскі патрыярх. Гісторыя, аб якой чытаў, адразу згадалася і ўвасобілася каля ўваходу ў храм, дзе гэты стоўп з расколінай. Складзеныя паперкі туды засунутыя — звяртанні-просьбы вернікаў да Госпада. Спадзяюцца людзі, ці, лепш сказаць, вераць у цудадзейную сілу.

Абед у манастыры, перапынак — і мы зноў бяром накірунак да старога Іерусліма. Гэтым разам пад'язджаем да бліжэйшай ад нас Яфскай брамы. Справа пад вечар, а восьмай гадзіне, і шлях наш зноў да Храма Дамавіны Гасподняй, дзе заўтра галоўная падзея велікодных дзён — сашэсце Святога агню. Матушка растлумачыла, што раніцой у суботу ў храм не патрапіць, таму пілігрымы падцягваюцца з вечара і чакаюць усю ноч і яшчэ паўдня. Так дык так, гэта ж для нас галоўнае, дзеля чаго ехалі — зняць на кінастужку сашэсце Святога дабрадатнага агню. І зняць, і ўбачыць на свае вочы. Начыталіся

і наслухаліся дома, у Мінску, аб гэтым цудзе. Няўжо самім пашчасціць стаць яго сведкамі? Не верыцца, але пакуль аб гэтым няма часу задумацца. Трапляем у людскі вір, які тут мімаволі жыве па сваіх законах.

Рух людзей актыўны, пачынаем і мы разбірацца ў сітуацыі і шукаць, дзе атабарыцца. Галоўная дзея заўтрашняй святой суботы адбудзецца каля Кувукліі, таму і падцягваемся туды. Начыння шмат, уладкоўваемся якраз каля сцяны капліцы. Сяджу на скрыні акумулятара, прысутны адначасна і звонку, і ўнутры сябе, бо ёсць хвіліна засяродзіцца. Няўжо ты тут, у Іерусаліме, у храме Дамавіны Гасподняй, сядзіш каля яго Грабніцы? У сцяне відаць круглая адтуліна як сопла самалёта. Яна задымленая, агонь вырываўся і адтуль. Побач са мой румыны, жанчыны сядзяць-напаўляжаць, іхнія мужчыны блукаюць недзе па храме. Адчуваецца, што гэта некалькі сем’яў землякоў ці нават сваякоў, выбраліся ў пілігрымку.

Мае хлопцы таксама недзе сышлі з камерамі. Ведаю, што будзе яшчэ вынас Плашчаніцы, яго трэба зняць. Дзея якраз і пачынаецца. Плашчаніцу тройчы абносяць вакол Кувукліі. Мне гэта добра відаць, працэсія праплывае якраз побач. У святарскай сусветна-праваслаўнай свіце заўважаю і айца Марка. Тройчы ўдаецца дакрануцца рукою да Плашчаніцы.

Час набліжаецца да поўначы. Сабраліся ўсе разам і перацягнуліся на іншае месца, каб Кувуклія была перад вачыма. Няпроста было, штурханіна, цясноцце. Здалося, што тут і прастаім ноч. Пакінулі аператара з усім рыштункам ды пайшлі з рэжысёрам прагуляцца.

Коратка прайшліся па храме, але нешта штурханула — а як там таварыш? Ён жа якраз у гэты час быў у крытычным становішчы, што стала зразумелым пазней. Прабіцца немагчыма, шчыльны людскі мур аддзяляў ад Віктара метраў на дзесяць. Але паверх галоў было відаць, што аператара абступілі паліцэйскія, а ён спрабуе ім нешта давесці. Потым расказаў, што ахоўнікі парадку пачалі адцясняць людзей, каб вызваліць пляцоўку перад ратондай дамавіны на заўтрашні дзень. І ён бы пасунуўся, але ўсю апаратуру агульнай вагою мо кілаграмаў за шэсцьдзясят і ў розных скрынях, скрыначках адзін адужаць не мог. А паліцэйскія ўжо амаль што цягнулі яго ў пастарунак, там не чыняць цырымоніі. Аператар цераз галовы людзей пачаў перадаваць нам скрыні, да чаго прысутныя паставіліся з разуменнем, на іх выцягнутых руках плыла да нас маёмасць кінастудыі. Потым і сам Віктар прабіўся праз людскую сцяну і выпаўз да нас, абвешаны астатнім начыннем, як навагодняя ёлка. Эх, і дасталося нам з Мікалаем на арэхі за тое, што кінулі чалавека аднаго! Хто ж ведаў? — апраўданне было адно.

Але дзе ўладкавацца, каб зняць сашэсце Святога дабрадатнага агню? Доўга шукалі прыстанку, нарэшце знайшлі вольны лапік каля сцяны Галгофы, недалёка ад увахода ў храм. Сюды і ўціснуліся з усім рыштункам. Адсюль ужо не прагоняць, таму крыху супакоіліся. Няхай самой капліцы Дамавіны і не відаць, затое блізка, а перад вачыма Пліта памазання.

Было ўжо далёка за поўнач, можна перавесці дых, спакойна агледзецца наўкола. Колькі людзей праводзілі ноч у храме — сказаць складана. Зразумела толькі, што лік ідзе на тысячы. Да слова, Храм Дамавіны Гасподняй — гэта не звычайны храм у нашым уяўленні. Сапраўдная лаўра, дзе ўнутры цэрквы і цэркаўкі, капліічкі, прыдзелы, што належаць розным хрысціянскім канфесіям. Цэнтральне месца займае велічны каталікон, які належыць грэчаскай праваслаўнай царкве. Тут цудоўны іканастас, над крыжавінай храма ўзвышаецца агромністы купал, які мае назву «Амфалас» (па-грэчаску «пуп»). Вось дзе, аказваецца, сапраўдны пуп зямлі!

Каталікон шчыльна заняты, натуральна, грэкамі. Усе сядзяць на прынесеных з сабою раскладанчыках — што значыць мець вопыт і спрактыкаванасць! Неяк майстраваліся ператрываць ноч усе людзі ў храме, некаторыя ў аддаленых месцах спалі як належыць, падаслаўшы на каменную падлогу спальнікі. Але нічога, у нас скрыняў хапае, каб хоць прысесці.

Хлопцы ўзялі кінакамеру і відэакамеру і пайшлі паздымаць жанравыя сцэнкі. А я супакоена сядзеў у прыціхлым храме. Ніяк яшчэ не магло дайсці да свядомасці, не верылася, што я на Святой Зямлі ў Іерусаліме, у Храме Дамавіны Гасподняй. Ды яшчэ і на свой праваслаўны Вялікдзень! Што стану сведкаю цуду — сашэсця Святога агню! Колькі ні чытай аб гэтым, колькі расповедаў ні слухай — усвядоміць розумам немагчыма.

Ці згадвалася ў той ціхі час аб Радзіме? Больш падсвядома. Наяве штурхала адно шматмоўнасць людской грамады, што сабралася гэтай цудоўнай ноччу пад дахам храма, на пупе зямлі. Найбольш было грэкаў. Вельмі шмат румынаў, відавочна, людзей простых. Ведаў, што праваслаўная царква моцная ў Румыніі і Малдове, хоць гэта і не славянскія краіны, але на свае вочы пераканаўся ўпершыню. У параўнанні з грэкамі і румынамі расійскіх паломнікаў заўважалася няшмат, ды і тое ў асноўным святары і манахі.

З Беларусі ўвогуле, мабыць, толькі мы ўтрох. Як тут не будзеш адчуваць сябе беларусам, калі ты тут практычна адзіны? Ужо пазней вычытаў у «Авантурах» Саламеі Русецкай яе меркаванне, што палякі (і ліцвіны, зразумела) не вельмі імкнуцца ў пілігрымку на Святую Зямлю. Выснова гэтая з XVIII стагоддзя выдае на справядлівую і ў XXI. «Трэці Рым» і проста Рым для нас больш важныя, чым зямля Ісуса Хрыста. А сапраўдныя вытокі нашай духоўнасці, веры якраз тут. Добра разумела гэта Еўфрасіння Полацкая, якая на схіле зямнога жыцця даімкнула да святых мясцін.

Ноч бярэ сваё. Пад раніцу мы крыху падрамалі, седзячы на сваіх скрынях, што дало нам фізічную палёгку. Вось ужо і світанак увабраўся за недалёкім ад нас уваходам у храм. Пачынаюць яшчэ падцягвацца людзі, праход усярэдзіну побач з намі, але, зразумела, ад падножжа Галгофы нас ужо ніхто не адарве. Бясконцы рух, які крыху здымае напружанне з ўсеагульнага чакання, разлітага ў прасторы храма. Спакваля рыхтуемся і мы, бо не проста пілігрымы, але і людзі на працы. Віктар будзе здымаць на кінакамеру, а Мікалай — на відэа. Вось і поўдзень святой суботы. Сашэсце Святога агню чакаецца пасля гадзіны дня. Напружанне і хваляванне ўзрастаюць, шырацца як ва ўсёй атмасферы запоўненага тысячамі людзей храма, так і ў нашых душах.

І тут здараецца першы цуд, асэнсаванне якога прыйдзе пазней. Цуд амаль што побытавы. За нашай спінай у сцяне — арачная ніша з вузкім (на паўступні) падаконнем наўскос. Вырашылі, што варта ўзабрацца туды, каб рабіць здымкі з больш высокай кропкі для лепшай панарамы. Але калі туды ўзлазіць? — дакладнага часу сашэсця не ведае ніхто. А тут ужо падбіраецца да гадзіны дня. Вырашаем — пара. Хлопцы з камерамі ўзбіраюцца ў нішу, яе аснова на ўзроўні маіх плячэй. Стаяць маім сябрам нязручна, ногі на нахіленай прыступцы-плоскасці. Але хлопцы трымаюцца. Я падтрымліваю рукамі то аднаго, то другога, падпіраю плячыма. Пасля прыкінулі, што ў такім нязручным напружаным становішчы яны прастаялі каля гадзіны. У звычайных умовах не вытрываў бы і пяці хвілін. Што давала ім моцы? Вось табе і цуд.

А людзі ўсё яшчэ праштурхоўваюцца каля нас унутр храма. Некалькі арабаў-хрысціян на гэтым шляху сядзяць на карку ў сваіх таварышаў і крычаць на ўвесь голас нешта ўзнёслае, радаснае ў прадчуванні дабрадаці Гасподняй. У нашых ціхіх і засяроджаных цэрквах такога нельга і ўявіць. І што? З-за

гэтага я буду іх называць не такімі праваслаўнымі як іншыя? Не мне асуджаць. Увогуле, у гэтыя вечар, ноч і паўдня перад нашымі вачыма паўстала карціна ўсяленскага праваслаўя. І якраз у гэтым выпадку пераважна не славянскага — грэкі, румыны, армяне, арабы…

Разнамоўная гамана падсвядома ўсталёўвала, пераконвала ў тым, што мовы дадзены народам Госпадам. Звяртаюцца людзі да Яго на сваёй мове, і няма ні ў кога сумнення, што ён не будзе пачуты. Трэба быць проста нявернікам, каб сумнявацца ва ўсемагутнасці Усявышняга, здольнасці пачуць шчырыя словы, звернутыя да Яго на роднай для чалавека мове.

У храме Святой Дамавіны напружанне дасягае найвышэйшай кропкі. Пробліскі святла раз-пораз ярка прабіваюць прыцемкі храма, быццам маланкі гуляюць у прасторы. Па незвычайным шуме адчуваеш, што малітва іерусалімскага патрыярха пачутая, Святы агонь сышоў. Хлопцы ўключаюць камеры. Я трымаю тры гронкі свечак за ўсіх. У кожнай па трыццаць тры свечкі, па ліку гадоў зямнога шляху Збаўцы. Святы агонь заварочвае ад Кувукліі за вугал каталікону і вокамгненна разліваецца па ўсёбачнай нам прасторы. Людзі перадаюць яго адзін аднаму свечкамі, але гэта адбываецца неверагодна хутка, святло шырыцца, ужо праз некалькі хвілін Агонь асвятляе ўсю шматтысячную грамаду ў храме.

Цікавая дэталь — відэакамера ў самы адказны момант спынілася, як потым выявілася, падсеў акумулятар. А Віктар на кінакамеру сашэсце Святога агню зняў. Удалося! Хлопцы спускаюцца на зямлю, мы абмываем твары агнём. Ён не пячэ, ласкава ахінае дабрадаццю твой твар. Здарылася! Цуд, які адбыўся на тваіх вачах! Балазе мы недалёка каля ўвахода, паціху спакоўваемся і выходзім з храма. Узнёсласць, радасць усеагульная, нават арабы-мусульмане каля сваіх шапікаў радуюцца разам з усімі, у іх таксама гараць свечкі. Здаецца, увесь стары Іерусалім ахінуты сёння дабрадаццю Гасподняй, па ім разліты Святы агонь.

Адыходзім у адносна зацішнае месца і запальваем усе гронкі свечак, якія павязём дадому для родных і блізкіх. Гэта ўжо будуць не проста свечкі, гэта будзе святыня са Святой зямлі для сям'і. У нас свечка ёсць да гэтага часу. І будзе яшчэ доўга. Мы запальваем яе на Вялікдзень, калі садзімся за святочны сямейны стол. Абмываем твары, як і належыць. Пах працяглы час пазначае вялікае свята. Запальваем яшчэ і на Народзіны Хрыстовы. Можна сказаць, што тая пілігрымка штораз са мною, а цяпер і з маімі сямейнікамі.

А тады на ўздыме рухаемся да Яфскай брамы, дзе чакае аўтобус да Горняга манастыра. У гэты шчаслівы і радасны момант яшчэ не верыцца, што ты стаў сведкам цуду, што ён адбыўся на тваіх вачах. Проста светла і радасна на душы. Адвечны горад становіцца родным, быццам ты бываў тут ужо неаднойчы. Ярка, але міласэрна свеціць сонца. Усё радуеццца знаку Божай дабрадаці для нас грэшных.

У манастыры абедаем і вырашаем адпачыць. Калі падлічыць, то ў чаканні Святога агню мы прастаялі ў храме больш як шаснаццаць гадзін. І цяпер здаецца, што час той праляцеў непрыкметна. На ўсяночную ў горад у сабор Рускай праваслаўнай місіі мяркуем не ехаць, таму з чыстай душою кладзёмся паспаць.

Абуджаемся каля апоўначы. Чаканы Вялікдзень, светлае Уваскрасенне Хрыстова. Нарэшце можна і разгавецца пасля Вялікага посту. У пакоі хлопцаў абрус самабраны проста на падлозе, бо ні стала, ні крэслаў няма. Дастаём свае некранутыя пакуль прыпасы. Божа, чаго толькі ў нас няма! І каўбаска сухая, і паштэты, і кансервы мясныя, і рулеты, нават агурочкі марынаваныя. Ёсць хлеб «Нарачанскі». Галоўнае — сала. Як можа беларус, нават у Іерусаліме, абысціся

без сала? Да слова, у Амерыку мы б яго не правезлі — забаронена. А тут у аэрапорце нашы рэчы ніхто не праглядаў. І гарэлка беларуская. Так пачалося наша ўсяночнае велікоднае баляванне. Сядзелі, гаманілі, абменьваліся ўражаннямі, успаміналі ўсе драбніцы стаяння ў храме. Спяшацца не было куды — нядзеля вольная, паездак няма, значыць, святочны перапынак у працы.

Гэтую ноч не клаўся спаць увесь наш сямейны гатэльчык. Жылі тут і свецкія людзі, кшталту нас — група з Санкт-Пецярбурга і калегі-кіношнікі з Масквы. Жылі растоўскія святары, якія прыехалі ў пілігрымку са сваімі матушкамі і нават дзецьмі. Было некалькі семінарыстаў з Троіца-Сергіевай лаўры са сваім настаўнікам, жыло колькі манахаў, быў паслушнік з Валаамскага манастыра, яўрэй-выхрыст, якназваюць такіх. Ён ужо не першы раз у Іерусаліме, балазе тут жывуць яго знаёмыя. Пасля знялі сінхрон з ім. Віктар рабіў здымкі ўжо цёмначы, з пакоя ў расчыненае акно, асвятляючы твары і постаці манаха і рэжысёра, якія стаялі на вуліцы. Але гэты эпізод так і застаўся без руху. Відэакамеру з сабой мы бралі свядома. На кінаплёнку здымалі эпізоды да фільма пра Афанасія Брэсцкага, а на відэа — дубліравалі гэта і здымалі ўсё астатняе. Меліся зрабіць асобны відэафільм аб Святой Зямлі...

Велікодная ноч праляцела. Ранкам пайшлі ў трапезную на сняданак. І не таму, што галодныя былі, наадварот, вельмі сытыя. А таму, што хацелася адчуць водар свята з людзьмі.

За святочным сталом сядзелі разам з маскоўскімі калегамі. Рэжысёр, ужо ва ўзросце, два аператары, асістэнт. Ды іхні прадзюсар і начальнік — малады хлопец, намеснік упраўляючага нейкага маскоўскага банка. Натуральна, з гэтага банка і грошы, таму кіношнікі слухаліся свайго дырэктара. Ім было прасцей, яны мелі мікрааўтобус з шафёрам-арабам, маглі працаваць аўтаномна. Гэта мы былі прывязаны да пілігрымскай грамады, да агульнага аўтобуса, які вазіў па святых мясцінах. Масквічы таксама здымалі святыні, у іх, як мы зразумелі, быў задуманы цэлы цыкл.

За тым сняданкам ці не ўсю маскоўскую групу я павярнуў да Беларусі. Узнёслае нацыянальнае пачуццё прачнулася пасля разгавення, стаў даводзіць, што такое беларусы і наша мова. Слухалі ўважліва. А прадзюсар-вернік рэзюмаваў па-хрысціянску мудра: калі ёсць людзі, якія лічаць сябе беларусамі, адметнай нацыяй са сваёй мовай, калі ёсць Беларусь, значыцца, так заўгодна Госпаду, усё робіцца па Яго волі. Такой глыбокай і сутнаснай сентэнцыяй малады расіянін выклікаў маю павагу.

Як потым стала зразумелым, маскоўскія калегі прасякнуліся да нас павагай за патрыятычны дух. Запрасілі паехаць з імі праз Тэль-Авіў да Галілейскага мора. Дзень вольны, чаму б і не? Чым больш мы ўбачым, тым лепш, дзеля гэтага і ехалі. З сабою ўзялі толькі відэакамеру...

Вось і Міжземнае мора, яго бачу ўпершыню. Стаім на ўзбярэжжы ў Яфе, старажытным горадзе, які ўжо даўно зліўся з Тэль-Авівам. З раніцы было не так і цёпла, клімат кантынентальны, а тут ужо ўвабралася ў сілу сонца, неба сіняе і чыстае, і свежае дыханне мора, неабсяжнай воднай прасторы. Чаго топчамся на ўзбярэжжы — не ведаю. Калі ехаць да Галілеі, то якраз, шлях няблізкі. Зрэшты, і спяшацца няма куды. Тым больш, камандуем тутака не мы.

Маскоўскія таварышы нешта надумалі, мы селі ў аўтобус і паехалі ўжо ў Тэль-Авіў, таксама да мора, на пляж. Людзей мясцовых там было няшмат, да адкрыцця сезона яшчэ далёка. Але гэта ім, паўднёвым жыхарам, было яшчэ холадна. Нам, жыхарам поўначы, тое здавалася ледзь не спякотай. Падумаў: калі не акунуся ў мора, буду потым сябе дакараць. Мікалай не захацеў, а мы з Віктарам раздзеліся і палезлі ў ваду. Яшчэ і сфатаграфаваць рэжысёра папра-

сілі. Сапраўды толькі акунуліся, бо вада яшчэ не прагрэлася пасля зімняга сезона. Але пачуліся больш бадзёрымі.

Наступныя дні будзённыя, але для нас яны сталі сапраўдным святам, працягам дзівоснага знаёмства са Святою Зямлёю. У панядзелак шлях ляжаў да Іудзейскай пустэльні. Праўда, транспарту чакалі вельмі доўга, каля трох гадзін. Аказалася, што ў арабаў сваё свята, ніхто не працуе. Ужо і хвалявацца пачалі, але нарэшце аўтобус з'явіўся, і мы выправіліся ў дарогу ў заходнім накірунку ад Іерусаліма.

Наперад скажу, што адкрыцці і цуды доўжацца цэлы дзень. Ведаю, што на спакушэнне д'ябла быў Ён уведзены ў пустэльню, дзе пасціўся сорак дзён і начэй. Якраз туды кіруем. Вось тая Іудзейская пустэльня — шэраг суровых гор-узвышшаў мякка-пясочнага колеру. Яны праз стагоддзі абгладжаныя вятрамі. У астатнім адчуванне ірэальнасці краявіду, быццам ты дзе-небудзь на Месяцы ці якой яшчэ іншай планеце. Вока не адарваць. Расліннасці не відаць зусім, але недзе далёка можна згледзець статкі-купкі авечак. Значыць, нешта знаходзяць яны для спажывы?

Пад'язджаем да Іерыхона — хто не ведае біблейскі выраз «Іерыхонская труба»? Простае арабскае мястэчка не ўражвае, толькі што ў зеляніне. Трымаецца яна на пастаянным арашэнні, таму гэты горад-аазіс існуе. Вялікія бананавыя сады. Мы ўжо заўважалі, што спеюць плады адразу ў цэлафанавых мяшэчках. Сарваў, а ўпакоўка гатовая. Да чаго не дадумаешся, каб спрасціць жыццё.

Галоўная наша мэта — гара Спакусы, якая быццам навісае над Іерыхонам. У круты схіл гары ўлеплены грэчаскі праваслаўны манастыр, сцены яго вырастаюць са скал, усё аднаго колеру, што стварае ўражанне суладдзя створанага рукамі чалавека і прыродай. Бяром у рукі кожны сваю частку кінематаграфічнага начыння і пачынаем разам з нашымі спадарожнікамі пад'ём. Я цягну акумулятар у руцэ і штатыў на плячы. Сцежка камяністая, упіваецца ў падэшвы, ісці з паклажаю нялёгка. Прыпынак у манастыры вельмі дарэчы. Святыня тут — грот, перароблены ў капліцу. Месца, дзе трымаў пост Ісус, з гэтых часін і пяцідзесяцідзённы Вялікі пост перад Вялікаднем. У пячоры камень з адбіткам Яго ступні, каля якога ўкленчваем і цалуем. Нашы святары адразу пачынаюць хваласпевы. Так, нам пашанцавала, што ў нашай пілігрымскай сябрыне некалькі святароў. У такіх святых мясцінах яны адразу пачынаюць адпаведную службу, малебен па ўсіх канонах. Ты аказваешся не проста сузіральнікам, але і ўдзельнікам евангельскіх падзей. Увогуле тут, на Святой Зямлі, узнікае непадробнае адчуванне, што ты трапіў у іншасвет, што двух тысячагоддзяў не было, што Хрыстос толькі-толькі хадзіў па гэтай зямлі, пакідаў на ёй свае сляды. Сляды, якія не згубіліся, не сцерліся, да якіх ты можаш дакрануцца, далучыцца душою да Ягоных дзеяў.

На далейшы рух да вяршыні гары адважваюцца не ўсе. Здаецца, як сказала матушка, што суправаджае нашу групу, вышыня яе трыста метраў. Але мы не для таго трапілі сюды, каб нешта абмінуць. Серпанцін пасля манастыра на вяршыню здаецца яшчэ больш камяністым, сонца прыпякае ўжо моцна, пачынаем абліваццa потам. Часам здаецца, мо і не дойдзеш? Але настойліва рушым уверх. Узнагародаю — вяршыня гары Спакусы з крушнямі былой праваслаўнай царквы. Зверху краявід непаўторны — мройная пустэльня, кропкі аазісаў, зялёная палоска поймы Іардана, у далёкай дымцы нават краёк Мёртвага мора відаць. Вобраз навідавоку, запісаны ў Дабравесці, калі д'ябал паказвае з гэтай гары Хрысту ўсе царствы свету і славу іх і кажа: «Усё гэта Табе дам, калі, упаўшы, паклонішся мне». І чуе ў адказ: «Адыдзі ад мяне, сатана; бо напісана: «Госпаду Богу твайму пакланяйся і Яму аднаму служы». Радуешся, што словы Новага запавету ўвасобіліся для цябе ў зрокавую рэальнасць.

Спускацца заўсёды лягчэй, ужо і не адчуваеш цяжару ношы, бо думкі зусім не тут. У манастыры ігумення, вельмі прыемная жанчына-манашка, запрашае ўсіх у трапезную, прапаноўвае па келіху цудоўнага грэчаскага віна. Свята ж, Вялікдзень! Неспадзявана падыходзіць да мяне і хусцінкаю выцірае пот з ілба. Заўважыла, што мы яшчэ і работу робім. У душу далілася яшчэ адна кропля цеплыні і дабрыні.

Далей шлях наш ляжыць уздоўж Іарданскай даліны, евангельская рака бяжыць унізе паралельна шашы. На другім краі ракі — краіна Іарданія, дзе правіць кароль. А тут арабская тэрыторыя Ізраіля. Яўрэі гэтай дарогай не ездзяць, а нам, паломнікам, можна. Кравіды нязвыклыя воку — справа пустэльня, ужо раўнінная, злева зялёная стужка ракі. Пакрысе на даляглядзе пачаў вымалёўвацца абрыс гары. Аказваецца, туды і кіруем. Так, гэта евангельская гара Фавор. Нечакана ўзвышаецца сярод раўніны, каб падкрэсліць імкненне да неба. На вяршыню пешшу не дабярэшся, вышыня гары шэсцьсот метраў. Тут да тваіх паслуг — таксісты-арабы са сваімі ўлюблёнымі «мерсэдэсамі». Машыны агромністыя, па тры дзверцы з кожнага боку. Такіх раней я і не бачыў, аказваецца, немцы спецыяльна робяць іх на заказ. Маторы магутныя, угору ляцяць, аж дух займае.

На вяршыні гары Ісус Хрыстос перамяніўся перад трыма вучнямі сваімі: «І заззяла аблічча Яго, як сонца, а ўбранне Яго стала белае, як святло». Па запавеце апосталаў стаяць тут тры, прыгожа прыбраныя кветкамі, пліты са стрэшкамі: Ісусу, пракорам Майсею і Іллі, якія явіліся вучням і гутарылі з Хрыстом у іх на вачах. Усё гэта каля велічнага храма Пераўстварэння. Ад назвы гары свецкія выразы «ў фаворы», «фаварыт». Думаецца, пайшло ад таго, што Хрыстос не ўсіх апосталаў узяў на вяршыню, а толькі трох, такім чынам абраных. Фаварытаў, як сказалі б сёння. Праўда, тут я магу і памыляцца ў сваіх высновах.

Аддаляемся ад гары, а яна ўсё прыцягвае вока, нейкай сілай трымае ўвагу. Зрэшты, нябачная сіла разліта на Святой Зямлі паўсюль. Уязджаем у Назарэт, родны горад Хрыста. Так і будуць яго зваць: Ісус Назарэцянін. Сакральнае месца ў гэтым хоць і невялікім, але шумным паўднёвым шматнацыянальным мястэчку — калодзеж Марыі. Праўда, у каталікоў сваё месца Дабравешчання, там стаіць велічны сабор. Але ж мы праваслаўныя, тым больш, арханёл Гаўрыіл прынёс Добрую вестку дзеве Марыі, калі яна ішла да калодзежа па ваду. Калодзеж той цяпер унутры невялікага, але зграбнага храма Святога Гаўрыіла з каштоўным іканастасам, сапраўдным перлам царкоўнага мастацтва. Глядзіш на абразы — і не нагледзішся — прыцягваюць і зачароўваюць сваёй духоўнай моцаю. Матушка папярэдзіла сваіх паломнікаў, што ваду з калодзежа браць няварта, яна можа быць забруджанай. Мы і не бяром, а некаторыя ўсё ж чэрпаюць і п'юць. Вера твая выратавала цябе, што тут больш скажаш.

Наступны прыпынак — Кана Галілейская, таксама невялікае мястэчка, каларыт якога, як і ў Назарэце, проста фізічна бракуе часу адчуць. Толькі святыні сёння чакаюць нас. Хто не ведае, дзе Ісус явіў свой першы цуд? Якраз тут, на вяселлі, калі ваду ператварыў у віно. Купляем віно, апускаем свае пляшкі ў каменны ваданос у храме, які стаіць на тым месцы, дзе было вяселле, молімся. Віно робіцца асвечаным. (Дома, у Мінску, выпілі мы з жонкай тую пляшку за наша сямейнае шчасце, за пяшчоту.)

Нарэшце дабіраемся да Іардана, месца хрышчэння Ісуса. Бераг увабраны ў камень, можна спусціцца да вады. Але мы сваёй пілігрымскай сябрынаю рушым далей, шукаем ціхага кутка. Практычна як з усімі святынямі, наконт месца хрышчэння таксама існуюць іншыя меркаванні. Нас тое не абыходзіць,

калі верыш. Спыняемся, дзе ёсць прагаліна паміж дрэў, якія схілілі свае галіны да вады. Рака тут зусім нешырокая, вада здаецца зялёнай і непразрыстай. Мне гэта нязвыкла пасля чысцюткай вады роднага Нёмана. Святары адразу ўзносяць хваласпеў, пачынаецца абрад хрышчэння. Так што ён у нас самы сапраўдны, а не сімвалічны. Большасць перапранаецца ў светлыя льняныя сукні, спецыяльна прыдбаныя для такога моманту. Мы ў гэтым сэнсе нявопытныя, ніхто не падказаў. Таму спускаемся ў ваду ў чым можам. Кожны акунаецца тройчы з галавою, прыемна ад прахалоднай вады. Некаторыя нават пьюць яе. У пасудзінах вада чыстая, значыць, вонкавае ўражанне падманлівае. Нялішне згадаць, што і тут здымаем на відэакамеру, аб сваёй працоўнай місіі не забываем. Не хочацца развітвацца з ласкавым берагам Іардана, але час рушыць далей.

Тым больш, справа да вечара, і так з-за запозненага выезду мы не ўсюды паспяваем. Але Галілейскае мора (Ціверыядскае возера) абмінуць ніяк нельга. Да рускага лапіка зямлі з цэркаўкай на беразе мора трапляем ужо надвячоркам. Гэта якраз дадае свае фарбы ўспрыманню. З пляцоўкі відаць усё возера-мора. У нас таксама называюць Нарачанскае возера морам. Памеры якраз параўнальныя. Відаць добра другі бераг, дзе вугалёчкамі агеньчыкаў пазначаны селішчы. Гэтыя агеньчыкі ствараюць нейкае асаблівае адчуваннне ўтульнасці. Вада роўненькая, гладкая, ветрыку няма. Матушка сказала, што тут можна згледзець светлую палоску ад берага. Гэта той шлях, па якім Ісус Хрыстос ішоў па вадзе, як пасуху. Не ведаю, якую ролю адыгралі мо і знарок сказаныя словы, але я ўгледзеў тую светлую палоску. Яна пачыналася ад берага і кіравала ў сярэдзіну возера. Вось ён, светлы след! І зрокава ён пасёння са мною, у душы, грэючы яе ў часы згадак аб Святой Зямлі. Так у цуд я паверыў, калі гаварыць паэтычным словам.

Здаецца, даволі ўражанняў, настрой па-харошаму ўзбуджаны, кульмінацыя адбылася. Але якая драматургія, нават аднаго дня, без адхлання? Здарылася і яно ў праваслаўным грэчаскім манастыры, які месціцца літаральна на беразе мора. У гэтым месцы Ісус паклікаў да сябе восем рыбароў, якія сталі яго вучнямі-апосталамі. Таму і купалоў у царквы восем, што зусім нехарактэрна для праваслаўнага храма. Звонку ў цемры не вельмі яго і разгледзіш, але ўнутры ў паўзмроку пакідае моцнае ўражанне. Стаўлю свечку, потым пішу запіску з пералікам імёнаў усіх родных і блізкіх на здароўе, другі спіс складаюць імёны тых, хто адышоў у іншы свет, на спачын душы. Згадаюць усіх на службе. Выходжу на паветра. Заходжу на драўляны насціл, які ўпіраецца проста ў ваду. Саджуся на лавачку і слухаю цішыню, якую не парушае нават нягучны плёскат вады каля берага. А цемень вады падкрэсліваецца святлом ліхтароў, каля якіх віецца машкара. Цёпла, спакойна, ты быццам у іншасвеце, дзе душа ў поўнай згодзе сама з сабою, з прыродай, з мясцінамі Ісуса. Каб не страціць такі стан, у аўтобусе на зваротным шляху проста дрэмлеш, як дзіця.

У аўторак, апошні арганізаваны дзень для паломнікаў, зноў кіруемся ў напрамку Іудзейскай пустэльні. Дарога ўжо знаёмая, можна звярнуць увагу на драбніцы, дэталі. З рухам наперад расліннасць відавочна знікае з акаляючых краявідаў. І тут раблю для сябе евангельскае адкрыццё! На схілах невысокіх гор, дзе відаць яшчэ кволыя нешматлікія дрэўцы, ляжаць уціснутыя ў зямлю вялікія валуны. Зводдаль яны нагадваюць хлябы, толькі вынятыя з печы. Вось, вось яно адкуль! «Калі Ты Сын Божы, скажы, каб камяні гэтыя сталі хлябамі». У нас на Беларусі камлыгаў таксама хапае, але рэфлексіі на хлябы яны не выклікаюць. Таму і зразумець гэтыя радкі няпроста. Цяпер усё стала на сваё месца.

Манастыры, куды сёння кіруемся, пазначаюць месцы, таксама звязаныя з евангельскімі падзеямі, няхай і не першага шэрагу. Спыняемся ў адным, потым едзем да Мёртвага мора недалёка ад вытоку з яго ракі Іардан. Прыгожыя мясціны, тут берагі ўжо гарыстыя, возера ў лагчыне сярод скал. Доўга ідзём па пяску да вады. Нідзе ні хаціны, а месца ажыўленае. Асабліва шмат дзяцей-школьнікаў з іхнімі маладымі настаўніцамі ў белых хусцінках на галаве. Правільна робяць, што возяць на экскурсіі. У выхаванне патрыётаў трэба ўкладваць. Хоць прыклад з Мёртвым морам у гэтым сэнсе мо і не з найлепшых, але відавочны для нас і паказальны ў стаўленні да дзяцей.

Матушка не раіць нам, як праваслаўным, заходзіць у возера. Я слухаюся, хоць ведаю аб лекавых уласцівасцях гэтай насычанай солямі вады. Іншыя ж, і мае хлопцы таксама, тупаюць нагамі ў вадзе, а Мікалай нават заходзіць глыбей. Кладзецца на спіну, каб самому ўпэніцца ў тым, што вада трымае на паверхні. Грэх невялікі, дзеля чаго ж прыехалі?

Далей забіраемся высока ў горы. Адсюль трэба пешшу ісці ўніз у манастыр у скалах. У мяне чамусьці асаблівага жадання ўжо няма, таму выпраўляю хлопцаў адных з відэакамерай, сам застаюся сцерагчы кіношны груз каля дарогі. Сяджу на скрыні, любуюся нязвыклым для беларуса краявідам. Але засяродзіцца не даюць гандляры-арабы, якія прапаноўваюць скураныя сумкі ды іншую драбязу. Адзін разы тры чапляецца і да мяне, каб нешта купіў, але я катэгарычна адмаўляю англійскім словам «no!». Хаця яны ведаюць па колькі слоў на розных мовах, занятак абавязвае. На маіх вачах учапіліся ў пажылую нямецкую пару. Адзін шэкель усяго, адзін шэкель! Арабскі шэкель. І потым, калі ахвяра трымае ў руках выраб, тлумачаць, што арабскі шэкель — гэта дзесяць ізраільскіх. Хоць насамрэч ніякіх арабскіх шэкеляў не існуе. Проста гандлярская хітрасць. Такі і ўсунулі немцам сумачку.

Мяне гэтае суседства з гандляром усё ж нервуе, хутчэй бы хлопцы вярнуліся. Чаканне, хоць і задоўжанае, канчаецца. Рэжысёр яшчэ выхоплівае аднаго з троіца-сергіевых семінарыстаў, ставіць яго на ўзбочыне на фоне непаўторнага характэрнага краявіду і просіць паспяваць па-грэчаску велікодны псалом. Здымаем такі кадр на кінакамеру, ён потым арганічна ўваходзіць у фільм. Што рабілі б мы на Святой зямлі без транспарту і без нашых спадарожнікаў-пілігрымаў? З іншага боку, калі дадзена нам трапіць сюды, то і дадзена здзейсніць жаданае-задуманае.

На зваротным шляху заязджаем у Віфлеем. Але ні мястэчка толкам разгледзець, ні месца нараджэння Ісуса ўбачыць на свае вочы не выпадае. Нявыкрутка. Ці то храм Народзінаў Хрыстовых у гэты дзень якраз зачынены, ці абвастрэнне паміж палесцінцамі і ізраільцянамі чарговае — не памятаю дакладна. Дарэчы, некалькі разоў пераязджалі мы з ізраільскага боку на арабскі і наадварот — блок-пасты, калючы дрот, кулямёты, узброеныя людзі. Вайскоўцаў з аўтаматамі першы раз убачылі адразу ў аўтобусе, калі ехалі з аэрапорта ў Іерусалім. Потым у самім горадзе, і каля храма Дамавіны Гасподняй. Аб тым ведаў раней, але рэальна чалавек са зброяй у звычайнай плыні жыцця ўносіць нейкі дыскамфортны нюанс. Непрыемна ўсё гэта. Здаецца, чаго дзяліць на Святой Зямлі? Калі параўноўваеш дагледжанасць на ізраільскім баку, тую ж ваду са шланга пад кожным дрэўцам, дарогі, новабудоўлі з беднатою арабскіх вёсачак і мястэчак, міжволі ўкрадваецца крамольная думка. Здаецца, што палесцінцы проста не хочуць працаваць. Прасцей бегаць з аўтаматам (таксама работа!) ці хадзіць на пратэстныя маршы, крычаць аб незалежнасці, чым проста працаваць, канкрэтна дбаць аб сваім дабрабыце. Не буду катэгарычна сцвярджаць слушнасць свайго меркавання, бо нам збоку ў іхніх блізкаўсходніх стасунках разабрацца няпроста.

Назаўтра ва ўсіх вольны дзень, бо ў чацвер ад'езд. Дзень шопінгу на сённяшнім слэнзе. Але мы пакуль не расслабляемся. Выбіраемся з Айн-Карэма на гарадскім аўтобусе, каб у вольным плаванні, калі ўжо ні ад каго не залежыш, спакойна паблукаць па старым Іерусаліме, асэнсаваць убачанае, дазняць тое, што ў напружаным рытме не дагледзелі. У храме Дамавіны Гасподняй людзей яшчэ няшмат, можна спакойна пахадзіць, паглядзець. Зайсці (хутчэй, пралезці) унутр Кувукліі, дакрануцца да каменнай пліты ў пячоры-дамавіне, на якой ляжала цела Ісуса, куды і сыходзіць Святы Дабрадатны агонь на малітву іерусалімскага патрыярха. Вольна ўзысці на Галгофу, дзе стаялі тры крыжы. Дакрануцца да Пліты памазання побач гары, дзе быў укрыжаваны пакутнік. Вернікі штораз націраюць яе ялеем, стаіць прыемны пах, уверсе гараць свечкі.

Ідзём уніз па каларытных вулках старога горада. Больш не прыйдзем сюды, таму прашу таварышаў дапамагчы купіць мне залаты ланцужок, аб якім прасіла Святлана з Серабранкі. Проста прыцэньваемся, але арабы-гандляры хапаюць мёртвай хваткай. Адбіцца вопыту няма, сілаю цягнуць за рукі, вырвацца не ўдаецца. Той залаты ланцужок, натуральна, Святлане не спадабаўся, яна мела на ўвазе іншае золата. Спрачацца не сталі, аддалі ёй грошы, а Вольга мая ўпрыгожанне насіла.

Больш не спыняемся нідзе на гандлёвай вуліцы. Заходзім яшчэ раз у Прэторыю, зноў спускаемся ў пячоры-вязніцы. Тут паўцёмна, Віктар замярае святло прафесійным японскім (значыць, дарагім) экспанометрам. І забываецца яго на камені ў лёхах. Па вяртанні, ужо з кінастудыі, тэлефануе на мабілку святару з місіі, які адвозіў нас у аэрапорт, аб гэтай недарэчнасці. І (о, дзіва!) прыборчык знаходзяць і перадаюць потым з аказіяй у Мінск.

Даліна Кедрон, падкрэсленая цяпер асфальтавай істужкай шашы. Тут заканчваецца стары Іерусалім, на той бок даліны ўзвышаецца Елеонская гара (гара Аліў), шмат згадваемая ў Новым запавеце. Перш чым перайсці даліну, збочваем глянуць даўнія грабніцы ў скале. Колькі стагоддзяў ім? Напэўна, яшчэ да веку Хрыстовага. Так і Елеонская гара стаіць адвеку. У яе падножжа — храм Усіх Нацый. Не архітэктура збудавання прыцягвае — яна якраз не арыгінальная, а закладзены сэнс, што мы ўсе — хрысціяне, негледзячы на канфесійную рознасць. Згадаў гэты касцёл, калі прыйшла ў голаў думка мець на радзіме Беларускі храм хрысціянскіх канфесій, куды б маглі прыходзіць і праваслаўныя, і каталікі, і пратэстанты, і уніяты. А што? Такой ступені талерантнасці, гістарычна абумоўленай, няма больш ні ў воднай краіне. То чаму б нам такім чынам не падштурхнуць працэс вяртання да адзінства? Не маю на ўвазе экуменізм, нейкую ўжо адзіную канфесію, няхай кожны застаецца пры сваім. Але пры гэтым усе маюць магчымасць маліцца ў адным храме. Эсэ «Беларускі храм» потым напісалася

Якраз каля храма Усіх Нацый — Гефсіманскі сад, месца апошняй ночы Хрыста перад арыштам. Растуць тут аліўныя дрэвы з пакручастымі каржакаватымі ствалами, раскідзістымі дробналістоўнымі кронамі. Не Хрыстовага часу, але вельмі старыя, такія жраслі і тады. Тут Ісус маліўся, ведаючы свой зыход, тут яго прадаў Іуда. Разгарніце Дабравесце, самі прачытайце аб гэтай трагічнай ночы ў Гефсіманскім садзе. Дзе ёсць роспачныя, але і цвёрдыя словы: «Ойча мой! Калі не можа чаша гэтая абмінуць Мяне, каб Мне не піць яе, хай будзе воля Твая». А воля Госпада была выпіць чашу да дна, каб даць чалавеку шлях уратавання.

На гары нікуды не спяшаемся. Я пакідаю хлопцаў, падымаюся ўверх. Пасярэдзіне схіла прыгожы храм Святой Марыі Магдаліны ў маскоўскім стылі, які належыць замежнай Рускай праваслаўнай царкве. Далей, каля самай

вяршыні — невялічкі храм Узнясення. Вяртаюся да таварышаў, яны знайшлі пляцоўку побач са старымі яўрэйскімі могілкамі, адкуль увесь стары Іерусалім на другім баку даліны як на далоні. Сядзі, убірай душой і вачыма. Камера працуе, усё застанецца і ў кадры. Непаўторная панарама, у цэнтры якой велічны купал мячэці Амара. Пуп зямлі, купал храма Дамавіны Гасподняй, меншы па памерах, але таксама прыкметны. Унікальнасць Іерусаліма ў тым, што гэта горад святыняў трох рэлігій — хрысціянства, іудзейства, мусульманства. У мячэць, якая недалёка ад галоўнай хрысціянскай святыні, нават і не спрабавалі зайсці, іншаверцаў можа б і не пусцілі. А вось Сцяну Плачу згледзець на свае вочы хочацца. Як жа — стрыжань іудаізму, сімвал народа і нацыі. Па дарозе назад спыняемся каля яе. Усё, як у тэлевізары — яўрэі-вернікі тварам да сцяны, запіскі ў расколінах паміж блокамі.

Вяртаемся ў манастыр, пакідаем нарэшце ў спакоі свае камеры, вольныя едзем зноў у горад на шопінг. Час далёка за поўдзень, мо крыху больш за гадзіну ў нас на падарункі і сувеніры. Ідзём не ў стары горад, а ў новы, у яўрэйскую частку. Тут ужо прасцей. Да прыкладу, заходжу ў ювелірную крамку, каб купіць жонцы срэбны ланцужок, а там гаспадаром былы адэскі яўрэй, які тут яшчэ з савецкага часу. Па-руску размаўляем, як дзе ў нас дома. Не факт, што і ён не падмане, як тыя арабы, але даверу больш. Угаварыў, ланцужок купляю, Вользе ён спадабаўся.

Выходзім на развітальны шпацыр па манастыры. Ён месціцца на схіле гары на тэрасах. Зверху наш гасцінны дом-гатэльчык, ніжэй — трапезная, на чарговай тэрасе — манастырскі храм, дзе былі аднойчы на службе. Яшчэ ніжэй — келлі манахінь ды службовыя будынкі. Дарэчы, з матушкай-ігуменняй ужо дагаворана, што заўтра за намі прыедзе машына, адвязе ў аэрапорт. За гэтыя дні гаспадарам стала зразумелым, што мы не толькі паломнікі, але і шчырыя працаўнікі, усё цягаемся са сваім начыннем.

Праз ніжнюю брамку манастыра спускаемся зусім долу, выходзім у самое мястэчка Айн-Карэм. Яно таксама звязанае з евангельскімі падзеямі, нараджэннем Іаана Хрысціцеля. Сюды прыйшла Дзева Марыя з Назарэта, калі атрымала добрую вестку ад арханёла Гаўрыіла, да сваёй стрыечнай сястры Елісаветы. Калі тая пачула вітанне Марыі: «...устрапянулася дзіцятка ва ўлонні яе; і напоўнілася Елісавета Духам Святым». І нарадзіла, калі прыйшоў час, сына Іаана. Сустрэча гэтая адбылася зноў жа каля калодзежа. Мы папілі з тае крыніцы вады, абмылі ёю твары. Ужо змерклася, запанавала перадночная цішыня, наўкола разліты водар паўднёвых дрэў і кветак. Адчуванне, быццам ты ў райскім куточку, пакідаць які, зразумела, аніяк не хочацца.

Нашы сем дзён вандровак па Святой Зямлі, адкрыццяў і цудаў скончыліся. Нараніцу клопаты ўжо дарожныя. Але ж і працу не пакідаем без увагі. Заязджаем яшчэ ў Рускую духоўную місію, дзе дамоўлена зняць сінхрон з айцом Маркам. Робім гэта каля храма, здымаць узяўся сам Мікалай. Праўда, потым аказваецца, што сінхрона няма, не запісаўся. Так прычыны браку і не разгадалі. Што зробіш, для фільма бяда не вялікая, матэрыялу і так хапае.

...Час не спыняецца, але нітка, якой звязала нас, трох таварышаў, Святая Зямля, не ірвецца. Няхай не заўсёды сутыкаемся, кожны здымае свой чарговы фільм. Сустрэўшыся, абавязкова згадаем тую вандроўку. Але найперш яна жыве ў табе самім, у тваёй душы. Выліваецца ў словы, нагадвае аб тваёй далучанасці, якая вымагае адпаведнага ладу жыцця, дапамагае ў няпростую хвіліну. У любы момант, калі на душы радасна ці самотна, ты можаш згадаць убачаны ўвачавідкі на зямлі Ісуса Хрыста светлы след, які лучыць дольні і горні свет. Ды ісці па жыцці далей.

## Сагінгалі СЯІТАЎ

# РАДОК, ВАЙНОЙ ЗАВЕРАНЫ

*У паэтаў ёсць такі выраз: вершы не пішуцца, яны — «прыходзяць». Часам прыходзяць не толькі вершы, але і пераклады. Прыходзяць дзякуючы падчас зусім нечаканым сустрэчам з яскравымі арыгіналамі, а таксама з творцамі гэтых арыгіналаў.*

*Несумненна, калі б у канцы 1974 г. пісьменніцкі лёс не закінуў мяне на стажыроўку ў газету Сярэднеазіяцкай вайсковай акругі «Боевое знамя», рэдакцыя якой, як і штаб акругі, месцілася ў тагачаснай сталіцы Казахстана Алма-Аце (так тады называўся Алматы), не было б і гэтых маіх перакладаў. Як не было б, відавочна, сустрэчы, знаёмства, а пасля і шматгадовага таварышавання з іх аўтарам — вядомым казахскім пісьменнікам і літаратуразнаўцам Сагінгалі Сяітавым (1917—2007).*

*А пазнаёміцца з ім, як з яшчэ з двума выдатнымі літаратарамі, што ў час Вялікай Айчыннай вайны ваявалі ў Беларусі — празаікам Адзіем Шарыпавым і паэтам Джубанам Мулдагаліевым, параіў мне намеснік галоўнага рэдактара «Боевого знамени», беларус з Магілёўшчыны палкоўнік Дз. Післякоў. «Ці не хацелі б вы сустрэцца з казахскімі пісьменнікамі, якія ваявалі ў Беларусі? — спытаўся Дзмітрый Яфімавіч, які ўвесь пасляваенны час праслужыў у Сярэдняй Азіі і Казахстане і быў знаёмы ледзь не з усімі мясцовымі майстрамі пяра. — Я магу дапамагчы ў гэтым». Зразумела, хацеў. І ўжо праз некалькі дзён я расчыняў дзверы акадэмічнага Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава, дырэктарам якога тады працаваў Адзій Шарыпаў, а загадчыкам аддзела тэксталогіі і рукапісаў — Сагінгалі Сяітаў...*

*Праўда, перад тым як сустрэцца з Сяітавым, я наведаў гарадскую бібліятэку: асабістае знаёмства з пісьменнікам, гутарку з ім трэба пачынаць з успрымання яго творчасці, з тым, што напісана пра яго. З рускага перыядычнага друку, некалькіх зборнікаў яго вершаў, перакладзеных на рускую мову, я зразумеў: хутка ўбачу стваральніка прачулых лірычных твораў з выразнай грамадзянскай, маральна-этычнай скіраванасцю, былога бясстрашнага салдата, пасля — карэспандэнта франтавых газет «За Родину» і «Фронтовая правда», дакладней — іх казахскамоўных выпускаў, які ў шэрагах Чырвонай Арміі вызваляў маю родную Беларусь, актыўнага цяперашняга гісторыка і тэарэтыка літаратуры, кандыдата філалагічных навук, што цікавіцца і беларускім мастацкім словам, беларуска-казахскімі літаратурнымі сувязямі. Мяне, зразумела, асабліва ўсхвалявалі радкі ягоных франтавых вершаў, у якіх лірычны герой паэта, салдат-казах, выбівае фашыстаў з пінскіх балот і адначасова марыць пра іх асушэнне, пра час, калі на асушаных тарфяніках стане расці «хай не бавоўна, то хоць жыта» («Дума пра пінскія балоты»). Некаторыя іншыя вершы таксама былі навеяны падзеямі, што здараліся на шляху наступлення савецкіх войск у 1943—1944 гг.: «Магілёў», «Школа», «Малайчына!», «Мінск узяты» і інш.*

*Хачу адразу сказаць: размова наша прайшла шчыра, даверліва. Сагінгалі расказаў пра свае наведванні пасляваеннай Беларусі, знаёмства з М. Лыньковым, М. Танкам, П. Броўкам, І. Шамякіным, Р. Барадуліным, Я. Сіпаковым і некаторымі іншымі беларускімі пісьменнікамі, паказаў асобныя свае навуковыя публікацыі, у прыватнасці — раздзел пра беларускую літаратуру ў вучэбным дапаможніку «Літаратура народаў СССР» (Алма-Ата, 1961). Менавіта тады ў мяне ўзнікла ідэя ўзнавіць некаторыя з яго вершаў пра Беларусь, найперш тыя, якія яшчэ не гучалі па-руску. На жаль, казахскай мовы я не ведаў. Паэт пагадзіўся зрабіць рускамоўныя падрадкоўнікі сваіх вершаў, прысылаць іх мне ў Мінск.*

*Жаданыя, хоць не асабліва частыя, лісты ад Сагінгалі Сяітава прыходзілі да пачатку нашага стагоддзя. Я акуратна адказваў на іх, дасылаў беларускія ўзнаўленні ягоных вершаў — «для аўтарызацыі». На жаль, на пачатку стагоддзя Сагінгалі цяжка захварэў, а на 90-м годзе жыцця яго не стала...*

*Вось некаторыя з перакладаў, у свой час добразычліва ўспрынятыя самім паэтам.*

***Вячаслаў РАГОЙША***

## МАЯ АНКЕТА

Жыццё сваё ў анкету я пішу.
Гады, імёны, даты варушу.
Адкрыю вам шматлікія падзеі.
Ды як адкрыць мне вам сваю душу?

У той анкеце — маці, жонка, сын,
Прафесія і праца — жумысым.
Але скажыце, як занатаваць мне
Надзеі і тугу маіх сівін?

І там, дзе шлях жыццёвы — нібы дым,
Дзе лічбамі, бы ў арміі, стаім,
Скажыце, ці магчыма на паперы
Змясціць мае жаданні — арманым?

Анкеты… Божа, як жа многа іх!
На здымках бесклапотна я прыціх.
Ды жарсць маёй душы шукайце, людзі,
Ў залатаносных жылах строф маіх!

## БРЭСТ

Гэты горад я ў сэрцы сваім берагу,
Я дагэтуль забыць пра яго не магу.
Помню, як баранілі мы родныя сцены,
Як па ворагу цэліўся я з трыснягу.

Грукаталі грамы, выў шалёна метал.
Помню добра фашыста звярыны аскал,
Помню прысак, што клікаў да помсты, і помню,
Як стаялі на смерць мы за кожны квартал.

Я астыць ад агню, супакоіць свой гнеў
Не магу і дасюль ні наяве, ні ў сне.
І ляцяць з тых пажараў пякучыя іскры,
Паляць сэрца і ярасць зноў будзяць ва мне.

## КАНСТАНЦІН ЗАСЛОНАЎ

Мой любы сабрат, беларускі Каўпак,
Не веру, — жыццё не спыняецца так:
Сцяною разбуранай, зрэзаным дрэвам,
Патушаным воклічам даўніх атак.

Душа не згаджаецца з чорнай каймой.
Заслонаў, ты зноў узнімаешся ў бой!
Прарваўшы блакаду жалобнае рамкі,
На Оршу і Гомель вядзеш за сабой.

Усюды — сябры. Дык вядзі ж, камандзір!
Пра подзвіг твой песні гайдаюць эфір,
І нават у сне нашы ворагі помняць,
Як біўся Заслонаў, народны батыр.

У сквeрыку тым, дзе спакой, цішыня,
Ты свет азіраеш з граніту штодня.
І хоць ты застыў з неўзарванай гранатай —
Асколкі ад выбуху й сёння звіняць…

## УЗГОРАК

Ты не значыўся ў зводках ніколі.
Не сяло і не горад ты,
А ўсяго толькі ўзгорак у полі,
Дзе раслі трава і кусты.

Не заўважыш цябе на карце,
І не мог пра цябе я знаць.
Ні адзін журналіст не страціў
І хвіліны — цябе апісаць.

Толькі ты даражэй мне стократна
Многіх вёсак, што з ходу ўзялі.
Кроў мая і сяброў маіх ратных —
У тваёй,
У свяшчэннай зямлі.

## МАЁ ІМЯ

Не моўк тры дні артылерыйскі хор.
К зямлі агнём прыпаяна пяхота.
Нарэшце уляцела, як віхор,
У беларускі горад наша рота.

Мы з боем здабывалі кожны дом,
Гула наўкол атака штыкавая.
І тут з руін, знявечаных суздром,
Да нас дзяўчына выбегла сівая.

Ад радасці заплакала наўзрыд
І раптам чайкай мне на грудзі ўпала.
О колькі болю і пякучых крыўд
У выцвілых вачах яе палала!

Свіціўся кос яе бялявы шоўк,
Іскрылася на твары слёз шрапнеля.
— О родны мой!
Нарэшце ты прыйшоў! —
Шаптала мне, прыпаўшы да шынеля.

Скрозь грукат бою, перасыкі куль
Яна казала, тулячы салдата:
— Хоць я не знаю, хто ты і адкуль,
Ты брат мне сёння й застанешся братам!

Калі зямля ў пажарах і крыві,
Становяцца мацней братэрства ніці.
Прашу: імя сваё мне назаві,
Мой браце,
Мой заступнік,
Мой збавіцель! —

Вайна дарэшты надаела мне,
Салдацкі лёс дашчэнту перамучыў,
Ды глянуў на дзяўчыну ў сівізне —
Вінтоўку сціснуў і сказаў рашуча:

— Фашысцкі звер спаліў твой родны дом.
За кроў і слёзы нашага народа
Мы звера ў берлагу яго даб'ём!
А як завуць?
Мяне завуць… Свабода!!!

* * *

Там, дзе, здавалася б, смерць не міне —
Смерці кажу: «Пастой!..»
Дзесьці пад Мінскам дагнаў мяне
Канверцік трохкутны твой.

Колькі трывогі за долю маю
У кожным радку пісьма!..
Смерць сцеражэ салдата ў баю,
Ты разумееш сама.

Фронт і вайна — не святочны той.
А я не змяніўся, не!
Я ім застаўся — самім сабой —
Нават тут, на вайне.

Праўда, дзе ўсмешка была,
На твар
Лютасць лягла таўром.
Ды не счарсцвела душа, як сухар,
І пад пякельным агнём.

Толькі пабачу трохкутны канверт —
І на душы кветабой.
Любая! Я адгароджан ад бед
Каханнем тваім.
Табой.

## МІНСК

Дарога з Мінска на Маскву.
І шлях прамы, не коўзкі.
Але не хутка наяву
Я ўбачу край бацькоўскі.

Сасна махае мне здаля,
Бягуць прысады цугам —
Так беларуская зямля
Развітваецца з другам.

Я думкаю — дзе гэта шыр.
Тут па́лі ў бітве смела
І Ескаліеў — наш батыр,
І беларус Гастэла.

З казахскім іменем Джакып —
У сэрцы верш Якуба.
Ягонай мовы кожны зык,
Як і маёй,
Мне любы.

Краіна вольная пяе.
Напевы ў даль марскую
Адносіць Свіслач.
Пра яе,
Яе салдат,
Сумую.

О Мінск!
Я ў мужнасці тваёй —
І памяццю, і верай.
Ты ў біяграфіі маёй —
Радок, вайной завераны.

Каб красаваў сягоння ты,
Ішоў у бой крывавы я.
Відаць мне нат з Алма-Аты
Тваё начное зарыва.

***Пераклад з казахскай***
***Вячаслава РАГОЙШЫ.***



**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ЗГАРЭЎ ЧЫРВОНАЮ ЗАРОЮ

Сапраўды, быў час, была эпоха. І нам яшчэ доўга, пакутліва цяжка даходзіць да сэнсу таго, што адбывалася ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя. Перачытваючы творы, напісаныя тады, задумваючыся над лёсамі непасрэдных удзельнікаў падзей і ўсё болей пераконваючыся (безумоўна, калі жадаеш знайсці ісціну), што многае куды складаней, чым гэта здаецца. Вядома, было нямала і літаратараў, якія думалі зусім інакш, як таго патрабавала афіцыйная ідэалогія, і пісалі яны тое, што хацелі пісаць. І, канечне ж, баючыся за сябе, за блізкіх, не заўсёды давяралі тым, каму, па логіцы, мусілі давяраць. Таму не праміналі пры выпадку засведчыць адданасць партыі, «правадыру ўсіх народаў». І ў размовах, і ў лістах, дасланых з рознай нагоды.

Гэта, канечне, так. Толькі ні ў якім разе нельга забываць, што знаходзіліся і людзі (пісьменнікі не выключэнне), і іх было нямала, хто шчыра ва ўсё верыў і каму ад усяго сэрца хацелася, каб хутчэй настала тая шчаслівая будучыня, якую абяцала партыя і здзяйсненне якой неадступна ўвязвалася з імем Сталіна. З агледзін нашага сённяшняга дня памылковасць іхніх поглядаў ляжыць часам на паверхні. А зразумець? Зразумець, на жаль, куды цяжэй. Нават па прычыне, што адмаўленне, пры тым павальнае, — куды прасцейшы шлях. У імя ісціны на такое адмаўленне сумленней не ісці. І хацелася б таго ці не, а трэба ступаць на дарогу калдобістую — з камянямі, з ухабінамі, часам топкую і гразкую, спадзеючыся, што яна абавязкова выведзе на бальшак, на шырокі абсяг…

Я трымаю ў руках кнігу паэзіі Паўлюка Шукайлы «Акрываўленая зямля», выпушчаную Беларускім дзяржаўным выдавецтвам у 1930 годзе — адзіны зборнік гэтага аўтара. Асобнік у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі няблага захаваўся, і адна з прычын таго, што ён не адно дзесяцігоддзе знаходзіўся ў так званым «спецхране». Аднак каштоўнасць выдання не толькі ў тым, што яно з шэрагу бібліяграфічных рэдкасцей. Кніга адметная, унікальная і па іншай прычыне: на ёй аўтограф самога П. Шукайлы. І не проста подпіс ягоны, а словы, адрасаваныя аднаму з рускіх сяброў-паэтаў. З ім П. Шукайла, відаць, пазнаёміўся праз Сямёна Кірсанава, які пераклаў на рускую мову ўрывак з яго паэмы «Партызанка Люба».

Наўскасяк тытульнага ліста разборлівым почыркам напісана прысвячэнне (захоўваю адметнасць аўтарскага арыгінала):

«Василию Казину
Наше сердце
в Учраспреде ЦеКа,
Наша песня —
директивы Сталина.
Мы прыказы пишем векам
Мы образы в горне
накаливаем.
24. XII. 1930 г. Автор».

Сёй-той з ідэйных цнатліўцаў (а яны, як вядома, ведаюць усё і ні ў чым не сумняваюцца, асабліва, калі гэта тычыцца гадоў таталітарызму і сталінскіх рэпрэсій), скептычна ўсміхнецца: «У чым справа? Не мог Шукайла думаць так, як напісаў! Іншыя і не такое пісалі, каб хоць неяк засцерагчы сябе ад магчымых непрыемнасцей, праследаванняў».

Па-першае, гэтае прысвячэнне — не твор, прапанаваны ў друк, з якім пазнаёмяцца тысячы людзей, а звычайны аўтограф, пра які, калі і будуць ведаць, то нямногія. Пры жаданні можна было лёгка абысціся дзяжурнымі словамі кшталту: «Василию Казину с наилучшими пожеланиями…». А па-другое (а гэта вельмі важна!), сумнявацца ў шчырасці сказанага П. Шукайлам можна толькі пры адной умове: няведання ягонага жыццёвага і творчага шляху. Але тут нічога не зробіш: не ведаем! Ды і адкуль ведаць, калі П. Шукайла, колішні «вораг народа», рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР яшчэ 14 красавіка 1959 года, быццам кануў у Лету. І па прычыне таго, што няшмат пісаў. Ды, хутчэй, будзем самакрытычнымі, з-за нашай нацыянальнай нядбайнасці. А цяпер упушчанае навёрстваць вельмі цяжка.

Большасць з нас ведаюць П. Шукайлу, бадай, па ўспамінах Яна Скрыгана «Госці з Мінска», напісаных у 1962 годзе — яны неаднаразова перадрукоўваліся ў розных кнігах пісьменніка, але гэта згадкі больш жыцейскага плана, хоць і нямала даюць для разумення П. Шукайлы-чалавека, дазваляюць адчуць ягоны светапогляд. Што да біяграфічных звестак, дык першай іх сістэматызавала Ірына Багдановіч у артыкуле-персаналіі «Паўлюк Шукайла», змешчаным у шостым томе біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (1985). Там жа прапануецца і грунтоўная бібліяграфія, складзеная Т. Махнач. У гэтым слоўніку П. Шукайла названы не толькі як паэт (у трохтомнай «Анталогіі беларускай паэзіі яму месца не зайшлося), а і як празаік, крытык, а да ўсяго арганізатар літаратурнага жыцця. Якраз на ніве грамадскай дзейнасці ён і дасягнуў многага. Ды не будзем забягаць наперад…

Паўлюк Шукайла нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Лапенеўцы (у даведніку «Беларускія пісьменнікі. 1917—1990», (1994) названа Малая Лапеніца). Раней гэта быў Ваўкавыскі павет, цяпер Бераставіцкі раён (даведнік «Беларускія пісьменнікі» памылкова ўказвае Ваўкавыскі раён). А гэта тэрыторыя Заходняй Беларусі, што падказала П. Шукайлу выбар псеўданімаў — у друку выступаў і як Заходні, П. Заходні, Паўлюк Заходні, калі-нікалі карыстаўся і крыптанімам П. З-ні.

Як праходзіла яго маленства і юнацтва, можна толькі здагадвацца. Відаць, у асяроддзі рэвалюцыйна настроенай моладзі, якая не хацела мірыцца з забаронай усяго беларускага. Верагодней, недзе ў 1923 годзе П. Шукайла стаў на шлях падпольнай барацьбы з польскімі акупацыйнымі ўладамі. Ці то ратуючыся ад праследаванняў дэфензівы (а яна, як вядома, вальнадумства не цярпела), але хутчэй, прымаючы пад увагу свае прасавецкія настроі, жадання самому адчуць шчаслівае жыццё, апынуцца, як яму здавалася, у свабоднай краіне, і вырашыў падацца ў Савецкі Саюз. Дзяржаўную мяжу Польшчы і Беларусі нелегальна перайшоў, бадай, у канцы 1924 года ці не пазней пачатку 1925-га, бо ў 1925 годзе ўжо жыў у Слуцку, стварыў там філію «Маладняка», рэдагаваў слуцкую акруговую газету «Вясковы будаўнік» і выпускаў да яе дадатак «Літаратурны маладняк Случчыны».

Перад гэтым правёў некалькі месяцаў у Мінску, дзе дзякуючы вялікай актыўнасці, апантанасці справай сацыялістычнага будаўніцтва, хутка звярнуў на сябе ўвагу, і тыя, з кім ён сустракаўся, паверылі ў яго арганізатарскія здольнасці. Дый як не паверыць было, калі адразу па прыездзе ў сталіцу рэспублікі далучыўся да актыўнага літаратурнага жыцця. На гэты час, як вядома, прыпала стварэнне згуртавання «Маладняк», а асноўнымі сябрамі яго станавіліся прадстаўнікі народных нізоў, многія з якіх толькі спрабавалі свае сілы ў творчасці. З асаблівай пашанай арганізатары ставіліся да людзей з глыбінкі. А тут не проста ўраджэнец вёскі, а чалавек, як казалі тады, з другога, капіталістычнага свету. Тым больш, што

П. Шукайла з усімі лёгка знаходзіў агульную мову. Гэта значна пазней выявіцца яршыстасць, задзірыстасць яго характару, усплыве на паверхню катэгарычнасць меркаванняў, непрыняцце чужых думак. А пакуль П. Шукайлу верылі, з ім пагаджаліся і ён спяшаўся адказаць на гэты давер канкрэтнымі справамі. Таму і ахвотна згадзіўся паехаць у Слуцк.

Газета «Вясковы будаўнік», як для свайго часу, была баявой, шырока асвятляла жыццё вёскі. Аднак не ў меншай, а, бадай, у большай ступені маладога рэдактара цікавілі творчыя справы. П. Шукайла здолеў за кароткі час згуртаваць вакол сябе людзей, як і сам, адданых літаратуры. Хто з ім працаваў у рэдакцыі, хто не прамінаў выпадку прыйсці на чарговае пасяджэнне філіі «Маладняка». І, канечне ж, усе хацелі выступаць у друку са сваімі творамі.

Калі не толькі на старонках «Вясковага будаўніка», а і ў дадатку да газеты стала цесна, энергічны П. Шукайла пачаў прымаць захады, каб случакоў прадставіць на рэспубліканскім узроўні. І свайго дамогся: у 1926 годзе выйшаў калектыўны зборнік «Слуцкія песняры», у якім былі змешчаны вершы Яэпа Сукалы, Апанаса Атавы, Янкі Відука (так падпісваў свае вершы, з якіх пачынаў мастакоўскі шлях, Я. Скрыган), Іды Чырвань. Першымі ж у кнізе стаялі творы самога П. Шукайлы. І не тое, што не горш глядзеліся на фоне вершаў іншых аўтараў, а і значна выйгравалі ў параўнанні з імі. У першую чаргу вабілі шчырасцю, непасрэднасцю. У аўтара ж быў самы ўзрост, каб жыць паэзіяй, а яшчэ каханнем. Пра гэтае такое заўсёды загадкавае і ніколі да канца невытлумачальнае пачуццё і верш «Расцвіло», што ў падборцы значыцца першым:

Расцвіло
лістом зялёным
сэрца
        у той дзень,
Калі вокам
                ты глыбока
Мне сказала:
                вер…

Дата пад творам (1.XII.1925 г.), прысвячэнне нейкай «Н. С. Б.», нарэшце, указанае месца: «г. Слуцак» не выклікае сумнення, што лірычны герой — сам паэт. І ўвогуле, у вершы нічога прыдуманага. Пра сябе — у нечым сарамяжнага і такога чыстага душой — расказваў П. Шукайла. Гэта ў яго сэрца «расцвіло, // абліта сокам, — // не пацалункам, // не…» Гэта ён, згадваючы тую сустрэчу, а верш, відаць, і пісаўся адразу пасля яе, позняй ноччу, калі гэтак хацелася хутчэй занатаваць радкі, што нарадзіліся ў душы, прызнаваўся: «Ў ласцы // шчырай, // сінявокай // адчуў я: // Вер…»

Праўда, не заўсёды так прасветлена і хораша было ў яго на сэрцы. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць верш «Думкі асеннія». Дый не толькі пра асабістае дбаў паэт — яскравы прыклад «Думкі аб бацькаўшчыне». Шкада толькі, што ў гэтых творах яшчэ няма свайго, адметнага, яны настолькі правільныя, што месца паэзіі не засталося, а атрымалася звычайная больш-менш удалая рыфмоўка.

Іншая справа — «Песня жаўра». Гэты верш «замыкае» вялікую нізку П. Шукайлы. Эпіграфам да твора ён узяў радкі з «Апошняй песні» Уладзіміра Дубоўкі: «О, як многа крыўды, // О, як мала слоў!». У вершы глыбокі філасофскі падтэкст. П. Шукайла па-свойму задумваўся над сэнсам жыцця. Магчыма, і не ставячы перад сабой гэтага, ён унутрана як бы спрачаецца з вядомай «Песняй пра Буравесніка» Максіма Горкага. У П. Шукайлы звычайны жаўра імкнуўся ўзняцца як мага вышэй у неба. Гэтая апантаная вера надавала яму сілы і ўпэўненасці. Ляцець і ляцець бы маленькаму летуценніку, ды ён заўважыў кругана. Ведаў жаўра, што падобная сустрэча нічога добрага яму не абяцае. Але ніяк не хацеў пазбаўляцца сваёй мары, што авалодала ўсёй ягонай істотай. А яшчэ недзе падсвядома жыло спадзяванне — а можа, усё гэтым разам будзе добра?

Забілася моцна
Сэрца ў жаўра:
Ляцець
ці не?
Імкнуліся думкі роем…
І ў трывозе
ён рашыў:
Ўладаць жыццём
Удвох мы можам…
Напрамую —
увысь
бліжэй
да сонца…

Не адмовіўся жаўра ад сваёй задумы і тады, калі груган раз’юшана накінуўся на яго. Акрываўлены, знявечаны, ён па-ранейшаму прагнуў вышыні. Яна была ўжо для яго як уратаванне. І не таму, што, ірвучыся да нябёсаў, лягчэй уцячы ад гругана. А таму, што калі ёсць выразная мэта, бяруцца новыя сілы. А сілы яму і патрэбны былі, яшчэ як патрэбны!

Да сонца
Нясецца йзноў.
Крыллі песня
Развязала:
«О, як многа крыўды,
О, як мала слоў»,
Сэрца жаўра напявала.

Песня, слова, паэзія і ёсць маральная падтрымка і апора. Гэта ісціна, якая не патрабуе ўдакладнення. Аксіёма яна. І наўрад ці трэба было б пра гэта гаварыць, калі б апісанае з’явілася з-пад пяра каго-небудзь іншага, а не П. Шукайлы. Аднак не гаварыць нельга, таму што ён, як добра відаць па тых жа вершах «Расцвіло» і «Песня жаўра», маючы схільнасць да традыцыйнай паэзіі, пры тым з філасофскай падсветкай, ужо на час напісання гэтых твораў адмаўляўся ад яе. «Песня жаўра» — быццам ягонае развітанне з сабой ранейшым.

Такі ўжо характар меў П. Шукайла. Ён нагадваў сабой згустак энергіі, што не можа доўга заходзіцца ў нейкім адным, звыклым стане. А яшчэ, пра гэта таксама нельга не сказаць, яму пастаянна хацелася быць навідавоку. На дзіва ўражлівыя, падобныя натуры ў чым-небудзь адчуваюць сябе кепска, няўтульна, калі не знаходзяцца ў полі пастаяннай цікаўнасці да іх. А звярнуць увагу можна было на сябе і праз творчасць, калі пачаць пісаць не так, як усе. Гэта не выклікала асаблівай цяжкасці. На той час на Беларусі атрымалі распаўсюджванне розныя літаратурныя плыні. Праўда, гэта больш заўважалася ў самім Мінску, але энергія П. Шукайлы біла праз край і ў правінцыі. І такой бяды, што не ўсе сябры слуцкай філіі «Маладняка» падзялялі погляды свайго кіраўніка. Была б ініцыятыва, жаданне.

Гэтыя памкненні П. Шукайлы дакладна ўзноўлены Я. Скрыганом у вышэй названых успамінах «Госці з Мінска». Тады, увосень 1925 года ў Слуцк завіталі Кузьма Чорны і Язэп Пушча. П. Шукайла не прамінуў выпадку, каб запрасіць іх да сябе на кватэру: як цяжка ні было, а ён, па меры магчымасці, клапаціўся пра ўласны быт, што адразу кінулася ў вочы К. Чорнаму: «О, дык у цябе, браце мой, кватэра нішто сабе, — сказаў Кузьма Чорны, увайшоўшы ў пакой. — Жывеш ты, можна сказаць, як слуцкі князь». Я. Скрыган удакладняе: «На тыя часы і папраўдзе была неблагая кватэра: адзін пакой, але прасторны, крэслы, абабітыя аксамітам, на канапе плюшавыя падушачкі. Усё гэта было, вядома, гаспадарскае, — відаць, што гаспадары жылі ў свой час раскошна». А «Кузьма Чорны агледзеўся, пацёр адна аб адну рукі.

— Калі ў цябе такая важнецкая гаспадарка ў доме, браце Паўлюк, то, мабыць, і літаратура ў случакоў павінна быць нішто сабе, — сказаў ён, як бы падаючы знак, што можна пачынаць гаворку».

«Нішто сабе», хоць і не мела пэўнай ацэнкі канкрэтных твораў, для П. Шукайлы, няцяжка здагадацца (пра гэта Я. Скрыган, праўда, не піша), было як ялеем па сэрцы. Ён жа быў перакананы, што ў любой справе (у творчай не ў апошнюю чаргу) важны арганізацыйны пачатак. Таму і пачаў гаварыць не толькі ад свайго імя: «Шукайла вельмі хацеў паказаць, што і ўсе мы, тутэйшыя маладнякоўцы, яго паслядоўнікі, самыя чыстакроўныя футурысты. Сам сябе ён лічыў правадыром новай плыні ў маштабе ўсяго «Маладняка» і цяпер меў выпадак пахваліцца гасцям, што мы ломім усе старыя літаратурныя традыцыі і каноны, робім літаратуру новай рэвалюцыйнай фармацыі, і, каб давесці гэта практычна, пачаў чытаць свае вершы, напісаныя і папраўдзе так, што ў іх разбуралася рытміка і ўся прывычная вершаваная форма».

Апошняе П. Шукайлу асабліва не турбавала. І тады, калі пісаў звышмадэрновыя творы і тым больш цяпер, калі дэкламаваў іх. А рабіў гэта, ходзячы па пакоі, «жэстыкулюючы і то гнеўна падымаючы голас, то спускаючыся да ледзьве чуйнага шэпту».

Чаго хацеў, таго і дасягнуў: быў у цэнтры ўвагі… Не толькі К. Чорнага і Я. Пушчы, а і сяброў па філіі, якія таксама прыйшлі на сустрэчу са сталічнымі гасцямі. К. Чорны тактоўна пасля гэтага бурна-эмацыянальнага выступлення зазначыў: «Вельмі добра ты робіш, браце Паўлюк, што пішаш… Усё трэба пісаць, абы толькі людзі чыталі, бо гэта вельмі важна. Але ж ці варта ў вершах крычаць?»

Ведаючы характар П. Шукайлы і яго ўпартасць у адстойванні ўласнага пункту гледжання, трэба было чакаць бурнай рэакцыі. І яна з’явілася: «Праз хвіліну ён пачаў даводзіць, што рэвалюцыя павінна гаварыць голасам мужным, што народ, які скінуў з сябе ярмо прыгнёту, не можа цярпець мярцвячыны і мяшчанскага пошапку». К. Чорнаму нічога не заставалася, як па-свойму пагадзіцца і прымірэнча сказаць: «Ды яно, браце, у кожнага бывае такая часіна, што хочаш пакрычаць… Няўдача якая ці пасварышся з кім. Але ж яно скора і праходзіць. Так што, панечку мой, можаш сабе і пакрычаць, калі табе так хочацца».

А «крычаць» П. Шукайлу, безумоўна, хацелася. І не толькі з гэтага выпадку. Балазе такі час настаў. Было б жаданне, а даказаць, на што ты варты, заўсёды можна. Толькі паспяшайся зрабіць гэта, адно не сядзі склаўшы рукі. Памяталі пра Паўлюковую актыўнасць, няўрымслівасць і ў Мінску. Калі паўстала пытанне, каго накіраваць для ўзмацнення партыйнай работы ў Расонах, спынілі выбар на ягонай кандыдатуры. Хоць на пасадзе сакратара райкама партыі П. Шукайла працаваў усяго некалькі месяцаў, паспеў і ў гэтым, на той час глухім мястэчку, адразу стаць сваім чалавекам. Не ў апошнюю чаргу яго заўважылі мясцовыя паэты і празаікі — П. Шукайла ўдзельнічаў у рабоце полацкай філіі «Маладняка», якая мела свой гурток у Расонах. Знайшлася яму справа і на нацыянальна-адраджэнцкай ніве. Сакратарства ў райкаме партыі сумяшчаў з пасадай старшыні Нацыянальнай камісіі пры акруговым камітэце партыі і выканкаме па праверцы ходу беларусізацыі ў Расонскім раёне.

Толькі чамусьці ў Расонах доўга не затрымаўся. Ці сам зразумеў, што трэба атрымаць адукацыю, ці на гэтую думку падштурхнула яго рэспубліканскае кіраўніцтва, але восенню 1926 года П. Шукайла вярнуўся ў Мінск і паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыццё ў Мінску для яго доўжылася два гады (у 1928 годзе П. Шукайлу адкамандзіравалі ў Маскву для працягу вучобы ў тагачаснай Камуністычнай акадэміі), але і гэтага часу было дастаткова, каб ён, пакуль усё ж яшчэ малады творца, заявіў аб сабе не толькі як паэт, а і як крытык.

Гэта быў па сутнасці ўваход у літаратуру новага імя. Пра П. Шукайлу ў хуткім часе загаварылі, яго прозвішча ў мастакоўскіх колах стала на слыху. А ўсё з-за таго, што паслядоўна прытрымліваўся свайго ж прынцыпу: «рэвалюцыя павінна гаварыць голасам мужным», народ «не можа цярпець мярцвячыны і мяшчанскага пошапку», ён пачаў гэтыя ідэі настырна праводзіць у жыццё. А паколькі прагнуў

самастойнай дзейнасці, адчуў сябе «цеснавата» ў «Маладняку». П. Шукайла задумаў стварыць новую літаратурную арганізацыю. Знайшоў і аднадумцаў. Сярод іх былі добра знаёмыя яму па Слуцку А. Атава, Я. Відук, а таксама П. Броўка, Ю. Лявонны, У. Варава, А. Вясёлы і іншыя.

Восенню 1927 года аб сабе заявіла творчае аб'яднанне «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна». Неўзабаве былі створаны яе гурткі пры Полацкім і Магілёўскім педагагічных тэхнікумах, а таксама ў вёсках той жа Полаччыны і Случчыны. Кіраўнік «камуны» не збіраўся развітвацца з футурызмам, таму сябры арганізацыі таксама вымушаны былі прытрымлівацца платформы гэтай літаратурнай плыні, а яшчэ ў сваёй дзейнасці яны пераймалі творчы метад Уладзіміра Маякоўскага. Праўда, аказаліся, калі можна так сказаць, вучнямі не вельмі ахвочымі да ведаў. Ва У. Маякоўскага, які тады карыстаўся ў творцаў вялікім аўтарытэтам, пераймалі толькі яго мастакоўскія прыёмы, ставячы гэта за самамэту, і амаль не клапаціліся аб змесце напісанага. Памылкова меркавалі, што так званы кінематаграфічна-мантажны стыль, тэлеграфна-інфармацыйная насычанасць радка кампенсуюць кволасць думкі, слоўныя выкрунтасы, няшчадную эксплуатацыю выпадковых вобразаў.

Да чаго гэта прыводзіла на практыцы, няцяжка ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з часопісам «Росквіт», які пачала выдаваць «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна» і рэдактарам якога з'яўляўся П. Шукайла. Выйшла ўсяго два нумары. Першы пазначаны снежнем 1927-га — студзенем 1928 года, другі — сакавіком-красавіком 1928-га. Канечне ж, у першую чаргу публікаваліся творы саміх «камунаўцаў» — Р. Казака, Я. Відука, А. Атавы, Я. Сукалы і іншых. У асноўным гэта «прадукцыя» не вельмі высокіх мастацкіх якасцей. Выключэнне хіба Р. Казак, які, як ні дзіўна, выступаў з цікавымі лірычнымі вершамі, чаго, вядома, нельга сказаць пра яго пазнейшыя творы даваеннага часу. Дый у Я. Відука ёсць адчуванне слова, што ў далейшым і дазволіла яму стаць на дзіва самабытным, арыгінальным празаікам Я. Скрыганом.

Рэй у «Росквіце» вёў сам галоўны рэдактар. Адчувалася гэта не столькі арыентацыяй часопіса на непрыманне ўсіх, хто «не з намі», колькі зместам яго твораў, прачытаўшы якія, з усмешкай успрымеш словы, вынесеныя ў пачатак першага нумара эпіграфам: «Не дэкларацыяй, а творчасцю».

Добры намер застаўся намерам. І не больш. І ў творах П. Шукайлы шмат лозунгавасці, той поклічнасці, што адпавядала часу, але знаходзілася не ў ладах з высокім мастацтвам, якога, зразумела, не можа быць там, дзе адсутнічае належны эстэтычны густ і пануе непатрабавальнасць да выяўленчых сродкаў, а ўжыванне іх зводзіцца толькі да ажыццяўлення нейкай палітычнай ідэі.

Згаданыя недахопы ўласцівы і вершу «Я іду наперад», што, відаць, самім аўтарам падаваўся як праграмны. У ім П. Шукайла прамаўляў не толькі ад свайго імя. Яго вуснамі гаварыла і тагачаснае пакаленне юнакоў і дзяўчат, абуджанае да актыўнага жыцця рэвалюцыйнымі зрухамі ў жыцці грамадства. У рэшце рэшт, матывы не новыя, іх можна напаткаць у творчасці многіх паэтаў, якія ўслаўлялі стваральныя будні, падкрэслівалі сваю далучанасць да іх, сцвярджалі гатоўнасць да канца змагацца за перамогу сусветнай рэвалюцыі. Толькі П. Шукайла пераўзышоў усіх. Ён настолькі ўзмацніў у вершы ідэалагічныя моманты, што лірычны герой паўстае чалавекам, якому ўсё чалавечае… чужое. Ён не паўнакроўная жывая істота са сваімі перажываннямі, пачуццямі, са сваёй радасцю і горам, а, па сутнасці, запраграмаваны робат.

Скіраваны на ажыццяўленне рэвалюцыйнай ідэі, П. Шукайла ўзводзіць яе ў абсалют, а таму там, дзе звычайны смяротны перажываў бы, пакутаваў, сумняваўся, лірычны герой тое, што перажыў, вымярае толькі мэтазгоднасцю гэтай усёпаглынальнай ідэі, а гэта вядзе да нейкай «монстравасці» ў поглядах:

Я іду наперад!
Бо жыццё, баюся:
перагоніць.

Ўсё страціў ідучы,
Засталося толькі
вера
ды воля…
Страціў
маці,
ідучы да камунізму,
Страціў сям’ю,
у якой радзіўся;
Развітаўшыся з сялянскай прызбай,
Шапацення
не слухаю
лісцяў…

Аднаго не страціў гэты рэвалюцыйны робат… Дакладней, «страціў усё апроч звілістых сцежак — // яны вядуць // да вялікага шляху». Таму і канстатуе з задавальненнем: «… і няволі ўжо трашчыць ланцуг».

Разам з тым аддамо П. Шукайлу належнае. Ён, магчыма, падсвядома адчуваў, што тое, чаму гэтак радуецца і што прымае, як кажуць, за чыстую манету, калі лепш разважыць, не заўсёды стыкоўваецца з паняццем звычайнага чалавечага шчасця. Дый якое гэта шчасце, калі страчваеш самае дарагое ў жыцці? Праўда, сумненні як нечакана ўзнікалі, гэтаксама хутка і адыходзілі прэч, бо знаходзілася чарговае апраўданне ўсяму. Зноў жа ў духу часу. А ў выніку з’явілася ў вершы і гэткае:

Што з таго,
што жыццё маё гіне,
Чалавек —
спіца ў калясе.
Роў
канцом мне будзе
ці магіла,
Жыццё ж
крыніцай свежай б’е…

«Чалавек — спіца ў калясе» — тое ж, што і чалавек-вінцік… Малюпасенькая шрубачка ў вялізным дзяржаўным механізме. А калі ён усяго вінцік, дык яго пры неабходнасці можна па-свойму і закручваць, што і пачало рабіцца, калі грамадства «дарасло», як гэта ні гучыць страшна, да падобнай неабходнасці. А дарастала яно паступова. Сам жа працэс нагадваў ланцуговую рэакцыю.

Назавём рэчы сваімі імёнамі. Хацелася б таго ці не, але нельга не прызнаць, што і самі творцы вельмі шмат папрацавалі ў гэтым кірунку, спачатку не разумеючы, да чаго ўсё ў далейшым прывядзе. А пакуль спрачаліся адзін з адным да знямогі (былі ж маладыя, гарачыя, імпэту ставала)… А пакуль абвінавачвалі адзін аднаго ў існуючых і не існуючых грахах (прымерваючы на кожнага «рэвалюцыйную апратку», пры гэтым абавязкова падавалася, што ў саперніка яна карацейшая). А пакуль спяшаліся (ледзь не навыперадкі) крыкнуць гучней…

Лепей гэта ўдавалася тым, хто прамаўляў не тое, што трэба было гаварыць, каб дагадзіць уладам, а рабіў гэта ад шчырага сэрца, па ідэйнай перакананасці. Да падобных, як бачым, адносіўся П. Шукайла, таму завяршэнне верша «Я іду наперад!» і стала такім, якім мусіла быць:

Я радуюся,
хоць сохнуць мае губы,
Бо тым,
што мучылі мяне,
прыходзіць ужо канчына:
Я павяду
Камінтэрн да шлюбу
І ажаню
з Еўропаю-дзяўчынай!..

У гэтым творы Еўропе яшчэ пашанцавала: як-ніяк, а ёй прапануецца шлюб, хоць, бадай, і без узаемнага кахання, чаго не скажаш пра сітуацыю, якую нарадзіла багатая творчая фантазія П. Шукайлы, падмацаваная рэвалюцыйнай упэўненасцю, у вершы «Паравоз». Тут ужо

Еўропа
сціснулася ў дрыжыках.
Вочы наліліся
халоднаю дрыгвою.
Чуткі:
з Нью-Йорка да Парыжа
Камуна едзе
мяцежным паравозам.

А хіба можа быць інакш, калі лірычны герой перакананы, што яго жаданне абавязкова здзейсніцца: «Увесь свет // на свой лад // перавернем. // Сусветны // зробім // Рэўком!..»?

Здавалася б, тут П. Шукайла не толькі выказаў тое, што мог сказаць, а выказаў куды больш абгрунтавана, чым іншыя. Сусветны Рэўком — гэта ўжо не проста сусветная рэвалюцыя, а сусветная рэвалюцыя, на чале якой і свая, правераная ўлада, а не мясцовая, якая ў нечым можа і памыляцца. Ды пры жаданні можна знайсці ў гэтым творы хоць маленькую, але недакладнасць, калі падыходзіць да ўсяго з пункту гледжання ўсёабдымнай рэвалюцыйнай упэўненасці і мэтазгоднасці.

Прыгадаем пачатак верша: «Гэта было // ў семнаццатым годзе // на чыгунцы, // што называецца жыццё. // Мы выехалі // на чорным паравозе…// Як быццам, усё да месца. Як сказаць?! Больш пільнасці, толькі тады ўсё стане на месца. А такую пільнасць і праявілі ў нейкім выданні, куды П. Шукайла прапанаваў гэты твор яшчэ да выхаду часопіса «Росквіт».

Што атрымалася з гэтага, відаць з невялікага рэдакцыйнага тлумачэння, якое ёсць у першым нумары «Росквіту»: «Верш «Паравоз» быў прыняты да друку адной з рэдакцый, але праз дзень аўтару было запрапанавана слова «чорны паравоз» змяніць на «чырвоны паравоз», ад чаго ён адмовіўся; у выніку гэты верш надрукаваны не быў». Пасля таго, як не згадзіўся рабіць папраўку, П. Шукайла і не мог не праіранізаваць з гэтага выпадку (а што ён сам напісаў тлумачэнне, сумнявацца не даводзіцца): «Цікава, што зрабіла б рэдакцыя, калі б паэт прынёс верш, у якім пісалася б пра «чорнага ад сажы трубачыста». Няўжо члены рэдакцыі сталі б вымагаць, каб і сажа зрабілася чырвонай дзеля ідэалагічнай вытрыманасці?»

Нават П. Шукайла з яго відавочнай артадаксальнасцю не мог спакойна рэагаваць на падобнае палітычае дзікунства. Хоць нельга адмаўляць і іншага: літаратурныя групоўкі, варагуючы між сабой, шукалі любы выпадак, каб на наскок адказаць наскокам. А як відаць з гэтага ж нумара «Росквіту», і П. Шукайлу даводзілася нясоладка, калі літаратурныя праціўнікі не пакідалі яго ў спакоі. Прынамсі, на трэцяй старонцы вокладкі змешчаны «Ліст да чытачоў», у якім П. Шукайла мусіў прызнаць, што «ўжо вось да месяца, як грамадзянін Сяргей Дарожны (Серада), які з’яўляецца сябрам згуртавання «Узвышша», носіць па рэдакцыях газет і зачытвае пісьменнікам, студэнтам і знаёмым рукапісы вершаў, нібыта, напісаныя мною і дадзены для распаўсюджвання такім спосабам». І катэгарычна адмаўляўся ад свайго дачынення да ўсяго: «Ніякіх вершаў С. Дарожнаму, ды наогул нікому, для распаўсюджвання я не даваў». Нават пагрозліва заявіў, што калі нешта падобнае будзе працягвацца, ён звернецца ў судовыя інстанцыі.

Падставы для крыўды ў П. Шукайлы былі. Сярод твораў, якія распаўсюджваліся такім чынам, сустракаліся і радкі, якія, як відаць з іх зместу, пісаліся як пародыя на ягоныя творы: «… Выйду я на сенажаць // ды з нагана ў жабу бац!» «Такое, — пераконваў чытачоў П. Шукайла, — ніколі не пісаў і пісаць не збіраюся. Той, хто распаўсюджвае іх (творы. — **А. М.**), такім чынам, робіць справу агіднага правакатара».

На жаль, на такія адносіны да сябе П. Шукайла часам сам нарываўся. Ён даваў падставы сваім вельмі непрымірымым стаўленнем да літаратурных апанентаў. А што гэта на самай справе так, пераконвае яго вялікі артыкул «Літаратурнае слова», змешчаны ў двух нумарах «Росквіту», які, бадай, так і застаўся незавершаным. Рэдакцыя, праўда, абяцала працяг, але, як ужо гаварылася, на другім нумары выхад часопіса спыніўся. У іншых жа выданнях публікацыі гэтага артыкула не выяўлены.

Паўлюку Шукайлу не адмовіш у валоданні пяром: артыкул кампазіцыйна вытрыманы, назвы асобных раздзелаў кідкія, здатныя заінтрыгаваць чытача. Але пададзена ўсё, вядома ж, у духу непрымірымасці да чужых думак, меркаванняў, з мэтай любой цаной адстаяць уласны погляд, надта не абцяжарваючы сябе клопатам, як усё адгукнецца ў душах тых, на каго скіраваны крытычныя стрэлы.

Дзейнічаў П. Шукайла, як у той пародыі на яго, хіба з некаторым удакладненнем: «Выйду на літсенжаць, ды з літнагана ў паэта бац!» Хоць у веданні расстаноўкі тагачасных літаратурных сіл яму не адмовіш. У прыватнасці, у першым раздзеле «Не сячыце з галавы сякераю там, дзе трэба мазгамі варушыць» П. Шукайла слушна канстатаваў, што «Маладняк» распаўся, паколькі ў ім было шмат выпадковых людзей. А гэты распад прывёў да таго, што ўзнікла «Узвышша», а затым «Пробліск» і «Літаратурна-мастацкая камуна»: «Такая дыферэнцыяцыя літаратурных шэрагаў — зусім нармальнае і карыснае з’явішча, якое пры ўмовах падтрымання здаровай марксісцкай крытыкі прынесла б толькі ажыўленне ў літаратурна-мастацкае будаўніцтва. Прымусіла б пісьменнікаў больш абсалютоўваць матэрыялы літаратурнай творчасці і г. д.».

Праўда была на баку П. Шукайлы і тут: «Шэраг асоб, якія маюць дачыненне да літаратурнага жыцця, паднялі цэлы гармідар, навешваючы на таварышаў, якія выйшлі з «Маладняка», ярлыкі здраднікаў пралетарскай ідэалогіі, дробнабуржуазны ўхіл і інш. У гэты тон, на жаль, загаварыла і крытыка. Першым, хто падняў меч і выйшаў на поле літаратурнай брані, быў Тодар Глыбоцкі (Алесь Дудар. — **А. М.**)».

Пасля ўсяго заставалася чакаць раздумлівых разваг пра літаратурны працэс, аб’ектыўных ацэнак, а па неабходнасці тактоўнай спрэчкі з апанентамі, а яшчэ — узважаных вывадаў і абагульненняў. Тым больш, як відаць з далейшых высноў, П. Шукайла такую задачу і ставіў перад сабой, няхай і ўвязваючы яе з рэаліямі свайго часу: «Возьмем характэрныя творы паасобных груп пісьменнікаў і паэтаў дзеля вывядзення крытычнай аналогіі. Пры гэтым умовімся, што кожны твор павінен мець сваё мэтаімкненне не толькі па змесце, але й па форме… Усё мэтаімкненне пісьменніка мусіць быць накіравана на тое, каб праз літаратуру, як частку культуры, прымаць удзел у жыццёбудаўніцтве, будучы зброяй класа, які будуе форму агульначалавечага сужыцця — камунізм».

Задача дык высакародная, апраўданая, зразумелая, але ажыццяўленне яе атрымалася такім, што, за рэдкім выключэннем, пра высокія маральныя прынцыпы і звычайную прыстойнасць гаварыць не даводзілася. Апантаны ідэяй сусветнай рэвалюцыі, П. Шукайла толькі з гэтага пункту гледжання падыходзіў да паэтаў, творчасць якіх разглядаў, не прымаў пад увагу (і не жадаў гэтага рабіць) адметнасць таленту кожнага. Калі прытрымлівацца яго пазіцыі, ісці ўслед за ягонымі развагамі — любая лірыка ў самым лепшым яе разуменні не мае права на жыццё, усе гэтыя пяшчоты, замілаванні — лішнія, ім проста няма месца тады, калі адбываецца «будаўніцтва сацыялістычнай камуны сусвету» і чакаецца час, калі ўся ўлада будзе ў руках «сусветнага Рэўкома».

«Гандляры душой і целам, песняры пахмелля і віна» — так назваў П. Шукайла, паводле сваіх меркаванняў, першую групу творцаў і адпаведна вынес гэтае вызачэнне ў загаловак. У гэтую групу ён аднёс А. Дудара, У. Жылку і А. Вольнага і сцвярджаў, што за імі «пайшлі шляхам упадніцтва і некаторыя маладыя працаўнікі літаратуры (якія жыццё лічаць туманнай імглою), у тым ліку і некалькі «сентыментальных паэтэс», напрыклад, Зіна Бандарына». Яны, на думку П. Шу-

кайлы, «падпалі пад уплыў ясеніншчыны, афарбаваны ў Беларусі ў групу «Дударыстых».

Куды больш перапала тым, каго П. Шукайла назваў «паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы» (адпаведны раздзел у артыкуле). Тэндэнцыйнасць у ацэнках відавочная. Каб жаданае выдаць за рэальнае, П. Шукайла не саромеўся займацца... Як бы лепей сказаць? Літаратурнай падтасоўкай. Так, абвінавачваючы П. Труса ледзь не ў плагіяце, ён ставіў поруч тыпалагічна блізкія ўрыўкі з вершаў гэтага паэта і твораў Т. Шаўчэнкі. А ў выніку, калі ласка, прысуд: «…Паўлюк Трус, карыстаючыся, што вялікі пясняр Украіны спіць у зямлі сырой, займаецца літаратурным крадзяжом ды яшчэ з некатораю замешкаю ў граматыцы».

Коратка і безапеляцыйна сказана і пра яшчэ аднаго паэта: «Сяргей Дарожны менш выявіўся з тых, што рабілі аналогію іх творчасці ў гэтым артыкуле. Ён характэрны, як больш бяздарны, значна непісьменны бядняк на мастацкае слова ў нашай літаратуры. Яго слоўнік — з сотні слоў. Вобразы — у большасці бяссэнсавыя і не дарэчы ўжытыя».

Сваіх літаратурных апанентаў П. Шукайла ніколі не шкадаваў (у рэшце рэшт на «ўзаемнасць» адказваў «узаемнасцю»), таму пры неабходнасці карыстаўся выкрывальнымі эпітэтамі. Адрасаваў іх і канкрэтным калегам па пяры, але не пазбягаў і агульных абвінавачванняў, хоць, як яму гэтага не хацелася, няхай і з агаворкамі, але сапраўдны талент не мог не прызнаць: «Апроч вялікай колькасці гэтых шыкуноў і літаратурных чацвераножнікаў, знаходзяцца такія, што ўжо аднойчы паказалі жыццё, прабавалі шчыра будаваць яго. Адным з іх будзе буйны паэт Беларусі — Язэп Пушча».

Відаць, з-за гэтай павагі да таленту, пры разглядзе творчасці Я. Пушчы, як мне здаецца, адчуваецца жаданне П. Шукайлы хоць крыху разабрацца ў адметнасці мастакоўскага шляху паэта. І хоць П. Шукайла пры гэтым памыляецца, ніяк не можа пераадолець сваю тэндэнцыйнасць, не адмаўляецца ад «сваёй песні», падганяючы развагі пад нязменны класавы падыход, тым не менш ён Я. Пушчу прачытаў. Пры тым уважліва…

Дый у назіральнасці П. Шукайлу не адмовіш. Хіба гэта не дакладная ацэнка першых крокаў маладога паэта?!: «Зусім не дзіўна, калі Пушча ўсім творчым арганізмам кідаецца ў абняцце хваль Кастрычніка, бо яны плынню веснавога разліву знеслі з твару беларускай зямлі маёнткі, бізуны, няволю». Бадай, і з такой ацэнкай нельга не пагадзіцца: «Ён успрыняў рэвалюцыю ў яе сімвалічнасці, а не ў буднях. Ён зразумеў яе мэтаімкненне, як рэчаістую канкрэтнасць сённяшняга дня. Такому ўспрыняццю нашае рэвалюцыі спрыяў той перыяд, у якім нарадзіўся творчы працэс Язэпа Пушчы».

Чаму ж у такім разе, прытрымліваючыся вызначэння П. Шукайлы, Я. Пушча «на ўсё жыццё пачаў глядзець праз акуляры адмаўлення»? А таму, што ява аказалася не такой, якой бачылася паэту. Ідэалы маладосці пабляклі, калі Я. Пушча зразумеў, што многае робіцца не так, як абяцалася. Рэвалюцыя, дэкларуючы новае жыццё, пачала безразборліва, безаглядкава нішчыць і тое, што трэба было захаваць. Адсюль і пэўны песімізм у творах Я. Пушчы.

Нешта падобнае ў сваім тлумачэнні аспектаў «адмаўлення» ў яго творчасці ўбачыў і П. Шукайла: «Сённяшнія дні — сродак, будні. Не роскві́т, а барацьба за яго — замест братэрства, якога чакаў паэт, у вёсцы праводзілася палітыка сацыяльнага размежавання. Нарастаў бандытызм. З абрэзу селянін частаваў куляй свайго ж селяніна — грамадчыка. І зноў на полі жыцця вырашалася: хто каго? за каго? з кім? І гэта для паэта, які шчыра, але рамантычна ўспрыняў Кастрычнік, які прагнуў убачыць не заўтра, а сёння яго перамогу — новы свет, светлы і ўрачысты — запутаўся ў супярэчнасцях будзёншчыны, будоўлі. Заблудзіўся на яе завітых сцежках. Буянна-хмельная радасць урачыстасці замянілася чорнымі, як ноч, думамі. У поўны веры арганізм упіліся, усмакталіся вужы нявер'я».

У цэлым сказана правільна. Хіба што ўсё гэта трэба ўспрымаць з адным удакладненнем: зусім не заблудзіўся Я. Пушча на дарогах жыцця, а цвяроза і самакрытычна пачаў ставіцца да рэчаіснасці. Яго тагачасны стан — звычайны стан чалавека, які ў нечым сумняваецца і праз сумненні хоча дайсці да ісціны. Гэта так, калі на ўсё глядзець з пазіцыі сённяшняга дня. Тады ж, у канцы дваццатых, як і пазней, у трыццатыя гады, падобныя ваганні ўспрымаліся як адыход ад пралетарскай літаратуры, ад класавага разумення падзей, а значыць шкодныя сацыялістычнаму будаўніцтву. Хто-хто, а П. Шукайла ў гэтай шкодзе не сумняваўся, таму і зрабіў такое падагульненне: «Язэп Пушча не адзін у сваім літаратурным бездарожжы — з ім канкрэтная група ў беларускай літаратуры. Шукаюцца і вынаходзяцца тэарэтыкі, якія бачаць у гэтым блуканні хараство. Перачытаўшы кошыкавыя тэорыі розных святош мастацтва і богашукацелеляў, яны крычаць аб акордах душы, абвяшчаюць яе незалежнасць ад акалічнасцей. Глыбокая індывідуалістычнасць, літаратурнае «хараство» для задавальнення сваёй асобы і канкрэтнага індывідуума, вось аснова, на якой тчэцца вытворчы матэрыял маладых паэтаў пушчынскага кірунку».

На першае месца ў згаданым шэрагу ён вылучыў В. Маракова, не жадаючы пры гэтым асабліва заглыбляцца ў яго творчасць: «Валеры Маракоў выявіў сябе з першых часоў як паэт, які цалкам успрыняў …. задрыпанае літаратурнае рыззё за аснову ўсёй вытворчасці. (Так у арыгінале, ужываючы вытворчасці, замест творчасці, П. Шукайла, бадай, лішні раз хацеў падкрэсліць, наколькі напісанае В. Мараковым далёкае ад сапраўднай літаратуры; сапраўднай у яго, П. Шукайлы, разуменні. — **А. М.**). Ён не браў жыццё, як крыніцу, адкуль бярэцца сырызна для вырабу літаратурнага матэрыялу, а ўзяў Надсана, Ясеніна, зборнікі старых рамансаў і на іх нотах, матывах пабудаваў сваю песню».

Не магло не перапасці і Т. Кляшторнаму, паколькі ён, паводле меркавання П. Шукайлы, быў «сугучны па сваёй творчасці Маракову». Тым не менш яго П. Шукайла назваў «здольным паэтам», аднак з агаворкай, якая на гэтай «здольнасці» па сутнасці ставіла крыж: «Здольны паэт, але з псіхікай ледзянога гітарыста, афарбаванага ў пурпуры, агняцветы, штосьці схожае на золата, апутаны рознымі дзявочымі косамі, журбой, туманамі, акружаны кілішкамі, росамі, сінямі, змрокам і ладанам балотнае сіні — Кляшторны пераживае пералом, характэрны для людзей яго напрамку».

Блізкі гэтаму артыкулу сваім зместам, катэгарычнасцю ацэнак і артыкул «Пресвятая богородица, спаси нас» («Росквіт», № 2), што мае падзагаловак «агляд творчасці Уладзіміра Жылкі і Міколы Байкова». П. Шукайла аператыўна зрэагаваў на рэцэнзію М. Байкова ў «Звяздзе» (1928, 18 сакавіка) на кнігу паэзіі У. Жылкі «З палёў Заходняй Беларусі».

Намер аўтара артыкула заставалася б толькі вітаць, калі б ён аб'ектыўна глянуў на творчасць У. Жылкі і М. Байкова. Ды такі падыход у П. Шукайлы адсутнічае, а над цвярозым роздумам бярэ верх жаданне перакрэсліць літаральна ўсё, напісанае гэтымі двума аўтарамі. А пад абвінавачванні падводзіцца яшчэ і свайго роду тэарэтычная аснова. У раздзеле «Аб дыфірамбных трубадурах, чысцільшчыках абутку і Міколу Байкову» (у чым П. Шукайлу не адмовіш, дык ва ўменні кідка падаваць матэрыял) робіцца экскурс у гісторыю, згадваючы трубадураў. А яны спатрэбіліся яму, каб перакінуць масток у сучаснасць, дзе, зразумела, прысутнічаюць трубадуры іншага кшталту.

Гэта ж ужо канкрэтыка: «Адзін з тых, які найболей выявіў сябе і заслужыў грамадскае «прызнанне» і «звание — заслуженного» крытыка такога прыёму быў і ёсць Мікола Байкоў». Ён для П. Шукайлы ніхто іншы, як «дыфірамбшчык», а яго «трубадурства дайшло да таго, што герой-крытык прыняў на сябе ролю вычысціць заскарузлыя гразёю ад вандравання па брудных шляхах літаратурныя факстроты Уладзіміра Жылкі».

Самога ж У. Жылку П. Шукайла інакш і не называе, як — «Пасажыр на палітычным экспрэсе Мінск—Коўна—Вільня—Варшава—Прага—Менск» (адпавед-

ны раздзел у артыкуле). Здаецца, раней П. Шукайла ніколі так не акцэнтаваў увагі на класавым моманце ў ацэнцы літаратурных твораў, ды, відаць, іншых аргументаў знайсці не мог, таму і пачаў ужываць палітычныя абвінавачванні ў перамежку з абразай: «Бывае так, што людзі пад уплывам цэлага комплексу псіхалагічных з'яў, пабудаваных на аснове класавай свядомасці, на класавым падарожжы, мяняюць напрамак і ўправа, і ўлева, і наадварот… Але знаходзяцца і такія людзі, якія без класавага кантролю карысці таго ці другога павароту кідаюцца сабою ўлева і ўправа, аддаючыся стыхійнасці хвілёвых імкненняў. Яны свае індывідуальныя «я» прадаюць усім і ўсякаму, хто ў такую хвіліну расчыніць дзверы свае «крамы». Такія людзі — пасажыры палітычных экспрэсаў любога напрамку. Абы толькі той ці іншы экспрэс даў лагоднейшае месца ў сваіх вагонах…» П. Шукайла дагаварыўся да таго, што У. Жылка, маўляў, піша… «увасабляючы сабой прастытутку».

А якое «красамоўства» ўжыў барацьбіт за «будаўніцтва сацыялістычнай камуны сусвету» ў дачыненні да М. Байкова?! «Мікола Байкоў не запрыкмеціў сваім трубадурскім вокам, не ўразумеў дыфірамбнымі мазгамі, што зборнік «З палёў Заходняй Беларусі» з'яўляецца яскравым прыкладам наяўнасці на гэтых палёх «балотных белых лілій», якія рачной плыняй знесены ў балота». Падагульненне не прымусіла чакаць: «Уладзімір Жылка гэтым зборнікам паказаў яшчэ тых людзей, якія калі не варожа, дык пасіўна адносяцца да дзей, што адбываюцца на гэтых палёх. Як яшчэ многа брудных ног, абутых у заскарузлыя боты, якія топчуць, дратуюць гэтыя палі. І па пустому такія крытыкі, як Мікола Байкоў, прымаюць на сябе сваяцкую ім ролю «чысцільшчыкаў».

Як для свайго ўзросту, П. Шукайла пісаў шмат. І як, бадай, кожны, жыў новымі творчымі планамі. У паведамленні «У Беларускай мастацкай камуне», змешчаным у першым нумары «Росквіту», можна прачытаць: «Паўлюк Шукайла. Напісаў аповесць «Бацька Булак-Булаховіч», якая будзе надрукавана ў 2 нумары часопіса «Росквіт» — ён жа здае ў друк зборнік сваіх вершаў пад назваю «Акорды дзён» — зараз працуе над паэмаю «Друкары» і піша крытычны артыкул аб сучаснай беларускай літаратуры».

У другім нумары «Росквіту», праўда, аповесці няма. Чаму яна не была змешчана, застаецца загадкай. Магчыма, П. Шукайла збіраўся надрукаваць яе ў іншых нумарах (у другім матэрыялам было цесна), але часопіс, як вядома, спыніў сваё існаванне. У такім разе напрошваецца пытанне: няўжо не прапаноўваў ён гэты твор іншаму выданню? А калі прапаноўваў, то чым растлумачыць, што аповесць не была надрукавана? Ведаючы палітычныя погляды П. Шукайлы, яго адданасць камуністычнай ідэі, няма сумнення ў тым, што ў аповесці мусіў быць «класавы падыход» да раскрыцця вобраза Булак-Булаховіча. Магчыма, у якой-небудзь рэдакцыі палічылі напісанае П. Шукайлам слабым у мастацкіх адносінах? Але ж колькі слабага друкавалася з-за таго, што яно адпавядала палітычнаму моманту!

Пытанні, здагадкі… Магчыма, наконт лёсу гэтага рукапісу, а таксама паэмы «Друкары» (няхай і нясконачанай) яснасць унясе час. Што да заяўленага артыкула, дык, відаць, меўся на ўвазе апублікаваны «Пресвятая богородица, спаси нас». А зборнік «Акорды дзён» — гэта кніга «Акрываўленая зямля» (1930). Ці па ўласным жаданні, або па нейкіх прычынах, але, здаючы рукапіс у выдавецтва, П. Шукайла памяняў першапачатковую назву.

Асноўную нагрузку ў зборніку нясуць паэмы «Партызанка Люба» і «Акорды дзён». У першай аўтар звяртаецца да падзей у Заходняй Беларусі падчас белапольскай акупацыі. Галоўны герой твора — звычайная беларуская дзяўчына Люба Мяцельская. Але перш чым перайсці да расказу пра яе лёс, П. Шукайла дае малюнак жыцця беларускага народа пад чужынцамі.

Назва першай часткі «Імкнуліся сэрца парваць на кускі…» дакладна перадае сутнасць таго, пра што пойдзе гаворка. Стыль пісьма «пад Маякоўскага», радкі разбіты «лесвіцай» так, што кожнае слова (у залежнасці ад таго, які сэнс укладзены ў пэўны ўрывак) успрымаецца ці барабанным пошчакам, ці чаргой з кулямёта.

Аднак у гэтым пошчаку не столькі бадзёрасці, колькі смутку. «Узмацненне» радка апраўдана. Падобным чынам падкрэсліваецца, якой суровай была рэчаіснасць. П. Шукайлу месцамі ўдаецца праўдзіва ўзнавіць атмасферу няшчымніцы, гора, смерці, аб чым, у прыватнасці, сведчыць своеасаблівы ўступ да паэмы:

Галыцьба…
Вочы ўпалыя,
Галыцьба…
У вачох сум…
Палягла
На дарозе
Шпаламі,
Каб праехаць
Смерці цягніку…

Не менш пераканаўча ў першай частцы абмаляваны вобраз Смерці, якая быццам падрахункоўвае знішчальныя вынікі людскога супрацьстаяння, лютасці, звярынай нянавісці супрацьлеглых бакоў:

Дым…
Перастрэлка…
Стогн
І кроў…
Ходзіць смерць
І лічыць с в а і х —
Безгаловых,
Бязногіх,
Сляпых —
Падбірае
У чорны прыпол.

Народнае гора перадаецца і праз плач мацярок, удоў, блізкіх загінуўшых. А плач — не проста праклён вайне і слёзы, што не высыхаюць. Ён і ў песні — журботна-тужлівай; самотна-беспрасветнай, якая вырастае з галашэння і блізкая па змесце да фальклору: «О-ой ты, Яська, // Сыночак, любы, // Паўстань! // Паглядзі!» А з гэтай песняй прыходзіць праклён. Вайне, несправядлівасці, лютасці.

Толькі ў вайны — свае законы. І што ёй да плачу, галашэння, праклёну:

А наўкол:
Трах-та-та-тах…
Упаў адзін…
Трах…
Другі…
Тоўх…
Трэці…

На фоне гэтых падзей — Люба, нібы былінка ў полі. А на полі рвуцца снарады, страчаць кулямёты і адзіночныя вінтовачныя выстралы прарушаюць цішыню… Асколкі, кулі, шрапнель шукаюць новых ахвяр. А жыць так хочацца, а выжыць трэба ! І каб жа толькі самой: «І пад песню // Кулямётаў // І гармат // Грымотны гул // Ходзіць Люба // Каля плоту // І збірае лебяду. // І з сумотай, // І з нудою: // З горам дзікім // У вачох // Корміць Люба // Лебядою // Дваццацёх…»

Гэтая дзяўчына-былінка падтрымлівае сувязь з партызанамі. Аднак чаго не заўважыць добрае вока, таго хіжае не прапусціць міма. Даведаўся пра гэта пробашч, выклікаў жандараў… А пакуль яны пачалі катаваць Любу, сам зверам накінуўся на яе.

Паказваючы менавіта ксяндза даносчыкам, П. Шукайла прытрымліваўся ідэалагічных догм, паводле якіх усе служыцелі культу — абавязковыя носьбіты зла, рэакцыянеры, а прадстаўнікі каталіцкай канфесіі яшчэ ў большай ступені. А зло,

зразумела, неабходна выкрываць і як мага больш пераканаўча. Таму і не пашкадаваў сродкаў, каб зрабіць гэта, як на яго думку, больш праўдзіва.

Вынікі, аднак, атрымаліся не такія, як хацелася. У паэме запанаваў грубы натуралізм, гіпербалізацыя зла прывяла да таго, што асобныя эпізоды твора па сутнасці адштурхоўваюць ад сябе. Спрацоўвае тая агіднасць, якая не дазваляе належным чынам успрымаць расказанае. Разумееш: з Любай Мяцельскай абышліся не па-людску, а па-зверску, пераканаць: каты заслужылі пакаранне, і яно рана ці позна павінна спасцігнуць іх.

Ды нельга так, як П. Шукайла, пісаць пра чалавечы боль, пакуты. Нельга пераступаць мяжу, што падзяляе факт канстатацыі зла і жаданне ці не «пасмакаваць» кожную падрабязнасць у гэтым болі, у гэтых пакутах. Такі падыход — антыгуманны, а калі карыстацца вечнымі паняццямі — гэта не па-хрысціянску. П. Шукайла, на жаль, гэтую мяжу пераступіў, бо, пішучы паэму, меў перад сабой звышзадачу, а яна, паводле ягонага разумення, заключалася ў тым, каб, наколькі магчыма, выкрыць ворагаў рэвалюцыі, тых, хто перашкаджае яе выхаду на сусветныя абсягі. А лепш выкрыць можна праз гіпербалізацыю таго, што адбывалася.

Адбывалася ж жудаснае: «Замахнуўся ксёндз, // Крыжам у брыво // Ударыў…» Але П. Шукайлу гэтага мала. І вось ужо: «Кроў // З мясам вока // Паплыла на твар…» А яшчэ:

Білі…
    Раздзявалі нагішом…
                    Лазілі!
                      Рвалі!..
                        Кусалі.
Ап'янелы крывёю
              Рваў за грудзі
                          Ксёндз,
Біў акрываўленым
              Крыжом
Па месцу
      Выбітых воч…

Каб жа такі натуралізм быў толькі аднойчы! Можна напаткаць і іншыя выпадкі, калі П. Шукайла ў выкрывальным запале страчвае пачуццё меры. Піша, як яму падаецца, смела, раскавана, хлёстка, не заўважае, што на паперы атрымліваецца тое, што чалавеку з нармальнай псіхікай спакойна чытаць немагчыма. Узяць хоць бы малюнак, калі груганнё прадчувае на полі бою спажыву: «Ходзяць вароны // І точаць // У гнаі // дзюбу сваю. // Ходзяць і // Мараць: // «О, як бы вастротай // Прабіць // Тую сцяну, // Дзе многа // Чарвей, // Воч // І дроту // у Дрыгве // Людскога мазгу, // Дзе косці // Людскія // Усцілаюць падвалы, // Афарбаваныя крывёю // Падлогі».

Бракуе паэме і кампазіцыйнай стройнасці. Чатыры часткі яе існуюць неяк абасоблена, належным чынам не дапаўняюць адна адну. Асабліва гэта тычыцца дзвюх апошніх — яны пададзены як перапіска сястры і брата, адпаведна прыводзяцца два лісты. Першы з Заходняй Беларусі. Люба цікавіцца, як жывецца яму пры Саветах… Брат жа, па волі аўтара, прамаўляе так, што быццам прысутнічаеш на мітынгу: «… Жыву, // хоць дні // ідуць гадамі. // Мільёнзарадны // рыхтую карабін … // Я пайду, // пайду ізноў лясамі // паліць паноў, // як колісь іх паліў!..» Раіць сястры: «Ты, хавай, // зберагай // карабін, — Шчэ страляць // мы з табою будзем…»

На завяршэнне паэмы і зусім голая дэкларатыўнасць, у якой па сутнасці ніводнага жывога слова:

А я іду
      праз стогн
              і рокат,

Пад мяцеліцы
заліхвацкі свіст.
Рэвалюцыя —
мая дарога,
Напрамак —
Камунізм.

Яшчэ больш відочны аўтарскія выдаткі ў паэме «Акорды дзён», пачуцці лірычнага героя ў якой увогуле гіпертрафіраваны. А скажыце, як інакш успрымаць яго перакананне, што «трэба ўмець // І шпалы кахаць, // І цалаваць // семафор. // Трэба ўмець // ў кожным цвіку, // Што замацоўвае // дынаміку руху, // Праспяваць краіну сваю, // Праспяваць будні і завіруху».

Калі ў «Партызанцы Любе» наследаванне У. Маякоўскаму часам давала жаданыя вынікі, дык у «Акордах дзён» навідавоку толькі падробка пад паэта, на якога, несумненна, арыентаваўся П. Шукайла ў сваёй творчасці. І тая ж «лесвіца», і тая ж тэлеграфнасць стылю, імкненне да кінематаграфічнасці падачы асобных эпізодаў, жаданых вынікаў не даюць, бо адсутнічае першааснова: няма свайго погляду на падзеі і з’явы, уласнай сістэмы вобразаў, а тыя, якія ўжываюцца, толькі знешне ўяўляюцца кідкімі, нечаканымі. На самай справе спалучаецца тое, што спалучыць немагчыма, поруч ставяцца паняцці, якія ніяк не могуць стыкавацца, як, да прыкладу, «пачынайце зары кананаду!» альбо «ці сок жыцця, ці вострае асцё ўпіваецца ў сэрцы атрадаў…»

Не пазбег П. Шукайла спакусы і ў паэме пасправачацца з В. Мараковым, творчасць якога, як было відаць з артыкула «Літаратурнае сёння», па сутнасці цалкам адмаўляў. Зноў не спадабалася яму, што В. Маракоў «надрывае гітару старую» і выконвае «песню… мінулага». А таму і запытанне гатова: «О, Маракоў, // Маракоў! // Ці не пакусаў // Пушчын сабака // за сялом…» Прыгадаў П. Шукайла і крытыка А. Кучара:

А тут пад руку
Мусьё фатограф Кучар.
Сфатаграфаваў твой партрэт
І … што ж я бачу:
Пажоўклых лісцяў куча,
І ў ёй капошыцца паэт.

А «калі Кучар фота // Пачынаў вярцець, // Не чалавек выходзіў, // А катлета». Тым самым П. Шукайла выступаў супраць «дакументальнага», фатаграфічнага, адлюстравання жыцця. Але ж гэта тэма артыкула, а не падстава, каб у нечым тэарэтычнага плана ўласныя меркаванні ўводзіць у канву паэтычнага твора. Ды там, дзе псеўдапаэтычнасць, усё магчыма… На самай справе:

Клін
ў глінь
Рассячы!
Секачыце,
Секачыце,
Секачы!
Чуйце!
Чуйце!
Вы кар чуйце
Усе
Карчы!..

Вершы аб’яднаны ў раздзел «Росквіт дзён». Ёсць у ім і творы, што змяшчаліся дагэтуль у перыёдыцы, уваходзілі ў калектыўны зборнік «Слуцкія песняры», але змешчаны і тыя, з якімі рэспубліканскі чытач раней не быў знаёмы. Усе іх тэматычна можна падзяліць на тры групы. Да першай адносяцца тыя (яны перава-

жаюць), у якіх П. Шукайла спявае дыфірамбы рэвалюцыі, падкрэслівае адданасць партыі, выказвае ўпэўненасць у далейшым пераможным шэсці рэвалюцыі, гатовы, «страляючы сэрца кулямі», ісці ў рашаючы бой. А ў перамозе не сумняваецца, бо ўпэўнены — ёсць сіла, здатная, калі ўзнікае на гэта неабходнасць, зруйнаваць любыя дзяржаўныя межы. У духу П. Шукайлы верш «Арміі Леніна»:

Эй, таварышы!
        Здвой шэрагі!
Музыканты —
        Іграйце паход!
Гэй, чырвоная
        Армія Леніна —
У морду
        Сусветнаму лорду…

Сімптаматычна, аднак, што П. Шукайла, у адрозненне ад некаторых іншых творцаў, і, у прыватнасці, паэтаў, усё ж задумваўся, якой цаной даюцца перамогі рэвалюцыі. Але далей гэтага пайсці не мог, таму думка аб незлічонасці ахвяр, пакладзеных у падмурак новага свету, была мімалётнай і адразу ўступала месца той упэўненасці, што дазваляла і далей верыць у патрэбу менавіта такіх, а не іншых дзеянняў:

Хоць шлях
Услалі магіламі,
Не красуе,
            Цвіце
                    Э-Сэ-Сэ-Сэ-Рыя.

На «э-Сэ-Сэ-Сэ-Рыю» ён глядзеў як на краіну, у якой стваральная праца прыносіць жаданы плён. Праўда, і тут не абыходзілася без крайнасцей, калі пра самае, здавалася б, звычайнае хацелася сказаць так узнёсла, каб не ўзнікала сумнення, што гэта адбываецца не дзе-небудзь, а ў свабоднай краіне і дзякуючы рэвалюцыі. А ў выніку: «Ураджаем // Сёлета дыхае // І не цэп — Малатарня — грахоча. // Ды й пад пуневай вышкай // Урачыстасцю // Сноп // Ужо рагоча» («Ураджайнае»). Матыў жыццесцвярджальнасці і жыццядайнасці развіваўся аўтарам далей, каб «выйсці» (а без гэтага П. Шукайла звычайна не мог) на сусветны прастор: «І праз рогат // Чуцен мне голас. // — Смейся // І ты, // СССР-ыя, — // Спека-ядраны // Твой голас // Захаду // Біць будзе // Дзверы».

Другую групу складаюць вершы, у якіх не абышлося без спрэчкі з сябрамі па пяры. Не пакінуў П. Шукайла ў спакоі і мёртвага на той час С. Ясеніна: «Хай мне // Жыццё // Плюне ў твар!.. // А ўсё ж такі // Груба // Закончыў» («Сяргею Ясеніну»). Згадваецца С. Ясенін і ў вершы «Ім». Твор і адрасаваны тым, хто погляды П. Шукайлы не падзяляў, а творчасць яго не прымаў: «Зморшчыўся лоб, напілікаўшы // дзесятак, другі // плаксівых вершаў, // кажа // паўбутэлькі «рускай» выпіўшы: // Загіну я, // загіну я не першы…» Як працяг у вершы — уласна аўтарскае:

За што загінуць? —
            У барацьбе за справу
Паўстаўшай Беларусі?
            Уладзіміра Леніна?
Ці за налакіраваную халяву
І паскудніка жыцця
            Ясеніна?

З-за высвятлення ўзаемаадносін з літаратурнымі апанентамі, з-за пастаяннага жадання спяваць гімн рэвалюцыі П. Шукайлу нехапала часу пісаць вершы па-сапраўднаму жыццёвыя, у якіх чалавек паўстае са сваімі звычайнымі клопатамі,

жыве, любіць. А душа ж яго, нягледзячы на задзірыстасць, ваяўнічасць, была чулая, лёгка ранімая. А яшчэ П. Шукайла належаў да мужчын, якія не могуць не падабацца жанчынам. У яго задуменным позірку была свая вабнасць, прысутнічала тая летуценнасць, што сведчыць аб уражлівасці натуры. А да ўсяго ён сачыў за сабой. Ці не заўсёды быў надушаны, элегантна апрануты (прынамсі, пра гэта сведчыць Я. Скрыган), а боты, якія тады было модна насіць, да таго наваксаваныя, што хоць глядзіся ў іх, як у тое люстэрка. А ўзрост… Самы ўзрост для кахання.

І ён кахаў, і яго кахалі. Водгалас гэтага знаходзім і ў яго лірычных вершах. Праўда, іх у зборніку «Акрываўленая зямля» няшмат, усяго некалькі і, відаць, яны ў кнігу «не прасіліся». Аднак якраз яны і сведчаць на карысць таго, што ў П. Шукайлы быў талент паэта і, каб іншыя абставіны — ідэалагічныя, палітычныя, сацыяльныя — ён мог бы раскрыцца ярка і самабытна. У лірычных вершах П. Шукайла менш за ўсё схільны да ідылічнасці. Ягоны лірычны герой, як і ён сам, не мог лічыць сябе па-сапраўднаму шчаслівым. Пацвярджэнне таму і верш «Сустрэча»:

Я сустрэў вас
зусім нечакана,
Я спаткаў вас
У полі жыцця.
Ды барозны
Па-рознаму
Ўзараны,
І калоссі
Па-рознаму шасцяць.

У вершы ж «Марыльцы-случанцы» згадкі аб дзяўчыне, якая некалі яму падабалася. З тых радасных спатканняў не так і шмат прайшло часу, але гэтага дастаткова, каб упэўніцца, што дарогі іхнія разышліся назаўсёды. Нечаканая сустрэча прынесла адно роздумны смутак: што прайшло, таго не вернеш. І шкада, што гэтак сталася, бо, як відаць з верша, у новых абставінах лірычны герой па-ранейшаму душэўна адзінокі:

Але вось
На балі
У тэатры —
Там,
Дзе ў фраках скачуць аслы,
Мне дзяўчына,
Што ў Слуцку я бачыў,
Напомніла
Мінулыя дні.

Меў П. Шукайла і талент журналіста. Найбольш ён раскрыўся падчас яго нядоўгага супрацоўніцтва з рэдакцыяй «Савецкая Беларусь», калі на працягу жніўня—верасня 1928 года на старонках гэтага, для свайго часу вельмі аўтарытэтнага адраджэнцкага выдання, ён выступіў з пяццю фельетонамі. Гэты жанр, як вядома, не мае ў беларускай журналістыцы такіх вялікіх традыцый, як, напрыклад, у рускай, таму можна сказаць, што на гэтай творчай сцяжыне П. Шукайла стаў адным з першапраходцаў. І паспяхова справіўся з задачамі, якія стаяць перад фельетонам як жанрам. У творах П. Шукайлы — вострыя канфліктныя сітуацыі, што сведчыць аб уменні аўтара выбіраць і адбіраць неабходны фактычны матэрыял. Яго фельетоны не пазбаўлены сарказму, іроніі, а гумар не столькі паблажлівы, колькі выкрывальны, а часам і знішчальны, а гэта таксама гаворыць на карысць паспяховага авалодвання сакрэтамі жанру. Нарэшце, а без гэтага фельетон перастае быць фельетонам — тая маральная выснова, якая ў сваім дэкларацыйным абагульненні ўспрымаецца як настаўленне.

Аб мажлівасцях П. Шукайлы-фельетаніста сведчыць «Не казка, а трагібыль у дзвюх частках з тлумачэннямі» («Савецкая Беларусь», 1928, № 198, 29 жніўня). Аўтар, прытрымліваючыся фактаў, адразу паведамляе сутнасць таго, што адбылося: «Гэта было на сёмай гадавіне першага веку эпохі Чырвонага Кастрычніка. Жыў-быў актыўны ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва настаўнік Мікола Агейчык. Вялікі ён быў прыяцель роднай яму беларускай мовы. І пераканаўся ён у вялікім яе значэнні для адраджэння любай краіны. І давай збіраць словы нашай мовы на Смаленшчыне. Пяць год збіраў. Дзесяць тысяч слоў назбіраў. У Інбелкульт паслаў… А вось тут дзея пачынаецца…»

Фельетон пабудаваны так, што кожная «дзея» акумулюе завершанасць пэўнага эпізода ў адысеі, якая напаткала галоўнага героя, калі той вырашыў пазнаёміць з вынікам сваёй працы навукоўцаў. Яны аказаліся не столькі прыхільнікамі адраджэння, колькі звычайнымі савецкімі бюракратамі. П. Шукайла не хавае іроніі, гаворачы пра асобных прадстаўнікоў гэтага племені, якое так хутка расквітнела пры новым жыцці: «Адзін з самых працавітых, напружаных і актыўных пакояў у Інбелкульце — рэгістратура. За сталом — шэры, сумны начальнік-таварыш-рэгістратар. Сумны таму, што прырода была сумная і шэрая. У акно барабаніў асенні дождж, а за вакном на дзераве шалясцела пажоўклае, як сукно на рэгістратарскім стале, лісце. Гэты шэлест зліваўся з шэлестам у галаве, які, праўда, узнік не ад прыроды, а ад шалясцення канцылярскіх папер і розных інструкцый».

Рэгістратар паставіў на рукапісе «Краёвага слоўніка Смаленшчыны» М. Агейчыка парадкавы нумар і аднёс матэрыялы ў слоўнікавую камісію. А там… Ужо не толькі іронія, а і сарказм у фельетоне. Ды як не з’явіцца яму, калі тое, пра што расказвае П. Шукайла, — яшчэ адно сведчанне бюракратыі ў навуковай установе: «У камісіі штат, а ў кожнага са штату — галава, а ў кожнай галаве — рэзалюцыя… У камісіі нядоўга быў слоўнік, дый чаму яму там быць. Адна галава са штату, да якой папаў слоўнік на рэцэнзію, з навуковым «достоинством» прышла ў здзіўленне: «што, слоўнік з правінцыі? Яшчэ не паспеў сёння адаслаць інструкцыю аб формах збірання, а тут цэлых пяць фунтаў слоўнікавага матэрыялу… Дзесяць тысяч жывых народных слоў… А чым я перакананы, што гэта жывыя народныя словы, а не крадзеныя з слоўніку Дабравольскага? Па-першае, гэта саматужніцтва, а па-другое — «подозрительно». Дзесяць тысяч слоў без інструкцыі…» З’явілася на матэрыялах рэзалюцыя: «Надаслаць аўтару дзеля перапрацоўкі, прапанаваць прытрымоўвацца формы, складзенай у інструкцыі па збіранню слоўнікавага матэрыялу».

Фельетон чытаецца з узрастаючай цікаўнасцю. Гэты інтарэс павялічваюць і трапныя назвы асобных частак твора. Калі першая падавалася як згадка «Аб тым, як настаўнік Мікола Агейчык у культурны паход сабраўся, і як яму звер на шляху папаўся», дык другая не менш інтрыгуючая: «Аб паштовай стыхіі і інструкцыі, і што замяняе мазгавыя канструкцыі». Ды пра лёс рукапісу збіральніка народных слоў...

Паштавікі заўсёды былі паштавікамі. Яны працавалі і працуюць, як самім хочацца. Матэрыялаў слоўніка бедалага Агейчык не атрымаў, хоць і паведаміў загадзя, што пераехаў у Віцебск. Пачаў перапіску з Інбелкультам, з паштавікамі. І чым далей у лес, тым больш дроў. Даведаўся нарэшце, што матэрыялы слоўніка ажно ў Маскву трапілі. Чакаў, чакаў іх Агейчык, а тут і 10-я гадавіна Кастрычніка настала. У рэшце рэшт прапанавалі яму звярнуцца непасрэдна да «начальника Белорусского Управления связи», якое знаходзілася ў... Смаленску. А той у адказ: «В данном случае результаты розыска не дадут положительного результата и право отправителя на получение установленного вознограждения истекло».

Зусім упаў духам Агейчык: «Уявіў ён сабе, паглядзеўшы ў каляндар, што паштовы стаж гэтага слоўніка 1001 дзень і 1001 ноч». Гэтым апошняя кропка ў фельетоне не пастаўлена. П. Шукайла, які ў дачыненні да ўсяго, што звязана з рэвалюцыяй, праяўляў вялікую пільнасць, тут не пабаяўся (можа, пазней гэта яму

і адгукнулася?) з’едліва пасмяяцца з традыцыі кожную гадавіну кастрычніцкіх свят адзначаць працоўнымі рапартамі: «Зірнуў ён (Агейчык. — **А. М.**) туды (за акно. — **А. М.**) і ўбачыў стройныя шэрагі дэманстрантаў. У канцы ўсіх з асаблівым выглядам вялікай рэвалюцыйнай важнасці ішлі людзі. У руках моцна трымалі сцяг, а на сцягу надпіс: «Через революционную связь — к международнай революции!» Гэта ішлі паштавікі».

Вострае слова і ў фельетоне «Людзі і быдла» («Савецкая Беларусь», 1928, № 203, 4 верасня). І па-ранейшаму інтрыгуючыя загалоўкі асобных частак твора: «Пра паэзію, мазгі і аб людской прыказцы — «Не стрымаеш таго, што ўцякло», «Пра кулака, цудадзейную гарэлку і старшыню сельсавета, які топча нагамі савецкую ўладу», «Пра хазяіна і ўладу на месцы, слёзы ўдавы і сірот, хлеб, людзей і быдла» і г. д. Праўда, гэтаму твору ў параўнанні з папярэднім, шкодзіць залішняе завастрэнне ўвагі па палітычных момантах.

Гэтым разам П. Шукайла выкарыстаў і магчымасць паспрачацца з паэтам Алесем Жаўруком. У сваім лісце ў рэдакцыю А. Жаўрук вельмі ж захапляўся радасным і шчаслівым жыццём вяскоўцаў. Такія «песні» спяваў, што страчваў пачуццё меры. Да чаго П. Шукайла быў прыхільнікам новага ладу, але і ён мусіў канстатаваць, што многае на вёсцы было далёкім ад ідыліі. І выказаў гэтае незадавальненне «алілуйшчынай» з іроніяй: «У паэта-«селькора», тав. Жаўрука, праца на вёсцы ідзе занадта добра. Не дарма паэт кажа, што няма чаго лепшага і жадаць. Выходзіць, што проста сацыялізм, а то і нават камунізм на ўсе 100 прац. Праўда, наводзіць «на грустные размышления» аліментная справа і праца ячэйкі, бо апошняя па апісанні паэта, усё агітуе, агітуе і толькі. Мы ж думалі, што пры камунізме аб аліментах пісьменнікі будуць пісаць выключна гістарычныя драмы, агітаваць за газеты і г. д. У кожным разе, калі праўда, што ёсць такая вёска на 100 прац. камунізму, дзе жыццё «люляй-маліна», дык навошта папустому сродкі траціць на тэорыі, планы, а асабліва на розныя экспедыцыі за Ледавіты акіян… «Снаражай дырыжабль!», ды «круці Васька ў вёску паэта Жаўрука!»

Як супрацьпастаўленне гэтай вёсцы прыводзіў П. Шукайла факты з другога допісу — селяніна з Заслаўскага раёна, які расказваў пра тое, як мясцовыя ўлады пра сялян зусім не клапоцяцца.

І іншыя фельетоны («Пра адказнага, але непісьменнага сакратара», «Хлестакоў, якіх яшчэ не бывала», «Лагойскія «прыгажосці») пісаліся па гарачых слядах падзей. П. Шукайла і на адмоўныя з’явы глядзеў з вышыні свайго часу, паводле асабістых перакананняў, таму і відочны ў творах перахлёсты ў ідэалагічны бок, адчуваецца запалітызаванасць асобных ацэнак. Калі ж падыходзіць да твораў з мастацкіх якасцей, дык П. Шукайла ў жанры фельетона валодаў немалым майстэрствам.

Аднак пераезд у Маскву адмоўна сказаўся на ягонай творчай дзейнасці. Напачатку давала знаць адарванасць ад звыклага літаратурнага асяродку. Магчыма, усё ўладзілася б, ды хутка давялося прымаць захады, каб апраўдацца перад органамі НКУС: у верасні 1930 года, адразу пасля заканчэння факультэта «чырвонай прафесуры» ў Камуністычнай акадэміі, калі ўзначаліў кафедру метадалогіі мастацтва ў Інстытуце кінематаграфіі, П. Шукайла быў арыштаваны. Праўда, яшчэ пашанцавала. Абвінавачванні, прад’яўленыя яму, да таго аказаліся шытыя белымі ніткамі, што ўдалося пераканаць следчых у сваёй невінаватасці.

Пасля вызвалення з-пад арышту працягваў працаваць у Інстытуце кінематаграфіі. Адначасова кіраваў Беларускай секцыяй Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Быў некаторы час рэдактарам газеты «Кино», дырэктарам Цэнтральнага тэхнікума тэатральнага мастацтва. У 1932 годзе П. Шукайлу прапанавалі пасаду віцэ-прэзідэнта Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, якая знаходзілася ў Ленінградзе, і ён развітаўся з Масквой. Назад вярнуўся ў 1936 годзе. Заключыў дагавор з фабрыкай «Межрабпомфильм», паводле якога значыўся ў штаце як пісьменнік-сцэнарыст.

Рэпрэсіі, як вядома, на гэты час набылі масавы характар: усё настойлівей шукалі «ворагаў народа». Знаходзілі, зразумела, новых, але не забывалі і пра старых, на каго судовая справа была заведзена раней. Прыйшла чарга і П. Шукайлы. Яго арыштавалі 1 лістапада 1938 года. Спадзяваўся, што і гэтым разам удасца даказаць сваю невінаватасць. Як мог, на допытах апраўдваўся, даводзіў, што цалкам адданы савецкай уладзе. І на судовым пасяджэнні Ваеннай калегі Вярхоўнага суда СССР каяўся, што ніякай віны за ім няма. Безвынікова…. 13 красавіка 1939 года П. Шукайла быў прыгавораны, як тады значылася, да вышэйшай меры сацыяльнай абароны. Праз дзень прысуд прывялі ў выкананне.

За плячыма ў яго было толькі трыццаць пяць гадоў. Юнацтва П. Шукайлы, яго маладосць засталіся вечнымі:

Ты ж квітней,
Маладосць мая!
Упівайцеся, вусны,
Вясною!
А я буду
Песню спяваць
І гарэць
Чырвонаю зарою.

Вусны П. Шукайлы і на самай справе «ўпіваліся вясною». Толькі такі быў час, што яму, як і многім іншым, хто разам з ім шчыра захапіўся рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі, найчасцей даводзілася думаць не пра вясну кахання, а пра вясну ўсяго чалавецтва, якая — ён у гэтым быў упэўнены, як былі ўпэўнены і многія іншыя — абавязкова настане. Да здзяйснення сваёй мары ён не дажыў. І не толькі таму, што жорсткі лёс так мала адмераў яму.

Мы сёння добра ведаем, што гэтая мара з самага пачатку была ў многім ілюзорнай, утапічнай, пазбаўленай трывалай жыццёвай асновы. Ці сумняваўся ў нечым ён сам? Тады, калі рваўся ў Савецкі Саюз, безумоўна, не! І калі пісаў вершы, многія з якіх нагадвалі звычайныя агіткі — таксама. І падчас сутычак з літаратурнымі апанентамі. І калі не мог адмовіцца ад усведамлення, што запануе на зямлі сусветны Рэўком, не забываў пра яе, дый яна, уласна кажучы, і штурхала яго на чарговыя спрэчкі. А пазней? Калі зведаў першыя допыты і адчуў бязглуздасць абвінавачванняў. Калі з цяжкасцю ўратаваўся і наступныя гады жыў і працаваў у пастаяннай трывозе. І асабліва, калі страшны канвеер допытаў прывёў да свайго лагічнага завяршэння…

Нам ніколі не атрымаць адказу на гэтыя пытанні. Адно можна сказаць: сваё кароткае жыццё П. Шукайла хацеў «гарэць чырвонаю зарою», якая і спаліла яго.



# Мікалай ЯРОМЕНКА: «Я НЕ ЎМЕЮ ЖЫЦЬ ДЛЯ СЯБЕ...»*

## Жыццёвыя ўніверсітэты

**— Мікалай Мікалаевіч, я, прызнацца, у разгубленасці. Вы гэтулькі патрацілі сіл, энергіі, часу, каб арганізаваць Канфедэрацыю творчых саюзаў, столькі зрабілі добрых спраў! У рэшце рэшт, у тым, што творчыя саюзы ў самы складаны час не распаліся, працягвалі працаваць, вялікая заслуга канфедэрацыі і непасрэдна вас як старшыні гэтага аб'яднання. І раптам дазнаюся: вы сыходзіце са сваёй пасады. Што ж здарылася?**

— У вас крыху састарэлая інфармацыя. Я пакуль застаюся на сваёй пасадзе. Але намер такі сапраўды быў.

А што здарылася? Банальная для нашага часу гісторыя. Раскажу падрабязна. На аб'яднаным пленуме творчых саюзаў, на якім прымалася рашэнне аб стварэнні канфедэрацыі, я заявіў, што новае аб'яднанне не будзе ўдзельнічаць ні ў якіх палітычных рухах, таму што яно стварaецца на аснове прафесійных і сацыяльных інтарэсаў яго членаў. Гэтым прынцыпам я і кіраваўся ў сваёй дзейнасці.

У той жа час я лічыў і лічу, што кожны з нас асабіста мае права сімпатызаваць альбо ўдзельнічаць у любым палітычным руху. І вось аднойчы да мяне прыйшлі людзі, якіх я шаную і паважаю, і прапанавалі паставіць подпіс пад «Зваротам да кіраўнікоў дзяржаў, парламентаў і ўрадаў незалежных дзяржаў — былых рэспублік СССР». На гэта я адказаў, што асабіста я стаўлю свой подпіс без ваганняў, бо падзяляю думку аб тым, што развал Савецкага Саюза ў тым варыянце, у якім ён ажыццёўлены, стаў каталізатарам развалу эканомікі, парушыў векавыя чалавечыя сувязі, нарадзіў крывавыя міжнацыянальныя канфлікты з вялікімі людскімі ахвярамі. Акрамя таго, я цалкам падзяляю меркаванне і пра тое, што вяртання да ўнітарнай формы існавання СССР не можа быць. Будучыня за новай, больш высокай формай міждзяржаўнай інтэграцыі незалежных суверэнных рэспублік. І гэты працэс пачаўся ўжо. Ніякія нацыянал-сепаратысты яго не спыняць. Таму я і паставіў свой подпіс. Падкрэсліўшы, што гэта маё асабістае жаданне, а падпісваць зварот ад імя канфедэрацыі я не маю права, таму што ведаю: не ўсе падзяляюць мае перакананні. Таму, сказаў я візіцёрам, звяртайцеся да кожнага кіраўніка творчага саюза персанальна. Так пад зваротам з'явіліся подпісы Яўгена Кавалеўскага (Саюз архітэктараў), Івана Чыгрынава (Саюз пісьменнікаў), Леаніда Екеля (Саюз журналістаў).

Якое ж было маё здзіўленне і недаўменне, калі праз нейкі час на старонках «Народнай газеты» я прачытаў разгневаны пратэст некаторых маіх калег супраць таго, што Яроменка, маўляў, узурпіраваўшы ўладу, падпісаў сумніўны палітычны дакумент ад імя ўсіх дзеячаў культуры. Арганізатар гэтага пратэсту паленаваўся

* Заканчэнне. Пачатак у № 4, 2014 г.

ці не захацеў зрабіць элементарнага: калі не зайсці, то хоць бы зняць трубку і распытаць, што да чаго. Адразу публічны лямант, суровыя абвінавачванні. Такія вось цяпер палітычныя гульні.

Што заставалася рабіць мне? Я, вядома ж, быў не толькі здзіўлены, але і абураны, абражаны такой несумленнасцю. Успрыняў гэта як выказаны мне недавер. Таму тут жа напісаў заяву і папрасіў вызваліць мяне ад займаемай пасады. Аднак савет канфедэрацыі, які тэрмінова сабраўся з гэтай нагоды, просьбу маю не задаволіў. Так што пакуль ёсць сілы і пакуль таварышы мне давяраюць — буду і далей служыць роднай культуры. Прабачце за пафаснасць...

**— А вы на гэта маеце права. Ужо адно тое, што вам як старшыні канфедэрацыі ўдалося вырашыць няпростую падатковую праблему і тым самым выратаваць творчыя саюзы ад распаду, можаце лічыць сваю працу недарэмнай. А, напэўна ж, ёсць нямала і іншых добрых спраў...**

— Ёсць, канечне, але я не хацеў бы, каб гэта падавалася толькі як заслуга канфедэрацыі. Без дапамогі дзяржавы, без удзелу Прэзідэнта нічога не было б. Вось толькі некалькі прыкладаў. Агульнымі намаганнямі апошнім часам у краіне створаны фонд Прэзідэнта для падтрымкі маладых талентаў, Фонд дапамогі культуры, аказана істотная матэрыяльная дапамога творчым саюзам і многае іншае. Але ўсё гэта, на жаль, мае разрознены характар, тут патрэбен сістэмны падыход.

Нехта са старажытных філосафаў сказаў, што гібель дзяржавы пачынаецца з краху яе законаў, правасуддзя. Варта пазбавіць чалавека абароны, і з ім можна рабіць што заўгодна. Калі нам сёння ўдасца стварыць заканадаўчую, нарматыўную базу падтрымкі нацыянальнай культуры і мастацтва, можна быць упэўненым: духоўнасць не знікне. А з ёю — і дзяржава.

**— Мікалай Мікалаевіч, як жа пры такім высокім настроі вы рашыліся пакінуць тэатр?**

— Балючае пытанне... На першы погляд, маё рашэнне можа падацца нелагічным і трохі нават дзіўным. Я атрымаў нарэшце ролю, пра якую можна толькі марыць. Ролю, якая дапамагла мне раскрыць увесь мой творчы патэнцыял, што драмаў усе гэтыя гады. Ролю, якая прынесла мне жаданы поспех як у гледачоў, так і ў спецыялістаў. Нават міністр культуры даслаў мне запіску: «Быў на вашым спектаклі. Гэта сапраўдны цуд. Ёсць чаму павучыцца маладым у старой гвардыі...»

І пасля такога поспеху, доўгачаканага творчага прарыву — сыход. Але дзіўным маё рашэнне можа быць толькі сапраўды на першы погляд. Бо рашэнне гэтае я выношваў не адзін год. Прычынай сталася не толькі неспрыяльная атмасфера ў тэатры, але і маё здароўе — я перанёс два інфаркты. Дарэчы, хачу сказаць, што ўрачы не забаранялі мне працаваць у тэатры. Але, паглядзеўшы спектакль «Касцюмер», яны выказалі апасенне за маё сэрца ў сувязі з вялікімі эмацыянальнымі і фізічнымі перагрузкамі, якія я атрымліваў, выконваючы ролю сэра Джона. І пасля доўгага роздуму, сыграўшы дваццаць трэці спектакль, я папрасіў вызваліць мяне ад ролі. Закончыўся сезон 1998 года. Вярнуўшыся з адпачынку, я пакінуў тэатр.

У гэтым маім рашэнні мяне ў немалой ступені сцвердзіла адно мудрае выказванне Валянціна Распуціна. Аднойчы ён сказаў: «Пры сваім шляху па жыцці вам усё роўна прыйдзецца выбіраць вуліцу альбо каля храма, альбо каля публічнага дома». Я не пакінуў сцэну. Я проста перайшоў на іншую вуліцу.

**— Многа сёння праблем у сферы культуры?**

— Іх заўсёды хапала. А сёння — тым болей. Але я хачу звярнуць увагу на адну праблему, якая асабліва выразна абазначылася ў апошнія гады. Гэта тое, што многія дзяржаўныя чыноўнікі розных узроўняў не адчуваюць цікавасці, а дакладней сказаць, — патрэбы ў высокім прафесійным мастацтве. Ды і наогул у культуры. Яны рэдкія госці на выставах, фестывалях, прэм’ерах спектакляў. Можа таму, так марудна, так пакутліва вырашаюцца многія нашы праблемы.

Між тым, культура — сфера маральная, духоўная. Без яе не можа плённа існаваць ніводная дзяржава. І калі мы змагаемся за выжыванне творчых саюзаў, то мы змагаемся за сённяшні і заўтрашні дзень нашай дзяржавы. І гэта сапраўды так. Калі дзяржаву ўявіць у вобразе квітнеючага дрэва, то яго сэрцавіна — культура. Яна мацнейшая за любую армію, любыя парламенты, якія прыходзяць і адыходзяць. Таму што яна вечная. Мова культуры не ведае ніякіх межаў. Калі ўсё вакол расслойваецца, распадаецца, адна толькі культура захоўвае ў сабе вялікую аб'яднальную сілу. Усё матэрыяльнае застанецца мёртвым, калі адно пакаленне не перадасць другому маральнасць, духоўнасць…

**— Мікалай Мікалаевіч, ведаю, што вы акрамя абавязкаў сенатара, старшыні Канфедэрацыі творчых саюзаў маеце пэўную нагрузку ў Фондзе культуры краіны, Беларускім таварыстве культурных сувязей з замежнымі краінамі і шмат іншага. Людзі, якія добра вас ведаюць, сцвярджаюць, што вы проста апантаны неспатольнаю прагай бурнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Менавіта бурнага, з усёй страсцю. Рабіць нешта з халодным сэрцам для вас проста немажліва. Скажыце, калі ласка, навошта вам гэтак спальваць сваю душу і сэрца? Як вы вытрымліваеце такія перагрузкі? Ці не перашкаджае гэта творчасці? У рэшце рэшт, ці не шкада траціць свой вольны час на вырашэнне чужых праблем?**

— О, колькі пытанняў адразу. Давайце, як кажуць, па парадку. Я — чалавек эмацыянальны. Усё прапускаю праз сэрца. Усё раблю шчыра, як падказвае мне маё сумленне. Канечне, гэта цяжка само па сабе. А мне цяжэй удвая, таму што я да непрыстойнасці дысцыплінаваны і адказны чалавек. Жонка ўжо іншы раз кажа: «Супакойся, спыніся. Нельга ж кожны дзень засядаць, весці бясконцыя дэбаты. Ты ж — артыст, у рэшце рэшт, ты — хворы чалавек». А я не магу. Не магу нешта прапусціць, ад нечага ўхіліцца. Не магу сімуляваць. Я павінен нешта рабіць, за нешта змагацца, ажыццяўляць нейкія ідэі, некаму памагаць, падстаўляць плячо. Калі мяне ўсяго гэтага пазбавіць — жыццё згубіць усялякі сэнс. Вось вам мой адказ на пытанне, ці не шкада траціць час на чужыя праблемы.

А што тычыцца меркавання, нібыта грамадская работа «сушыць» душу мастака, перашкаджае яму тварыць, то я з гэтым катэгарычна не згодзен. Наадварот, перакананы: сустрэчы з людзьмі, знаёмства з іх справамі даюць акцёру неацэнны вопыт, веданне жыцця, пашыраюць кругагляд, акрыляюць. Не ўяўляю сабе сучаснага артыста, які стаіць у баку ад жыцця, ад грамадскай дзейнасці.

**— Такая жыццёвая пазіцыя ідзе ад вашай ідэйнай перакананасці альбо тлумачыцца асаблівасцямі характару?**

— Напэўна, перш за ўсё характарам. Я па прыродзе сваёй чалавек дзейны, змагар. Але гэтая асаблівасць характару цалкам адпавядае маім ідэйным перакананням. Сёння як ніколі раней ідзе вострая барацьба дабра і зла. Сілы дабра — як чыстае паветра, як крынічная вада. Гэта — экалогія душы. А ўсякая экалогія, як вядома, мае патрэбу ў абароне. І зрабіць гэта можна толькі агульнымі намаганнямі, пры ўзаемным жаданні і разуменні. Няпраўда, што кожны выжывае па-свойму. Чалавек толькі нараджаецца і памірае ў адзіноце. А ў прамежку паміж дзвюма гэтымі вехамі ён сярод людзей і для людзей.

Так, мы жывём у няпросты час. Наступленне зла адчуваецца ва ўсім. І калі мы не аб'яднаем нашы намаганні, то разбуральныя сілы знішчаць і прыгажосць, і мастацтва, і само жыццё, у рэшце рэшт. Дык ці можна на гэта глядзець спакойна, а сваю бяздзейнасць апраўдваць пошлай філасофіяй: я, маўляў, чалавек маленькі, што я магу? Чалавек можа ўсё!

**— А байцоўскія якасці ў вас адкуль — ад бацькоў?**

— Напэўна, нешта ёсць і ад генаў. Але я лічу, што галоўным чынам мяне фарміравала само жыццё. Мне было сем гадоў, калі бацькі развяліся. Мы з мамай апынуліся ажно ў Сібіры. Дзяцінства маё прайшло на вялікай рацэ, сярод сібірскага люду. Магутны дух сібіракоў увайшоў у мой характар. Я рана пасталеў, рана

пачаў прымаць самастойныя рашэнні. Каб неяк выжыць, давялося кінуць школу і паступіць у рамеснае вучылішча. Скончыўшы яго, працаваў токарам-універсалам на авіяцыйным заводзе.

Калі пачалася вайна, старэйшыя за мяне хлопцы, не зважаючы на бронь, пайшлі абараняць Радзіму. І рабілі гэта абсалютна шчыра, па закліку душы. Нас так выхавалі. І я таксама гарэў жаданнем трапіць на фронт, але мне было ўсяго толькі пятнаццаць гадоў і ў ваенкамаце ніхто і слухаць не стаў бы. Сам не ведаю, як мне гэта ўдалося, але я змог прыпісаць сабе тры гады і паступіў на курсы малодшых лейтэнантаў. Інкубатарскія, як іх тады называлі. Правучыўся тры месяцы і мяне прызначылі камандзірам сабельнага ўзвода.

Ваяваў на Калінінскім фронце. Быў паранены. Трапіў у палон. Там я і прайшоў сваю самую суровую, самую жорсткую загартоўку.

**— Раскажыце пра гэта больш падрабязна. Вакол вашага палону ў свой час хадзіла шмат розных плётак, домыслаў, паганенькіх меркаванняў... Прабачце, што закранаю балючае.**

— Нічога, нічога... Ужо адбалела. А тады сапраўды было і крыўдна, і горка, і балюча. Чаму мне не верацЬ? Чаму падазраюць у чорт ведае чым? Зрэшты, не я адзін быў такі, зняважаны і прыніжаны: цень падазронасці падаў на кожнага, хто пабываў у варожым палоне. Цяпер, з вышыні ўзросту і жыццёвага вопыту, я разумею, што ў гэтай, на першы погляд, залішняй асцярожнасці савецкіх улад заключалася і рацыянальнае зерне. Розныя былі людзі і ў лагерах, і патрэбна была карпатлівая фільтрацыя, пільная праверка. Іншая справа, што гэта часам набывала здзеклівыя формы і рабілася непрымальнымі сродкамі. Але не пра гэта сёння размова.

Дык вось пра палон. Наш 11-ы асобны кавалерыйскі корпус, у якім я пачаў вайну, на самым пачатку ліпеня трапіў у акружэнне. Каля месяца мы спрабавалі з яго вырвацца. Ішлі толькі ноччу. Удзень хаваліся ў лесе. Я быў паранены няцяжка, але рана загнаілася гэтак, што я траціў прытомнасць. Мяне неслі на руках.

У адну з днёвак нас, сонных, акружылі фашысцкія аўтаматчыкі. Пачалося самае жахлівае — палон. Хворых і цяжкапараненых немцы тут жа прыстрэльвалі. Касіліся і на мяне, бо шыю маю ад раны разнесла так, што страшна было глядзець. На шчасце, быў сярод нас урач. Ён умела разрэзаў рану, апрацаваў яе, і ўсё, дзякаваць богу, зажыло.

Пасля шэрагу канцлагераў я прайшоў каранцінны блок і быў адпраўлены на працу ў Германію. Апынуўся ў лагеры непадалёку ад горада Штутгарда. Людзі, блізкія па духу, тыя, хто не зламаўся, аб'ядноўваліся. Так было лягчэй выстаяць, не ператварыцца ў звяроў.

У мяне было многа апекуноў. Асабліва сярод тых ваеннапалонных, якія па ўзросце даводзіліся мне бацькамі. Я падабаўся людзям сваёй адкрытасцю і непрымірымасцю. І калі мне прапанавалі ўцёкі, я з радасцю даў згоду. План быў просты: перайсці мяжу і папрасіць у Швейцарыі, нейтральнай краіне, палітычнага прытулку.

Аднак уцёкі скончыліся няўдачай. Нас злавілі і адправілі ў штрафны лагер. На катаржныя работы ў каменяломню. Працавалі па дванаццаць гадзін у суткі. Драўляныя калодкі збівалі ногі да крыві.

Так было восем месяцаў. І калі нашы сілы ўжо канчаліся, прывезлі «свежую» змену, а нас перавялі ў Штутгард, у штрафны лагер для палонных савецкіх афіцэраў. За калючым дротам апынуліся больш за чатырыста чалавек розных нацыянальнасцей. Немцы, відаць, разлічвалі, што шматнацыянальны лагер ператворыцца ў гіганцкую пляцоўку з ядавітым павукамі, што мы перагрызём адзін аднаго. Марныя спадзяванні! Да канца дзён маіх буду памятаць урокі высокай маральнасці, чалавечнасці, якія далі мне, па сутнасці хлапчуку, ваеннапалонныя на чужыне. У гэтых людзей адабралі ўсё. З лёгкасцю можна было забраць апошняе — іх жыцці. Але толькі не тыя якасці, без якіх чалавек ператвараецца ў звера.

У лагеры была створана група супраціўлення, якая згуртоўвала людзей, падтрымлівала дух афіцэрскага гонару, стойкасці і веры ў перамогу. Наладжваліся сувязі з савецкімі грамадзянамі, якіх вывезлі ў Германію на прымусовыя работы, з нямецкімі камуністамі. З іх дапамогаю рыхтаваліся ўцёкі палонных з лагера.

Вось такім чынам у красавіку сорак чацвёртага ўдалося ўцячы чарговай групе вязняў, у ліку якіх быў і я. На жаль, і на гэты раз нам не пашанцавала. Спачатку нас было чацвёра, пасля падзяліліся на дзве групы, каб менш прыцягваць увагу паліцыі. Аднак выбрацца за межы Германіі не ўдалося. Трэба было нешта рабіць, каб зноў не трапіць за калючы дрот. І мы з маім таварышам па няшчасці Дзмітрыем Віўцюком, апынуўшыся ў Аўсбургу, дзе было многа рускіх, вывезеных у Германію, пайшлі на працоўную біржу і сказалі, што, маўляў, адсталі ад цягніка, есці няма чаго, дапамажыце ўладкавацца на працу. Нас аблаялі, але ўсё ж прынялі — рабочых рук катастрафічна не хапала.

Аднак працаваць на фашыстаў не ўваходзіла ў мае планы. І мы з Іванам, новым маім таварышам, вырашылі даць цягу і адсюль. Ды вось ужо праўду кажуць: як не шанцуе, дык не шанцуе. У горадзе Лінц трапілі на вочы гестапаўскаму патрулю, які да высветлення абставін запраторыў нас у турму. Допыты доўжыліся некалькі месяцаў. У мяне была цвёрдая легенда: я — чыгуначны рабочы аварыйнай брыгады. Адстаў ад цягніка. А дакументы засталіся ў вагоне, у якім жыў. Ніякіх доказаў супраць мяне не было, і ў рэшце рэшт турму мне замянілі прымусовай працай на млыне. Тут, на гэтым млыне, я і дачакаўся свайго вызвалення. Праўда, вызвалілі не савецкія салдаты, а амерыканскія. Мне выдалі форму, і разам з саюзнымі войскамі цэлы месяц я рухаўся на ўсход. У маі сорак пятага адбылася нарэшце доўгачаканая, радасная сустрэча з савецкімі войскамі.

Я прайшоў праверку і апынуўся ў Венгрыі. Выдалі мне форму, зброю і прызначылі ў горадзе Цэльдэмельк начальнікам участка па рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян з Германіі. Колькі ж драматычных лёсаў прайшло перада мною за гэтыя некалькі месяцаў!

І не здагадваўся я тады, што не менш драматычны лёс неўзабаве напаткае і мяне самога. Калі пункт па рэпатрыяцыі ліквідавалі, я зноў апынуўся ў Германіі. У ваенным гарадку. І зноў — за ключым дротам. Пачаліся бясконцыя, пакутлівыя допыты. Чаму я не загінуў у гестапа? Чаму мяне адпусцілі жывым? На каго я працую?

Пасля перавялі мяне ў Вышні Валачок. Допыты, праверкі доўжыліся яшчэ некалькі месяцаў. І вось нарэшце аб'яўляюць загад аб маёй поўнай рэабілітацыі і аднаўленні ў афіцэрскім званні.

Усё! Скончыліся мае беды і пакуты. Трэба шукаць сям'ю.

## Усё застаецца людзям

### *Думкі розных гадоў, сабраныя разам*

**— Паехалі ў Сібір?**

— Паехаў. Аднак у Новасібірску родных не аказалася. Маці паведамілі, што я прапаў без вестак. Яна вырашыла, што я загінуў. І разам з сястрой Валянцінай пераехала да сябе на радзіму — на Віцебшчыну, у Бешанковічы.

І вось снежань сорак пятага. Я іду дадому. Іду да мамы, якую не бачыў тры гады. І мама не ведае, што я жывы, што я прайшоў жахлівае пекла, усе яго колы, і выжыў. Я іду дадому…

Каля веснічак прыпыніўся. Не, нельга з'яўляцца вось так, адразу. Стукаюся ў суседні дом, прашу гаспадыню падрыхтаваць маму да сустрэчы. Гаспадыня вяртаецца з заплаканаю сястрой. Кінулася тая мне на шыю і ўсё паўтарае: «Ну чаму ты не ідзеш дадому, Коля? Чаму не ідзеш дадому?..»

А вось і мама. Ёй тады было сорак гадоў, а галава зусім сівая. Моўчкі, нібыта сляпая, доўга абмацвае мяне. Моўчкі вядзе дадому. Збегліся суседзі, мама накрывае на стол. А я ўсё гавару, гавару і не магу спыніцца. Мама слухае моўчкі. І раптам на нейкай фразе ўсміхнулася і кажа: «Як быў ты, Коля, хлапчуком, так ім і застаўся». І, страціўшы прытомнасць, асунулася на падлогу…

Мне — дзевятнаццаць гадоў. Такарна-слясарная справа забыта безнадзейна. Чым жа заняцца? Адпачыў тыдзень-другі і стаў кіраўніком раённага Дома культуры. Спяваў, чытаў вершы, танцаваў цыганачку.

**— А ў тэатр як трапілі?**

— Паехалі мы аднойчы на агляд мастацкай самадзейнасці ў Віцебск. А там у журы быў вядомы артыст Коласаўскага тэатра Аляксандр Канстанцінавіч Ільінскі. Паглядзеў ён на мяне, паслухаў ды і кажа: «Адкуль ты такі ўзяўся? У цябе, хлопец, добрыя псіхафізічныя даныя. Прыходзь-ка да нас у тэатр». І я прыйшоў.

**— Як? Адразу залічылі ў трупу?**

— Не, канечне. Пры тэатры была драматычная студыя, якой кіраваў народны артыст рэспублікі Цімафей Мікалаевіч Сяргейчык. Вось у гэтую студыю мне і прапанавалі паступіць, каб авалодаць сакрэтамі акцёрскага майстэрства. Прынялі без асаблівых іспытаў, і мне гэта падалося не надта сур'ёзным. Недзе з месяц я вагаўся-думаў: ісці мне ў студыю ці шукаць нешта больш істотнае? Але паколькі я быў ужо туды залічаны, у мяне паверылі вядомыя артысты, то сорамна было іх падводзіць, і я вырашыў пачаць вучобу, а там будзе бачна.

На шчасце, заняткі ў студыі настолькі мяне захапілі, што я і не заўважыў, як праляцелі два гады, пачаўся апошні, трэці год навучання. Нарэшце нам дазволілі самастойна працаваць над урыўкамі з п'ес. Выбірай любую ролю, іграй што хочаш. Трэба толькі дамовіцца з партнёрамі, а па дапамогу, падказку можаш звяртацца да любога артыста, да любога рэжысёра, і ніхто табе не адмовіць. Цэлых паўгода доўжылася такое шыкоўнае жыццё, калі мы адчувалі сябе магамі, чарадзеямі.

А тым часам няўмольна набліжаліся апошнія экзамены. Для выпукнога спектакля мы выбралі папулярную тады п'есу Леаніда Малюгіна «Даўнія сябры». П'еса пра недалёкае мінулае: пра вайну, дзесяцікласнікаў адной ленінградскай школы, пра тое цудоўнае пакаленне, якое проста са школьнага выпускнога вечара зрабіла крок у пажар вайны, пра тое, як кожны з іх прайшоў выпрабаванне вайной, пра першае юначае каханне…

Спектакль гэты быў для мяне не толькі блізкім, дарагім па духу, па змесце, але і стаўся лёсавызначальным.

**— У тым сэнсе, што вы сталі артыстам праслаўленага Коласаўскага тэатра?**

— І ў гэтым таксама. Але быў яшчэ адзін момант, не менш для мяне важны. У спектаклі мне дасталася роля Валодзі Дарохіна, а прывабна-чароўную гераіню Тоню, у якую былі закаханыя ледзь не ўсе яе аднакласнікі, іграла Галіна Арлова. Прызнаюся: мне было лёгка, радасна іграць сваю ролю, таму што я ў гэту маладзенькую, таленавітую артыстачку закахаўся па-сапраўднаму, з першага погляду.

**— Вось як бывае ў жыцці. Сумняваліся, вагаліся, а студыя аказалася вашым лёсам — і ў прафесіі, і ў каханні.**

— Сапраўды, студыю мы скончылі ў 1948 годзе, сталі прафесійнымі артыстамі, і ў тым жа годзе з Галінай Аляксандраўнай пабраліся шлюбам. А праз год у нас нарадзіўся першынец — сын Міколка, Мікалай Яроменка-малодшы, які пазней стане народным артыстам Расіі.

Наша сямейнае жыццё пачыналася цяжка. Не ў тым сэнсе, што былі нейкія нелады з жонкай — тут мне якраз пашчасціла, было поўнае ўзаемаразуменне і духоўная еднасць. А ў тым, што ў Віцебску, які за гады вайны быў разбураны

дашчэнту, тады практычна не было жылля. Ды і зарплата на першым часе была сімвалічная. Выручалі нашы маці, якія памагалі чым маглі — і грашыма, і прадуктамі. Гэта пазней ужо, калі я стаў заслужаным артыстам рэспублікі, мы адчулі палёгку.

**— Дарэчы, сям'я Яроменкаў у артыстычным асяроддзі лічыцца самай трывалай, самай паспяховай, калі можна так сказаць — узорна-паказальнай. Амаль паўстагоддзя вы пражылі з Галінай Арловай у добрым ладзе і згодзе. Скажыце, калі ласка, як вам гэта ўдаецца? Няўжо ніколі не было ніякіх канфліктаў, зрываў?**

— Ну чаму ж, як і ў кожнай сям'і, рознае бывала. Мудрасць сямейнага жыцця, аднак, не ў тым, каб наогул не ствараць канфліктаў (такое, відаць, і немагчыма), а ў тым, каб разумна з іх выходзіць. І тут Галіна Аляксандраўна праяўляе, на мой погляд, сапраўдную мудрасць. Мне застаецца толькі браць з яе прыклад.

**— А вось Яроменка-малодшы, здаецца, не ў бацьку пайшоў...**

— Я — адналюб, а Коля — чалавек багемны, любіць артыстызм ва ўсім. Таму як муж ён, можа, і не самы лепшы. Але хто і што тут віною — цяжка меркаваць. Ён неаднойчы казаў мне: «Пашанцавала табе, баця, з мамаю...»

**— А яшчэ вам пашанцавала і з сынам.**

— Несумненна. Сын ён — чулы, уважлівы, добры. І хоць мы, як кажуць, людзі розных пакаленняў, паміж намі існуе глыбінная сувязь. Пра гэта, дарэчы, і фільм «Сын за бацьку», які ён зняў спецыяльна да майго юбілею. Лепшага падарунка мне і прыдумаць цяжка. Падарунак гэты тым больш дарагі, што фільм атрымаўся сур'ёзны, цікавы, таленавіты. На Першым усебеларускім фестывалі ў Брэсце ён заняў першае месца. А на кінафестывалі ва ўкраінскім горадзе Славуціч, на «Залатым Віцязі», быў адзначаны ганаровымі прызамі. Мне асабіста ўручылі прыз і дыплом «За лепшую мужчынскую ролю».

**— Ваша сям'я ўнікальная яшчэ і тым, што пад адным дахам вырасла трое народных артыстаў. Калі вы збіраецеся разам, вам удаецца пазбегнуць гарачых спрэчак? Вайна амбіцый не ўспыхвае?**

— Вайны, дзякаваць богу, ніколі не было. А спрэчкі... Спрэчкі, чаму ж, здараюцца. Гэта — нармальна. Творчыя пытанні мы абмяркоўваем даволі бурна, без усялякіх скідак і кампрамісаў. Але ніхто з нас не адчувае сябе асобна ўзятай дзяржавай, якая жыве па сваіх законах. Нас нічога не раз'ядноўвае. Наадварот, агульная прафесія збліжае.

**— Цудоўна. Вернемся, аднак, да тэатра. Як вам працавалася ў Віцебску? Як вас прыняла знакамітая трупа коласаўцаў?**

— Прыняла выдатна. Я ж не быў катом у мяшку. Можна сказаць, свой чалавек, выхаванец тэатральнай студыі. Таму не толькі я ведаў усіх, але і мяне многія ведалі. З першых крокаў мне сталі давяраць сур'ёзныя, адказныя ролі. І можа, самае важнае, што я практычна не ведаў, што такое — дзяліць вялікую ролю з некім па чарзе. За дзесяць гадоў працы я параўнаўча лёгка стаў у тэатры лідарам.

**— Красамоўным сведчаннем таму можа служыць той факт, што ўжо ў дваццаць дзевяць гадоў вам было нададзена ганаровае званне заслужанага артыста. Вы былі тады не толькі самы малады заслужаны ў Коласаўскім тэатры, але і наогул у рэспубліцы. Вам заўсёды ўсё давалася так лёгка, так рана?**

— Ведаеце, я толькі на вайну трапіў рана. Усё астатняе атрымоўвалася позна. На сцэну выйшаў у дваццаць пяць гадоў. Добрых рэжысёраў сустрэў позна. Таленавітая класіка стала даставацца позна.

Гэта — не скаргі, не ныццё няўдачніка. Гэта — цвярозая канстатацыя жыццёвых абставін. Асабліва складаны перыяд у маёй творчай кар'еры пачаўся з пераходам у 1959 годзе ў тэатр імя Янкі Купалы.

**— А чыя была ініцыятыва гэтага пераходу — вашая ці тэатра?**

— Толькі тэатра. Мне выдатна працавалася ў Віцебску і пра ніякія змены я нават думаць не думаў. Але аднойчы галоўны рэжысёр Купалаўскага тэатра запрасіў мяне да сябе і прапанаваў працу ў іхнім калектыве. Як пазней я дазнаўся, справа заключалася ў тым, што праслаўлены купалаўскі акцёр Барыс Платонаў быў ужо даволі шаноўнага ўзросту і рана ці позна яму патрабавалася змена. Вось на гэту пачэсную ролю мяне і запрашалі. Але я нічога гэтага не ведаў і пасля некаторага роздуму пагадзіўся.

І калі гаварыць шчыра, то не раз аб гэтым шкадаваў. З пераездам у Мінск у нас з Галінай Арловай узніклі розныя складанасці. Я, напрыклад, з галоўных роляў быў адсунуты на другі план. У Галіны Аляксандраўны наогул пачаліся незапланаваныя, доўгатэрміновыя творчыя прастоі.

**— А што было таму прычынай?**

— У мяне аказаўся вельмі сур'ёзны сапернік — малады таленавіты акцёр Віктар Тарасаў. Нас часта прызначалі на адны і тыя ж ролі. І паколькі Тарасаў ужо быў прызнаны і публікай, і крытыкай, то ён звычайна аказваўся ў першым саставе, а я — у другім.

Павінен вам сказаць, што дублёрства ў тэатры — рэч каварная, небяспечная, якая вымотвае ў акцёра ўсе сілы і нервы. Таму што параўнанне ідзе на карысць некага аднаго. І тады другі ўсяляк стараецца даказаць, што ён не горшы, а проста — іншы. Мы з Тарасавым былі зусім розныя індывідуальнасці і, вядома ж, мелі розны творчы вынік. Рэжысура ж чамусьці аддавала перавагу Тарасаву.

Але гэта толькі адна прычына. І можа, не самая важная. Другая, якую мы ўжо крыху закранал і, заключаецца вось у чым. У шасцідзясятыя гады на змену тэатру псіхалагічнаму прыйшоў тэатр рэжысёрскі, у якім артыст пачаў выступаць выканаўцам не столькі ролі, колькі волі рэжысёра.

Я — рашучы праціўнік такога дыктату. Лічу, што псіхалагічны тэатр — самы высокі з пункту гледжання яго магчымасцей і самы складаны з пункту гледжання творчасці. Але, відаць, не ўсім рэжысёрам, асабліва маладым, па сіле працаваць у гэтым плане. І вось тады, каб схаваць беднасць зместу, убоства думкі, пачынаецца на сцэне гэтакі «маскарад» — бенгальскія агні, серпанцінавая мішура і розныя іншыя знешнія эфекты.

Зразумейце мяне правільна: я не супраць рэжысёрскіх пошукаў, яркай, ускладнёнай формы спектакля і таму падобнага. І ўсё ж такі, мне думаецца, ва ўсіх выпадках галоўнай фігурай на сцэне павінен быць акцёр, менавіта тое звяно ў спектаклі, праз якое перадаецца на падмостках жыццё чалавечага духу. Мы ж часам занадта шмат маем выдаткаў неапраўданых пошукаў. І выдаткаў непрадуманых пошукаў форм. З маладымі акцёрамі ў такім разе рэжысёрам працаваць лягчэй. Ім можна проста закамандаваць — стань сюды, стань туды, прайдзі ўправа і г. д. А з майстрамі сцэны, якія выхаваны на рэалістычных традыцыях, маюць псіхалагічную школу, працаваць куды цяжэй. Яны задаюць шмат пытанняў: а чаму? А навошта? А дзеля чаго? Гэтыя пытанні раздражняюць маладых рэжысёраў. І раздражняюць таму, што не могуць кваліфікавана, з творчых пазіцый растлумачыць майстрам, чаго яны ад іх хочуць. І таму нярэдка проста пазбягаюць з імі працаваць.

**— Мікалай Мікалаевіч, дык што ж гэта за з'ява такая — тэатр? І чаму без яго вы не мысліце свайго жыцця?**

— Тэатр — сапраўды ўсё маё жыццё без астатку. Не адзін дзясятак гадоў адслужыў я на беларускай нацыянальнай сцэне. Побач з многімі выдатнымі майстрамі. Я многаму навучыўся і многае спасцігнуў у гэтай шматграннай, складанай з'яве, імя якой — тэатр.

Чаму тэатр валодае такой магнетычнай сілай? Чаму ў яго гэтулькі аматараў і паклоннікаў? Ды таму, што гэты таямнічы, загадкавы свет кліча скрозь слёзы і радасці, скрозь перажыванні і пакуты да ўзвышанага і цудоўнага, да веры і надзеі. Тэатр — гэта светлы цуд спасціжэння чалавека. Зразумела, у тым выпадку, калі ўсё, што адбываецца на сцэне, пранізана, як промнямі сонца, талентам і натхненнем.

Апошнім часам я даволі часта прыгадваю прарочыя словы вялікага педагога, рэжысёра і рэфарматара сцэны Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага, з якімі ён звяртаўся да нас, акцёраў. «Вы, мае маладыя сябры, — гаварыў ён, — павінны несці ў храм мастацтва ўсе лепшыя чалавечыя думкі і памкненні, атрасаць на парозе ўвесь дробны пыл і бруд жыцця. У такім выпадку ваша праца стане вечным святам, якое ўзвышае, робіць больш высакароднымі душы людзей. Але калі вы здрадзіце гэтаму высокаму пачуццю і панясеце ў храм мастацтва ўсе акцёрскія дробныя зайздрасці, плёткі і людскія заганы, — храм пераўтворыцца ў звалку ўсіх людскіх адкідаў і гнілля чалавечай душы і замест вечнага свята атрымаецца вечны морак і мярзотнасць».

**— Але ж акрамя тэатра вы шмат часу, творчых сіл і натхнення аддалі кінематографу. Што тады для вас кіно?**

— Нехта з мастацтвазнаўцаў у свой час напісаў такую фразу: «Яроменка выстаяў дзякуючы кіно». Сказана трохі залішне катэгарычна, але пэўная доля праўды тут ёсць. Я сапраўды, калі мне было цяжка, калі ад непаразумення ў тэатры, ад раздраю ў грамадстве душа мая курчылася ў невыносных пакутах, ратаваўся здымкамі на кінапляцоўках. Ужо за адно гэта я бясконца ўдзячны кінематографу.

Але ж не магу забыць і тое, што менавіта кіно вывела мяне на высокую арбіту, надало ўсесаюзную папулярнасць.

**— Маеце на ўвазе фільм «Людзі і звяры»?**

— Перш за ўсё, канечне, яго. Да гэтага я здымаўся ў двух беларускіх фільмах — «Наперадзе — круты паварот» і «Першыя выпрабаванні». Але ролі тут былі нязначныя і асаблівай славы (ды і творчага задавальнення) гэтыя здымкі мне не прынеслі. А вось роля лейтэнанта Паўлава з яго пакручастым, драматычным лёсам амаль цалкам легла на маю біяграфію, прарасла скрозь маю душу і сэрца, і мне тут нічога не трэба было выдумляць — я практычна іграў самога сябе. Мой герой атрымаўся надзвычай арганічным і шчырым. Ну і, вядома ж, майму творчаму поспеху ў немалой ступені садзейнічала пастаянная дапамога, падтрымка на здымачнай пляцоўцы і па-за яе межамі нашага выдатнага кінарэжысёра Сяргея Герасімава.

І разам з тым я хачу сказаць, што тэатральная праца намнога больш складаная, больш затратная, чым кінематаграфічная. Нервовыя клеткі спальваюцца бязлітасна і часам амаль марна. Тут няма дубляў, няма перапынкаў. Ты выходзіш на сцэну і за паўтары-дзве гадзіны павінен выкласціся поўнасцю, выціснуць з сябе ўсё, што можаш, усё, што ўмееш.

**— Мікалай Мікалевіч, а як адбылася ваша сустрэча з Герасімавым? Прабіцца на здымкі да рэжысёра такога ўзроўню — гэта вялікая ўдача і сапраўднае шчасце.**

— Гэта праўда. Пасля «Людзей і звяроў» я здымаўся ў многіх вядомых фільмах, меў адносіны з многімі таленавітымі кінарэжысёрамі, але дні, праведзены разам з Сяргеем Апалінар’евічам, да гэтага часу застаюцца самай светлай паласой у маім жыцці.

А як адбылася сустрэча? У «Литературной газете» быў надрукаваны ўрывак са сцэнарыя фільма «Людзі і звяры». Я прачытаў і зразумеў: гэта — маё! Я павінен сыграць у фільме любую, хоць эпізадычную ролю. Але абавязкова сыграць!

І напісаў Герасімаву пісьмо, у якім і выказаў такое жаданне. А ў канцы коратка пераказаў сваю біяграфію і дабавіў: калі не атрымаецца са здымкамі, то магу быць карысны як кансультант. Праз некаторы час Сяргей Апалінар’евіч запрашае мяне ў Маскву і — прапаноўвае галоўную ролю! Такое ў жыцці, напэўна, бывае толькі аднойчы.

**— Вы здымаліся больш як у пяцідзесяці фільмах. Ці ўсімі сваімі ролямі вы задаволены? Ці не было пасля некаторых здымкаў расчаравання, прыкрасці?**

— Не, расчаравання не было. Але і вялікага творчага, маральнага задавальнення некаторыя ролі мне не прынеслі.

**— Навошта ж было згаджацца?**

— Няпростае пытанне… Ведаеце, акцёр — паднявольная асоба. Адзін раз адмовішся, другі, а на трэці могуць і не запрасіць. Але справа нават не ў гэтым ці не толькі ў гэтым. Якая б ні была мая роля — вялікая ці дробная, малазначная, цікавая ці шэранькая, я заўсёды шукаю ў ёй рацыянальнае зерне, за што можна было б зачапіцца, развіць, хоць праз нейкую дэталь праявіць характар. Засваенне ж розных чалавечых характараў дае акцёру рух, трымае яго, што называецца, у форме, у тонусе.

Чаму ж я кажу пра пэўнае незадавальненне некаторымі ролямі? На гэты конт, мне здаецца, добра аднойчы сказаў мой сын. Далікатна пакрытыкаваўшы мае «генеральскія» ролі — буйны партыйны работнік, вялікі ваенны чын, якія здаліся яму даволі аднапланавымі, ён зазначыў, што гэтыя ролі нагадваюць яму ўзлётную паласу, якая абрываецца недзе пасярэдзіне. З такой паласы можа ўзляцець маленькі самалёт, а лайнеру там рабіць няма чаго. «Ты, баця, — заключыў ён, — трацiш сябе бязлітасна, а жаданай аддачы не атрымоўваеш». Як ні крыўдна было слухаць такое, але я мусіў з сынавай крытыкай пагадзіцца.

**— Прабачце, Мікалай Мікалаевіч, але вось за гэту аднапланавасць, пэўную плакатнасць вашых «генеральскіх» роляў вас неаднойчы папракалі і мастацтвазнаўцы, зазначаючы, што ўсе вашы героі — людзі апантаныя, з глыбокай верай у камуністычныя ідэалы, з высокімі грамадзянскімі і патрыятычнымі пачуццямі.**

— А што ў гэтым кепскага? Я абсалютна пераконаны: толькі на прыкладах станоўчых герояў можна вучыць і выхоўваць гледача. Што ж датычыцца аднапланавасці, то ў гэтым мне «дапамагаюць» мае працадаўцы. Яны чамусьці часцей за ўсё бачаць мяне толькі ў адным амплуа — сацыяльны герой. Аднойчы, калі Корш-Саблін прапанаваў мне сыграць у фільме «Масква—Генуя» дыпламата Бязлыкава, я нават не вытрымаў і ўзмаліўся: «Уладзімір Уладзіміравіч, дайце мне адмоўную ролю. Каб было нешта ў процівагу…» І я сыграў у гэтым фільме штабс-капітана Русанава. Белагвардзейца, які расстрэльвае ў цягніках нашых дыпламатаў. Але гэта — не фанатычны забойца. У яго свае ідэалы, свае перакананні. І вялізная чалавечая драма…

**— Кажуць, што артыст, увасабляючы тую ці іншую ролю, перадае свайму герою і часцінку асабістага «я».**

— Не ведаю як у каго, а ў мяне звычайна так і бывае. Я ніколі не фальшывіў у сваіх грамадзянскіх пачуццях ні на сцэне, ні ў жыцці. Ролі рэвалюцыянераў, военачальнікаў, сакратароў парткамаў, кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў, міністраў без такіх пачуццяў не сыграеш.

**— У чым заключаюцца вашы галоўныя жыццёвыя каштоўнасці?**

— Мне назаўсёды ўрэзаліся ў памяць словы лейтэнанта Паўлава. «Ёсць рэчы, — гаварыў мой герой, — пра якія людзі, калі яны людзі, не маюць права забываць да канца сваіх дзён». Гэта — Радзіма, народ, сям'я, сумленне, гонар, справядлівасць. Святыя, вечныя і лёсавызначальныя паняцці. Менавіта яны і складаюць падмурак чалавечай асобы. Не прыміце за лішнюю пафаснасць, але я выхаваны на гэтых высокіх маральных паняццях і ніколі ім не здраджваў.

Вось мы з вамі гаварылі аб тым, што развал Савецкага Саюза пачаўся з развалу партыі. А ведаеце, што згубіла партыю? Партыйнасць, заквашаная на шкурных інтарэсах. Чалавек уступаў у партыю толькі таму, што гэта адкрывала яму шлях да кар'еры. А калі партыйны білет перастаў быць хлебнай карткай, многія, вельмі многія ад яго тут жа пазбавіліся. Знайшліся героі, якія публічна спалілі партыйныя білеты. Наладзілі, бачыце, палітычную акцыю. Ды не білеты яны спалілі, а сваё сумленнне, калі яно, вядома, у іх было…

Духоўны стрыптыз — відовішча мярзотнае. Тым больш, калі яго дэманструюць мужчыны. Я глыбока расчараваўся ў некаторых вядомых нашых рэжысёрах, пісьменніках, артыстах, якія здрадзілі партыі і цяпер спрабуюць выдаваць сябе ледзь не за сумленне нацыі. А на самай справе паказалі сябе пярэваратнямі, людзьмі з двайным дном.

Канечне, чалавек — не камень, які можа заставацца нязменным сотні гадоў. Мяняецца і чалавек, і яго погляды. Ён можа глыбока расчаравацца ў тым, у што яшчэ ўчора свята верыў. Але гэтая страта веры ў ідэалы адбываецца ў трагічнай адзіноце. Без істэрыкі і ляманту.

Так, жыццё дыялектычнае. І на кожным гістарычным адрэзку часу яно дыктуе свае ўмовы і чалавечага, і палітычнага, і сацыяльнага існавання. Але самае галоўнае — гэта здольнасць чалавека не здрадзіць сваім асноватворным пераканнням. У любых экстрэмальных сітуацыях…

Ведаеце, што для мяне на вайне было сапраўдным узрушэннем? Гэта тое, што немцы, ворагі, адкрыта пагарджалі нашымі здраднікамі. Таму дзіўна і дзіка чуць мне сёння балбатню нашых маральных вырадкаў (некаторыя з іх маюць нават вучоныя ступені), што, маўляў, паліцаі — сапраўдныя патрыёты, пакутнікі за свой народ, што яны — ледзьве не выратавальнікі Радзімы. Гэта — здзек над франтавікамі і партызанамі, над памяццю тых, чые косці ляжаць у брацкіх магілах, рассеяны па лясах і балотах… Дэзерціры і здраднікі — забойцы свайго народа. Няма ў іх іншага імя і быць не можа.

Прабачце, не стрымаўся, завёўся. Надта ж балючае закранулі…

**— І апошняе пытанне: вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам?**

— Несумненна! Я займаюся любімай, хоць цяпер і не заўсёды ўдзячнай справай. У мяне надзейная, трывалая сям'я: жонка, якую кахаю я і якая кахае мяне; выдатны сын, якім я ганаруся. Маю добрых, шчырых сяброў, якія засталіся побач са мною ў самых складаных сітуацыях.

Я за сваё жыццё не здзейсніў ніякіх подзвігаў, але ў душы веру, што здолею пакінуць свой след, захаваўшы сябе чалавекам. Я больш аддаў людзям, чым узяў ад іх. А ўсё добрае, што мною зроблена, застанецца людзям. І таму назаўсёды застануся верным гэтаму прынцыпу.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***



Васіль МАКАРЭВІЧ

# ПАДДАНЫ ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ ПЕСНІ

«Наўрад ці знойдзецца чалавек у нашай краіне, — пісаў у свой час вядомы рускі паэт Аляксандр Твардоўскі, — які б не ведаў цудоўнай застольнай песні: «Бывайце здаровы, жывіце багата…» І сапраўды, хто з нас не чуў гэтай песні, не спяваў яе ў гурце сяброў ва ўрачыстыя хвіліны якога-небудзь свята, ці проста бываючы ў гасцях. Да вайны гэта песня была настолькі папулярнай, што лічылася народнай. Чаму? Яе словы і напеўнасць, дасціпны гумар, прастата і настрой адпавядалі запатрабаванням свайго часу, заможнаму, як тады лічылася, жыццю калгаснай вёскі. Дарэчы, па афіцыйнай версіі верш быў запісаны на Капыльшчыне і з'явіўся ў рэспубліканскім друку. І, калі на яго словы была напісана музыка і песня загучала па ўсёй краіне, мала хто ведаў, хто з'яўляецца аўтарам тэксту. І толькі пасля таго, як песню пачулі па Рэспубліканскім радыё і яна стала своеасаблівай аздобай заключнага канцэрта на Першай Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, якая праходзіла ў 1940 годзе, было ўстаноўлена, што аўтар слоў песні Адам Русак.

Калі ж з'явіўся гэты верш з-пад пяра А. Русака? Паэт на той час працаваў у аркестры Ленінградскага Малога акадэмічнага тэатра оперы і балета і кожнае лета прыязджаў на пабыўку ў родную Малінаўку, што на Капыльшчыне. Кожны раз пасля вяртання ў Ленінград ён пісаў матулі лісты і часта ў вершаванай форме. Аднойчы, пасля чарговай паездкі ў родную вёску, ліст пачаў так: «Бывайце здаровы, жывіце багата, ужо мы паедзем дадому, дахаты». Цяпер цяжка сказаць, першы радок быў пачуты ад каго-небудзь у Малінаўцы ці сам сабой нарадзіўся ў душы паэта. Важна тое, што рытміка верша і словы былі мілагучна-спеўныя і задушэўныя. Маці паэта заспявала пісьмо-верш сына на свой лад, а неўзабаве песню падхапіла і наваколле. А калі верш быў змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» як фальклорны запіс і кампазітар Ісак Любан напісаў на яго музыку, песня набыла ўсенароднае гучанне і прызнанне.

Наконт аўтарства слоў песні некалькі разоў узнікалі спрэчкі: можа, сапраўды, як меркавалі некаторыя знаўцы песеннага фальклору, А. Русаку пашчасціла падслухаць у сваёй Малінаўцы ўдалыя радкі, а пасля ён апрацаваў іх, давёў, што называецца, да пэўнай кандыцыі. Але думаць так — значыць глыбока памыляцца. Верш цалкам належыць А. Русаку. У гэтым няцяжка пераканацца кожнаму, калі ён захоча пазнаёміцца з ягонымі раннімі творамі, напісанымі яшчэ да стварэння «Бывайце здаровы». У яго ўжо меўся даволі-такі багаты вопыт працы ў гарачым цэху паэзіі, ён неаднойчы выступаў у друку.

У аўтабіяграфіі прызнаваўся, што вершы пачаў пісаць яшчэ жывучы ў вёсцы. Расказваў пра сялянскае жыццё, тагачасныя падзеі і чытаў напісанае на вечарынах. Першы, на яго думку, па-сапраўднаму мастацкі твор, стварыў восенню 1925 года, будучы студэнтам музычнага тэхнікума ў Мінску. Прысвяціў яго прыгожаму ясеню, які губляе сваю лістоту і не можа абараніцца ад ветру.

«Свае першыя вершы, — сведчыць А. Русак, — я саромеўся паказаць таварышам. Але ж яны дазналіся пра іх і часта прасілі прачытаць, нават давалі заданне напісаць у насценную газету ці яшчэ з якой нагоды».

У душы А. Русака ўжываліся побач адразу дзве любові: адна — да паэтычнага слова, другая — да пявучай скрыпкі. Любоў да паэтычнага слова прыйшла, відаць, сама па сабе. А што тычыцца скрыпкі, то любоў да яе перадалася па бацькоўскай лініі. Дзед Адама Русака, адслужыўшы рэкрутам у царскай арміі 25 гадоў, атрымаў ва ўзнагароду лапік пясчанага надзелу і, як чалавек выключнай адвагі і смеласці, не пабаяўся ажаніцца на цыганцы з табара, які праязджаў каля сядзібы адстаўнога салдата. Пэўна, ад цыганкі-бабулі і перайшла будучаму паэту-песенніку любоў да музыкі і скрыпкі, вясковых танцаў і народных песень.

Навучаючыся ў музычным тэхнікуме, нягледзячы на сваю прыроджаную сарамяжлівасць, паказваў вершы больш вопытным паэтам. Уразіла яго сустрэча з Паўлюком Трусам, які працаваў у літаратурнай рэдакцыі Рэспубліканскага радыё. Аднойчы П. Трус запрасіў яго да сябе на кватэру. Жыў ён у драўляным доміку, у невялічкім сціпла абстаноўленым пакойчыку. Прыняў ветліва і гасцінна. На гэтай сустрэчы А. Русак асмеліўся прачытаць яму некалькі вершаў. Той уважліва выслухаў, зрабіў заўвагі і сказаў, што напісаны яны шчыра, проста і прыгожай народнай мовай. І даў некалькі слушных парад.

Запомнілася А. Русаку і сустрэча з такім вялікім мастаком слова, якім ужо з'яўляўся на той час Якуб Колас. Адбылося гэта на літаратурным вечары, які наладзілі студэнты музычнага тэхнікума. Гэта была не проста сустрэча, а ўрок для маладога паэта, усведамленне, якую адказнасць нясе ён за кожнае сказанае слова, радок і страфу. Яму даручылі напісаць верш, прысвечаны Я. Коласу. А. Русак настолькі разгубіўся, што спачатку адмовіўся, маўляў, гэта яму не пад сілу. Але таварышы не адступілі ад свайго, нават папярэдзілі, што могуць абмеркаваць яго паводзіны на сходзе. І малады паэт здаўся. Напісаны верш паказаў Мікалаю Дрэйзіну — чалавеку высокай культуры, гісторыку, музыказнаўцу, перакладчыку сусветнай класікі на беларускую мову. Ён ухваліў верш і сказаў, што Русак павінен сам прачытаць яго на вечары ў прысутнасці Я. Коласа. Малады паэт так і зрабіў і аддаў верш Коласу. А далей адбылося тое, што ў свой час з Пушкіным на выпускным экзамене ў ліцэі, на якім прысутнічаў Дзяржавін. Ад хвалявання А. Русак кінуўся на вуліцу. А калі супакоіўся і вярнуся ў інтэрнат, сябры ў адзін голас гаварылі і сцвярджалі, што верш добры і Колас быў задаволены прысвячэннем. І не крывілі душой. Нават па загалоўку «Нёман крыніцай паіў цябе чыстай» можна меркаваць, што ў творы шмат душэўнай шчырасці, усхваляванасці і пачуцця.

Але чаму так хваляваўся А. Русак перад сустрэчай з народным песняром? Думаецца, ён добра разумеў, якімі агромістымі фігурамі былі ў нашай літаратуры Я. Колас і Я. Купала, пра якіх М. Горкі гаварыў, што яны пішуць «проста, задушэўна і па-народнаму». Звернем увагу на эпітэт «па-народнаму». На той час у гэты эпітэт укладваўся крыху іншы сэнс, чым сягоння. Пісаць «па-народнаму» азначала — пісаць проста, без вычварнасці і ўсялякіх фармалістычных выкрутасаў, пазбягаючы складанай метафарычнасці і асацыятыўнасці. Да гэтага імкнуліся амаль усе тагачасныя паэты, у тым ліку і А. Русак. Інтуітыўна ён адчуваў, што ў любой творчасці, паэзіі і нават звычайным вынаходніцтве ўсё геніяльнае простае, а простае па-свойму геніяльнае. І, безумоўна, імкненне А. Русака пісаць проста і па-народнаму не прайшло дарэмна. Яно прынесла свой плён, узышло і ўскаласілася вершамі, якія сталі песнямі. І ў той жа час апагеем творчага ўзлёту з'явіўся верш «Бывайце здаровы»...

Нягледзячы на знешнюю прастату сваіх твораў, А. Русак імкнуўся ґаварыць у іх глыбока і натуральна, ёміста і маштабна, максімальна заглыбіцца ў характар і душу сучаснікаў, герояў і гераінь сваіх твораў. Паэт паказваў шырокі абсяг іх клопатаў, рскрываў духоўны свет, высвечваў лепшыя бакі і грані калгаснага жыцця і вёскі. Жыццярадаснасць і жыццесцвярджальнасць, любоў да радзімы і свайго народа, аптымізм і патрыятызм прысутнічаюць у кожным вершы паэта.

Лёгкая ўсмешка, сардэчная цеплыня і спагада, па-народнаму жывы і дасціпны гумар, размоўна-гутарковая інтанацыя, фальклорныя звароты і выразы — вось, вобразна кажучы, тыя кіты, на якіх трымаюцца лепшыя творы А. Русака. Пішучы проста і натуральна, паэт час ад часу выкарыстоўвае такія паэтычныя прыёмы, як метафарычнасць і гіпербала. Але ў вершах паэта яны не выглядаюць надуманымі і штучнымі, таму натуральна і без аніякіх нацяжак упісваюцца ў тканіну яго кожнага твора, дапамагаючы больш рэльефна і пластычна намаляваць карціну тагачаснага жыцця.

Хто па-добраму не пазайздросціць А. Русаку, пазнаёміўшыся са страфамі з верша «Віншаванне маладым», што сваім інтанацыйным унутраным ладам пераклікаюцца са славутым вершам «Бывайце здаровы». Вось як падаецца ў ім вясельная карціна: «Ехалі палямі, ехалі лясамі: везлі караваі поўнымі вазамі. На гладкай дарозе ламалі калёсы, прыставалі коні, рваліся атосы. Везці саматугам не здужалі самі. І пасаг прывезлі мы вам трактарамі».

Згадзіцеся, што ў строфах гулівераўскі размах і маштабнасць. Усе гэтыя якасці, у тым ліку і вобразнасць, ідуць ад вуснай народнай творчасці, казак і паданняў. Ці не па гэтых законах намалявана карціна, дзе паэт гаворыць: «На гладкай дарозе ламалі калёсы». Хто ламаў? Ды тыя самыя караваі, якія везлі маладым на пасаг. Гіпербала? Канечне! Але яна не выглядае гіпертрафіраванай і перабольшанай. А ўжыта з веданнем справы і выглядае натуральна і праўдзіва, узвышаючы карціну, надае ёй урачыстасць і маляўнічасць, нават былінную афабоўку, паэтызуе сялянскае жыццё.

Такіх вершаў можна прывесці нямала. Возьмем для прыкладу верш «Як той Зосі давялося», што стаў таксама шырокавядомай песняй. Твор здзіўляе прастатой выслову і лаканічнасцю мастацкіх сродкаў, ашчаднасцю фарбаў і высокім майстэрствам, дзякуючы якому паэту ўдалося расказаць пра шчаслівае жыццё не толькі Анупрыкавай Зосі, але і яе «васьмі хлопцаў-малойцаў». Верш пераконвае, што сапраўдныя мастацкія жамчужыны нараджаюцца падчас высокага душэўнага ўзлёту і азарэння. Пра бытавое і звычайнае, што мы называем штодзённасцю, Русаку ўдалося сказаць настолькі віртуозна і дасціпна, што проста дзіву даешся, якім чынам усяго гэтага ён дасягнуў. Хаця ў вершы намалявана ў нейкай ступені ідылічная карціна, якая не вельмі стыкуецца з жыццёвымі рэаліямі, тым не менш хочацца верыць у яе праўдзівасць і верагоднасць. Чаму? Ды па той простай прычыне, што ў вершы прысутнічае нейкая дзівосная прыцягальная сіла аўтарскай фантазіі, якая мяжуе з фантастыкай. Яна зачароўвае нас, прымушае паверыць у рэальнасць сказанага, як мы, напрыклад, хочам паверыць у здольнасць казачнага асілка зрушыць з месца гару ці закінуць у неба шматпудовую булаву. Пра што гэта гаворыць і сведчыць? Ды пра тое, што ў вершы выявілася мастацкая сіла таленту А. Русака, тая сіла, што здольна ўздзейнічаць на чытача, пераконваць яго ў праўдзівасці і дакладнасці напісанага. А гэта ўжо вунь якое значнае дасягненне для кожнага мастака, у якім бы жанры ён ні працаваў!

Прыгледзеўшыся да гадоў, якімі пазначаны час напісання вершаў паэтам, той-сёй можа здзівіцца і запытаць: хіба яны былі такімі бязвоблачнымі і шчаслівымі, калі людзі, у пераважнай большасці калгаснікі, паводле твораў Русака толькі тое і рабілі, што везлі па дарозе караваі, ад якіх трашчалі і ламаліся калёсы, прыязджалі ў госці і ад'язджалі дамоў, развітваючыся радасна і бесклапотна: «Бывайце здаровы, жывіце багата». Як быццам не было даваеннага трыццаць сёмага года, які забраў лепшых сыноў і дачок сваёй радзімы, не было Курапатаў. Але на той час усе былі ўпэўнены, што менавіта калгасы — адзіны і верны шлях нашага сялянства да заможнага жыцця, да магутнасці нашай дзяржавы. Відаць, верыў у гэты пастулат і Адам Русак не з меншай сілай, чым іншыя. А калі мець на ўвазе, што ён працаваў валтарністам у Ленінградскім аркестры Малога акадэмічнага тэатра оперы і балета, усёй душой аддаючыся музыцы, гады ў рады наведваючыся ў родную вёску, і ў большасці выпадкаў чэрпаючы інфармацыю

пра жыццё краіны з перыядычнага друку і слухаючы радыё, то многае становіцца зразумелым. Да ўсяго вершы, якія пішуцца для таго, каб яны былі пакладзены на музыку і сталі песнямі, шмат чым адрозніваюцца ад звычайных вершаў. Зрэшты, кожны паэт ідзе сваёй паэтычнай дарогай, сваім накірункам. Адам Русак быў паэтам песеннікам і ў большай ступені ствараў тэксты для кампазітараў, чым для чытачоў.

Дарэчы будзе сказаць і пра тое, што А. Русаку пашанцавала на сустрэчы з вялікімі людзьмі свайго часу, прадстаўнікамі літаратуры і мастацтва. Ён бачыўся з М. Горкім, А. Фадзеевым, А. Твардоўскім, М. Шолахавым, А. Пракоф’евым, сябраваў са славутым палкаводцам Тухачэўскім, які любіў іграць на скрыпцы і, безумоўна, не мог не пасябраваць з музыкантам сімфанічнага аркестра, які таксама быў не раўнадушны да гэтага інструмента. Паэт бачыў зблізку Кірава, які наведваў тэатр оперы і балета. Ён прысутнічаў на яго пахаванні, выконваючы разам з аркестрам жалобную музыку. На пахаванні яму давялося пабачыць Сталіна, які стаяў каля труны Кірава і на яго вачах — хто ведае ўяўныя ці сапраўдныя? — слёзы.

Гэтыя сустрэчы, трэба думаць, не прайшлі для Русака бясследна. А далі шмат чаго як у жыццёвым, так і эстэтычна-культурным плане. Яны дапамаглі пашырыць тэматычны і ідэйны абсяг яго творчай зацікаўленасці, паглыбіць псіхалагічнае пранікненне ў характары сваіх герояў, зрабіць больш разнастайнай і шматкалёрнай мастацкую палітру пры напісанні таго ці іншага твора.

Паэтычна-песенная муза А. Русака ішла ў нагу са сваім часам і падзеямі, якія адбываліся ў краіне. Праўда, у адрозненне ад іншых творцаў, паэт не быў пладавіты. Бо звяртаўся да вершаў у тыя моманты і хвіліны, калі душа не магла маўчаць і радкі самі сабой прасіліся на паперу. Можа, па той прычыне, што Русак быў музычным салістам аркестра тэатра оперы і балета і ўвесь час, як кажуць, аддаваў музыцы, яго паэтычныя радкі былі прачулыя, пяшчотныя і напеўныя і, здавалася, кожны міг гатовы былі легчы на нотныя лісты. Яго твораў чакалі не толькі чытачы, але і кампазітары. Цікава тое, што ў душы А. Русака вельмі мірна і гарманічна не толькі ўжываліся, але нейкім чынам дапамагалі адна адной дзве музы — паэтычная і музычная. Паэт дружыў з імі, не аддаючы перавагу ніводнай з іх. Яны таксама служылі яму верна і аддана і не падводзілі ў самыя складаныя і адказныя моманты і сітуацыі яго жыцця. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны А. Русак разам з Ленінградскім Малым тэатрам оперы і балета эвакуіраваўся ў далёкі Арэнбург. Паэт ведаў, што родная Беларусь аказалася пад пятой фашысцкіх акупантаў і іх наймітаў. Плакала, рыдала душа выгнанніка, галасілі струны скрыпкі пад смычком музыканта. Але ў іх не было і кроплі роспачы, а чуўся суровы прысуд тым, хто парушыў мірнае жыццё савецкіх людзей, прымусіў узяцца за зброю.

А. Русак прыслухоўваўся да рэпрадуктара, лавіў навіны, што даходзілі з партызанскага краю, якім стала Беларусь, радаваўся поспехам народных помснікаў, верыў у нашу перамогу. Сурова гучаў голас паэта ў кожным вершы, прадракаючы ворагу блізкую пагібель:

То не сокалы вольныя
Па-над пушчай злятаюцца —
На фашыстаў аблаваю
Партызаны збіраюцца.
Гэй вы, злыдні-дрпежнікі!
Гэй вы, нечысць-нягодная!
Пахавае навекі вас
Ды зямля наша родная.

Услед за Купалам, які кінуў кліч: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны, за няволю, за кайданы рэжце гітлерцаў паганых, каб не ўскрэслі век яны!», звяртаўся да народнага мсціўцы і А. Русак, як да свайго даўняга знаёмага, магчы-

ма, аднавяскоўца, з якім разам і не адзін раз спяваў застольную: «Бывайце здаровы, жывіце багата…», звяртаўся з наказам і просьбай, як гэта зрабіў бы кожны, хто апынуўся ў далёкай эвакуацыі:

Сустрэнешся з ворагам лютым —
Сягоння ідзеш ты у бой, —
Напоўні крыніцы і рэкі
Ты чорнай варожай крывёй.

І не было нічога дзіўнага ў тым, што вершы паэта-песенніка даходзілі ў тыл ворага, да партызан. Яны лавілі іх прыёмнікамі і ў навушнікі, запісвалі на паперы, а потым самі спявалі пад акампанементы гармоніка. Песні надавалі змагарам новыя сілы і адвагу, умацоўвалі веру ў блізкую перамогу. Трэба зазначыць, што не засталіся ўбаку ад партызанскай барацьбы і бацькі паэта. Калі ў Малінаўцы, роднай вёсцы паэта , атайбаваліся партызаны, маці варыла для іх ежу, мыла бялізну і даглядала раненых. Бацька займаўся рамонтам зброі, правіў вупраж, хамуты, сёдлы і іншы інвентар. Тады ж яны і даведаліся, што жывы іх сын. Партызаны прынеслі газету «За Савецкую Беларусь», дзе быў змешчаны верш А. Русака «Маці бяздомная».

Ах, як заспявала скрыпка, як захадзіў у руцэ А. Русака смычок, калі родны край быў ачышчаны ад прышлай набрыдзі і мірнае сонца пакацілася па бяскрайным небе, песцячы на палях вясновую рунь, а ў садах маладую квецень. Вярнуўшыся з эвакуацыі ў Ленінград, паэт пры першай магчымасці наведаў любую вёску Малінаўку і бацькоў. Ён распытваў іх пра жыццё пад акупацыяй, калі кожную хвіліну чалавек мог быць расстраляны ці павешаны без суда і следства. Праз колькі часу паэт з дакументальнай дакладнасцю скажа пра тое, чым займаліся бацькі падчас фашысцкай акупацыі:

У ваенныя трывожныя гады
Жылі у гэтай хаце партызаны,
Мой бацька зброю ладзіў ім тады,
А маці перавязвала ім раны.

Калі гаварыць пра паэтычнае майстэрства і якасць вершаў А. Русака гэтага часу, то яны былі простыя і бясхітрасныя, без той вытанчанасці і віртуознасці, якую выяўлялі, напрыклад, такія паэты, як П. Панчанка, А. Вялюгін і іншыя. Але А. Русаку нельга было адмовіць у адным: у выдатным веданні народнага побыту, душы простага вясковага жыхара, яго імкненні да незласлівага гумару, нават іроніі. Паэт умеў слухаць людзей, запамінаць удалыя і каларытныя выразы, ёмкія, па-народнаму трапныя словы і характарыстыкі асобным людзям і падзеям. У радках А. Русака можна было натрапіць на нейкую асаблівую жывінку, якая прыцягвала ўвагу любога і кожнага чытача, давала магчымасць палюбавацца ёй і падзівіцца. Паэт гаварыў пра знаёмае і даўно вядомае, але гаварыў з нейкай незвычайнай зацікаўленасцю, увагай і інтанацыяй, што пад іх уладную магію падпадалі чытачы. Таму звычайныя страфы краналі іх душу шчырасцю пачуцця, даверам і адкрытасцю, у некаторай ступені нават празаізацыяй радка, як і ў гэтым выпадку:

Ізноў я тут, сярод палёў,
Малінаўкі маёй,
Сярод суседзяў, землякоў,
Сярод радні сваёй.
Тут бацька родны ваяваць
Радзіме памагаў.

Хто не заўважыць, што паэт паўтараецца. І робіць гэта, безумоўна, свядома. Бо ганарыцца тым, што яго бацька і блізкія ахвяравалі сабой, набліжалі дзень

перамогі. Хіба дзіўна, што Русак і ў пасляваенныя гады зноў і зноў звяртаўся да партызанскай барацьбы, як бы прымерваўся і падступаўся да нейкага важнага для сябе твора. Напісаўшы чарговы верш, паэт не быў задаволены ім, адчуваў, што гэта не тое, чаго шукае і што хацеў стварыць. Душа як усё роўна падказвала, што нельга супакойвацца, — творчая ўдача, творчае адкрыццё недзе блізка. Варта зрабіць нейкае апошняе, можа, нават невялікае намаганне, і ён дамажацца свайго. Паэт быў падобны на далакопа, які капаў калодзеж, трапляў на нязначныя ручайкі і спадзяваўся, што вось-вось дойдзе да залатаноснага ключа, з якога хлыне, ударыць срабрыста-крынічная прахалода. І паэт не памыліўся. Нарэшце ён натрапіў на тое, што і шукаў. Адам Русак знайшоў свой залаты самародак. Ім стаў верш «Ой, бярозы ды сосны», які быў пакладзены на музыку і, як песня, паліўся з падмосткаў эстрадных сцэн і па радыё, адразу заваяваўшы шырокае прызнанне і папулярнасць не толькі ў слухачоў нашай рэспублікі, але і ва ўсім свеце.

Гэты верш і песня сталі апагеем у творчых пошуках не толькі А. Русака, але і іншых нашых творцаў. Гэтай песняй як бы падсумоўваліся ўсе творчыя здабыткі паэта, што тычыліся партызанскай тэматыкі. Думаецца, што немалая заслуга ў стварэнні гэтага верша бацькі і маці паэта, гордасць і гонар за якіх нараджалі ў яго душы творчае натхненне.

Тым часам, пераехаўшы з Ленінграда ў Мінск, А. Русак не заседжваецца ў сталіцы. За кароткі час ён пабываў ва ўсіх кутках роднага краю. Блізкае знаёмства і сустрэчы з новымі людзьмі, непаўторнай прыгажосцю запаведных мясцін зрабілі на паэта моцнае ўражанне, дапамаглі знайсці свежыя мастацкія сродкі і фарбы для ўсяго гэтага багацця ў сваіх творах.

У аўтабіяграфіі Адам Русак піша: «На пачатку сваёй творчасці я не збіраўся спецыяльна пісаць песні. Пісаў вершы так, як умеў, як падказвала сэрца. Кампазітары пачалі прыглядвацца да іх і пісаць музыку, і мне песня стала здавацца больш блізкаю, зразумелаю. Я стаў аддаваць ёй больш увагі. Так і залічылі мяне ў паэты-песеннікі».

Вялікае шчасце для паэта, чарадзея слова, калі яго вершы становяцца песнямі і настолькі змаглі палюбіцца слухачам, што робяцца не толькі песеннай класікай, але і па-сапраўднаму народнымі.



Казімір КАМЕЙША

# ЗЯМЛЯ ДАВАЛА СІЛУ

Паэт пачынаецца там, дзе ён аднойчы нарадзіўся. З уражаннямі, з вобразамі свайго роднага кутка ён і крочыць потым у вялікае жыццё. Май 1914-га, у якім суджана было нарадзіцца Антону Бялевічу, абяцаў яму шмат сцежак, дарог і шляхоў пад небам Бацькаўшчыны. Сёе-тое з пройдзенага хацелася б прыгадаць.

Свае біяграфічныя нататкі некалі ён назваў ледзь не з выклікам «Я — з Дуброўкі». А потым прызнаваўся, што ад блізкіх сяброў часта даводзілася чуць нават папрокі: «Ты, Антоша, зноў пра сваю Дуброўку…»

Дуброўка Хатлянскага сельсавета на Уздзеншчыне — ягоная малая радзіма. І якімі б шляхамі ні хадзіў, дзе б ні працаваў ён, па «чароўную і таямнічую» сілу, што жывіць паэзію, вяртаўся толькі сюды, у родную вёску. Справядліва сказаў некалі ягоны лепшы сябар Анатоль Вялюгін: «Калі б не было лясной вёскі Дуброўкі, бядней выглядала б паэтычная карта Беларусі». Сапраўды, у айчыннай паэзіі ён пакінуў след даволі значны, непадобны, своеасаблівы. А працаваў шчыра, плённа і штодзённа. Як для паэта, дык, можа, крыху і дзіўны быў расклад рабочага дня ў Антона Пятровіча. Падымаўся паэт яшчэ да ўсходу сонца, тут жа прымаў халодны душ і садзіўся за рабочы стол. А пакідаў яго недзе апоўдні. Па-святочнаму апрануўшыся (заўсёды свежавымытая белая кашуля, гальштук, добра адпрасаваны касцюм, поўная шляхетнасць), выходзіў у горад. Ішоў па рэдакцыях, дзе было заўсёды многа і старэйшых, і маладзейшых сяброў. Часцей за ўсё заглядаў у «Нёман», які быў самы блізкі на шляху ад дому. Рэдакцыйныя сустрэчы і гамонкі часамі заканчваліся позна, бывала, што пераходзілі ў застоллі, яны надавалі творчага настрою і жадання пісаць.

Перш чым пазнаёміцца з яго вершамі, я даволі наслухаўся і самых неверагодных плётак пра іх аўтара ад нашага прынямонскага вясковага люду. Казалі, што ў Стоўбцах жыве жонка вядомага паэта Бялевіча, гадуе дачку ад яго. Сам паэт, дужа багаты чалавек, быццам атабарыўся недзе ў Мінску, а калі наязджае ў Стоўбцы, то за капейку не стаіць, асыпае грашыма жонку, а яшчэ частуе ўсіх і направа і налева, ледзь не спойвае ўсе Стоўбцы. Пра вядомых творцаў заўсёды ходзіць мноства ўсялякіх прыдумак і нагавораў. Людзям жа, як кажуць тыя самыя людзі, языкі не завяжаш. Хоць плёткі часта з'яўляюцца не на пустым месцы, але яны маюць уласцівасць капуснага качана абрастаць усё новым і новым лістам. «Лістоў» тых наадрастала, здаецца, не так і мала. Добра што ўсе яны неўзабаве асыпаліся. «Дзівацтва, — як казаў А. Вялюгін, — заставалася анекдотам у літаратурным прымыльніку, а чэснасць і шчырасць яго сэрца і думкі паважалі многія». Але плёткі бываюць карысныя хаця б у тым сэнсе, што яны змушаюць нас звяртацца і да твораў таго, каго яны тычацца. Гэта як своеасаблівая рэклама.

Тады, будучы школьнікам, я адшукаў вершы Антона Бялевіча ў першай айчыннай анталогіі «Беларуская савецкая паэзія», выдадзенай у 1949 годзе. Я ўжо не аднойчы пісаў пра тую знакамітую пацёртую кнігу, якая прайшла са мной праз амаль усё маё жыццё і ўжо на самым пачатку была своеасаблівым паэтычным

даведнікам. Рыхтаваўся ўсё ж у паэты. У паэзіі тады я цяміў мала і цяпер толькі пасмяяўся з падкрэсленага мною, але знайшоў радкі, вартыя ўвагі:

І цёпла на сэрцы маім,
За працай забылася гора:
І летаў багата і зім
Не жыта я нюхаў, а порах.

Гэта радкі з верша «Хлеб», напісанага ў 1945 годзе. Глядзіце, як важка, як сугучна для таго пасляваеннага часу!

Антон Пятровіч быў чалавекам адкрытым для сяброўства, не любіў хітравання і прытворства, а дзе іх сустракаў, быў непрымірымым, саму праўду-матку, як кажуць, рэзаў у вочы. Мог яе сказаць і шаноўнаму чыноўніку, і сабе роўнаму. Не звяртаў ён ніколі ўвагі і на ўзросты. Калі мы пазнаёміліся, быў я зусім юнаком, але адразу зразумеў, як трэба паводзіць сябе са старэйшым аўтарытэтам. Нейкая фамільярнасць тут выключалася. Калі ён, скажам, вёў гаворку з чалавекам сваіх гадоў, тады сядзі і слухай, тым больш не спрабуй перабіваць. У такім разе ён заўсёды спыняў рэзкім: «Маўчы, жаўтароцік!» А слова «сабака» ў яго было і надта лагодным, яно ўжывалася тады, калі трэба было каго пахваліць: «Глядзі ты, здорава закруціў, сабака!»

Валодаў Антон Пятровіч добрым народным гумарам, досціпам, даваў знаёмым дужа трапныя характарыстыкі. Мяне часта называў шляхцюком. Іншы раз казаў і такое: «Ты не думай, я таксама шляхцюк. У майго бацькі свой млын быў». Неяк заходзіць на Рэспубліканскае радыё, дзе я тады працаваў, павітаўся з кожным за руку. І тут жа неяк дзіўна касянуў акулярамі на мяне. А я сяджу за сталом, апрануў, як на тое, нейкі дужа стракаты, у сіне-бела-чырвоныя палосы швэдар. Тут жа і ашпарыў мяне сваім вострым досціпам: «А ты што сядзіш, як снягір на снезе?» Усе засмяяліся. Гэта быў мой любімы швэдар, але апранаць яго пасля гэтага чамусьці не хацелася.

Потым, калі я ўжо быў добра знаёмы з паэтам, бываў часта ў яго дома. Седзячы за сталом з добрым пачастункам, ён прасіў мяне пачытаць яго творы. Падымаўся з-за стала, ішоў у рабочы кабінет, прыносіў кнігу, сам адгортваў патрэбную старонку і казаў:

— Пачытай вось гэты. Ты, карнет, добра чытаеш!..

Пры гэтым ён азіраўся і дадаваў:

— Жонкі няма, можна чытаць. Мая Аня гэты верш не любіць…

Я неаднойчы такім чынам чытаў ужо знаёмы верш «Матылі» і неўзабаве ведаў яго на памяць:

У нашай сонечнай хаціне,
Здаецца, сцены расцвілі:
То колер жоўты,
Колер сіні,
То матылі ўсё,
Матылі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Лаўлю і гладжу я рукою
На аксамітавым крыле…
А гэта вышыты табою
Ружова-сіняю каймою
Матыль крылаты на стале.

За шкельцамі акуляраў незаўважна набягала слязінка, паэт тут жа хапаўся, каб прыкурыць пагаслую цыгарку.

— Ну што, здорава? — усміхаўся праз акуляры.

— Яшчэ як здорава! — адказваў я.

Ён яшчэ больш весялеў, наліваў па яшчэ адной. Адчувалася, што верш надта дарагі яму.

— Гэта я пра сваю стаўбцоўскую палячку напісаў, — прызнаваўся Антон Пятровіч. — Прыгажуня была!..

— Ну і вы ж вунь які прыгажун! — падсыпаў я цукру.

— Ну і я... — згаджаўся паэт.

І я адразу пачынаў згадваць тыя вясковыя далёкія плёткі пра яго. Звярнуў неяк увагу на тое, што верш датаваны 1943 годам.

— Гэта я напісаў ваенным часам у Маскве, калі надта сумаваў па тым шчаслівым даваенным часе.

З Масквы паэт вярнуўся ўжо з новай жонкай, сённяшняй гаспадыняй хаты.

Увогуле, працавалася ў тыя ваенныя гады Антону Бялевічу лёгка і плённа. Як прызнаваўся ён: «І да вайны, і на пачатку вайны я напісаў многа вершаў, але творам, з якога пачынаецца мая сапраўдная, больш плённая і больш значная літаратурная работа, лічу паэму «Мой майстра», пачатую ў цяжкія дні ў партызанскім краі, у гераічных атрадах Бацькі Міная на Віцебшчыне». Тады паэты не саромеліся чытаць адзін аднаму свае новыя творы. Яшчэ ў рукапісе твор пахвалілі Аляксандр Твардоўскі і Аркадзь Куляшоў. Паэму тады, ваенным часам, адразу пераклаў на рускую мову Дзмітрый Осін. А ў 1944 годзе ёй пачынаўся сакавіцкі нумар часопіса «Новый мир».

Другі буйны твор А. Бялевіча «Сям'я» пераклаў Аляксандр Пракоф'еў. Яе друкаваў ленінградскі часопіс «Звезда».

Ваенныя дарогі павялі А. Бялевіча спачатку ў Казань, а потым у Маскву, дзе ён працаваў у сатырычных выданнях «Партызанская дубінка» і «Раздавім фашысцкую гадзіну». Ён не быў ваеннаабавязаным па стане здароўя, але калі спатрэбілася, не раздумваючы адправіўся ў варожы тыл. З усіх пісьменнікаў, хто тады быў у Маскве, смельчакамі аказаліся ён ды Анатоль Астрэйка. Трэба было на свае вочы паглядзець, як жывуць, б'юць ворага нашы землякі-партызаны, каб потым з'явіліся праўдзівыя творы пра подзвігі народных мсціўцаў. Дарога, што і казаць, рызыкоўная, а заданне няпростае.

І яны пайшлі, пад агнём ворага, без сну і прывалаў, праз вядомыя Суражскія вароты. Партызанскія сувязныя правялі да Бацькі Міная і Данілы Райцава. Антон Пятровіч потым часта расказваў пра свае партызанскія прыгоды, згадваў нават нешта смешнае, але самому яму было тады не да жартаў.

Аднойчы ён захацеў паглядзець у бінокль, як дагарае гарнізон, разгромлены партызанамі, і толькі прыклаўся да акуляра, як выстрал нямецкага снайпера зрэзаў камандзіра Курмялёва, што быў побач. Тая куля, напэўна, пасылалася яму, а трапіла ў камандзіра. Можна толькі ўявіць, як пачуваўся паэт у такой неправдказальнай сітуацыі. Нібыта яго тут у нечым віна… Нешта зусім незразумелае прачытвалася і ў вачах партызанскага камандавання.

Блізка ад смерці быў ён і другім разам. Вяртаючыся ў Маскву, А. Бялевіч заначаваў у лясной вёсцы, якая лічылася партызанскай заставай. Карнікі тады вельмі дасканала прадумалі сваю аперацыю. Яны пераапрануліся ў касцоў і выразалі ўсю партызанскую заставу Шпака, што месцілася ў вёсцы. А сама вёска неўзабаве гарэла. Тады ён, апалены, ледзьве выбраўся з-пад куль і прывёз у Маскву гэту трагічную вестку.

З варожага тылу паэт вяртаўся з багатымі назіраннямі, устрывожаны. Тут і за пяро цяжка было брацца — страшнае стаяла перад вачыма. Недзе тады напісалася і славутая балада «Смерць Маланні», якая даўно сталася хрэстаматыйнай.

Коратка прыгадаем яе змест. Карнікі арыштоўваюць жонку лесніка Корчык Маланню за тое, што муж яе «партызан, бальшавік». А прысуд жанчыне выносяць не без здзеклівай прыдумкі: даюць у рукі запаленую свечку, і калі яна пранясе яе праз усю вёску і тая не пагасне, ёй даруецца жыццё. Аўтар мог бы змусіць сваю гераіню адмовіцца ад такой нялюдскай прапановы паводле канонаў колішняй героікі і прыняць адразу смерць. Але кожны чалавек хапаецца за жыццё. Хіба ж не гэткае жаданне і ў гераіні твора? І яна бярэ ў рукі свечку:

І людзі стаілі дыханне,
І ціха ступае Малання,
І выйшла ўжо з Сіняга Логу.
На поплаве босыя ногі
Палошча ў празрыстай расе.

— А можа, бог дасць, данясе?
Пранесці б за тую вунь горку, —
А там ужо родныя стрэхі,
І ганак, і родны парог.
Ну, хіба ж чуць смех іх не горка?
А можа, прычыны для смеху
Не будзе, дасць бог?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Малання сышла ўжо за горку,
І свечка ў зацішку, як зорка,
Гарэла, мігцела прыгожа.
На двор узыходзіць.
О божа!
Да ганку, да вокан нясе.
А ліпа лісты ёй трасе,
І радасны клёкат бусла,
Ўздыхнулі ўсе лёгка:
— Прыйшла…

У сіняе ціхае ранне
Тры кулі дагналі Маланню.
Упала яна, папаўзла,
І кроў аганёк заліла.

— Як успрыняў баладу Аляксандр Твардоўскі? — неяк запытаў я ў Антона Пятровіча.

— На пахвалу ён быў скупаваты, але аднойчы спытаўся: «Скажи, Антоша, ты это всё придумал или на самом деле имело место?» Я адказаў пытаннем: «А як ты думаеш, Аляксандр Трыфанавіч?» Ён памаўчаў і сказаў: «Вполне могло быть. Но если и вымысел, так тоже очень даже…»

Мы так больш і не вярталіся да гэтага.

— Ну а ўсё ж, Антон Пятровіч, прыдумка гэта ці не? — цяпер ужо настойваў я.

Паэт усміхнуўся, а потым сказаў:

— Значыць, прыдумаў нармальна, калі і ты паверыў.

Будзе не зусім дакладным, калі сказаць, што Бялевіча як паэта фармавала адна толькі вайна. Яго талент выкрышталізоўвала хутчэй за ўсё само жыццё, дзе было не адно толькі светлае. Згадвае ж паэт, як падчас працы ў пухавіцкай раённай газеце атрымаў незаслужаны ярлык «нацдэма і кулацкага падпявалы», як быў выключаны з камсамола. Давялося пакінуць раёнку. Уладкаваўся тады малады паэт працаваць кладаўшчыком на прамкамбінаце: «Далі мне ад галоўнага склада райпрамкамбіната паўметровы цяжкі ключ, з якім я хадзіў, пакуль ЦК ЛКСМБ не аднавіў мяне ў камсамоле». «Кулацкаму падпявалу» паверылі і неўзабаве ўзялі на працу ў «Чырвоную змену». Тут і пачалася яго сапраўдная літаратурная праца.

Прозвішча яго вельмі лёгка абрастала легендамі, самага рознага кшталту прыгодамі. Нездарма аўтары славутай лысагорскай паэмы дзесьці карыстаюцца бытавой тэрміналогіяй А. Бялевіча. Часам пад чаркай незнаёмым паэт меў звычку прадстаўляцца генералам. Згадваюць, як неяк у рэстаране ён падышоў да генерала і адрэкамендаваўся:

— Генерал Бялевіч!..

Пазнаёміліся генералы, абмяняліся тэлефонамі, нават пра сустрэчу дамовіліся. Назаўтра з раніцы ў кватэры званіў-змяліваўся тэлефон, паэт яшчэ пасля ўчарашняга адсыпаўся. Жонка падымала слухаўку, а з яе патрабавалі:

— Мне генерала Бялевіча.

Жонка злосна клала трубку. Але званкі паўтараліся зноў і зноў. Нарэшце прачнуўся і падышоў да тэлефона сам Антон Бялевіч.

— Это ты, Антон Петрович? — страляў у слухаўцы бадзёры голас. — Почему у тебя такая невоспитанная прислуга?

— Гэта мая жонка Аня,— разублена, спрасоння тлумачыў паэт.

Яны дамовіліся адразу на сустрэчу, дзе, узяўшы першую чарку, сапраўдны генерал яго ашарашыў: «Вы знаете, я просмотрел списки нашего генералитета, там фамилии вашей нет».

Антон Пятровіч адразу знайшоўся:

— Я — генерал ад паэзіі!..

Казалі, пасля гэтага ў іх завязалася добрае сяброўства.

А працаваў творча ён шмат. Пісаў артыкулы, нарысы, рэцэнзіі, лёгка адгукаўся на просьбы рэдакцый газет. Гэта быў яго асноўны заробак, яго хлеб. З новымі вершамі паэт абавязкова заходзіў на Рэспубліканскае радыё. Я вёў яго адразу ў студыю, запісвалі на магнітную стужку. А далей па традыцыі дарога ляжала ў «Чорныя скалы» (кафэ на рагу вуліц Камуністычнай і Чачэрына), дзе творчая размова мела ўжо весялейшы працяг.

У вайну толькі ўзмужнеў талент Антона Бялевіча. Ваеннае пакаленне паэтаў, да якога ён належыць, не засталося, не застыла ў адным часе. Сапраўдная паэзія жыве повяззю часоў. Трэба аддаць належнае рускаму паэту Міхаілу Луконіну, які некалі зазначыў: «Мы ганарымся сваім «ваенным паходжаннем», але не дадзім зачыніць нас у яго рамках. Тут важна, што гэта прабуджэнне да паэзіі адбываецца ў момант зліцця з жыццём народа, таму што ў паэзіі толькі адзін шлях: з жыцця ў жыццё».

Так сталася і з паэзіяй Антона Бялевіча. Яна смела пераходзіла з жыцця ваеннага ў жыццё мірнае. Паэт шчыра апяваў чалавечую працу, незалежна ад таго, была яна чыста сялянскай, ці падкрэслена творчай. Пра гэта сведчаць і шматлікія кнігі нарысаў, і тая ж кніга творчых партрэтаў сяброў і паплечнікаў «Чарадзеі».

Услаўляючы працу мірных людзей, паэт ніколі не забываў і сваіх сяброўпартызан, часта сустракаўся з імі, напісаў выдатную кнігу пра Бацьку Міная.

У адным з вершаў, гаворачы пра лесніка, паэт заключае: «Сілу лес яму дае». Сіла і прывабнасць паэзіі А. Бялевіча таксама ідуць ад зямлі, ад роднай салаўінай Дуброўкі, скуль, па яго словах, была «ўся краіна відна».

…Светлым красавіцкім днём мы разам з ім ехалі ў Каралішчавічы, каб праведаць Анатоля Вялюгіна, а яшчэ пасмакаваць салодкага свежага бярозавіка. Шчыра абняліся два ветэраны. Потым сядзелі за сталом, дзе разам з бярозавікам яркім блакітам адсвечвалі і першыя пралескі. Шмат шчырых слоў казалася тады за сталом, але нейкім надта вясёлым, як мне здалося, выглядаў «дзядзька Антанега». Ён шмат жартаваў, праз шкельцы акуляраў падміргваў «адміралу» і новай вясне, якая блакітнавока прыўсміхалася са слоіка з пралескамі. Хто ж ведаў, што гэта наша сустрэча будзе апошняй. Праз дзень яго не стане. У апошнюю хвіліну ён сядзеў у крэсле перад тэлевізарам, глядзеў другую серыю «Ціхага Дона». Горкім стаўся бярозавік 1978 года…

Вы запомніце крок,
Што ў вясне сябе спыніць.
Той апошні цурок,
Той, што ў зрэнках застыне…

Пралескі, прывезеныя тады з Каралішчавіч, доўга стаялі ў кубачку на маім стале. Неўзабавые завялі, потым засохлі. Не хацелася з імі развітвацца, хоць з паэтам мы ўжо развіталіся. Пралескі ўсё ж былі развітальныя.

Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ

# ПАРНАС ПАД ЦЭНЗУРНЫМ НАГЛЯДАМ

## У пасляваеннае дзесяцігоддзе.

Афіцыйна ацэнка мастацкага ўзроўню напісанага, майстэрства літаратараў не ўваходзіла ў абавязкі цэнзуры. Яна павінна была звяртаць увагу на творы альбо іх фрагменты, якія прапагандавалі расізм, антысемітызм, нацыяналізм, гвалт і секс. Гэтыя патрабаванні, у прыватнасці, знаходзім у «Пераліку звестак, складаючых дзяржаўную тайну», прычым тычыліся яны як айчыннай, так і перакладной замежнай літаратуры. Аднак у савецкай цэнзарскай практыцы паняцці «нацыяналізм», «антысемітызм», «гвалт», інтэрпрэтаваныя патрэбным чынам, выкарыстоўваліся для выканання ідэалагічных задач.

Развіццё культуры ў БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе вызначалася далейшым узмацненнем барацьбы з любымі адхіленнямі ад задач сацыялістычнага будаўніцтва. Партыя актыўна і адкрыта ўмешвалася ў работу дзеячаў літаратуры і мастацтва, што непазбежна прыводзіла да іх творчай дэградацыі. Калі ў галіне дакладных і прыродазнаўчых навук партыйна-дзяржаўны дыктат быў тормазам развіцця, то ў гуманітарнай сферы стаў катастрофай. На працягу паваеннага дзесяцігоддзя ў беларускай літаратуры, за нешматлікімі выключэннямі, не з’явілася значных твораў. Не менш адмоўна на творчы працэс паўплывала так званая кампанія па барацьбе з касмапалітызмам, разгорнутая ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. Яе мэтай было ачарненне ўсяго несавецкага, несацыялістычнага, стварэнне бар’еру паміж савецкім народам і дасягненнямі заходняй цывілізацыі. Ахвярамі гэтай кампаніі сталі многія дзеячы навукі і мастацтва, якія страцілі права працаваць па прафесіі, атрымалі турэмныя тэрміны і г. д. Неаднаразова аб’ектам крытыкі партыйнага кіраўніцтва рабіўся Саюз пісьменнікаў БССР на чале з М. Лыньковым. У гэты час яна не мела справу з адкрытымі ці схаванымі праявамі апазіцыйнасці пісьменнікаў дзеючай уладзе. Яны добра засвоілі правілы гульні падчас вялікага тэрору 1930-х гг. У паваеннае дзесяцігоддзе цэнзары змагаліся з двума тыпамі ідэалагічнага шкодніцтва: са шчырымі, але на іх думку — няўдалымі спробамі рэалістычна паказаць рэчаіснасць і т. зв. «чырвонай халтурай», калі шчырая сервільнасць аўтараў набывала рысы гратэску.

Канфліктны характар узаемаадносіны паміж новым апаратам цэнзуры, які ўзначальвала Ф. Дадзіёмава, і беларускай літаратурай у асобе К. Чорнага, набылі ўжо ў эвакуацыі, адразу ж пасля аднаўлення ў 1943 г. дзейнасці Галоўліта БССР. Улагоджванню канфлікту не спрыяла нават сумеснае пражыванне цэнзараў і літаратараў у маскоўскай гасцініцы «Якар». У 1944 г. К. Чорны ў сваім «Дзённіку» пісаў пра галоўнага беларускага цэнзара: «На тым жа паверху ўсю зіму займала асобны нумар мадам Дадзіёмава, цяперашні цэнзар над усім друкам БССР. Да вайны яна з году ў год была ў такім чыне: «намеснік начальніка ўпраўлення справаў мастацтваў пры Саўнаркоме БССР». Самай важнай адзнакай гэтай установы была тая, што ў ёй ніколі, за год дзесяць, не было сказана ніводнага беларускага слова. А беларускае мастацтва было тым пунктам, навокал якога збіраліся сотні

прайдзісветаў ваяваць за медалі і ордэны. Такім парадкам ішло спустошанне мастацтва і з яго выветрывалася душа народа».

Ф. Дадзіёмава, якой, канечне, даносілі пра скаргі К. Чорнага на цэнзуру сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку, помсціла стваральніку першага беларускага рамана нават пасля яго заўчаснай смерці. У 1943—1948 гг. Галоўліт БССР забараніў друкаваць як «палітычна шкодныя» яго раманы «Бацькаўшчына» і «Пошукі будучыні», дзе аўтар, на думку цэнзара, «ідэалізаваў немцаў, развіваў думку аб іх гуманнасці». Такі ж лёс напаткаў апавяданні К. Чорнага «У вёсцы», «Начлег у вёсцы Сінегах», «Мяшчане ў густой пары», «Быльнікавы межы» («аўтар паказвае вёску ўбогай. Больш за тое, Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, савецкая ўлада нічога не далі вёсцы»).

Разам з К. Чорным ахвярамі галоўлітаўскіх забаронаў у гэты час стаў шэраг твораў маладых літаратараў паваеннага пакалення — будучых класікаў беларускай літаратуры. У сваёй справаздачы ў ЦК КП(б)Б, падрыхтаванай летам 1948 г., Ф. Дадзіёмава піша: «За прайшоўшыя пяць гадоў органамі цэнзуры Беларусі (папярэднім кантролем) не былі дазволены ў набор і друк па палітыка-ідэалагічных прычынах наступныя творы: шэсць вершаў П. Панчанкі, у т. л. верш «Перад сустрэчай» у газеце «Літаратура і мастацтва», аповесць Я. Брыля «Той самы» ў часопісу «Полымя» (яго творы — «Нядаўняя быль» у часопісу «Беларусь», «Мышалоўкі» ў часопісу «Полымя», «Прыгоды цюціка» і «Маленства» ў часопісу «Бярозка» з-за свайго палітычнага зместу і нізкай мастацкай якасці таксама не павінны былі быць надрукаваны), вершы М. Танка «Дружба» і «Восень», верш П. Пранузы «Хвалюючае пытанне», верш А. Моркаўкі «Ліпень»[1].

У 1945 г. цэнзура прымусіла К. Крапіву перапрацоўваць яго арыгінальную, нязвыклую па форме камедыю «Мілы чалавек»[2], імкнучыся звесці яе да ўзроўню тагачаснайараднай літаратуры. Сатырык, вымушаны ўносіць праўкі, не ўстрымаўся адказаць на грубы прымус з дапамогай сваёй, паэтычнай зброі:

Напісаўшы добры твор,
мы здаем яго ў набор.
Калі ж ёсць у нас сумненні —
адсылаем проста к Фені.
Наша Феня — Галоўліт,
знает, что в ему болит.

У апошнім радку К. Крапіва змясціў намёк на гаворку беларуска-яўрэйскіх мястэчак, ад якой не магла пазбавіцца галоўны беларускі цэнзар.

Са зборніка «Апавяданні» Я. Брыля ў 1946 г. выкінулі апавяданне «Выгодная хатка», як «ідэалізуючае бога і ўсхваляючае маленькую хатку, супрацьпастаўляючы яе вялікім прасторным дамам».

Творы А. Астрэйкі не выратавала ад цэнзурнага алоўка пасада старшыні Гродзенскага аддзялення СП БССР, якую ў той час займаў: «Ужо немалады паэт А. Астрэйка ў сваім вершы «Шчасце» бачыць шчасце не ў працы і творчасці, а выключна ў такіх рэчах, як «…чэсны кавалачак хлеба, трошачкі ласкі твае». Па іроніі лёсу пад цэнзурную забарону першых пасляваенных гадоў трапілі творы («Сымоніха», «Дамок з верандай», «Нараджэнне героя», «Дзве сястры», «Перад бурай») І. Гурскага, які ўзначальваў беларускае цэнзурнае ведамства напрыканцы 1920-х гг. Яго апавяданне «На гуце» цэнзары вярнулі на перапрацоўку. Забароны Ф. Дадзіёмавай вершаў А. Вялюгіна «Крама» і

[1] Паэтычны зборнік тонкага лірыка А. Моркаўкі «Дым жыцця» (1928) ужо быў да таго часу схаваны ў спецфонды бібліятэк.

[2] Камедыя «Мілы чалавек», пастаўленая ў 1945 г. у тэатры імя Я. Купалы рэжысёрам І. Раеўскім, па загадзе Галоўліта была знята з рэпертуару і аднаўлена толькі ў 1976 г. у Гродзенскім абласным драмтэатры.

паэта-франтавіка М. Гамолкі «Навабранцы» былі адменены Галоўлітам СССР як неабгрунтаваныя.

З 1943 па 1948 гг. Галоўліт БССР таксама забараніў паэму А. Бялевіча «Мой майстра», верш «Балада пра хлеб» К. Кірэенкі. Былі вернуты на перапрацоўку апавяданне «Лёля» Ю. Рудзько, пяць апавяданняў са зборніка І. Грамовіча і шмат іншых матэрыялаў. Верш «Мае мары» не падабаўся цэнзару тым, што яго аўтар М. Засім у грубай, парнаграфічнай форме выказаў сваю нянавісць да Гітлера. У забароненым вершы «Фронтовые записки» будучага заслужанага работніка культуры БССР, тады маладога паэта К. Цітова, на думку цэнзара, размова ішла пра зажыва пахаванага чырвонаармейца. У прыватнасці, К. Цітоў пісаў:

Когда уж могила готова была,
Когда горсть земли на гвардейца легла,
[гэта значыць, — заўважае цэнзар, — пахаваны ўжо, ён пытае]
Скажите, отбили у немца село?

Галоўліт БССР вырашыў, што малады аўтар аднаактовай п’есы «Складаны вузел» — Ус. Краўчанка[1] няслушна паказаў у ёй каханне ва ўмовах вайны, і забараніў яе. Падобнае ж уласнае няслушнае разуменне паняццяў «каханне» і «вернасць», на думку цэнзуры, прадэманстраваў Я. Шарахоўскі ў аповесці «Сустрэча». Таму яе публікацыю ў часопісе «Беларусь» таксама не дазволілі. У аднаактовай п’есе «Па сваёй ініцыятыве» яе аўтар — будучы тэатразнавец, член-карэспандэнт НАН Беларусі У. Няфёд «палітычна нявыгодна» паказаў піянераў калгаса. Цэнзара абурыў нізкі ўзровень гэтай п’есы-агіткі, дзе ў ахвяру ідэалогіі быў прынесены здаровы сэнс і логіка падзей. Напрыклад, у адным месцы п’есы піянеры распавядалі пра цяжкасці жыцця пры царызме старой бабульцы, якая здзіўлена, з удзячнасцю іх слухала. У другім — чатырнаццацігадовыя падлеткі агітавалі яе ісці працаваць у калгас, хаця з папярэдніх дыялогаў было зразумела, што яна ўжо не толькі шчыравала на калгасных палетках сама, але сагітавала ўсіх бабулек-суседак.

У сваёй дзейнасці Галоўліт прытрымліваўся прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму. Творы рускамоўных літаратараў БССР, якія імкнуліся да праўдзівага адлюстравання падзей вайны, цяжкасцей пасляваеннага аднаўлення, таксама траплялі пад аловак цэнзара. Такі лёс напаткаў частку паэмы «Мир» М. Луконіна, верш «Бык» («…настолькі незразумелы, што немагчыма высветліць яго асноўную ідэю») з паэтычнага зборніка Л. Токарава, верш «Воскресенье» А. Шарапава, вершы «Живешь в моей ты памяти», «Беженцы», «После боя» П. Валкадаева. У альманаху рускай секцыі СП БССР «Советская Отчизна» (Мінск, 1945—1946) былі зняты сказы «Байцы, а часам і камандзіры, якія збеглі з палону, выйшлі з акружэння, уладкоўваліся ў вясковых жанчын на правах мужа-парабка, дапамагалі па гаспадарцы, жылі цішэй за ваду, ніжэй за траву пад агульнай назвай «прымак». У гэтым слове абагульнілася ўсё — баязлівасць, бесхарактарнасць, амаль здрадніцтва». А неўзабаве ў спіс забароненых трапіў верш рэдактара мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР Г. Камянецкага[2] «Мой сусед» на мове ідыш.

Пад асабліва жорсткім ідэалагічным кантролем знаходзілася савецкая дзіцячая літаратура. Прадметная галіна літаратуры для дзяцей фармавалася пад уплывам ідэалагічнай канцэпцыі выхавання, сфармуляванай у кіруючых партыйных дакументах, і была падпарадкавана выхаванню новага чалавека — будаўніка камунізму. Падобнае аднабаковае разуменне задач выхавання прыводзіла да знік-

[1] У 1962 г. Ус. Краўчанка, знаходзячыся ў Парыжы ў складзе турыстычнай групы, скончыць жыццё самагубствам. Афіцыйна гэта было патлумачана псіхічным захворваннем пісьменніка.

[2] У 1950 г. Г. Камянецкі будзе арыштаваны і адпраўлены ў ссылку.

нення цэлых жанраў — фантастыкі, прыгод, а таксама некаторых народных казак з рэпертуару дзіцячага чытання.

У загадзе Галоўліта СССР ад 23 лютага 1946 г. сярод недахопаў у рабоце беларускіх цэнзараў адзначаўся слабы кантроль дзіцячай літаратуры. У якасці прыкладу ў загадзе прыводзілася дазволеная Галоўлітам БССР да друку «шкодная» казка А. Бялевіча «Мароз-партызан» (Мінск, 1945), а таксама надрукаванае ў часопісе «Бярозка» (1945. № 5) апавяданне Л. Конанава «Ля возера Разліў», у якім «…гістарычна няслушна трактаваўся для дзяцей вобраз Леніна».

Беларускія цэнзары забаранілі апрацаваныя М. Клімковічам казкі «Бортнік», «Калітачка», «Хвасты» ў кніжцы «Беларускія народныя казкі» (Мінск, 1946). Падазронасць Галоўліта БССР выклікалі таксама казкі «Мена» і «Почему собака котов не любит» са зборніка «Сказы Сахвеи Ивановны Сацкевич». Тады ж наступная цэнзура затрымала ўжо гатовы тыраж кніжкі вершаў і апавяданняў «Для маленькіх» Цёткі. З чытанкі для дзяцей дашкольнага ўзросту знялі казку «Пчала і авадзень» Ст. Шушкевіча. Быў вернуты на перапрацоўку «Літаратурны дадатак да дзіцячага адрыўнога календара». У 1951 г. не быў дазволены да набору па палітычных меркаваннях верш для дзяцей Я. Коласа «Журба рака».

Статус жывога класіка беларускай літаратуры не быў перашкодай для паліткантралёраў, якія рыхтавалі да друку 7-томны збор твораў Я. Коласа (1952). Гісторыя калектыўнага рэдагавання і вымушанага самарэдагавання апавяданняў «Пад Новы год», «Дачакаўся», «У двары пана Тарбецкага», «Адукацыя», «Туды, на Захад!», аповесцей «На прасторах жыцця», «Адшчапенец», паэмы «Адплата», па словах вядомага літаратуразнаўцы М. Мушынскага, — гэта адна з найбольш драматычных старонак беларускай літаратуры. Па яго падліках толькі ў аповесць «Адшчапенец» цэнзары ўнеслі звыш пяцідзесяці правак. Пра падобныя ж дзеянні пасляваеннай цэнзуры па выпустошванні твораў Я. Коласа распавядае яго сын М. Міцкевіч. Так, напрыклад, згубіла першапачатковы сэнс казка «Дудар». Не пазбегла гэтага лёсу таксама паэма «Новая зямля», у прыватнасці, XIII яе раздзел «Падгляд пчол», дзе гучыць пахвала сялянскай кухні:

Крыніцы бурнага натхнення
Мінут вясёлых, ажыўлення,
Стаяць, як біскупы, бутэлі,
І ласа ўсе на іх глядзелі.
Ляжыць гарамі ў іх падножжы
Закуска, гэта міласць божа:
Тут сыр, як першы снег, бялюткі,
Каўбас прыемнейшыя скруткі,
Што толькі ёсць у Беларусі.
*А масла! Не! Сказаць баюся*
*У час пайкоў і суяты*
*Дражніць пустыя жываты!*

Выдзеленыя апошнія радкі Я. Коласа прымусілі зняць.

Ужо ў першы мірны год абвінавачванні ў «палітычнай недальнабачнасці» прагучалі ў адрас беларускай літаратурнай крытыкі. У святле знакамітага даклада А. Жданава і рашэнняў ЦК ВКП(б) ад 14 жніўня 1946 г. «Аб часопісах «Звезда» і «Ленинград» Галоўліт БССР забараніў друкаваць у часопісе «Полымя» артыкул «Беларуская літаратура ў Айчыннай вайне і ў першыя дні аднаўлення». Такі ж лёс напаткаў артыкул «Аб ленінградскіх пісьменніках», прымеркаваны да друку ў часопісе «Беларусь» з-за таго, што ў ім давалася станоўчая ацэнка твораў М. Зошчанкі і Г. Ахматавай.

Пра штогадавую «вытворчасць» Галоўліта БССР тых часоў у галіне прыгожага пісьменства можна скласці ўражанне по справаздачы цэнзурнага ведамства за 1947 г., калі папярэдняй цэнзурай па ідэалагічных матывах да друку было заба-

ронена 16 асобных твораў (вершаў, п'ес, апавяданняў, фельетонаў, казак, артыкулаў), не лічачы шматлікіх умяшальніцтваў цэнзараў у аўтарскія тэксты.

Пасля рэдактарскіх правак і сіта папярэдняй цэнзуры, для наступнай цэнзуры работы ўжо было няшмат. І ўсё ж яна мусіла апраўдваць сваё існаванне. Напрыклад, у 1945 г. давялося знішчаць амаль увесь тыраж у колькасці 4, 2 тыс. асобнікаў літаратурнага зборніка «Альманах 2» пад рэдакцыяй П. Глебкі (першы выпуск пад назвай «Беларусь. Альманах» з'явіўся ў 1943 г. у выдавецтве «Савецкая Беларусь»). Падобнае жорсткае рашэнне было выклікана з'яўленнем у ім двух артыкулаў М. Лынькова, напісаных у гады вайны і «палітычна састарэлых».

Дзейнасць цэнзуры па кантролі мастацкага слова ў 1947—1953 гг. праходзіла ў рамках барацьбы з касмапалітызмам. Поўнамаштабная кампанія супраць інтэлегенцыі, якая разглядалася як носьбіт празаходняй, скептычнай ідэалогіі, распачалася пасля з'яўлення праграмнага артыкула новага, прысланага з Масквы сакратара ЦК КП(б)Б па агітацыі і прапагандзе, доктара філасофскіх навук М. Іоўчука «Няспынна развіваць і прапагандаваць ідэі савецкага патрыятызму». Для поўнага зацвярджэння ў масавай свядомасці ідэалагемы «савецкі патрыятызм» была патрэбна антытэза, вобраз ворага, які хутка стварылі ў асобе «бязродных касмапалітаў». У літаратурным асяродку касмапалітаў (А. Астрэйку, Э. Агняцвет, М. Клімковіча, У. Няфёда, М. Гурскага) адразу ж выкрыў першы сакратар ЦК ЛКСМБ К. Т. Мазураў. Важным сігналам для цэнзараў была крытыка ў артыкуле М. Іоўчука тагачасных літаратуразнаўцаў, якія «…залішне расхвальваюць тых малазначных, трэцярадных літаратараў Беларусі XIX стагоддзя, накшталт Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, Рыпінскага і іншых». Рэакцыяй на гэтую крытыку стала шальмаванне літаратуразнаўцамі В. Барысенкам і А. Кучарам на старонках часопісаў «Большэвік Беларусі», «Полымя» Я. Чачота, А. Гаруна, А. Ельскага. Даставалася і тым, хто даваў нябожчыкам станоўчую ацэнку, напрыклад, Н. Перкіну.

8 ліпеня 1947 г. з'явілася пастанова ЦК КП(б)Б «Аб рабоце Саюза савецкіх пісьменнікаў, літаратурных часопісаў і газеты «Літаратура і мастацтва»», дзе беларускі літаратурны цэх трапіў пад моцную крытыку. У 1948 г. пад кіраўніцтвам М. Іоўчука змаганне з касмапалітамі актывізавалася. Новы штуршок барацьба з носьбітамі заходняй ідэалогіі і беларускімі нацыяналістамі атрымала пасля XIX з'езда КП(б)Б, які адбыўся ў лютым 1949 г. Ягоныя рашэнні патрабавалі ад пісьменнікаў трымацца метаду сацыялістычнага рэалізму і прынцыпу партыйнасці. Літаратурныя героі абавязкова падзяляліся на станоўчых і адмоўных з абавязковым асуджэннем апошніх як носьбітаў таго, што аджыло і перашкаджае рухацца наперад. Імкненне да праўдзівага паказу пасляваеннага аднаўлення, спробы паглыбленага асэнсавання трагедыі вайны І. Мележам, І. Шамякіным, Я. Брылём сутыкаліся з дыктатам цэнзуры. Не менш варожа яна сустракала ўслаўленне агульначалавечых каштоўнасцей у «вясковай» паэзіі П. Панчанкі, А. Вялюгіна, М. Лужаніна альбо наватарскі характар асобных вершаў М. Танка. Неўзабаве пасля заканчэння з'езда ў Галоўліт БССР з Масквы прыйшоў загад, які патрабаваў узмацніць «палітыка-ідэалагічны кантроль над творамі друку». Выконваючы яго, цэнзары прачыталі 28 кніг беларускіх пісьменнікаў, якія знаходзіліся ў вытворчасці, унёсшы ў іх шмат істотных правак і выкрэсліванняў.

Ідэалогія накладала на ўсе творы адбітак сацыялагічнага схематызму, прымушала ідэалізаваць рэчаіснасць, рабіць яе бесканфліктнай. Атмасфера страху і разгубленасці дапаўнялася арыштамі пісьменнікаў, што ўзнавіліся з пачаткам кампаніі барацьбы з касмапалітамі. У 1949 г. былі паўторна арыштаваны і бязвінна асуджаны Ул. Дубоўка, Р. Бярозкін, С. Грахоўскі, А. Александровіч, С. Шушкевіч, Б. Мікуліч, А. Пальчэўскі і інш.

2 ліпеня 1951 г. у газеце «Правда» з'явіўся рэдакцыйны артыкул «Супраць ідэалагічных выкрутасаў у літаратуры», у якім абвінавачваўся ленінградскі часопіс «Звезда», што надрукаваў верш украінскага паэта Ул. Сасюры «Любі Украіну». Гэты патрыятычны твор выклікаў падазронасць партыйных ідэолагаў, аўтара

абвінавацілі ў нацыяналізме. Неўзабаве пасля з'яўлення артыкула Галоўліт СССР выдаў цыркуляр № 9 с, які патрабаваў узмацнення пільнасці цэнзараў у адносінах да мастацкіх твораў на нацыянальных мовах і іх перакладаў. Крытыкаваліся Галоўліт УССР, а таксама Ленінградскі аблліт, што дапусцілі публікацыю верша Ул. Сасюры на ўкраінскай і рускай мовах. Адпаведна ўсталяваных правілаў, у адказ на такі сур'ёзны цыркуляр беларускія цэнзары былі абавязаны даць наяўныя доказы ўзмацнення ўласнай пільнасці. Неўзабаве з'явіліся і яе ахвяры.

У справаздачы Галоўліта БССР за 1951 г. чытаем: «Сур'ёзныя высновы мы робім з той крытыкі, якая была з боку партыйнага друку ў адрас некаторых беларускіх пісьменнікаў у сувязі з артыкулам газеты «Правда» наконт верша Сасюры «Любі Украіну». Асабліва крытыкаваліся беларускія паэты А. Бялевіч за паэму «Сям'я», надрукаваную ў 1948 г. у зборніку «Паэмы» і К. Буйло за кнігу вершаў «Світанне, 1909—1946» (Мінск, 1950). Яны ў сваіх вершах быццам ідэалізавалі старую, дарэвалюцыйную Беларусь. Гэтыя ідэйныя зрывы ў творчасці А. Бялевіча і К. Буйло не былі своечасова заўважаны ні ў пісьменніцкім асяроддзі, ні намі пры цэнзураванні іх твораў».

Тая ж справаздача дазваляе скласці ўяўленне пра межы кампетэнцыі цэнзуры, куды ўваходзіла нават грамадска-палітычная літаратура, якая стваралася па загадзе вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. На працягу другой паловы 1951 г. не былі дапушчаны да друку і вернуты на перапрацоўку ў выдавецтвы брашура Я. Шкадарэвіча «Аляксандр Матросаў» («факты падабраны выпадковыя, нехарактэрныя, акрамя таго, маецца шмат палітычна недакладных фармулёвак»), а таксама зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў, прысвечаных барацьбе за мір «Поступь мира» пад рэдакцыяй К. Цітова («уключаны нязначныя творы, не адлюстроўваючыя сапраўднай барацьбы прагрэсіўных народаў, у т. л. і беларускага народа за мір»). Напрыклад, з верша П. Пранузы «Я падпісаў зварот» цэнзар зняў радкі, якія на яго думку «гучалі двухсэнсоўна»: «Ні грама сталі для вайны не дам, ні метра для вайны не дам тканіны».

У пасляваеннае дзесяцігоддзе асноўную ўвагу цэнзары Галоўліта, услед за партыйнымі ідэолагамі і рэдактарамі, звярталі на паказ тагачаснай рэчаіснасці ў літаратурных творах. У часопісе «Беларусь» (1953. № 2) у вершы П. Глебкі «У шчаслівай сям'і» з чатырохрадкоўя:

Прывітанне, вам, людзі рэспублік,
Дарагія браты і сёстры!
Прывітанне вам, нашы суседзі,
Паднявольных краін змагары.

быў зняты апошні радок, паколькі «…нашымі суседзямі з'яўляюцца краіны народнай дэмакратыі».

Са зборніка А. Бялевіча «Дарогай шчасця. Вершы і паэмы» (Мінск, 1952) вярнулі на перапрацоўку вершы «Выплаўка сталі», «Я са шчасцем жыву», і цалкам знялі «Піянерская лагерная» і «Лён», якія «…не адлюстроўвалі нашу рэчаіснасць і рэзка крытыкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет».

Кніга Н. Тарас «Вершы» (Мінск, 1952) была затрымана з-за таго, што «…было ўключана шмат вершаў безыдэйных, скажаючых савецкую рэчаіснасць, састарэлых, неахайна апрацаваных, у іх ідэалізавалася старая, адсталая Беларусь. У вершы «Мы падымем з руін цябе самі», напісаным у 1944 г., Н. Тарас, напрыклад, марыла аб нейкай ідылічнай Беларусі, у якой «над пушчаю глухою, сасновай, зноў удалячынь журавы паплывуць», аб «прыдарожных вётлах», «вербах». Верхам жаданняў паэтэсы з'яўлялася жаданне ўбачыць калі ў Беларусі:

Над руінамі свежымі ўранку
Сонца ціха распаліць зару
І над комінам новай зямлянкі
Дым паўецца ізноў угару».

Такое ж гучанне, на думку цэнзара, мелі вершы «Еду на вёску», «Беларусь», «Родныя вёскі» і інш.

Са зборніка Д. Кавалёва «Мы не расстанемся» знялі 7 вершаў, як «…шэрыя, безыдэйныя, не адлюстроўваючыя рэчаіснасць, нізкай мастацкай якасці». З анталогіі «Украінская савецкая паэзія» пад рэдакцыяй П. Тычыны (Мінск, 1952) выкінулі вершы: П. Тычыны — «Надыходзіла вясна», «Дума аб трох вятрах», «Вецер», «Як упаў жа ён з каня», «У камічным аркестры», «Псалом жалезу», «Раздзьмулі мы гарно», «Падаюць сняжынкі», Л. Першамайскага — «Вясна», «З баямі прайшлі», С. Галаваніўскага — «Песня», А. Малышкі — «Твая дума ідзе са мной», «…як недарэчныя для дадзенага зборніка». Да беларускай савецкай прозы цэнзурныя патрабаванні былі не менш жорсткія, чым да паэзіі. У празаічных тэкстах не дапускалася нават намёку на тое, што рай у асобна ўзятай краіне будуецца пякельнымі сродкамі. Ахвярай цэнзуры мог стаць кожны пісьменнік, незалежна ад яго статусу. Напрыклад, у 1954 г. яна прымусіла намесніка старшыні праўлення СП БССР І. Шамякіна перарабляць апавяданне «Нашы знаёмыя», дзе «…няслушна адлюстроўвалася наша рэчаіснасць і настроі савецкіх людзей».

У 1952 г. з кнігі апавяданняў М. Вішнеўскага «Скарб зямлі» па палітычных меркаваннях знялі апавяданне «Кавуны», у якім, як быццам, у скажонам святле адлюстроўвалася калгаснае жыццё. У зборніку «Аповесці і апавяданні» А. Стаховіча па тых жа прычынах апусцілі аповесць «Пампей Шчупак», хоць яна ўжо выходзіла асобным выданнем у 1946 г. Матывацыя цэнзараў такая: «У гэтай аповесці не пераканаўча паказваецца калгаснае будаўніцтва. Праз усю аповесць праходзіць Пампей Шчупак — лайдак, спекулянт, злодзей і п’яніца (крадзе калгасны хлеб са спекулянтам-адзінаасобнікам). Усе яго махлярствы застаюцца непакаранымі. У аповесці няма ніводнага станоўчага героя».

У тым жа годзе вярнулі на перапрацоўку і асобныя апавяданні з кнігі П. Кавалёва «У новы дзень». На думку цэнзара, «…некаторыя з іх, як «Новы дзень», «Брат і сястра», «Спяваць вам, сёстры» былі недапрацаваныя, шэрыя, безыдэйныя. У героя апавядання «Брат і сястра» рэзка выражаны прыватнаўласніцкія інтарэсы. У апавяданні «Спяваць вам, сёстры» апяваўся Мінскі польскі нацыяналістычны тэатр». Не пашанцавала і апавяданню А. Кулакоўскага «Кватаранты» (часопіс «Беларусь»). У ім бесканфліктна апісваліся калгасныя бухгалтар і ўрач — «…людзі са старымі поглядамі на жыццё, п’яніцы, падманшчыкі. Дачка бухгалтара камсамолка парывае з сям’ёю не на глебе грамадскіх інтарэсаў, а на глебе асабістай зацікаўленасці». Нарэшце, быў вернуты на дапрацоўку зборнік твораў маладых пісьменнікаў «На сонечных сцежках» з-за шэрагу палітычна нявытрыманых твораў. Напрыклад, у апавяданні А. Рылько «Лында» выведзены калгаснік — «…адпеты лайдак, і аўтар не падкрэслівае, што падобныя тыпы людзей з’яўляюцца выключэннем у калгасах, і што перадавыя людзі і іх метады працы з’яўляюцца пераважнымі ў сельгасарцелях».

У 1955 г. у рамане Ул. Карпава «За годам год» (часопіс «Полымя») у сказе «Яны аб’ехалі тыя нешматлікія будоўлі, дзе на ўзнаўленні жылых дамоў працавалі ваеннапалонныя» знялі слова «ваеннапалонныя».

Па-ранейшаму з жорсткім палітычным кантролем сутыкаліся літаральна ўсе аўтары, якія пісалі пра апошнюю вайну. Раман І. Мележа «Мінскі напрамак», нягледзячы на палітычную выверанасць паводзін усіх яго герояў, у 1952 г. выклікаў сур’ёзныя заўвагі маскоўскіх цэнзараў, але выйшаў без доўгіх затрымак. У рамане ж М. Ткачова «Згуртаванасць» (Мінск, 1952) Галоўліт БССР зняў шмат сцэн, у якіх «…надта натуралістычна былі пададзены моманты бою партызан з фашыстамі». З твораў, што з’явіліся на старонках літаратурных часопісаў, у 1953 г. выкрэслівалі сюжэты, дзе паказваліся «…зверствы, абыякавасць, паніка савецкіх людзей, што знаходзіліся ў палоне», таксама «…уцёкі нямецкага мірнага насельніцтва ад Савецкай Арміі на Захад».

Кульмінацыйнай кропкі абсурду сталінская цэнзура ў БССР дасягнула ў 1953 г., забараніўшы народную песню «Бела, бела бярозка да кучарава», а таксама народныя казкі «Поп і дзяк», а таксама «Певень і ліса».

Як ставілася пасляваеннае грамадства, шараговыя чытачы да «выхавальнай» работы партыйных ідэолагаў і цэнзараў у галіне мастацкай літаратуры? Голас народа тых часоў дазваляе нам пачуць пытанні, зададзеныя празаіку П. Кавалёву пасля публічнай лекцыі «30 год беларускай савецкай літаратуры», прачытанай у 1947 г. Яны нечакана вострыя, у іх відаць прага вольнага слова і адначасова схаваны пратэст супраць лакіроўкі рэчаіснасці, замоўчвання нежаданых уладзе фактаў і асоб. Вось некаторыя з іх: «Распавядзіце, пры якіх абставінах памёр Я. Купала? Чаму некаторыя беларускія пісьменнікі ў час вайны апынуліся па той бок барыкад? Дзе цяпер В. Каваль[1], Т. Кляшторны[2], М. Багун[3]? Ці будзе выданы поўны збор твораў М. Багдановіча? У якім стане работа секцыі рускай і яўрэйскай[4] літаратуры СП БССР? Цікава ведаць пра значэнне твора Г. Смоляра «Мсціўцы з гета»[5]? Чаму ўжо трэці год ніяк не можа выйсці з друку новы руска-беларускі слоўнік?»

Вынікам кампаніі супраць касмапалітаў стала творчая, маральная і інтэлектуальная дэградацыя пісьменнікаў. Пра гэта сведчыць, напрыклад, сумны літаратурны помнік эпохі — зборнік панегірыкаў Сталіну «Ад шчырага сэрца», у стварэнні якога ўдзельнічалі Я. Колас, П. Глебка, К. Крапіва, А. Куляшоў, П. Панчанка, М. Танк, М. Лужанін, П. Прануза, Э. Агняцвет, А. Вялюгін, В. Вітка і інш. Кажучы пра татальны палітычны і ідэалагічны кантроль, усталяваны над творцамі ў БССР, трэба агаварыцца, што ў той жа час за калючым дротам стваралася па-за цэнзурная лагерная літаратура.

Былы зэк Б. Мікуліч напрыканцы 1940-х гг. пісаў «Аповесць для сябе», бо тое, што ён ствараў для людзей, рэдактары, прызнаючы бясспрэчную мастацкую вартасць гэтых твораў, не адважваліся іх друкаваць.

---

[1] Расстраляны ў 1937 г.

[2] Расстраляны ў 1937 г.

[3] Памёр у лагеры ў 1938 г.

[4] У 1952 г. у разгар антысеміцкай кампаніі секцыя яўрэйскіх пісьменнікаў ССП была ліквідавана.

[5] Гутарка ідзе пра кнігу ўспамінаў актыўнага ўдзельніка падпольнай групы ў Мінскім гета Г. Смоляра «Мсціўцы гета», якая выйшла ў 1947 г. на мове ідыш і рускай мове ў адным з маскоўскіх выдавецтваў. У 1945—1946 гг. Г. Смоляр працаваў загадчыкам аддзела ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Вядомы сваімі выступленнямі ў абарону грамадзянскіх правоў яўрэяў БССР. З 1946 г. жыў у Варшаве.



**Святлана КАЛЯДКА**

# ЭМАТЫЎНАСЦЬ ПАЭТЫЧНАГА ТЭКСТУ ЯК ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЯ ПРАБЛЕМА

Эмоцыя, эмацыянальны свет чалавека прываблівае навукоўцаў наяўнасцю шматлікіх неразгаданых да гэтага часу таямніц. У навуковых даследаваннях эмоцыі як прадмет вывучэння сталі разглядацца ўжо ў перыяд антычнасці ў філасофскіх працах Платона і Арыстоцеля, пазней у працах Дэкарта, Спінозы, Канта. Зварот да эмацыянальнага жыцця асобы меў спарадычны характар. У апошнія дзесяцігоддзі эмоцыі даследуюцца ў смежных з літаратуразнаўствам навуках, як у згаданай намі псіхалогіі, а таксама філасофіі, этналогіі, сацыялогіі, лінгвістыцы, педагогіцы, антрапалогіі, медыцыне, псіхалінгвістыцы, сацыялінгвістыцы, тэорыі камунікацыі, тэорыі моўных актаў, канцэпталогіі, стылістыцы і г. д. Паняцце «эмоцыя» распрацоўваецца з пазіцый розных падыходаў, як філасофскага, псіхалінгвістычнага, лінгвістычнага, псіхалагічнага, кагнітыўнага, лінгвакультуралагічнага, сацыякультурнага, сацыялагічнага і інш.

Лінгвістыка пазней за іншыя навукі звярнулася да праблемы эмоцый. У рамках яе вылучылася асобная галіна даследаванняў — эматыялогія, ці лінгвістыка эмоцый, метадалагічны апарат якой мы задзейнічаем у стварэнні літаратуразнаўчых стратэгій даследавання эмоцыі ў паэтычным творы. Аднак варта размяжоўваць паняцці *эматыялогія* і *эмацыялогія*. Пад тэрмінам *эмацыялогія* маецца на ўвазе сукупнасць навуковых даследаванняў у розных галінах ведаў, якія ў той ці іншай ступені закранаюць вывучэнне эмоцый, пачуццёвай сферы чалавека. Таму і мы будзем карыстацца вызначэннем *літаратуразнаўчая эмацыялогія* дзеля размежавання розных дысцыплін даследавання — эматыялогіі як лінгвістыкі эмоцый і эмацыялогіі як літаратуразнаўчага вывучэння эмоцый. Літаратуразнаўчыя класіфікацыі эмоцый могуць быць аб’ектыўнымі толькі пры здзяйсненні міждысцыплінарнага падыходу да іх даследавання. Распрацоўваючы літаратуразнаўчую метадалогію вывучэння эмоцый, я імкнулася знайсці адказы на наступныя пытанні: ці маюць эмоцыі, выражаныя ў мастацкім творы, псіхічную, рытарычную, сацыяльную, ідэалагічную прыроду; ці раскрываюцца эмоцыі аўтара праз сваю гісторыю перараджэння, «пасталення», а можа, можна зафіксаваць і розныя спосабы праяўлення адной эмоцыі; як змянялася з часам мова апісання эмоцый і ці змянялася яна ўвогуле; як выражаюцца і інтэрпрэтуюцца эмоцыі ў паэзіі; наколькі індывідуальныя эмоцыі паэта і наколькі яны звязаны і залежныя ад грамадскіх рэгулятараў і інш.

Дзеля атрымання патрэбных адказаў неабходна таксама акрэсліць тэарэтычныя праблемы сувязі эмоцыі з пэўнымі літаратуразнаўчымі катэгорыямі, дасягненняў эматыялогіі з аналізам літаратурнага твора. З-за недастатковай распрацаванасці тэорыі эмоцый у літаратуразнаўстве першасным застаецца ўвядзенне паняцця «эмоцыя» ў навуковы літаратуразнаўчы арсенал. Пералік праблем, якія сёння ставяцца і вывучаюцца лінгвістамі, дае падставы гаварыць пра лексіка-семантычны, граматычны, стылістычны і іншыя аспекты вывучэння эматыва ў тэксце. У асобных працах у якасці аб’екта даследавання выступаюць літаратурныя творы. На жаль, працы, прысвечаныя вывучэнню эмоцыі, эматыву, розных эмацыянальных станаў у мастацкай творчасці з пазіцый літаратуразнаўства, не выяўлены. У інтэрнэт-прасторы знойдзем толькі некаторыя артыкулы, у якіх закранаюцца гэтыя аспекты.

Для літаратуразнаўцаў важным тэарэтычным пытаннем застаецца, ці можна эмацыянальнае напаўненне тэксту альбо мастацкую эмоцыю ў паэзіі аднесці да паняццяў,

звязаных з катэгорыяй стылю (іншымі словамі — эмоцыя ёсць фармальна-стылістычным паказчыкам / фактарам аўтарскай індывідуальнасці). Узаемаабумоўленасць узроўняў формы і зместу ў нашай працы — гэта тая традыцыйная пляцоўка літаратуразнаўчага аналізу, на якой будзе адбывацца даследаванне названай праблемы. Як адзначыў А. Есін, «стыль з'яўляецца не толькі сутнасцю, але і адносінамі (момант і заканамернасць суадносін зместу і формы, ідэі і выяўлення, канцэпцыі і мовы ў адзінстве мастацкага цэлага)» [1, с. 35]. Менавіта стыль звязвае аб'ектыўны і суб'ектыўны бакі мастацкага твора. У літаратуразнаўстве можна вылучыць дзве супрацьлеглыя пазіцыі па праблеме межаў стылю (на сённяшні дзень гэта пытанне застаецца ў ліку адкрытых): адныя вучоныя (А. Сакалоў, Г. Паспелаў, В. Курылаў, М. Гіршман, А. Есін і інш.) бачаць у стылі якасці мастацкай формы, іншыя, як Л. Цімафееў, Л. Навічэнка ўключаюць у склад стылю змест і форму літаратурных твораў. Узнікае пытанне: эмоцыя — гэта паняцце сэнсаўтваральнае, формаўтваральнае ці кангламерат гэтых адзінак паняцця. Тое, што эмоцыя кіруе пабудовай формы твора, не выклікае сумненняў. Аднак як яна ўздзейнічае на змест мастацкага арганізма — прасочым у нашым артыкуле.

Варта помніць, што аналіз эмацыянальнага напаўнення твора не можа стаць падменай аналізу пачуццёвага самараскрыцця аўтара. Калі звярнуцца да шматлікіх вызначэнняў псіхолагаў, то яны адзначаюць, што ў адрозненне ад пачуццяў, эмоцыі не маюць аб'ектнай прывязкі: яны ўзнікаюць не ў адносінах да каго ці чаго-небудзь, а ў адносінах да сітуацыі ў цэлым. «*Мне страшна*» — гэта эмоцыя, а «*я баюся гэтага чалавека*» — гэта пачуццё. У гэтай сувязі эмоцыі, у адрозненне ад пачуццяў, не могуць быць амбівалентнымі: як толькі адносіны да чаго-небудзь становяцца адначасова і дрэннымі, і добрымі, гэта што-небудзь можна назваць аб'ектам, а эмацыянальныя працэсы ў адносінах да яго — пачуццямі. Пачуцці як першасны кампанент і адзнака паэтычнага твора паўстаюць у цэнтры ўвагі даследчыкаў яшчэ з часоў антычнасці. А вось эмоцыі заставаліся па-за кампетэнцыяй літаратуразнаўчага аналізу.

У традыцыйным літаратуразнаўстве лірыка адносіцца да аднаго з трох родаў літаратуры. І па сённяшні дзень паняцці «паэзія» і «лірыка» многія даследчыкі атаясамліваюць. Аднак варта помніць і пра тое, што паэзія знаходзіцца ў бінарнай апазіцыі з прозай па тыпах літаратурна-мастацкай творчасці, а лірыка гэта і род літаратуры, і разнавіднасць лірычнай паэзіі. Як адзначаў В. Рагойша, «лірычная паэзія і проза выпрацавалі мноства лірычных жанраў і жанравых разнавіднасцей, як элегія, песня, загадка, галашэнне, прыказка, версэт, лірычная проза і інш.» [2, с. 87]. Яшчэ ў 1965 годзе А. Міхайлаў прапанаваў падзел на «лірыку сэрца і розуму». Гэты падзел у метафарычнай форме адлюстроўвае расклад сучаснай лірыкі на дзве вялікія часткі: «лірыка сэрца» — медытатыўная, сугестыўная, лірыка кахання (ці любоўная лірыка), «лірыка розуму» — грамадзянская, філасофская і на стыку гэтых падзелаў — пейзажная лірыка. Бясспрэчна, што такі падзел у многім умоўны і «лірыка сэрца» і «лірыка розуму» шмат у якіх аспектах знаходзяць агульныя зоны судакранання і ўзаемаперакрыжавання, аднак гэты падзел намі створаны дзеля вызначэння сферы бытавання эмоцыі. Не будзе адкрыццём, што лірычная паэзія — гэта паэзія эмацыянальная, а значыць, выступае прадметам літаратуразнаўчай эмацыялогіі (у адрозненне ад «лірыкі розуму», якая апелюе да паняційнага апарату пазнання. Безумоўна, сустрэнем не так і многа «разумовых» паэтычных твораў у чыстым выглядзе без праяўлення эмоцый, аднак яны існуюць). У гэтай сувязі ў паэзіі неабходна адрозніваць спецыфіку суадносін рацыянальнага і эмацыянальнага пачаткаў (тут варта згадаць працу А. Кабаковіч «Паэзія Максіма Багдановіча: дыялектыка рацыянальнага і эманацыянальнага» / Ала Кабаковіч. Мінск: Навука і тэхніка, 1978, 136 с.). Па вялікім рахунку, рацыянальнае ў лірыцы павінна быць набыткам эмацыянальнага фактару, інакш безэмацыянальнае слова ў тым жа тэксце грамадзянскага гучання складана будзе прапусціць праз сэрца і розум чытача. Трэба гаварыць і пра эматыўны тып асобы аўтара і чытача, эматыўны тып характару (паняцці псіхалогіі і псіхіатрыі) аўтара, таму што ён у многім вызначае і эмацыянальнае напаўненне твора.

У многіх даследчыкаў у вызначэнні паняцця «лірыка» даецца спасылка на прысутнасць эмоцый як у змесце, так і форме. Напрыклад, у вызначэнні Б. Міхайлічэнкі: «Лірыка (гр. — ліра — музычны інструмент; спяванне пад акампанемент ліры) адроз-

ніваецца эмацыянальным апісаннем гісторыі душэўных перажыванняў і роздумаў. Гэтаму роду ўласціва суб'ектыўнасць тону (медытацыі і іх віды), унутраны свет героя характарызуецца не толькі прадметна-лагічным сэнсам маўлення, але і самой яго структурай (выразнасць і эмацыянальнасць маўлення)» [3, с. 56]. Эмацыянальнасць формы і зместу — узаемазвязаныя рысы ў распазнаванні лірычнага твора. У дадзеным выпадку мастацкая ідэнтычнасць лірыкі грунтуецца на эмацыянальным пачатку аўтарскага выказвання. Лірызм паэтычнага твора з'яўляецца прадметам літаратуразнаўчага аналізу. Элементы лірызму як элементы асаблівай эмацыянальнай насычанасці ўтвараюць эмацыялогію тэксту, кожны з гэтых элементаў нясе на сабе вялікую эстэтычную, аксіялагічную і іншыя нагрузкі.

Паўстае яшчэ адно складанае пытанне. Згодна з пазіцыяй В. Жырмунскага, «сярод фактараў, якія абумоўліваюць стыль, адзначаны: светаадчуванне эпохі, эстэтычныя навыкі і густы, мастацкае заданне» [4, с. 187]. Тады эмоцыі аўтара варта разглядаць сярод фактараў у працягу пералічаных, якія прадвызначаюць стыль, ці ўсё ж як стылеўтваральны кампанент. А таксама эмоцыі аўтара ці эмацыянальны бок твора можна разглядаць і праз прызму творчага метаду пісьменніка (не атаясамліваем з мастацкім метадам). Не ўдаючыся ў палеміку адносна сувязі стылю і метаду, звернемся да некаторых вызначэнняў, якія паўстануць адпраўнымі ў нашых далейшых развагах. Так, стыль, у адпаведнасці з вызначэннем В. Рагойшы, гэта «ідэйна-мастацкая своеасаблівасць творчасці пісьменніка... Залежыць ад тыпу творчасці, метаду і напрамку літаратурнага, да якіх належыць аўтар, ад яго светапогляду, творчага вопыту, агульнай культуры, мастацкіх схільнасцей» [2, с. 179]. Між тым і Рагойша ўздымае праблему вузкага разумення стылю, указваючы на ўзаемадзеянне формы і зместу, называючы стыль пісьменніка «вобразным зместам ці змястоўнай вобразнасцю». Так, паэзія ствараецца ў вобразах, і існуе мноства мастацкіх прыёмаў, якія «абслугоўваюць» вобразы, надаючы ім тую ці іншую танальнасць, гнуткасць, мабільнасць, маляўнічасць і г. д. Аднак цяжка назваць эмоцыю «падручным матэрыялам», яе нельга штучна ўвесці ў тэкст як элемент упрыгожвання, нельга ўжыць адно слова з пэўнай эмацыянальнай афарбоўкай, каб яно не паўдзейнічала на ўвесь тэкст ці, у крайнім выпадку, на страфу (не адвяргаем і таго, што кожная страфа ў цэласным мастацкім арганізме верша можа мець сваю эмацыянальную танальнасць). А калі звернемся да вызначэнняў лінгвістаў, то ўбачым, што амаль кожнае слова мае свой эмацыянальны патэнцыял, а ўведзенае ў паэтычны, часта метафарычны кантэкст, яно набывае шматярусную эмацыянальную структуру. У лінгвістычных працах, напрыклад, у працы В. Шахоўскага, разглядаюцца наступныя паняцці: **«Эмацыянальнасць (эматыўнасць) —** здольнасць амаль кажнага слова выконваць, акрамя сваёй намінатыўнай функцыі, яшчэ і эматыўна-ацэначную семіялагічную. **Эматыў —** слова ці словазлучэнне, якое выкарыстоўваецца для выражэння эмацыянальных адносін/стану говарачага. **Эматыўная амбівалентнасць —** здольнасць семантыкі аднаго і таго ж эматыву выражаць эмоцыі з супрацьлеглымі ацэначнымі знакамі» [5, с. 20, 251]. А калі скласці ў адно цэлае прамыя і пераносныя значэнні слоў з рознымі эмацыянальнымі канатацыямі, то ў літаратуразнаўчым аналізе можна прыйсці да невырашальнай праблемы аб'ектыўнага, цэласнага і ўсебаковага разгляду зместу і формы твора. Значыць, эмоцыя можа цэментаваць, арганізоўваць матэрыял унутры тэксту як непадзельнае цэлае, а можа і разбалансіраваць структуру верша, надаць яе элементам эматыўна-ацэначную рознагалосіцу. Аднак гэта ўжо вынік, а нам важна ўсвядоміць матывацыю аўтара ў выкарыстанні аднай цэнтральнай ці комплексу эмоцый у паэтычным творы.

Вернемся да важнага пытання суадносін творчага метаду і стылю. А. Андрэеў сцвярджае: «Метад у мастацтве — гэта духоўная аснова эстэтычнага. І ў такой якасці ён абавязковы для любога віду мастацтва, у тым ліку для літаратуры. Такім чынам, метад — гэта мосцік (унутраная форма) ад духоўнасці пэўнага тыпу (у мастацтве заўсёды ўвасабляецца ў форме канцэпцыі асобы) да стылю. Ці па-іншаму: метад — гэта фактар стылю. Паміж метадам і стылем існуюць прамежкавыя стратэгіі мастацкай тыпізацыі (як характарыстыкі тыпу мастацкай цэласнасці), і, у першую чаргу, — родажанравыя. Моцна спрашчаючы формулу мастацкіх твораў, можна вылучыць наступныя асноўныя структурныя звёны: канцэпцыя асобы — асноўная стратэгія мастацкай тыпізацыі (метад) — блок іншых стратэгій мастацкай тыпізацыі (род, метажанр, жанр) —

стыль (характарыстыка тыпу арганізацыі мастацкага цэлага)» [6, с. 134]. Арыентуючыся на гэта выказванне, можна сцвярджаць, што эмоцыя паэтычнага твора ў большай ступені мае дачыненне да характарыстыкі тыпа арганізацыі мастацкага цэлага, чым да стратэгій мастацкай тыпізацыі.

У агульнапрынятае тлумачэнне (эмоцыя — гэта ўнутранае пачуццё чалавека ці праяўленне гэтага пачуцця) укладзена яшчэ адна супярэчнасць, важная для вызначэння сферы бытавання эмоцыі ў літаратуразнаўстве, а менавіта: калі эмоцыя з’яўляецца праяўленнем пачуцця чалавека, то гэта праяўленне можа набываць розныя формы і вобласці рэалізацыі. Формы, датычныя мовы літаратурнага твора, вельмі добра прадстаўлены ў лінгвістычных працах, а вось у дачыненні да вобласці рэалізацыі — мастацкай творчасці — актуальнымі будуць размежаванні эмоцый, афектаў і пачуццяў. Карыстаючыся класіфікацыяй псіхалогіі, самыя моцныя, але кароткачасовыя эмоцыі называюць афектам а глыбінныя і ўстойлівыя — пачуццямі. Улічваючы тое, што эмоцыя — гэта псіхічны працэс імпульсіўнай рэгуляцыі паводзін, то імпульсіўнасць у рэалізацыі эмацыянальнага настрою ў мастацкім творы — з’ява немалаважная (яна можа праявіцца ў мастацкім творы як у форме ўстойлівага выяўлення пастаянных пачуццяў аўтара, так і эмацыянальных перападаў і афектыўных станаў). У шматлікіх навуковых працах у розных дысцыплінах прадстаўлены розныя класіфікацыйныя сістэмы эмоцый, дзе адбываецца іх аб’яднанне па *эвалюцыйных, функцыянальных і структурных прыкметах*. Падобныя класіфікацыі можна правесці як у межах творчасці асобнага аўтара, так і ў вызначэнні агульных тэндэнцый творчасці пісьменнікаў у межах пэўнага гістарычнага перыяду, пакалення і г. д. І гэтыя класіфікацыі будуць адлюстроўваць не заканамернасці тыпізацыі і мастацкага кадзіравання, а спосабы рэалізацыі названых працэсаў у тэксце. А значыць эмоцыі, з аднаго боку, гэта фактар, кампанент стылю, які скіраваны на фарміраванне адзінства зместу і формы, з другога боку — гэта і ёсць **форма арганізацыі стылю**. І падобнае сцвярджэнне не галаслоўнае, аднак яно патрабуе звароту да міждысцыплінарнасці ў даследаванні — выкарыстання навуковых гіпотэз псіхалогіі творчасці, аперыравання ў тэарэтычных высновах паняційным апаратам эматыялогіі, кшталту эматыўнай функцыі мовы ці эматыўнага рэфлексавання.

Эмоцыя як носьбіт стылю праходзіць праз прадметна-вобразны змест твора, прадвызначае яго родавую і відавую формы, уздзейнічае на творчы метад, але ў кожнага аўтара гэта адбываецца індывідуальна. Як добра заўважыў А. Сакалоў, «стыль звязвае ў адзінае цэлае змест з формай, выражаемае з выражэннем, становячыся «сэнсам формы» [7, с. 68]. Эмоцыя, на маю думку, не можа прэтэндаваць на ролю «сэнсу формы» з-за сваёй функцыянальнай абмежаванасці, семантычнай вузкасці, структурнай пэўнасці. Эмоцыя ёсць стыль — нелагічнае сцвярджэнне, а вось разгляд эмоцыі як эвалюцыйнага (ці «эволюционирующего») чынніка стылю мае быць як у межах творчасці аднаго аўтара, так і цэлага перыяду. Эмацыянальная амбівалентнасць, якая разглядаецца ў лінгвістычных даследаваннях, становіцца таксама якасцю светаадчування ці нават светапогляду сучаснага аўтара, што не можа не адлюстравацца на характары рэалізацыі творчай задумы ў паэтычным творы, на ідэйным увасабленні вобразнай сістэмы.

Г. Паспелаў у працы «Проблемы литературного стиля» (1970) вызначае наступныя стылеўтваральныя фактары: тэматыка, праблематыка, разнавіднасці жанравага зместу і пафас. Апошні фактар для нас выклікае найбольшую цікавасць, таму што, агульнапрынятае лінгвістычнае, «пафас — моцнае натхненне, уздым, энтузіязм» [8, с. 46] і літаратуразнаўчае вызначэнні пафасу — «ідэя-жарсць, якой натхняецца пісьменнік, якая прадвызначае ўсе яго ідэйна-мастацкія пошукі, увасабляецца ў мастацкай тканіне ўсіх ці большасці яго твораў» [2, с. 126] — падаюцца ў звязцы з эмоцыяй. А звярнуўшыся да рэсурсаў інтэрнэту, знойдзем іншыя вызначэнні, напрыклад, у выяўленчым мастацтве «пафас — адзін з «механізмаў» творчасці, эмацыянальная аснова творчага працэсу мастака — яго палкасць, захопленасць, гарэнне душы і, адначасова, пакуты, мучэнне ад усведамлення немагчымасці дасягнення ідэалу, абсалютнай прыгажосці і г. д.», у рыторыцы — «па́фас (грэч. πάθος — пакуты, палкасць, узрушэнне, запал) — рытарычная катэгорыя, якая адпавядае стылю, манеры ці спосабу выражэння пачуццяў, якія характарызуюцца эмацыянальнай узвышанасцю,

запалам». Усе названыя вызначэнні слова прыводзяць нас да думкі аб этымалагічнай блізкасці паняццяў «пафас» і «эмоцыя» ў дачыненні да мастацкай творчасці. Такім чынам, у 1970-я гады Г. Паспелаў, называючы пафас стылеўтваральным фактарам, стаяў блізка да актуалізаванай у апошнія дзесяцігоддзі праблемы эмоцыі ў мастацкім творы, і непасрэдна *эмоцыі як стылеўтваральнага фактару.* У сучасных даследаваннях В. Цюпы, А. Есіна пафас падаецца «двухслойным» паняццем: як «архітэктанічная форма» (М. Бахцін) ці аб'ектыўны бок і пафас як індывідуальна-аўтарская эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць ці суб'ектыўны бок эстэтычнага аб'екта. А значыць, сучасныя даследчыкі напрамую звязваюць пафас з эмоцыяй, надаючы ім непасрэдную сувязь і камунікатыўнае адзінства. В. Цюпа ў рабоце «Аналітыка мастацкага тэксту» (2001) выказвае меркаванне, што пафас, ці мастацкая мадальнасць / модус, па сваёй прыродзе першапачаткова закладзены ў мастацкую сістэму твора, гістарычна ўстойлівы. Сапраўды, пафас, як і эмоцыя, характэрны любому паэтычнаму твору, у большай ці меншай ступені выражанасці. А гэта значыць, што модус эмоцыі набывае такую ж гістарычную прадвызначанасць і абавязковую зададзенасць, як і пафас. (Модус — мера, спосаб, вобраз, від — у філасофскім значэнні абазначае спосаб існавання, характар быцця ці падзеі). Як вынік, **эмоцыя — пастаянны стылеўтваральны фактар мастацкага твора**, у адрозненне ад зменлівых і адзінкавых індывідуальна-аўтарскіх. Эмоцыя ў сукупнасці з іншымі стылеўтваральнымі фактарамі працуе на эстэтычную цэласнасць, завершанасць і ўнікальнасць твора. **Эмоцыя — гэта стылеўтваральная заканамернасць стварэння мастацкіх зместу і формы, нязменны атрыбут мастацкасці паэтычнага твора, светабачання аўтара**.

Але тут варта яшчэ раз закрануць праблему атаясамлівання пафаснага і эмацыянальнага выражэння ў паэтычным творы. Мы ўжо адзначалі, што пафас грунтуецца на эмоцыях, але да іх не ўзводзіцца. «Пафас» і «эмоцыя» твора — паняцці дыхатамічнага парадку, якія маюць сваю каэвалюцыю ў межах адзінага арганізма — паэтычнага твора. Аднак ва ўзаемаедзеянні гэтых паняццяў можа прысутнічаць пэўная мера энтрапіі, т. зв. хаатычнасці і неўпарадкаванасці, калі эмоцыя, напрыклад, прэвалюе і вызначае пафас, ці, наадварот, эмоцыя складае толькі сотую частку пафаснага выяўлення і г. д. Спосабы суадносін эмоцыі і пафасу ў ацэнцы твора, безумоўна, можна прывесці да пэўных структур, але яны будуць толькі ўмоўным абазначэннем тэрытарызацыі паняццяў. Тыпалогія не будзе поўнай без правядзення паралелей паміж «эмоцыяй» і «канатацыяй». Эмоцыя мае сэнсавызначальную ролю, за ёй поле значэнняў і сэнсаў, канатацыя — эмацыянальнае экспрэсіўнае ці ацэначнае значэнне, якое дадаецца да асноўнага значэння. Хоць у многіх лінгвістычных працах канатацыя разглядаецца як сума розных складнікаў, сярод якіх называецца і эмоцыя. Усё ж канатацыя ўключае ў сябе семантычныя і стылістычныя прыкметы, звязанныя з асноўным значэннем, а значыць, эмоцыя паглынае канатацыю, канатацыя як дадатковае адценне працуе на ўзмацненне асноўнага эмацыянальнага гучання. Такім чынам, пафас і эмоцыя можа адносіцца і да фактараў стылю, і да паняццяў, якія самарэгулююць іерархічныя працэсы ўнутры структуры твора. Гэта, відаць, адбываецца на ўзроўні інтуітыўнага вызначэння мастаком межаў прысутнасці аднаго знака ў дачыненні да іншых у мазаічным спектры мастацкага арганізма. Панаптызм галоўнай эмоцыі (ці *значэння*) у творы — гэта своеасаблівая тэхніка ўлады настрою мастака, якая падпарадкоўвае ўсе «сопутствующие» гэтаму працэсы. Яна ўстанаўлівае «перманентны надзор», маніторынг над усімі іншымі элементамі твора.

*Эмоцыя* — гэта не разавы кампанент, намі ўводзіцца паняцце *эмацыянальнай прасторы* паэтычнага твора, у якой эмоцыя звязана з гісторыяй асобнага твора і творчасці аўтара ў пэўныя перыяды, разбіўка на якія вызначана гісторыкамі літаратуры. У эмацыянальнай прасторы не толькі адлюстроўваецца, але і прадвызначаецца, не толькі фарміруецца, але і прадчуваецца, не столькі тыпізуецца, сколькі індывіялізуецца тып мастацкага мыслення і свядомасці аўтара. Вызначэнне «эмацыянальная прастора мастацкага тэксту» — паняцце рода-відавое, якое можна разглядаць сярод аспектаў літаратуразнаўчага аналізу эмоцый. *Эмацыянальная прастора* — гэта і нацыянальныя аспекты самараскрыцця аўтара, і эматыўныя сэнсы слова, выказвання, вобраза, і індывідуальная рэакцыя на апісваемыя падзеі, і выражэнне імпульсіўных часовых перажыванняў, і ўтоеныя эмоцыі, — якія ў выніку і складаюць эматыўную

карціну асобы аўтара. А яна прадвызначае стварэнне пэўных канцэптаў у паэтычным творы. Чалавек стрыманы па тэмпераменце без «эмацыянальнага інтэлекту» не зможа нарадзіць яркі эмацыянальны твор — усё роўна шмат чаго ў ім будзе штучнага і ненатуральнага. Але варта помніць, што знешняе праяўленне эмоцый і эмацыянальны стан душы могуць не супадаць. Эмоцыя таксама можа мець кансерватыўную прыроду, як і мысленне кансерватыўнага чалавека і пісьменніка, а можа мець і прагрэсіўную. Яна можа рухацца наперадзе твора, падцягваючы пад сябе ўспрыманне ўсяго тэксту. Аднак пра спосабы рэалізацыі эмоцыі ў паэтычным тэксце больш падрабязна пагаворым у наступны раз.

## Спіс літаратуры:

1. Есин, А. Б. Принципы и приёмы анализа литературного произведения: Учебное пособие / Андрей Борисович Есин. — М.: Наука, 2000.

2. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік. Тэрміны і паняцці / Вячаслаў Пятровіч Рагойша. — Мінск: Народная асвета, 2009. — С. 87.

3. Михайличенко, Б. С. Проблемы литературоведения: теория литературы. Монография / Борис Степанович Михайличенко. — Самарканд: СамГУ, 2009. — 182 с.

4. Жирмунский, В. М. Теория литературы. Поэтика. Стилистика / Виктор Максимович Жирмунский. — Л.: Наука, 1977. — С. 187.

5. Шаховский В. И. Категоризация эмоций в лексико-семантической системе языка. Воронеж, 1987. — С. 20, 251.

6. Андреев, А. Н. Теория литературы: личность, произведение, художественное творчество: Учеб. пособие. В 2 ч. Ч. 1. Теория литературно-художественного произведения / Анатолий Николаевич Андреев. — Мн.: БГУ, 2004. — С. 134.

7. Соколов, А. Н. Теория стиля / Александр Николаевич Соколов. — М.: Искусство, 1968. — С. 68.

8. Поспелов, Г. Н. Проблемы литературного стиля / Геннадий Николаевич Поспелов. — М.: Наука, 1970.

*Артыкул паступіў у рэдакцыю 20 лютага 2014 г.*

**Святлана КАЛЯДКА**

## Эматыўнасць паэтычнага тэксту як літаратуразнаўчая праблема

### Рэзюмэ

У артыкуле аналізуюцца спосабы раскрыцця эмоцыі ў паэтычным творы. Вызначаюцца шляхі рэалізацыі эматыўнасці ў беларускай паэзіі.

**Sviatlana Kaliadka**

## Emotionalism of a Poetic Text as a Literary Problem

### Summary

The methods of the emotional discovery in a poetic work are analyzed in the article. The ways of the emotionalism realization in Belarusian poetry are determined here.

Святлана ДЗЯНІСАВА

# «ТАКІ ЛІСТ МНЕ ТАБЕ АДСЫЛАЦЬ НЕЛЬГА»*

***Гэта, напэўна, павінна здавацца дзіўным: асабістыя ліставанні вядомых людзей часам аказваюцца не настолькі цікавымі, як таго чакаецца і хочацца. Такія «адкрыцці» тым больш расчароўваюць, калі размова ідзе пра пісьменнікаў. Асабістыя ліставанні «непісьменнікаў», наадварот, могуць узрушваць, пераварочваць свядомасць, будзіць даволі вострыя перажыванні, а галоўнае — прымушаць быць лепшымі. Больш цікавымі для іншых, па меншай меры. Здаецца, вас чакае зараз менавіта гэты, другі варыянт.***

Чорт ведае, з чаго пачаць, якой лініі прытрымлівацца, пра каго і пра што ўвогуле будзе гэты матэрыял? Калі б я пісала зараз па-руску (бо і лісты былі напісаны па-руску, тут яны пададзены ў перакладзе), я ўсё роўна напісала б гэта самае «чорт» і праз «о». І гэта была б не фамільярнасць, і не фрывольнасць, і ніякія іншыя «фры». Проста аўтар лістоў піша гэта слова менавіта так. У тым, што ён карыстаецца гэтым словам досыць часта, чытач пераканаецца даволі хутка — ледзь толькі яго цікаўнасць (што ж, як не яна, прымушае чытаць чужыя лісты?) дойдзе да першага «чорт!» з усіх тых, што тут яму сустрэнуцца. Не палохайцеся: ніякіх inferno, nigredo, гатычнай гульні ў апраметную тут не чакаецца. Усяго толькі варыянт напісання, ніколечкі не дзіўны, калі размова ідзе пра 1930-я. Тады ж, напэўна, іншамоўныя выразы, якія трапілі ў шырокі ўжытак (кшталту idee fix, ён вам тут пазней таксама трапіцца), выкарыстоўваючыся нават у звычайным асабістым паведамленні, пісаліся не кірыліцай, а арыгінальна. Прынамсі, у *гэтых* лістах — так. Гэтаксама як і выкарыстанне апострафа замест цвёрдага знака ў цалкам рускамоўным тэксце: звычайная была калісьці з’ява. І, дарэчы, тут не «шофер», а «шоффер», не «до поры до времени», а «от поры до времени», не «рассуждаю», а «разсуждаю», не «блокнот», а «блок-нот». Да гэтых лістоў цікава падысці графалагічна: чаго вартая хаця б літара «ч», калі стаіць пасля коскі. «Что», «чем», «чтобы» — усё гэта выводзіцца з знаку прыпынку, набываючы тым самым зграбенькі выгнуты «хобат». Шкада, што аўтар гэтай публікацыі, зберагаючы ў ёй некаторыя з адзначаных асаблівасцей, не можа перадаць усе свае ўражанні цалкам: яны проста неперадавальныя.

Аднак, пра галоўнае. Гісторыя, выкладзеная ў лістах, пачалася ў 1929-м, у сераду, пасярод працоўнага дня, 11 снежня. Магчыма, больш правільна было б казаць, што яна пачалася трошкі раней. Прынамсі, гэта справядліва ў дачыненні да аднаго з дваіх яе герояў, які ў азначаны дзень пісаў на клятчастай паперчыне, выдранай з блакнота — *блок-нота*, — такія радкі:

*С. М.!*

*Мне б вельмі хацелася ўбачыць Вас сёння і сказаць колькі слоў. Тэлефанаваў некалькі разоў у тэатр, але Вас там не было. Калі можна — паведаміце мне па тэлефоне (да 4-й гадзіны ў Аддзел). Сёння вечарам я буду ў тэатры; калі палічыце патрэбным і магчымым, то Ваша рашэнне неяк мне перадайце.*

*11.XII. 29 г.*

---

* Ірына Аляксееўна Міхайлава-Станюта прадаставіла аўтару матэрыялу магчымасць публікацыі гэтых лістоў у памяць аб сваім мужы, пісьменніку Аляксандру Станюту. Частка лістоў была выкарыстана ім у рамане «Гарадскія сны», перавыдадзеным на Беларусі ў 2012 годзе ў электронным фармаце. Аўтар выказвае падзяку сям’і Стэфаніі Станюты і прысвячае публікацыю 109-годдзю актрысы.

Невядома дакладна, ці тэлефанавала адрасатка, ці датэлефанавалася і ці адбылася сустрэча, але ў лісце, адпраўленым на той самы адрас шасцю днямі пазней, 17-га (было яно наступным ці меліся «прамежкавыя», таксама невядома), напісана наступнае:

*Стэфанія Міхайлаўна!*

*Я зараз трапіў у такое становішча, з якога ўласнымі высілкамі, здаецца, не выбрацца. Такія сітуацыі прыносяць чалавеку ўзрушэнні, якія пакідаюць след на ўсё жыццё. Гумарысты называюць гэта — трапіць у «пераплёт з аслінай скуры», бо чалавек у такім становішчы робіць глупствы, звычайна яму не ўласцівыя. Карацей: я кахаю Вас.*

«Вы так мала мяне ведаеце, што на нейкі адказ я разлічваць не магу», — піша ён напачатку. У тым жа лісце, але пазней — ужо зусім інакш: «Я Вас кахаю. Вы можаце задаць мне з гэтай нагоды шмат пытанняў, але я іх адхіляю як неістотныя і буду чакаць цяпер адказу». Такая «лабільнасць» — эмоцый, жаданняў і псіхікі ўвогуле — уласцівая, напэўна, кожнаму, хто мае дыягназ «каханне».

Магчыма, чытач ужо здагадаўся, хто яна, гэта С. М.: працуе ў тэатры, названа пазней Стэфаніяй Міхайлаўнай… Так, гэта Стэфанія Станюта. Лісты да яе мне перадала нявестка, Ірына Аляксееўна Міхайлава-Станюта, жонка пісьменніка Аляксандра Станюты, які іх некалі даследаваў, але недаследаваных, відаць, засталося больш. Лістоў гэтых шмат: перапіска маладой артысткі з чалавекам, які падпісваўся як Аля, доўгі час была літаральна штодзённай і цягнулася ўсю першую палову 1930-х. Тут прадстаўлены толькі некаторыя.

*Мая мілая дзяўчушка! Учора атрымаў ад цябе ажно два лісты адразу і адказаць на іх трэба адразу. А ты мне назадавала ў іх столькі пытанняў, што я баюся, ці здолею адказаць на ўсе. Тым больш што мне ўвесь час перашкаджаюць.*

*Ты дзіўнае дзяўчо. Ты абавязкова хочаш навязаць мне якуюсьці шкоду. Ды да гэтай пары яшчэ не хочаш верыць, што я табе часам раблю дробязныя падарункі не таму, што хачу гэтым «заслужыць» тваё каханне, а проста таму, што для мяне гэта вялікае шчасце, калі я магу перадаць табе рэч, якая мне самому падабаецца. Мне прыемна, калі цябе акаляюць кнігі і прадметы, якія мне падабаюцца. У цябе ў віцебскім пакойчыку ляжалі на акне кнігі: Ясенін, Гісторыя танца, Захад і інш. Гэтыя кнігі для мяне чужыя, я іх не люблю, я іх не разумею. Значыцца, частка тваёй душы таксама для мяне чужая. Я хачу парваць і выкінуць гэту частку. Ты скажаш — гэта эгаістычна; але ў каханні ўсе эгаісты. Усё або нічога. Я хачу, каб ты думала гэтаксама як я, адчувала, як я. Тым самым я набліжаюся да цябе, ты робішся для мяне бліжэйшай і больш зразумелай, я больш люблю цябе. Я б хацеў аддаліць ад цябе ўсе рэчы, якія аддзяляюць мяне ад цябе, і замяніць іх на тыя, што блізкія і зразумелыя мне. Ты для мяне абсалютна незразумелая і нудная, калі чытаеш вершы Ясеніна, але робішся блізкай і роднай, калі захапляешся гераінямі Лондана і Генры. Вось у чым увесь сакрэт. Мне вельмі непрыемна, калі ты думаеш іначай, калі ты мяне не разумееш. Гэта звязвае мне рукі і робіць бяссільным, калі я хачу наблізіцца да цябе. Вось і ўсё.*

На канвертах ён пісаў: «Станюто». Канверты падпісваліся чорнай тушшу і адпраўляліся то ў Бабруйск (Летні тэатр, трупа БДТ-2), то ў Мінск на Ленінградскую. Тут, у доме № 16, у 22-й кватэры жыў яе бацька, мастак Міхаіл Станюта. Вы ж памятаеце яго «Партрэт дачкі», што захоўваецца ў нашым Нацыянальным мастацкім? Для тых, хто «сячэ» ў жывапісе, можна было б распавесці пра паслядоўнікаў Поля Гагена, мастакоў французскай групы «Набі» і пра той уплыў, які аказалі апошнія на нашага Станюту. Прынамсі, падчас напісання гэтага партрэта, такога шматколернага і пры гэтым абсалютна плоскага — нібыта арнамент. Кажуць, спачатку ён фігурыраваў як няскончаны… Варта было б пайсці ў музей і яшчэ раз яго пабачыць. На тым партрэце нашай гераіні ледзь-ледзь васямнаццаць.

У час, на які прыпадае ліставанне з Аляй, ёй ужо…

*Мая мілая, сёння адпраўляю табе невялікі падарунак да дня нараджэння. Наўмысна не раблю ніякіх надпісаў, бо хачу, каб гэта кніга стала тваім падручнікам. Я хачу, каб ты карысталася ёю часта...*

*Тваё жыццё будзе цудоўным і змястоўным. І я жадаю табе гэтага ў дзень 25-годдзя.*

*Гэта палова жыцця. І калі ў ёй былі памылкі, няхай наступная палова будзе іншай...*



*Аля.*



*Стэфанія Станюта.*

Што лічыць памылкамі жыцця?.. Гэта пытанне — ці пагодзіцеся? — па вялікім рахунку, не мае адказу. Яно з тых самых, якія — ад жадання надаць вагу бязважкаму, не іначай — назваў нехта аднойчы рытарычным.

Яны часцей пісалі адно аднаму, чым бачыліся. Стэфанія ў той перыяд магла яшчэ быць замужняй жанчынай. Хутчэй за ўсё, так і было — калі меркаваць па некаторых выразах з лістоў.

На адным канверце напісана: «С. М. Станюто. Здесь. Белгостеатр». Да левага верхняга куточка прылеплены ружовы папяровы прастакутнік: «Нарочным. Exprеss». Справа і сапраўды была тэрміновай, калі гэтым дваім яна такой здавалася.

*10.IV.30 г.*

*Добра. Я зраблю ўсё, што ў маіх сілах, каб убачыць цябе «хаця б на гадзінку». Гэта амаль што ўжо вырашана (бо калі хачу, то звычайна ўмею дасягнуць), я думаў нават, што мой (гэты) ліст ты атрымаеш ужо пасля таго, як я цябе ўбачу. Я пішу яго толькі на той выпадак, калі мне ніяк нельга будзе прыехаць. Я разумею, дружок, як бывае неабходна пабачыць (менавіта «хаця б на гадзінку») каханага чалавека. Я прыеду. Мяркую, што заўтра ж і выеду... калі толькі будзе для гэтага хаця б маленькая магчымасць. Для мяне ж гэта пытанне не рашаецца так проста: узяць адпачынак і паехаць. Ну, словам, ты ж ведаеш і разумееш у чым справа.*

*Цяпер пра твае справы. Я не ведаў, што пытанне ў вас стаіць так адкрыта і... нахабна. Я, уласна, вельмі дрэнна сабе ўяўляў, што В. можа дагаварыцца да такіх глупстваў. Гаворка пра забойства і самагубства сама па сабе наіўная штука (гэтым не пагражаюць), але надакучлівая, як камары. Я не хачу раіць табе, але думаю, што ты зрабіла памылку, што не спыніла з ім увогуле ўсялякія стасункі пасля такіх пагроз. Я разважаю са свайго пункту гледжання. Але чалавеку, які пад пагрозай забіць мяне, хацеў бы нечага дасягнуць, давялося б вытрымаць некалькі хвілін горкага расчаравання і пераканацца ў абсалютнай нядзейснасці падобных сродкаў. Гэта шантаж. Да шантажу псіхалагічнага або фізічнага звяртаюцца людзі пэўнай катэгорыі, пра якую я маю не вельмі добрую думку. Я разважаю не з пункту гледжання этычнага. Я думаю, што да шантажу з асабістай мэтай можа звяртацца толькі той, хто не мае ніякіх іншых сродкаў больш сумленнага кшталту. І такім спробам трэба даваць самы рэзкі адпор. Як і ўсім іншым намерам сумніўнай якасці. Гэта мой пункт гледжання. Як гэта*

*ажыццявіць практычна, мы з табой пагаворым пры сустрэчы, а калі я не змагу прыехаць, то напішу ў наступным лісце.*

*Чаму ты мае лісты атрымліваеш праз два дні? Вельмі проста. Я пішу табе вечарам, а пошта ідзе толькі на наступны дзень а 3-й гадзіне. Ліст, які я пішу 10-га вечарам, уласна, трэба было падпісаць 11-м (што і фактычна так: я пішу заўсёды пасля 12 гадзін ночы, але машынальна памячаю старой датай). А раніцай пісаць мне, дружок, няма часу, ды і перашкаджаюць увесь час. Але ж гэта не важна, у рэшце рэшт: я пішу табе кожны дзень і ты павінна мае лісты атрымліваць кожны дзень. А наконт датаў — гэта ж дробязі.*

*Вось апошні ліст — зноў Стэфчын. Я ў ім зноў адчуваю цябе. Блізкай, роднай. Словы ў ім напісаны ад душы, а не надуманыя, як раней. І гэты ліст не нервуе мяне, я яго магу чытаць некалькі разоў запар і кожны раз мне словы гавораць нешта новае. А галоўнае — я ў іх бачу цябе, маю мілую лупаценькую растропачку… маю каханую… маю Стэфачку! У нашых узаемаадносінах быў адзін жудасны момант: гэта калі ты, памятаеш, заплакала. Там… у Мінску… мне здавалася, што ўнутры мяне нешта з грукатам абвальваецца, нешта разрываецца ад пяшчоты да цябе, што мяне перапоўніла. Я дрыжаў, як у ліхаманцы. Маю шмат самавалодання, але думаю, што калі б у той момант цябе нехта надумаў пакрыўдзіць, я б зрабіўся зверам. Я так думаю. Я ведаю, што ты не плакса і ведаю, чаму ты плакала. Гэта было менавіта тое, чаго я з такім нецярпеннем чакаў увесь час. Я тады пераканаўся, што ты не мая фантазія, не прыдумка, а тая менавіта жанчына, якую я ў табе шукаў і якую так кахаў. Ты, напэўна, не зразумееш нават, у чым тут справа — бо гэта мужчынская псіхалогія, недаступная звычайна жанчыне (як шмат што ў жанчыне — мужчыне). Але калі ты захочаш, скажаш пры сустрэчы: растлумачу, як здолею.*

*Ну, да хуткай сустрэчы (так ці інакш! Ці ты, ці я, але павінны ехаць). Цалую моцна сваю… лахудрачку слаўную.*

*Аля.*

*10.IV.30 (дакладней — 11).*

*P.S. Я табе перaслаў за 5 дзён цэлы блок-нот. Гэта апошні ліст.*

*А.*

Хутчэй за ўсё, В., які шантажыруе самагубствам, — гэта і ёсць Васіль Рагавенка, першы муж. Таксама акцёр — «аднатрупнік». Яны пакахаліся падчас вучобы ў Маскве, а калі бралі шлюб, то кіраўнік тэатра выдзеліў ім па 10 рублёў у якасці падарункаў. Невядома, на што тыя грошы пусціў малады муж, а жонка — набыла сабе туфлі-лодачкі і панчохі з фільдэперсу. Гэтыя панчохі, як і 10 рублёў у якасці падарунка, згадваюць ледзь не ўсе журналісты, якім даводзіцца пісаць пра Стэфанію. Але ж трэба ведаць, чым той фільдэперс тады з'яўляўся. Слова, якое пазней пачало выклікаць асацыяцыю з нечым незвычайна-шыкоўным, на самай справе азначала добротны варыянт апраткі дакапронавай эпохі. Ну, мякенька ў іх было, утульна. Баваўняныя ніткі, якія за кошт адмысловага перапляцення «касілі» пад сапраўдны шоўк. У выпадку з нашай гераіняй гэта была форма для рэпетыцый. Цікавей іншае. Першы муж Стэфаніі, акцёр Васіль Рагавенка (пра тое, што яго за рост і хударлявасць празвалі міногай у фраку, я таксама не пішу — пісалася іншымі) трапіў (якраз у той год, трэба ведаць эпоху) у даволі непрыемны пераплёт.

У красавіку 1929-га аддзел інфармацыі і паліткантролю ДПУ БССР даслаў (зразумела, пад грыфам «Сакрэтна») на імя таварыша Б. Стасевіча, загадчыка агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б дакумент пад рашучай назвай «Обзор настроений и антиморальных поступков среди коллектива артистов 2-го Белорусского государственного театра». З мэтай прыняцця «тэрміновых і рашучых мер», зразумела.

*«…в самом коллективе образовалась группа артистов, составивших режиссерскую подгруппу, которая, пользуясь тем, что враждующие между собой директор Красинский и режиссер Хачатуров, стараясь привлечь их каждый на свою сторону, потакали им, давая подачки и ставя их в привилегированное*

*положение по отношению к остальным артистам, стала захватывать руководство в свои руки, проводя реакционные взгляды МХАТ, приверженцами коих они являются, разлагая остальную часть артистов и вовлекая их в орбиту своего влияния.*

*Главарями этой группы являются:*

*3) Артист Роговенко Василий Константинович — ненавистник всякого общественного проявления в театре; на каждом шагу старается травить артистов, берущихся за общественную работу. Его лозунг: “Только бездарные артисты прикрываются общественностью”. Хулиган, употребляет нецензурные выражения, в особенности в обращении с женщинами. За хулиганские поступки в гор. Витебске хотели его уволить из театра. Антисемит.*

*Артист Роговенко, выступая против постановки пьесы, оплевывал ее конструкцию и повесил на нее дохлую ворону. ... Артист Роговенко пишет в стенгазету статью под заголовком: “За вольнасць мастацтва”, где призывает освободиться от диктатуры режиссера и обвиняет последнего в карьеризме.*

*...в день отъезда театра из гор. Гомеля, в актерской уборной, где работал Роговенко, появилась большими буквами надпись: “Бей гомельских жидов и уезжай скорее в гор. Могилев”. Кто написал, неизвестно».*

На той раз «пранесла». Дакумент быў толькі «прыняты да ведама». І ўсё ж акцёру Рагавенку давялося развітацца з тэатрам. Бо ўмеў «гучна жартаваць і расказваць анекдоты». Аднойчы, ужо трохі пазней, расказаў нешта не тое (або некаму не таму) — і адбыў 13 гадоў у лагерах.

Даруйце за адступленне, тым больш Станюты не вельмі датычнае: гэта я, каб перадаць каларыт эпохі. Але ўспомнім з гэтай нагоды пра кнігу, што ляжала на акне ў віцебскім пакойчыку Станюты. «Гісторыя танца». Кніга гэта мела дарчы надпіс: «Мастацтва пачалося ў танцы. Твае першыя крокі ў тэатры былі таксама танцам. Несвядома, але верна ты ступіла на слаўную і вечную…» Далей прапускаю... Вось, самае цікавае: «… Жадаю табе, любячы цябе, каб ты і далей так ішла ў мастацтве, заўсёды праходзячы ўсё праз танец. 22 студз. 1926. Вас. Рагавенка».

Дакладнай даты расстання нашай гераіні з першым мужам мы не ведаем. Ведаем толькі, што ў 1934-м яна зноў выйшла замуж — за чырвонага афіцэра Аляксандра Кручынскага. Ён проста неяк аднойчы даваў акцёрам яе трупы ўрокі коннай язды. Але на нашым календары пакуль яшчэ 1930-ы. Вернемся таму да Алі.

Хто ён такі? Лісты ён адпраўляе то з Віцебска, то з Вены, то з Берліна або Сызрані, то з «Чырвонай Паляны» — адкуль заўгодна... «Я толькі што прыехаў з раёна, знайшоў на стале цэлы стос лістоў ад цябе. Пяць начэй я амаль не спаў, насіўся па вёсках на марозе і дажджы», «Адпачыў ад рознай канцылярскай лухты, а галоўнае — зноў пакаштаваў паходнага жыцця, так раздражняльна прыемнага на смак», «А цяпер зноў у сваім кабінеце, за акном вясна і гарадскі гул, а на стале кніжка ад цябе і напісаныя тваёй рукой лісткі». Разведчык? Асабіст? НКВД-шнік?

«Я ж бадзяга. У мяне няма ні радзімы, ні роднага горада», — пісаў ён 30 сакавіка 1930-га, перадаючы ёй сваё захапленне ад Віцебска. «Такі мілы, родны гарадок», «Калі гляджу на Віцебск, я думаю, наколькі шалёнае добрае жыццё».

Яна пасля таксама будзе ўспамінаць: «А якія піражкі былі калісьці ў Гітэле, у Віцебску! Мы бралі толькі ў яе. І танныя, і вельмі-вельмі смачныя!.. А я ж тады, у другой палове 20-х, была ў Віцебску сапраўдная зорка. Вядома, я гэтага так не ведала, не разумела…»

«Адчуванне горада вызначаецца ў мяне радасцю ці горам, якія я ў ім перажыў. І тут я адчуваю радасць працы, барацьбы. Тут я разумею, што каханне не можа быць разбуральным, не можа рабіць з чалавека слімака, а дае моц, палымянасць, энтузіязм». Там жа далей: «… у табе ёсць нейкая неверагодная сіла. І гэта сіла стваральная. Я думаю, што нас чакае вялікае шчасце».

Шчасцем можна назваць гэтыя некалькі гадоў перапіскі. У сэнсе, нам, чытачам і даследчыкам, наяўнасць такія лістоў у нечай біяграфіі падаецца несумнен-



С. М.!

Я очень хотел-бы повидать Вас сегодня и сказать пару слов. Звонил несколько раз в театр, но Вас там не было. Если можно — поставьте меня в известность по телефону (до 4х час. в Отдел). Сегодня вечером я буду в театре; если найдете нужным и возможным то о Вашем решении меня как либо уведомите.

11/XII.29 г.

Цыр[illegible]

ным сінонімам гэтага няўлоўнага, як прывід, стану. На самай справе… Значыцца, у 1934-м яна стане жонкай іншага чалавека, з якім, нягледзячы на нараджэнне сына, вельмі хутка расстанецца: ваенны, з суровым характарам, Аляксандр Кручынскі не здолее зразумець яе тонкую натуру, будзе раўнаваць да працы і прымушаць замыкацца ў чатырох сценках. А перад вайной яе ахопіць новы раман. Цяпер ужо не яна будзе не свабоднай, а ён — акцёр і дыктар. Яна будзе пісаць яму — нібыта ў турму на Валадарскага, а на самай справе — проста сабе ў сшытак. Бо так лягчэй перажываць пакуту расстання. І гэты чалавек не зробіць яе шчаслівай на гады: яго расстраляюць. Сёе-тое з лістоў Алі і радкоў Стэфаніі Станюты, звернутых да гэтага чалавека, возьме ў свой раман «Гарадскія сны» Аляксандр Станюта, сын артысткі. Але наша С. М. будзе там Л. М.: не Стэфаніяй, а Леакадзіяй. Ну, няхай сабе. Мы ж вернемся ў рэальнасць 1930-га, дзе пакуль што ўсё добра і светла.

Мяркуючы па змесце лістоў, чалавек гэты, Аля (у першай, самай першай, між іншым, запісцы, стаіць яго подпіс, аўтограф, з пачаткам «Цыр...», і гэта зачэпка, магчымасць весці пошук!), не па вярхах быў знаёмы з тэатрам, літаратурай, музыкай, псіхалогіяй чалавека і філасофіяй жыцця…

*15.III.30 г.*

*...Які заўгодна, і нават самы выключны і лагодны пах утрымлівае ў сабе нешта тлятворнае. Напрыклад, пах язміну напалову складаецца з пахаў мярцвячыны.*

*А я ж не такі «добранькі», як табе здаецца. Мая псіхалогія закладалася ў вельмі жорсткіх умовах — на вайне, падчас рэвалюцыі…*

*Што яшчэ? Маякоўскі? Яго самагубства?*

*Я ж табе гэта прадказваў яшчэ тут, у Віцебску. Гэта людзі «без руля і ветрыл». Яны супраць логікі змагаюцца абсурдам. Мне яны не цікавыя. Іх псіхалогію я ведаю даўно, яна тлумная. Я не хачу ёю займацца. Гэта духоўныя банкруты, спадарожнікі. Калі з намі дойдуць да вядомай кропкі, яны застаюцца ў адзіноце і гінуць. І добра робяць.*

*Смерць ёсць карысны працэс, яна ачышчае жыццё ад лішняга, недзеяздольнага. Яна непрыемная, але яна самая неабходная ўмова для развіцця думкі і жыцця на зямлі…*

*А.*

*29.III.30 г.*

*Ты пішаш мне пра Блока. Так, правільна, Блок містык. Нават больш — ён па ідэалогіі не наш. Бо нават лепшая яго рэч заканчваецца так: «В белом венчике из роз впереди Иисус Христос».*

*Яго рэвалюцыянеры — гэта басота, люмпен-пралетарыят. Блок не спасцігнуў і не мог спасцігнуць сутнасці рэвалюцыі. На вядомым этапе ён быў захоплены рамантыкай рэвалюцыі, і яна ў яго пераламілася не па-нашаму.*

*Але Блок — лепшы з паэтаў апошняга часу. Ён вельмі ўдумлівы, у яго сумленнае стаўленне да жыцця, ён не багеміст кшталту Ясеніных, Уткіных, Малашкіных і да т.п. драбязы. І ён, галоўнае, вельмі літаратурны, ён бліскучы стыліст, удумлівы псіхолаг, ён паэт у поўным сэнсе слова. Вось яго вартасці.*

*Яго кнігі, яго словы нельга прымаць на веру, да іх трэба ставіцца крытычна. Але ў яго можна павучыцца, як выказаць прыгожа і пераканаўча тыя адчуванні, якія бываюць у кожнага чалавека.*

*Ён не фразёр, ён гаворыць нешта не таму, што гэта гучыць прыгожа або атрымліваецца ўдалае спалучэнне слоў, а ён сам перажывае і адчувае тое, пра што гаворыць. За гэта я яго люблю.*

*Я чытаў недзе ў часопісе пра адну перасоўную групу акцёраў: у вёсцы мужыкі не пусцілі начаваць артыстаў, якія ігралі белагвардзейцаў, — і не далі ім хлеба! Астатніх жа насілі на руках. Напэўна, усе там ігралі таленавіта. Канечне, гэта рэакцыя дзяцей ці паўдзікуноў — але вельмі павучальная.*

*Я магу прывесці прыклады і з ігры акцёраў Мінскага тэатра. Скажам, ролю Бярсенева ў «Разломе» або дырэктара ў «Рэльсах». Я да таго, што меркаванне, быццам адмоўныя ролі можна выконваць бяздарна, — глупства. Так прыкладна думалі некалі імпрэсіяністы і іншыя, што прымазаліся да мастацтва. Гэта трэба кінуць.*

*А.*

*Стэфуля! Пасылаю табе кнігу. Можа быць, ты яе ўжо чытала і маеш. Але я хачу, каб ты мела яе ад мяне. Гэта вельмі добрая кніга, яна ззяе буйным талентам пісьменніка і цудоўнай душой чалавека. Я б хацеў мець сваім сябрам чалавека, які напісаў гэту кнігу. Мяне ўразіла ў ёй несакрушальная воля 12-гадовага героя. Мне ў жыцці даводзілася назіраць такіх людзей, але нашмат старэйшых. І маім адзіным жаданнем заўсёды было быць падобным на іх. Магчыма, у прыродзе і не было ніколі такога героя. Гэта не важна. Галоўнае тое, што гэта магчыма. Што гэта не прыдуманы герой кшталту Маёравых (я прачытаў гэту п'есу) або на яго падобных. У гэтым вобразе ўсё чалавечнае і натуральнае. І ён вучыць нас імкненню да жыцця, імкненню да барацьбы. Ну, няхай яго мэта вельмі празаічная — 6 пудоў хлеба! Справа не ў гэтым. Важна тое, якой цаной гэта дасягнута. Бо калі гэты хлопчык вырасце, калі яму адкрыюцца светлыя гарызонты чалавечай думкі, ён гэтаксама ўпарта і страсна будзе рабіць вялікія справы і подзвігі. Я гэту кнігу прачытаў з такой напружанай увагай, з якой я даўно ўжо не чытаў кніг. Я не памылюся, калі скажу, што гэта самая лепшая кніга ў*

*мастацкай літаратуры з тых, што мне даводзілася чытаць у паслярэвалюцыйны перыяд. І таму я табе яе пасылаю: калі ты яе ўжо чытала — прачытай яшчэ раз. Бо яна гэтага вартая. Калі ж не — мне будзе вялікай радасцю звярнуць на яе тваю ўвагу. Я б хацеў, каб з гэтай кнігай у цябе была звязана памяць пра мяне. Ты калісьці казала, што не ведаеш майго жыцця ў мінулым. Гэта так. Я хачу табе патлумачыць, чаму так: пра свае памылкі я не люблю гаварыць, бо мне непрыемна пра іх успамінаць, а пра добрыя ўчынкі, пра тыя, якімі магу ганарыцца, я не гавару таму, што не хачу падацца выхвалякам. Але вось цяпер, пры чытанні гэтай кнігі ў мяне ў галаве ўзнавіліся вобразы мінулага. Я таксама пачаў жыць самастойным жыццём вельмі рана, праўда — на 4 гады пазней, чым гэты герой. Але жыццёвага досведу ў мяне было не болей. Я таксама ехаў. Не па хлеб у Ташкент. Я ехаў, гнаны іншай страсцю, але перанёс не менш за героя гэтай кнігі. Нават калі ўлічваць параўнальную прапорцыю ў розніцы гадоў. Таму я так хачу, каб кніга табе спадабалася і каб у тваёй свядомасці яна была звязана з памяццю пра мяне. Калі гэта мне ўдасца, калі я не спазніўся, гэта будзе для мяне вельмі вялікай удачай. Але я баюся, што спазніўся. Бо гэта ж проста выпадковасць, што я не чытаў яе раней. А ты, напэўна, чытала, дзяўчушка! Ну, не істотна, калі і не ўдасца: ты прачытаеш яе яшчэ раз.*

*Цалую моцна. Аля.*

Гэта лісты-ўрокі. Перапіска каханкаў, але пасланні па меншай меры аднаго поўняцца не толькі пяшчотай, клопатам і словамі пра тое, як сумуе і хоча ўбачыць.

«У «Звяздзе» чытаў пра прэм'еру ў Мінску. І чытаў пераказ п'есы. Па-мойму, гэта звычайная літхалтура, хлебная справа».

«Мяне перапаўняе ўсё, што я зараз перажываю. Ты памятаеш — Глан, каб выказаць свае пачуцці пры ад'ездзе Эдварды, узарваў скалу? Гэты ўчынак я зразумеў толькі цяпер».

«Зараз па радыё перадаюць музыку з «Травіяты», — чытаю ў яго лісце. І ўспамінаю, як яна апісвала сваё ўражанне ад аднаго моманту ў той самай «Травіяце». Гераіня, маўляў, памірае, а ейны перадсмяротны маналог — даўжэзная арыя. Стэфанія мела выключную назіральнасць і не слабае пачуццё гумару. Цікава толькі, ці прыйшло гэта з узростам, ці такой жа яна была і ў тыя свае 25? Але тое, што гэта была асоба цікавая нават тады, — несумненна. Бо ці мог бы пісаць такі чалавек такія лісты нейкай ветраніцы?..

Ён часам вельмі занудлівы, гэты Аля. Звышупэўнены ў сваіх здольнасцях адчуваць настроі і схаваныя сэнсы. Гэта часам так раздражняе… Піша, што вельмі шмат перажыў. Але пры гэтым кажа, што можа «скуголіць», і дэманструе, увогуле, яўныя слабасці. Кім бы ён ні быў, гэты Аля, ён проста вельмі сапраўдны, чорт (і па-руску праз «о»!) вазьмі! І я ў каторы ўжо раз лаўлю сябе на думцы, што падстройваюся пад стыль ягоных пісьмаў у гэтых сваіх, з дазволу сказаць, каментарыях.

*...жыў вельмі строката, па памеры жыццёвага вопыту я ўжо амаль стары. Няма амаль такіх перажыванняў у чалавечай псіхіцы, якіх бы я не перанёс і не назіраў. У мяне на жыццёвым шляху было шмат розных сустрэч. Але тое, што робіцца зараз, — мне ніколі не было знаёма. З першых гадзін знаёмства з табой я неяк разгубіўся, нешта рухалася вялізнае на мяне. Памятаеш — я ж у першым лісце пісаў табе пра «пераплёт з аслінай скуры». Немагчымасць разабрацца, стыхійнасць перажыванняў — гэта характэрна для першага этапу нашых узаемаадносін. Пасля — я быццам агледзеўся, але гэта ўсё, напэўна, фікцыя. Я толкам шмат чаго не ведаю да гэтай пары. Ты некалі запэўнівала, што ты толькі аб'ект, з якога я стварыў казку. Стэфік — магчыма! Я баюся чэсна сказаць, што не. Але ў мяне ёсць упэўненасць, што я здолею гэту казку ажывіць. Калі ты статуя, я ўдыхну ў цябе жыццё. У мяне ёсць у гэтым упэўненасць. Я дасягну гэтага звярынай упартасцю. Ты выклікаеш у мяне такі прыліў энергіі, выклікаеш такое моцнае жаданне настаяць на сваім, што няўдача не можа...* (Старонка або некалькі адсутнічаюць.)

*...з мінулым, параімся і вырашым, як быць. А калі ты гэтага не хочаш — я магу памаўчаць, я магу пастаяць у баку пэўны час і калі ты сама вырашыш гэтыя пытанні — скажаш мне ясна і дакладна. Хаця — глупства! Нічога з гэтага не выйдзе. Не магу я стаяць у баку, не такая ў мяне натура. Значыцца, Стэфік, я злую і гэтым тлумачыцца нервовасць майго ліста. Даруй. Але ўсе ж падумай над маімі словамі. Яны сказаны недарэмна.*



*«Я табе перашлаў за 5 дзён цэлы блок-нот. Гэта апошні ліст».*

*Дык ты 20-га не зможаш прыехаць. Няпраўда! Прыедзеш. Ты абяцала і павінна выканаць. Я буду чакаць цябе. Я больш нічога не буду пісаць сёння, я вельмі...* (Старонка або некалькі адсутнічаюць.)

*...па сутнасці. Я ж умею чытаць між радкоў, магу адгадаць недасказанае. А тое — пустое. Белы ліст. Цішыня. Гэта — невыносна!*

*Вось я шмат думаў гэтыя тры дні. Я паспрабаваў раскласці свае перажыванні на састаўныя часткі. Я стаў па той бок сваіх пачуццяў і прааналізаваў іх як пабочная асоба. Я перагледзеў усё, як матэматык свае формулы. І вось вынік: ты блізкая мне як ніхто ніколі не быў мне блізкім і, напэўна, не будзе. Чаму так — я не ведаю. Прызнаюся адкрыта: я не ведаю і не магу даведацца. Я...* (Старонка або некалькі адсутнічаюць.)

*...пра лепшае. Яна — з той главы, дзе апісваюцца пабочныя абставіны, пустое і часта... глупства. У гэту старонку можна без жалю загарнуць каўбасу. Уся кніга шалёна цудоўная, адзіная ў свеце ад гэтага не страціць сваёй каштоўнасці. Па меншай меры, для мяне. Ты не можаш зразумець, табе немагчыма зразумець, якая ты для мяне цяпер дарагая, колькі радасці ты прыносіш мне сваёй прысутнасцю!*

*Дарэмна я ўсё гэта табе пішу. Гэта ж зусім не тое, што я б хацеў табе сказаць. Не тое. Калі ты не хворая, прыедзь да мяне. Хаця б на дзень. Мне вельмі трэба цябе бачыць.*

* * *

*Ты пішаш, што табе я часам здаваўся жорсткім і пытаешся, ці так гэта. Я думаю, што станоўчы або адмоўны адказ тут нічога не скажа. Жорсткасць, як усякае этычнае паняцце, — адносная. Усё залежыць ад светапогляду. І таму я хачу табе лепш расказаць мой погляд на гэта, а там ужо ты сама вырашыш. Па-мойму — жорсткасць не мае сэнсу. Яна можа быць уласцівай толькі людзям абмежаваным і неразумным. Бессэнсоўна жорсткім можа быць, напрыклад, жывёла, што стаіць на вельмі нізкай прыступцы разумовага развіцця. Яна не ўсведамляе, што прыносіць непатрэбныя пакуты іншаму дзеяннем, якое можа быць ёй самой прыемным. У жорсткага чалавека адсутнічае пачуццё адказнасці. Але асноўным паказчыкам жорсткасці павінна быць бессэнсоўнасць. Калі мне трэба забіць кураня, я ніколі не прымушу яго пакутаваць дарэмна, неабходныя пакуты павінны быць абмежаваны да мінімуму. Будзе жорсткасцю, калі я яго*

*нават заб’ю без патрэбы ў гэтым або калі мне сам працэс забойства прынясе задавальненне. Калі будзе неабходнасць забіць і я буду «шкадаваць», — гэта будзе проста сентыментальнасць. Гэтымі асноўнымі паказчыкамі я і кіруюся ў сваіх дзеяннях, з гэтага пункту гледжання, я думаю, я не жорсткі. Я, напрыклад, амаль ніколі не забіваў жывёл або птушак без неабходнасці. Апошнім часам у гарадах вельмі прывілося «паляванне» на варон з «Тэка». Я ў ім ніколі не прымаў удзел. Не таму, што я «шкадую» варон, але проста гэта мне не прыносіць задавальнення. Мой светапогляд вызначаўся на вайне. Вайну прынята лічыць заўсёды жорсткай. Але я скажу, што пры ўдумлівым стаўленні я суб’ектыўна нават на вайне магу застацца не жорсткім. Трэба толькі ўсведамляць, калі ёсць неабходнасць прычыняць пакуты і калі гэтай неабходнасці няма. Праўда, бываюць часам суб’ектыўныя прычыны, калі чалавек прыносіць другому пакуты без яўнай патрэбы. Але мы ўсе людзі. Часам свядомасць можа замружыцца і саступіць месца сляпой злосці. Я, напр., не магу паручыцца, што не даставіў бы непатрэбных пакут чалавеку, які чым-небудзь пакрыўдзіў каханую мною жанчыну. Але ж тут таксама ёсць апраўданне, праўда — суб’ектыўнае, але ўсё ж апраўданне. Мне ў тваім лісце адно месца падалося падазроным. Пасля слоў пра жорсткасць ты пішаш пра тое, як плакаў твой муж у Оршы пры расставанні з табой. Ты хочаш сказаць, што ў дачыненні да яго мы жорсткія? Калі ты так думаеш, я з табой не згодзен. Чаму — я думаю, ты зразумееш з усяго вышэй сказанага. Бо ў такім выпадку жорсткім трэба лічыць твой ад’езд з Віцебска. Я пры расставанні з табою, праўда, не плакаў. Проста таму, што ніколі не плачу, нават з дзяцінства, як сябе памятаю. Я не плакаў нават тады, калі плачам можна было спадзявацца на ратаванне жыцця. Але гэта не значыць, што мне было лёгка. Я думаю, ты гэта разумееш. Тым не менш ты, ад’язджаючы з Віцебска, у дачыненні да мяне не дапусціла жорсткасці, бо твой ад’езд быў цяпер неабходным. Вось так я думаю, а высновы рабі ты сама.*

*Стэфік, мая казачка белая! Ты хочаш мне зрабіць прыемнае і кажаш, каб я нешта ў цябе папрасіў. Калі мне будзе вельмі цяжка і калі я ніяк не змагу прыехаць да цябе, я папрашу цябе прыехаць да мяне хаця б на дзень. Гэта ўсё, што я магу ў цябе прасіць і гэта так шмат для мяне, што больш нічога, лепш нічога ты для мяне зрабіць не можаш. Ты ж выканаеш гэта, праўда? Я табе за гэта буду невыказна ўдзячны. Калі б ты толькі магла зразумець, Русалачка, як я люблю цябе! І як страшна я хачу цябе бачыць, маю мілую, пяшчотную, светлагаловую! Ты не забываеш мяне, дружок? У мяне ёсць шмат розных думак і сумненняў, але я табе напішу пра іх у наступным лісце. Ты толькі тады не сярдуй на мяне.*

*Цалую моцна маю дзяўчушку. Аля.*

*P.S. Я яшчэ не паспеў зняцца, але днямі здымуся і вышлю табе фотакартку. Пакуль жа пасылаю табе аматарскі здымак «фінагенава». Ты толькі не разлюбі мяне па гэтым здымку — адчайная бо выйшла морда!*

*Ал.*

*25.III.30 г.*

*8.IV.30 г.*

*Мяне здзіўляе, чаму ты да 7-га не атрымала маіх лістоў. Я ж пішу табе кожны дзень рэгулярна. Ці не здараецца сапраўды з імі якая-небудзь... метамарфоза? Хаця гэта глупства. Не так важна, калі якісьці ліст і прападзе. Гэта толькі табе да ведама.*

*Атрымалася глупства: я сёння не магу выехаць. І змагу выехаць увогуле не раней за 12-е. Гэта падвойнае свінства: па-першае, я не змагу прыехаць да цябе, як хацеў, а па-другое, баюся цябе зваць да сябе. Калі б я ведаў дакладна, што да 15-га не змагу паехаць, я папрасіў бы цябе прыехаць. Да 12-га ж ты прыехаць не паспееш. Ва ўсякім разе ўмовімся так: калі я 12-га высветлю, што не змагу паехаць, то дам табе тэлеграму і буду чакаць цябе ў Віцебску недзе 15-га. Добра? Мне цябе вельмі трэба бачыць. Я пачынаю зноў нудзіцца па табе. Са мной так бывае: з’явіцца нейкае жаданне і пачынае нарастаць з кожным днём,*

*усё шырыцца і шырыцца і пачынае сабой засланяць усе думкі. У рэшце рэшт гэта робіцца невыносным і тады яно павінна быць спраўджана любой цаной. І вось я зараз адчуваю, што мне трэба цябе бачыць. Пакуль была надзея, што я ўбачу цябе заўтра, яно не было такім вострым, а як высветлілася, што гэта надзея не спраўдзіцца, я пачынаю нудзіцца. Абяцай мне, што калі я цябе паклічу, ты прыедзеш. Мне гэта абяцанне вельмі патрэбна!*

*У цябе непрыемнасці. Мне вельмі цяжка нешта сказаць табе на гэты конт. Тым больш што ў гэтым сэнсе ты ад мяне нешта хаваеш. Не факты — не, але перажыванні, думкі — хаваеш. У гэтым няма нічога дрэннага і я цябе не папракаю: ёсць перажыванні, пра якія гаварыць вельмі цяжка і нават не трэба. Але і мне раіць нешта табе немагчыма: я ж зацікаўлены бок, магу быць глыбока суб'ектыўным, прадузятым і... памыляцца. Калі гэта твая трагедыя вырашыцца на маю карысць, гэта будзе для мяне паказчыкам нейкіх акалічнасцей, гэта высветліць для мяне шэраг пытанняў і будзе доказам глыбіні твайго пачуцця. Калі ж не, значыць, я не змог завалодаць тваёй душой, хоць рабіў усё ад мяне залежнае. Больш любіць я цябе не магу і ўпэўнены, што наўрад ці гэта ўвогуле магчыма. Ты ведаеш, што я ўвогуле вельмі стрыманы і баюся выказваць усё, што ў мяне на душы робіцца (дарэчы — ты ў гэтым дачыненні таксама не далёка ад мяне адышла!). Яно і лепш. Інакш рызыкуеш зрабіцца слімаком. Акрамя таго, да пары да часу патрэбны такія моманты, якія даюць кожнаму магчымасць праверыць і сябе, і другога. Я думаю, што вырашэнне тваіх непрыемнасцей будзе вельмі паказальным для нашых узаемаадносін і прадвызначыць іх характар. Я прашу толькі аднаго: пісаць мне пра ўсе свае рашэнні і факты знешняга характару.*

*Мая растропачка, я ўчора адправіў табе маленькі падаруначак. Ты некалі казала, што хацела б мець такую рэч. Выкананне твайго жадання затрымалася, бо яе цяжка было знайсці. Ды і гэта — не зусім тое, што я б хацеў, але выбару няма. Калі табе гэты мой падарунак не будзе непрыемным, я буду вельмі рады. Ва ўсялякім разе, ты не павінна мяне ганьбаваць, бо гэта было б для мяне вялікім засмучэннем!*

*Ты пішаш, што, магчыма, у Бабруйск не паедзеце. Значыць — 15/V ты будзеш у мяне! Стэфка! Няўжо гэта праўда? Як толькі даведаешся — зараз жа мне тэлеграфуй! Чуеш? Абавязкова. Я тады паеду за горад... бо я люблю ездзіць, калі мне радасна або калі ў мяне бяда. Шофер ведае, як я люблю туды ездзіць. У мяне нават зараз сэрца б'ецца, каля я дапускаю такую магчымасць!*

*Ну, я забалбатаўся. Сёння ў мяне вечар вальнейшы і таму магу напісаць больш. Я трошкі хворы — ангіна, насмарк і да т.п. глупства. Пішы мне паболей, белачка мая. Цалую моцна ўсю цябе. Аля.*

*16.IV.30 г.*

*Для мяне слёзы — гэта вадкасць. Кіслая вада. Я бачыў, як нашы ворагі пагеройску паміралі; я бачыў, як плакалі суровыя мужныя людзі ад вымушанага бяссілля. Але слёзы слабых нічога не вартыя.*

*У Швейцарыі, у горным гарадку над будынкам атэля я бачыў статую Дыяны. Калі даліны былі ў ранішнім або вячэрнім змроку, яна стаяла на фоне неба, уся залітая ружовым святлом, жывая і прыўкрасная багіня. Мне часам здавалася, што яна дыхае. Я думаю, што не ўбачу ніколі мастацкага твора, роўнага гэтаму.*

*Дык вось, ты гэтак жа будзеш стаяць над маім жыццём. Я не стваральнікмастак, але я стваральнік твайго жыцця, і я магу гэта зрабіць.*

*Я думаю, калі надыдзе вечар майго жыцця, ты будзеш гэтак жа стаяць над ім, залітая сонцам, прыўкрасная і чыстая, як тая статуя над горным гарадком. Нават калі наўкола будуць панаваць змрок і цемра.*

*Твой А.*

«Белочка», «растрепочка», «лахудрочка славная», «милый, растрепанный Стэфик» (ён пісаў праз «э»), «девчурка», «Стэфуля», «Русалочка», «сказочка белая», «Стэфик»…

На самым пачатку сцэнічнай «кар'еры» яна прыдумала сабе (як гэта звычайна бывае з маладымі, таленавітымі, амбіцыйнымі, але ад нечага ўсё ж залежнымі) псеўданім: Алена Сумная. Не прыжыўся. Потым была Лёляй (ад Лілі, вытанчанай ліліі) — у тэатры яе так і звалі, усё жыццё. А Стэфаніяй назвалі, каб дагадзіць бабулі па бацькоўскай лініі. Каб свякруха не вельмі ўжо сердавала на сына з нявесткай, бо трэба ж было яму, мастаку, узяць мала што не каталічку, дык яшчэ і мужычку.

Яна нарадзілася ў адзін год з Грэтай Гарба. І вельмі ёю захаплялася. «Вочы такія выразныя і прыгожай формы», — казала яна.

«Моя милая глазастая растрепочка», «мой сероглазый растрепанный Стэфик»...

Што яшчэ? У яго быў сабака. Зваўся… Шрэк.

*17.IV.30 г.*

*Атрымаў адразу тры лісты. Чытаю іх адзін за адным і кожны ўзмацняе ўва мне трывогу. З іх самая канкрэтная — чаму ты да гэтай пары не атрымала маіх лістоў. Я напісаў табе 14 — 2 лісты, 15 — адзін і 16 — адзін. З іх ты павінна была атрымаць 3, мінімум 2. Дзіўна. Пісаў «да запатрабавання». Адпраўляў табе сёння тэлеграму на адрас кватэры.*

*Стэфік, — калі ты ў бліжэйшыя 2-3 дні не атрымаеш ад мяне лістоў, не сярдуй. Мне вельмі нядобра. У мяне ў душы нейкая бязглуздзіца, глухая кропка, злосць… Я не магу бяздзейнічаць. А тут даводзіцца. І калі буду пісаць, буду скуголіць. Калі мне дрэнна або я хворы, — я раблюся маўклівым. Я заўсёды сімпатызаваў сабакам, якія перад смерцю (і падчас хваробы) залазяць у цёмны глухі кут. Смерць і хвароба — вельмі непрыемны фізіялагічны працэс і навязваць гэта відовішча іншым людзям, рабіць з яго драму — гэта прыкмета дрэннага густу. Ты не сярдуй на мяне, калі я буду маўчаць (можа быць, і не — гэта залежыць ад тваіх наступных лістоў). Я хворы душою. Я непрыемна нервуюся. Я б хацеў, каб мне зараз пагражала вялікая небяспека і ўсё як рукою зняло б. Я зноў зрабіўся б сабою. Мне патрэбна зараз якая-небудзь складаная, упартая, цяжкая праца. Фізічна я гэта адчуваю так: мне хочацца дзяўбці вялікую гранітную скалу. Мне хочацца, каб існавала патрэба прабіць яе наскрозь. Біць у адно месца да зварынай стомы, каб сонца пякло ў галаву і голае цела, каб усё цела пакрылася ліпкай масай з поту і пылу. Біць, біць, біць — да поўнага знясілення, пакуль у вачах не паплыве крывавы туман… Няма скалы! Няма цяпер такой працы! Значыць — трэба маўчаць. Усё гэта перагарыць, перабаліць… Як-небудзь уляжацца.*

*Ты не прыедзеш!? Так, бачу. Усведамляю, што нельга. Усведамляю, але не магу прымірыцца. Гэта тая скала неабходнасці, якую мне трэба дзяўбці, але яна ўмоўная для мяне. Яе перада мной няма. Яна выслізгвае ад мяне, я яе не адчуваю. З неабходнасцю можна змагацца толькі абсурдам. Звычайна змагаюцца вар'яты, дурні. І, канечне, гінуць. Я, канечне, гэтага не магу. І таму — я бяссільны. Але прымірыцца не магу. Таму сум і боль… вось бачыш — ужо заскуголіў. Лепш маўчаць!*

*Я заўважаю адну цікавую падрабязнасць: на твае пытанні я заўсёды адказваю раней, чым ты мяне спытаеш. Вось ты пытаеш, чаму я смяяўся тады, а ўчора ў лісце я ўжо адказаў табе. Паўтараць не варта. Такія ўчынкі могуць выклікаць толькі адно з двух: жаль (у табе) або смех. Той, хто крычыць або плача — не пакутуе па-сапраўднаму. Пакутуюць шалёна — толькі сціснуўшы зубы. Гэта страшна. Такія пакуты нельга абысці. Мяне ніколі не ўражвала пакута, якую дэманструюць са сцэны. Бо там заўсёды крычаць, бегаюць, плачуць, заломваюць рукі. Аказаць сапраўдную пакуту тэатр не здольны. Яна неверагодна простая і немаляўнічая. Я думаю, табе зразумела.*

*18.4.30.*

*Вось перада мною куча парванай паперы: мноства спісаных і разарваных лісткоў. Гэта — ліст да цябе. Нядобры ліст, скугольны. Я пісаў яго некалькі*

